# ЗМЕСТ

Крыніца

# Я

# Слова пра паход Ігаравы



Всеславъ князь людемъ судяше,
княземъ грады рядяше,
а самъ въ ночь влъкомъ рыскаше:
изъ Кыева дорискаше до куръ Тмутороканя,
великому Хръсови влъкомъ путъ прерыскаше.
Тому въ Полотьске позвониша заутренюю рано
у святыя Софеи въ колоколы,
а онъ въ Кыеве звонъ слыша.
Аще и веща душа въ дръзе теле,
нъ часто беды страдаше.





# НЕЎМІРУЧАЯ ПЕСНЯ СТАРАЖЫТНАЙ РУСІ

XII ст — перыяд найвышэйшага ўзлёту і спеласці старажытнарускай культуры, мастацтва, літаратуры «Мы не ведаем нічога ў XI і XII стагоддзях на заходнееўрапейскіх мовах, што пераўзыходзіла б летапіс Нестара, «Словы» Кірылы Тураўскага і «Песню пра паход Ігаравы»,— пісаў выдатны ўкраінскі вучоны М.Максімовіч. І гэта не проста словы эмацыянальнага захаплення патрыёта мінулым свайго краю, а аб'ектыўны і справядлівы вывад добра дасведчанага знаўцы пісьмовай спадчыны еўрапейскіх народаў У эпоху феадальнай раздробленасці зарадзіліся новыя культурна-гістарычныя з'явы і тэндэнцыі, якім належала будучыня. Менавіта тады закладваліся прадумовы новай этнічнай і палітычнай кансалідацыі ўсходнеславянскіх земляў, асновы роднасных і глыбока самабытных культур рускага, украінскага і беларускага народаў

Побач з гэтым, XII стагоддзе было ў гісторыі ўсходніх славян адным з самых складаных, супярэчлівых і драматычных перыядаў, напоўненых напружанай і, нярэдка, крывавай барацьбой, не толькі перамогамі, але і паражэннямі, горам і бядою людскою. Неад'емнай рысай феадальнай раздробленасці, непасрэдным вынікам палітычнага распаду Кіеўскай дзяржавы былі міжусобіцы князёў Яны пачаліся на ўсходнеславянскіх землях яшчэ ў XI ст., набыўшы асабліва шырокі, пагражальны размах у яго другой палове, калі ў барацьбу былі ўцягнуты цэлыя дынасты князёў.

Феадальная раздробленасць і міжусобіцы былі абцяжараны грозным націскам на ўсходнеславянскія землі стэпавых качэўнікаў — полаўцаў, якія ўпершыню з'явіліся ля паўднёвых межаў Русі ўсярэдзіне XI ст.

У такі неспакойны, трывожны і ў многім трагічны для ўсходніх славян час, калі перад нашымі продкамі вельмі востра паўстала праблема, як выратаваць родную зямлю ад іншаземнай навалы, адстаяць сваю свабоду і незалежнасць, калі не было адзінства і згоды, а шмат людской працы, сілы, нават жыццяў ішло ў глум, марна трацілася ў міжусобіцах, і прагучала натхнёнае, мудрае і праўдзівае слова пісьменніка-грамадзяніна Прагучала слова вялікай паэтычнай сілы поўнае глыбокага роздуму і шчымлівага болю за лёс роднай Бацькаўшчыны. «Гэта,— пісаў Дз. Ліхачоў,— палкая прамова патрыёта-народалюбца, прамова страсная і ўсхваляваная, звернутая то да падзей жывой сучаснасці, то да спраў сівой даўніны, то гнеўная, то тужлівая і журботная, але заўсёды поўная веры ў Радзіму, поўная гонару за яе, упэўненасці ў яе будучыні».

«Слова пра паход Ігаравы» было створана па гарачых слядах падзей, верагодней за ўсё ў канцы 1185—1186 г. У аснову гэтага твора пакладзена апісанне аднаго яркага і павучальнага эпізода барацьбы ўсходніх славян з палавецкай небяспекай.

У 1184 г. кіеўскі князь Святаслаў Усеваладавіч арганізаваў вялікі паход на полаўцаў, які завяршыўся бліскучай перамогай рускіх дружын. У наступным годзе планавалася

## *Слова пра паход Ігаравы*

**Запеў**

*Ці не лепш, браты,*
*і нам пачаць*
*аб паходзе Ігаравым слова*
*І нашчадкам,*
*пакаленням новым,*
*да драбніцы праўду расказаць?*

*Як пачаць — ці на былінны лад*
*нагадаць на целе князя раны?*
*Ці задуме следаваць Баяна,*
*як спяваў ён многа год назад?*

*Калі спевам вешчым пачынаў*
*праслаўляць Баян*
*князёў паходы,*
*то па стэпе воўкам бег*
*заўсёды,*
*ці арлом у неба ўзлятаў.*

*Шызы, ён з аблокамі зліваўся,*
*думкамі па дрэве расплываўся.*
*Гаварыў:*
*—Дзядоў я подзвіг помню,*
*што ўвяках, як песня,*
*будзе жыць,*
*покуль сонца яснае гарыць,*
*ззяць яму*
*у непагасных промнях.*

*Калі песня бурна клекатала*
*у грудзях,*
*нібыта ў жылах кроў,*
*на чароду лебедзяў, бывала,*
*выпускаў ён дзесяць сакалоў.*

*Пачыналі сокалы расправу,*
*і той лебедзь,*
*што дагнаны быў,*
*першы славу гучную трубіў*
*у аблоках князю Яраславу,*

*храбраму Мсціславу,*
*што павёў*
*на касожцаў воінаў шляхамі*
*і перад касожскімі палкамі*
*князя іх Радзедзю закалоў;*

*шчодрага, з адкрытаю душой,*
*велічаў ён краснага Рамана —*
*даль святлела, белыя туманы*
*разганялі сонца над зямлёй.*

*Ды не дзесяць*

*сокалаў узляталі,*
*як на струны*
*пальцы клаў Баян:*
*славу, гартаваную ў баях,*
*струны, як жывыя, ракаталі.*

*Мы пачнем аповесць так,*
*як можам,*
*з тых часоў, далёкіх*
*і трывожных,*
*грозных і суровых, поўных бед,*
*і да часу нашага, з якога*
*Ігара паклікала дарога*
*у паход — пакінуць славы след.*
*Ігара праславім*
*і дружыну,*
*хто жывы*
*і мужна хто загінуў.*
*Мужнасці аддаўшы перавагу,*
*верыў ён у рускую адвагу,*
*ратным духам*
*сэрца навастрыў:*
*сын Русі, навекі ёй адданы,*
*ён павёў на полаўцаў паганых*
*раць сваю, якую акрыліў*
*вераю, праўдзівай*
*і нязломнай,*
*вартай песні,*
*самай векапомнай.*

## Частка першая

### I

*Сярод бела дня свяціла*
*сонца, шчодрае на промні,*
*і на светлае свяціла*
*глянуў Ігар з-пад далоні.*

*А яно у міг адзіны*
*пацямнела, пачарнела,*
*князя слаўная дружына,*
*нібы сонца, спахмурнела.*

*Чорным полагам, як крэпам,*
*зацягнула цемень неба,*
*дзень зрабіўся, нібы сажа,*
*князь сваёй дружыне кажа:*

*—Воіны-браты, мая дружына,*
*надышоў выпрабавання час:*
*перамогу мы здабыць павінны,*
*як дзяды славутыя не раз.*

*Іх наказы мы заўсёды помнім,*
*паўтарацЬ іх будзем зноў і зноў:*
*лепш загінуць у баі няроўным,*
*чым вярнуцца*
*з ганьбаю дамоў.*

*Смерці не баяліся ніколі*
*і не прызнавалі мы палон.*

новае сумеснае выступленне супраць «паганых». Аднак вясною 1185 г. ноўгарад-северскі князь Ігар Святаслававіч, які не ўдзельнічаў у папярэднім агульнарускім паходзе, вырашыў самастойна паспытаць удачы Не ўзгадніўшы свой крок з кіеўскім князем Святаславам, сваім стрыечным братам, а заручыўшыся толькі падтрымкай свайго роднага брата Усевалада, дробнага курскага князя, ён паспешліва і самаўпэўнена рушыў са сваёю дружынаю ў палавецкі стэп насустрач небяспецы. У дарозе яго застала зацьменне сонца, што было дрэннай прыкметай, аднак ён не павярнуў коней назад. Ігара цягнула наперад у першую чаргу маладая няўрымслівасць (князю было тады 34 гады) і рыцарскі гонар, гарачае жаданне пашукаць ратнай славы, паказаць сваё геройства і храбрасць. Гэтае жаданне было ўзмоцнена патрыятычным імкненнем адпомсціць полаўцам за іх грабежніцкія напады на Русь і ўнесці свой уклад у абарону роднай зямлі. Яму вельмі хацелася таксама хутчэй даказаць, што ён канчаткова парваў са сваім нядаўнім бясслаўным мінулым, калі выступаў у саюзе з ворагам.

Паход скончыўся трагічна. Нешматлікае рускае войска было акружана полаўцамі і, нягледзячы на гераічнае супраціўленне, цалкам разбіта, а ўсе князі палонены І хоць Ігару неўзабаве ўдалося ўцячы з палону, вынікі гэтага няўдалага паходу дорага абышліся Русі Перамога акрыліла полаўцаў, і яны з новай сілай і лютасцю рынуліся на ўсходнеславянскія землі Ігар, сцвярджаў кіеўскі летапісец, «отвориша ворота на Рускую землю» полаўцам

«Слова пра паход Ігаравы» прысвечана гістарычна сапраўдным падзеям, якія апісаны таксама ў дакладных пісьмовых крыніцах, у Іпацеўскім і Лаўрэнцеўскім летапісах. У творы дзейнічаюць або згадваюцца рэальныя гістарычныя асобы, якія сапраўды жылі ў XI—XII ст. ст. Сярэднявечны гістарызм — адна з характэрных асаблівасцяў усёй старажытнарускай літаратуры. Гэтую творчую манеру — трымацца рэальных падзей, суровай праўды жыцця, выкладаць «па былях нашага часу, а не Баянавым складам», напышлівым і рытарычным, аўтар «Слова» выбраў адразу, з самага пачатку гаворкі. Аднак сваё апавяданне ён павёў не як летапісец-гісторыёграф, педантычны рэгістратар падзей, а як сапраўдны мастак, здолеўшы здабыць з сырой руды будзённасці самародкі высокай пробы, надаць сілаю свайго таленту адзінкавым, прыватным фактам і выпадкам тагачаснага жыцця эпічную маштабнасць, высокі гістарычны сэнс і гучанне вялікай паэзіі

Горача перажываючы за будучае роднай зямлі, змучанай няспыннымі княскімі міжусобіцамі і крывавымі, разбуральнымі нападамі знешніх ворагаў, аўтар звяртаецца да ўсіх рускіх князёў, галіцка-валынскіх і ўладзімірскіх, смаленскіх і полацкіх, з палкім заклікам спыніць звады і сваркі, хоць часова адарвацца ад сваіх мясцовых клопатаў і спраў і паслу-

**Энцыклапедычныя даведнікі паведамляюць, што «Слова пра паход Ігаравы» па-беларуску «прачыталі» Янка Купала (ён здзейсніў празаічны і паэтычны пераклады), Рыгор Барадулін, Іван Чыгрынаў і Віктар Дарашкевіч. З выхадам гэтага нумара «Крыніцы» літаратуразнаўцам давядзецца рабіць карэкціроўку: шэраг тых, хто адважыўся пераўвасобіць геніяльнае «Слова», папаўняецца яшчэ адным імем — Яўген Крупенька.**





жыць агульным інтарэсам абароны Радзімы:

*Яраслававы ўсе ўнукі і Усяслававы!*
*Абнізце сцягі свае зрэджаныя,*
*схавайце мечы свае вярэджаныя.*
*Выпалі вы з дзедаўскай славы, як сокалы голыя.*
*Бо вы сваімі крамоламі*
*пачалі наводзіць паганых*
*на зямлю Рускую,*
*на Усяслававу нажыць.*

(Тут і далей цытаты з паэмы падаюцца ў перакладзе Р Барадуліна.)

Здзіўляе таксама незалежная пазіцыя паэта, яго аб'ектыўнасць і гістарычная праўдзівасць, яго дакладнасць і справядлівасць у ацэнцы старажытнарускіх князёў, яго выключнае пачуццё меры і такту, глыбокая чалавечнасць. Ён гнеўна асуджае феадальныя міжусобіцы, рэзка адмоўна падае вобраз дзеда Ігара і Святаслава Алега Святаславіча, празванага Гарыславічам, які неаднойчы прыводзіў полаўцаў на Русь, і хораша, як сапраўдных герояў, славіць тых, хто не шкадаваў свайго жыцця дзеля абароны роднай зямлі. Тут не толькі вялікі князь кіеўскі Святаслаў, але і брат Ігара «яр тур» Усевалад, які «грыміць аб шаломы харалужнымі мечамі», і полацкі князь Ізяслаў Васількавіч, што «пазваніў сваімі вострымі мечамі аб шаломы літоўскія, прыбіўшы славу дзеду свайму Усяславу».

Паэт часта гаворыць пра славу дзядоў, славу продкаў, якой не ўсе нашчадкі вартыя. Таму лагічна было чакаць шырокага прадстаўлення ў «Слове пра паход Ігаравы» сучасніка і суперніка Алега Гарыславіча, славутага Уладзіміра Манамаха, які, па словах летапісца, «шмат поту выцер за Рускую зямлю» і застаўся ў памяці наступных пакаленняў як грозны пераможца полаўцаў Аднак гэты ваяўнічы князь толькі згадваецца ў творы. Адносіны аўтара да яго даволі стрыманыя. І, пэўна, не толькі таму, што імя Уладзіміра Манамаха было не надта папулярным у асяроддзі Ольгавічаў, з якімі паэт, несумненна, быў звязаны. Відаць, гэты князь не цалкам адпавядаў яго ўяўленням аб ідэальным князі як мудрым і справядлівым валадары, высакародным рыцары.

Сапраўды, рэальны Уладзімір Манамах быў не зусім такім, якім ён сябе падаў у сваёй аўтабіяграфіі. Ён быў бязлітасным не толькі да ворагаў, але і да сваіх суайчыннікаў Сваёю цвёрдаю рукою ён нярэдка жорстка душыў усякае мясцовае праяўленне самастойнасці, імкненне да незалежнасці, парушаючы гэтым самым права кожнага асобнага княства на самастойнае існаванне і развіццё, на суверэнітэт, асноўны прынцып феадальных узаемаадносін таго часу, прынцып, у выпрацоўцы якога сам ён прымаў чынны ўдзел. Неаднаразова ён учыняў карныя паходы на Полацкае княства, на непакорлівага Усяслава Чарадзея, а пасля на яго сына Глеба Мінскага, якога ў 1117 г. паланіў і вывеў у Кіеў, хоць

**Юльян Пшыркоў назваў ягоны вольны пераклад «значнай падзеяй у творчасці самога аўтара і ў літаратурным жыцці рэспублікі». Пад рэцэнзіяй прызнанага аўтарытэта дата — 28.XI.1975. За публікацыю выказваліся таксама крытык Варлен Бечык і паэт Сцяпан Гаўрусёў. Лёс, аднак, наканаваў перакладу сустрэцца з чытачом амаль праз два дзесяцігоддзі, калі сярод нас няма ўжо ні перакладчыка, ні яго рэцэнзентаў. Але напісанае засталося.**

*Дык сядлайце,*
*хлопцы, хуткіх коней,*
*паглядзім, дружына, сіні Дон!*

*Што гадаць*
*аб прадказаннях розных,*
*дарагія русічы мае,*
*калі сэрца прагне бою, розум*
*ні на міг спакою не дае?*

*З ворагам сустрэцца*
*давядзецца,*
*трэба волю,*
*вытрымку нам мецЬ.*
*Прагну толькі ў стэпе*
*палавецкім*
*паламаць навостраны*
*свой меч.*

*Нам не пазычаць нідзе адвагі*
*у баі — яе у нас спаўна.*
*Ёсць жаданне большае*
*за смагу,—*
*выпіць Дон шаломамі да дна!*

*... О, Баяне! Салавей былінны,*
*тваё слова гучнае, як медзь!*
*Вось бы зараз і табе прапець*
*славу князю і яго дружыне!*

*О, калі б, займаючы абсягі,*
*думкай паімкнуўся*
*ўсцяж зямлі,*
*славячы ваярскую адвагу,*
*згадваючы бітвы, што былі,*

*розумам узняўся пад аблокі,*
*над палямі-доламі ляцеў,—*
*дык тады б на ноце на высокай*
*прагучаў бы ўсюды твой напеў.*

*Нагадаў бы ўсе былыя годы,*
*і у гэты незабыўны год,*
*славячы мінулыя паходы,*
*ты апеў бы Ігара паход.*

*Сярод стэпаў і магіл-курганаў,*
*праскакаў бы па траве густой,*
*дзе прайшоў магутны*
*ўнук Траянаў*
*са сваёй дружынай баявой.*

*Ты, Баян, пачаў бы*
*сваю песню,*
*азірнуўшы далі навакол:*
*—То не бура сокалаў занесла*
*на палі шырокія і дол,—*
*то чарнее прамяністы ранак,*
*з далі хмары чорныя*
*плывуць,—*
*на вялікі Дон чароды галак,*
*нібы апантаныя, лятуць.*

*А пасля Вялеса — унук герою*
*праспяваў бы, як і мае быць:*
*«Коні ржуць за ціхаю Сулою,*
*слава ў стольным Кіеве*
*звініць!»*

**II**

*Трубы ў Нове-горадзе*
*грымяць,*
*над Пуціўлем сцягі шалясцяць.*
*Зачакаўся Ігар-князь даўно —*
*Усевалада-брата не відно.*
*Вось і ён, буй-тур,*
*здалёк імчыць,*
*аж зямля ўгінаецца, дрыжыць.*

*І гаворыць Усевалад:*
*—Мой брат,*
*дзеці Святаслава мы з табой,*
*не адступім ні на крок назад,*
*выйграем любы нялёгкі бой.*

*Коней вараных хутчэй сядлай,*
*бо мае ля Курска ўжо стаяць,*
*Русь святую,*
*наш любімы край,*
*не павінны ворагі таптаць.*

**III**

*А куране-воіны*
*славаю ўзброены,*
*на подзвігі гатовыя,*
*у баях — нязломныя:*
*народжаны пад трубамі,*
*раслі пад шаломамі,*
*з канца кап'я ускормлены,*
*усе шляхі вядомы ім.*
*Мячы заўжды навостраны,*
*а ножны пазалочаны,*
*лукі іх нацягнуты,*
*байцы з дарог не збочваюць,*
*як вецер, коні быстрыя,*
*імчаць па полю чыстаму.*
*Дружна скачуць*
*шэрымі ваўкамі*
*(іх ніхто з дарогі не саб'е)*
*і заўсёды здабываюць самі*
*у баях з ліхімі чужакамі*
*славу — князю,*
*гонару — сабе.*

**IV**

*У залатое стрэмя ступіў*
*князь Ігар,*
*па чыстым полі*
*імчыцца мігам,*
*а сонца цеменню шлях*
*засланіла,*
*ноч навальніцай птахаў*
*разбудзіла,*
*і свіст звярыны лес абудзіў,*

яны не былі непасрэднымі супернікамі ў яго барацьбе за Кіеў і Чарнігаў і не прэтэндавалі на кіеўскі «залаты» трон Следуючы традыцыйнай жорсткай палітыцы Уладзіміра Манамаха ў адносінах да полацкіх князёў, яго сын Мсціслаў саслаў іх у 1129 г. ажно ў Візантыю. «Манамах,— адзначаў Б.Рыбакоў,— быў несумненна славалюбівым і не грэбаваў ніякімі сродкамі для дасягнення найвышэйшай улады. Апрача гэтага, ён быў крывадушным і ўмеў дэмагагічна падаць свае ўчынкі ў выгадным як сваім сучаснікам, так і нашчадкам святле».

Сярод былых князёў, сыноў і ўнукаў Яраслава Мудрага, паэт не знайшоў годнага кандыдата, які цалкам вытрымаў бы яго маральныя крытэрыі ацэнкі дзейнасці гістарычнай асобы і якога можна было б без нацяжкі супрацьпаставіць Алегу Гарыславічу як дадатнага героя, вартага шчырага захаплення Аўтар знайшоў яго ў вобразе Усяслава Полацкага, праціўніка Уладзіміра Манамаха.

Вобраз гэтага незвычайнага полацкага князя, праўнука Уладзіміра Святаславіча і легендарнай Рагнеды, які ўсё сваё доўгае і бурлівае жыццё аддаў барацьбе за ўмацаванне палітычнай магутнасці і незалежнасці Полацкага княства, займае ў «Слове пра паход Ігаравы» асаблівае месца. Ні аднаму князю XI ст. не аддаў паэт столькі ўвагі, не сказаў столькі цёплых слоў, як Усяславу, і ніхто з князёў не абмаляваны ім так ярка, жыва і задушэўна. Ён акружаны ў паэме таямнічым арэолам князя-чараўніка, які, бы казачны герой народнага эпасу, надзелены незвычайнымі, чарадзейнымі здольнасцямі ператварацца ў ваўка, нечакана знікаць і з'яўляцца ў самых розных месцах неабсяжнай Русі Ён герой незвычайных прыгод, хітры, умелы, імклівы Вераломна палонены сынамі Яраслава Мудрага пасля бітвы пад Менскам у 1067 г., Усяслаў апынуўся ў кіеўскай цямніцы, адкуль праз год быў нечакана вызвалены паўстанцамі і ўзведзены воляю народа на вялікакняскі трон

Мудрым і дзейным валадаром паказаны Усяслаў на гэтай пасадзе ў сталіцы старажытнарускай дзяржавы

*Усяслаў-князь людзям чыніў суды,*
*радзіў князям гарады,*
*а сам уночы ваўком рыскаў,*
*з Кіева паспяваў да пеўняў да Тмутараканя,*
*Хорсу вялікаму шлях перацінаў.*
*Яму ў Полацку пазвоняць ютрань рана*
*ў званы ў святое Сафіі,*
*а ён той звон чуе ў Кіеве.*

З усіх герояў «Слова» ён найбольш складаны і загадкавы. Усяслаў — вешчы, мудры, народны абраннік і адначасна няшчасны, непрыкаяны князь, які, бы загнаны звер, нідзе не знаходзіць сабе прыстанішча. Аўтар асуджае сучасных яму полацкіх князёў, якія зацята варагавалі паміж сабою, частымі міжусобіцамі давялі да заняпаду Полацкае княства, страцілі былую славу свайго славутага дзеда. Да самога ж Усяслава паэт ставіцца з адкрытай сімпатыяй і спачуваннем. Ён для яго — надзвычай яркая, выдатная гістарычная асоба і незаслужана пацярпелы, несправядліва пакрыўджаны чалавек. «Хоць і вешчую мёў душу ў дзёрзкім целе, ды часта ад бедаў цярпеў ён»,— так літаральна ў некалькі ёмістых словах, напоўненых сардэчнай цеплынёю, аўтар змог раскрыць





цяжкі лёс гэтага легендарнага князя і выразна выказаць свае захопленыя адносіны да яго.

Старажытнарускі паэт намаляваў полацкага князя ў духу вуснапаэтычных традыцый як авеянага ўсенароднай славай эпічнага героя, якому складаў крылатыя выслоўі нават сам вешчы пясняр Баян «Ні хітраму, ні спрытнаму, ні чарадзею дасціпнаму суда боскага не мінуць». Вобраз Усяслава Чарадзея, цесна звязанага з народнымі язычніцкімі традыцыямі продкаў, нясе ў паэме вялікую ідэйна-мастацкую нагрузку, дапамагае глыбей асэнсаваць мінулае Русі, лепш зразумець ідэйную пазіцыю аўтара, яго погляды. У нешчаслівым лёсе гэтага князя своеасабліва адбіўся складаны лёс усёй Полацкай зямлі, якая вымушана была весці доўгую і цяжкую барацьбу за сваю самастойнасць і палітычнае адзінства, так і не дамогшыся поўнай перамогі Пададзены ў творы надзвычайны паводле свайго трагізму малюнак Нямігскай бітвы ля сцен бязлітасна вынішчанага полацкага горада на вякі стаў сімвалам бессэнсоўнай, самазнішчальнай бойні Вялікая ўвага і цікавасць паэта да мінулага Полацкай зямлі, глыбокая заклапочанасць яе палітычным становішчам сведчаць пра даўнія цесныя і разнастайныя ўзаемасувязі Полацка з Кіевам і Чарнігавам, пра важную і самабытную ролю Полацкага княства ў гістарычным жыцці ўсёй Русі.

«Слова пра паход Ігаравы» — сапраўды народны твор не толькі сваімі ўзнёслымі ідэямі, але і ўсім сваім духам, усёй сваёй мастацкай сістэмай, якая глыбокімі каранямі моцна звязана з вуснапаэтычнай творчасцю, з народнымі язычніцкімі ўяўленнямі і эстэтычнымі ідэаламі У параўнанні з іншымі выдатнымі творамі старажытнарускай літаратуры гэтая паэма вылучаецца сваёй самабытнасцю, выключна свецкім характарам, народна-рэалістычным, а не царкоўна-рэлігійным асэнсаваннем гістарычных падзей.

«Слова» — твор, несумненна, літаратурнага паходжання, напісаны адукаванаю асобаю, якая была выхавана ў свецкім асяроддзі, цесна звязаным з народнымі традыцыямі Пра фальклорныя, вуснапаэтычныя вытокі мастацка-выяўленчай сістэмы паэмы пераканаўча сведчыць таксама яе насычанасць язычніцкай сімволікай, вобразамі славянскай міфалогіі, якія мелі для аўтара вялікую эстэтычную каштоўнасць:

*Устала крыўда ў войску Даждзьбогава ўнука,*
*на зямлю Траянаву дзевай ступіла,*
*усплёснула лебядзінымі крыламі*
*на сінім моры ля Дону.*
. . . . . . . . . .   . . . . . . . . . . .
*Па ім закрычала Карна, і Жля ў знямозе*
*паскакала па Рускай зямлі,*
*сеючы людзям гора з пякельнага рога.*

Адметная асаблівасць светабачання аўтара «Слова» — анімістычнае ўспрыняцце прыроды. Яна ў паэме не мае сімвалічнага, пераноснага значэння, як, напрыклад, у словах Кірылы Тураўскага, і не статычны фон, як у новай літаратуры Прырода ў «Слове», як і ў фальклоры, адухоўлена, персаніфікавана. Яна як бы жыве з людзьмі агульным жыццём, суперажывае і садзейнічае ў іх справах, дапамагае, перасцерагае альбо перашкаджае героям:

*на кроне дрэва ўздыбіўся*
*Дзіў —*
*вяшчуе бяду незнаёмай зямлі:*
*Суражу, Пасуллю, Корсаню і*
*Волзе, Памор'ю,*
*акрузе ўсёй ханскай,*
*табе нават,*
*ідал тмутараканскі!*

**V**

*Полаўцы,*
*пачуўшы вестку гэту,*
*кінуліся ўсе наўцёк за Дон.*
*А за імі на край бела-свету*
*Ігар-князь імчыцца наўздагон.*
*На шляхах няходжаных уночы*
*колы палавецкія рыпяць:*
*так, пачуўшы стрэл,*
*бяду прарочаць*
*лебедзі, іх проста*
*не стрымаць.*

*Пакідаць патрэбна*
*ўтульны дом,*
*князь вядзе палкі*
*на сіні Дон.*

*А бяда за ім услед нясецца*
*і на птушак наганяе страх,*
*страх, які і сочыць, і смяецца,*
*на купчастых седзячы дубах.*

*У лагчынах —*
*дзікі вой ваўкоў,*
*а у небе — клёкаты арлоў.*

*Злосныя арлы звяроў*
*склікаюць*
*на здабычу —*
*будзе шмат касцей.*
*Зводдалі лісіцы пазіраюць*
*і на бляск шчытоў,*
*і на людзей.*

*Ігар-князь на войска сваё*
*глянуў:*
*Руская зямля!*
*Ты за курганам!*

**VI**

*Доўга гасне ноч. Але на ўсходзе*
*ўспыхнулі заранкі,*
*знікнуў змрок.*
*Салаўіны пошчак,*
*як разводдзе,*
*у дуброве нечакана змоўк.*
*Гоман галак у кустах*
*прачнуўся,*
*ад яго аж ранак здрыгануўся.*
*Неўзабаве будзе бой крывавы:*
*русічы ў суровай барацьбе*

*будуць здабываць для князя*
*славу,*
*ну, а гонар, гонар — для сябе.*

**VII**
*На світанні ў пятніцу*
*над стэпам,*
*воінаў схаваўшы і кусты,*
*зліўшыся з зямлёй*
*і чыстым небам,*
*плыў туман, бялёсы і густы.*

*Наступленнем*
*раніцу сустрэлі*
*рускія адважныя палкі,*
*і яны ляцелі, нібы стрэлы,—*
*не змаглі схавацца чужакі.*

*Патапталі русічы паганых*
*і багацця захапілі шмат,*
*нібы скарб,*
*памчалі паланянак —*
*палавецкіх*
*прыгажунь-дзяўчат.*

*На дрыгве,*
*находжаных балотах,*
*каб свабодна ездзіць і хадзіць,*
*аксамітам, шоўкам*
*з пазалотай*
*дружна пачалі масты масціць.*

*Не было, вядома,*
*неспадзеўкай,*
*што багацця князь*
*сабе не браў.*
*Ханскі сцяг, сярэбранае дрэўка*
*і кап'ё на памяць ён узяў.*

**VIII**
*Стэп шырокі —*
*меееца для начлега,*
*ды агні патушаны даўно.*
*Спіць гняздо*
*бясстрашнага Алега,—*
*вельмі ўжо стамілася яно.*

*Як яны далёка заляцелі!*
*Пазайздросці,*
*хуткакрылы птах,*
*ты, арол, ты,*
*горды сокал смелы,—*
*толькі ў вас магутны крыл*
*размах.*
*Пазайздросці,*
*самы чорны воран,—*
*ненавісны палаўчанін-вораг!*

*Да зары гняздо адпачывае*
*і ніхто не патрывожыць сон.*

*І заступіла шлях яму сонца сляпое,*
*ноч разбудзіла птушак стогнамі навальніцы;*
*свіст звярыны прачнуўся,*
*дзіў паспеў прахапіцца —*
*на вершаліне загадвае ўслухацца*
*зямлі незнаёмай, як наракае.*
*. . . . . . . . . . . . . . . .*
*Нікне трава ад жалю,*
*а дрэва з тугою да зямлі схілілася.*

У цэлым «Слова пра паход Ігаравы» яскрава сведчыць пра тое, наколькі важнымі і плённымі былі для развіцця ўсёй старажытнарускай літаратуры на пачатку яе станаўлення ўласныя, дахрысціянскія фальклорныя традыцыі. На жаль, іх жыватворчае ўздзеянне вельмі моцна падрывала царква, якая, арыентуючыся пераважна на іншаземныя і кніжныя ўзоры, даволі настойліва і паслядоўна адмаўляла фальклор як язычніцкую, а таму і шкодную спадчыну Можна толькі здагадвацца, колькі свецкіх помнікаў тыпу «Слова» загінула на працягу стагоддзяў ад такіх нігілістычных адносін духавенства да нехрысціянскай літаратуры.

Адкрытае ў 90-я г XVIII ст «Слова пра паход Ігаравы» вось ужо на працягу амаль двух стагоддзяў хвалюе і захапляе пісьменнікаў і вучоных, чытачоў розных пакаленняў Незвычайная паэтычнасць і самабытнасць яго вобразаў паланіла А. Пушкіна і В Бялінскага, Т. Шаўчэнку і І Франко, А. Міцкевіча і У. Сыракомлю, Янку Купалу і М Багдановіча. Былі зроблены дзесяткі перакладаў паэмы на сучасную рускую, украінскую, на іншыя славянскія і неславянскія мовы Сярод найлепшых паэтычных перакладаў «Слова» на рускую мову — пераклады В Жукоўскага, А. Майкава, С Шарвінскага, Г Шторма, М. Забалоцкага. Цікавыя пераклады зрабілі нядаўна А. Чарноў і І. Шклярэўскі. Па-ўкраінску хораша загучала «Слова пра паход Ігаравы» дзякуючы майстэрству І Франко і П Мірнага, М Рыльскага і Н Забілы

Першая спроба данесці да беларускага чытача на яго роднай мове мастацкае харaство славутай паэмы належыць Максіму Багдановічу, які ў 1910 г. па-майстэрску пераклаў з гэтага твора невялікі ўрывак пад назваю «Песня пра князя Ізяслава Полацкага». Праўда, гэта не быў факт першага знаёмства беларусаў са «Словам» Пра яго чулі значна раней, яго ведалі і ў XIX ст , дзякуючы розным перакладам, навуковым і папулярным публікацыям, якія з'яўляліся тады ў рускім польскім, украінскім друку і даходзілі да Беларусі. Больш таго, у ліку першых сур'ёзных даследчыкаў «Слова» быў беларус З. Даленга-Хадакоўскі. Глыбокі, унікліва аналіз гэтага твора падаў у сваіх лекцыях па славянскіх літаратурах А. Міцкевіч Ім захапляўся таксама У Сыракомля, які нават выказваў меркаванне пра беларускае паходжанне аўтара «Слова»

Янка Купала і Максім Гарэцкі ўпершыню здзейснілі поўныя пераклады гэтага твора на беларускую мову. Купалу належыць таксама адзін з найлепшых у славянскім свеце вершаваных перакладаў паэмы.

**Вячаслаў ЧАМЯРЫЦКІ**
*З прадмовы да кнігі «Слова пра паход Ігаравы». Мінск, 1986.*





# «Помнік крыўскай пісьменнасьці»

Аб «Слове» маецца аграмадная літэратура ва ўсіх славянскіх мовах і побач з гэтым многа рожнаякіх на яго паглядаў Адны хочуць у ім бачыць народны твор і тэндэнцыйна падтасовуюць не саўсім пэўныя народныя звароткі песьняў ды шукаюць аналёгіі ў адрыўках летапісаў Другія дабачаюць у ім праяву нацыянальнага генія, разумеецца-ж — сваей нацыі. Урэшце, стараюцца гэты твор прысвоіць сабе ня толькі Расійцы, але нават Палякі і Чэхі. Падставу да гэтага дае архаічная мова помніка.

Адкінуўшы ўсякія мяркацыі, навеяныя фальшыва-патрыётычнымі пабудкамі, трэба прызнаць, што «Слова аб палку Ігара», не зьяўляецца творам народным Гэта ёсьць тыповая песьня князёўскага трубадура ў пахвалу князю. Абычаям тых часаў князі Варагі, што панавалі над славянскімі землямі, трымалі пры сабе трубадураў, якія павінны былі чыны іх апяваць Гэткі трубадур ішоў разам з князям на вайну , прыглядаўся да ўсяго і сьпісываў пасьля вершам пахвалу свайму князю. У XI—XII ст. на захадзе, як і ў нас, пісьменнасьць была немаль выключна духоўная, і, там і ў нас, адзінай сьвецкай пісьменнасьцю былі песьні, выслаўляючы чыннасьці рыцараў Князі-Русы былі патомкамі Норманаў і яны ў сваіх паступках стараліся ва ўсім патвараць заходна-эўропэйскаму рыцарству А як на захадзе рыцар не бываў без пяўца, дык і нашы князі такжа трымалі сябе пяўцоў. Сьляды істнаваньня трубадурнай паэзіі знаходзім у старасьвецкіх помніках пісьменнасьці У Валынскім летапісу пад 1201 г. аўтор праўдападобна мае на ўвазе падобную песьню аб Валадзімеры Манамаху Даніла Заточнік падае словы з падобнай песьні аб Сьвятаславе, калі кажа. «Сьвятаслаў князь (сын) Ігараў, ідучы на цара з малаю дружынаю мовіў» . Калі ў 1251 г. Даніла Раманавіч Галіцкі з братам Васількам вярнуліся з перамогай з ятвяжскага паходу, то: «песнь славну пояху има» і г. д.

Гэта трубадурская паэзія ў славянскай пераробцы дала аснову былінам, якія перайшлі ў народ і сталіся аб'ектам пераробак і дапаўненьняў. Аўтор «Слова аб палку Ігара», акром сучасных яму князёў, упамінае ў сваёй повесьці яшчэ ранейшых Мсціслава (+1033), Яраслава (+1054), Сьвятаслава (+1076), Рамана (+1079), Усяслава (+1101), Алега (+1115), пры гэтым, гаворачы аб гэных ранейшых князёх, у некалькі мяйсцох сваей паэмы ссылаецца на Баяна, ранейшага за яго пяўца.

Гэткім чынам у «Слове аб п. І.» мы маем зьлітак дзьвёх паэм: старэйшай — канца XI ст., і навейшый — XII ст., аўтарам якой зьяўляецца невядомы па імю трубадур. Для нас найбольшую цікавасьць становіць часьць, у якой упамінаюцца крыўскія князі: Усяслаў Полацкі, Ізяслаў сын Васількаў, Брачыслаў і Усевалад, ўнукі полацкага Ўсяслава, а такжа —гарады Полацк, Менск, Горадня Гэтыя зьменкі абыймаюць 6 абзацаў, якія тут і падаемо:

*Гзак, як воўк, у цемені ўцякае,*
*следам і Канчак*
*бяжыць на Дон.*

**IX**
*Крывавыя зоры*
*успыхнулі рана,*
*нібыта на целе*
*крывавыя раны.*
*Чорныя хмары з-за мора ідуць,*
*неба маланкі крамсаюць,*
*сякуць.*

*Чатыры сонцы —*
*чатыры шатры*
*хмары імкнуцца зацьміць*
*да зары.*
*Хутка і грому вялікаму быць,*
*стрэламі з Дона вялікага ліць.*
*Дождж будзе тут,*
*ля Каялі-ракі,*
*дзе прытаіліся стэпавікі.*

*Клінкам і мячам вашым,*
*русічы-братцы,*
*аб шлемы чужынцаў тупіцца,*
*ламацца.*
*Крывавыя зоры*
*успыхнулі рана...*
*О, Русі зямля!*
*Ты ўжо за курганам!*

**X**
*Ветры, унукі Стрыбога,*
*абдымаюць прастор,*
*узнялі на дарогах*
*клубы пылу да зор,*
*з мора стрэламі веюць,*
*хмарай стрэлы нясуць,*
*зоры ў небе цямнеюць,*
*рэкі мутна цякуць.*
*Стэп аглохнуў ад звону,*
*а сцягі шаласцяць:*
*палаўчане з-за Дону*
*мчаць на рускую рацъ,*
*каб з зямлі яе сцерці,*
*як траву, змяць, стаптаць.*
*Палаўчане, як чэрці,*
*на ўсё поле крычаць —*
*русічоў акружылі*
*з Дона, з розных бакоў,*
*русічы не зляжылі*
*сваіх слаўных сцягоў.*
*Шчэ рады не радзеюць*
*твае, руская рацъ:*
*да шчыта шчыт — надзейнай*
*заслонай стаяць.*

**XI**
*Як заранкі,*
*палымнеюць стрэлы*

*і на сонцы — вострыя клінкі.*
*Слаўны яр-тур Ўсевалад!*
*Ты смела*
*Нішчыш палавецкія палкі.*
*Сярод стэпу,*
*ў самай гушчы бою,*
*ты з мячом булатным у руках*
*скачаш на кані адзін героем*
*і галовы усцілаюць шлях.*
*Ты, буй-тур,*
*забыўшыся на стому,*
*не даеш ратунку чужакам:*
*чорныя аварскія шаломы*
*рассякаеш сходу напалам.*
*Колькі палягло іх тут,*
*паганых,*
*і ніхто ім не паставіць крыж!*
*Ці ж табе свае аплакваць*
*раны,*
*калі ты жыццём не даражыш?*
*І, забыўшы у баі аб троне*
*залатым чарнігаўскім сваім,*
*Глебаўну каханую не ўспомніў,*
*ласку, цеплыню забыў зусім.*

**XII**
*Час ідзе. Мінуўся век Траяна*
*і далёка Яраслава годы.*
*І паспелі пазабыцца рана*
*грозныя Алегавы паходы.*

*Каб захапіць бацькоўскі*
*трон,*
*каваў мячом крамолу ён.*

*Ён каня сядлаў у Тмутаракані,*
*ў залатое стрэмя сам сядаў*
*і на чыстым, як раса, світанні*
*звон у стольны Кіеў далятаў.*

*І са славай ён не разлучаўся,*
*што найлепш не ведацца*
*з такой:*
*Уладзімір закладаць спяшаўся*
*вушы за чарнігаўскай сцяной.*

*Не сцярпеў Барыс,*
*сын Вячаслава:*
*за Алега крыўду меч узняў,*
*каля Кані-рэчкі зелен-саван*
*буйнай галаве сваёй паслаў.*

*На Каяль далёкую закінуў*
*сярод ночы Светаполка лёс:*
*да Святой Сафіі*
*ў стольны Кіеў*
*цела бацькі мёртвага прывёз.*

**XIII**
*Алег, нашчадак Святаслава,*

1. «Тогда пры Олзе, Гориславличи* сеяшется и растяшать усобицами, погибашеть жизнь Даждь-Божа внука, въ княжихъ крамолахъ веци человекомь скратишась. Тогда по Руской земли ретко ратаеве кикахуть, нъ часто врани граяхуть, трупія себе деляче; а галици свою речь говоряхуть, хотять полетети на уедіе»

2 «На Немизе снопы стелють головами, молотять чепи харалужными, на тоце животь кладуть, веють душу оть тела. На Немизе кровави брезе не бологомъ бяхуть посеяни, посеяни костьми рускихъ сыновъ».

3. «Всеславъ князь людемъ судяше, княземъ грады рядяше, а самъ въ ночь влекомъ рыскаше: изъ Кыева дорыскаше, до куръ, Тьмутороканя; великому Хърсови вълкомь путь прерискаше. Тому въ Полотьсте позвониша заутреннюю рано у святыя Софеи, а онъ въ Кыеве звонъ слышаше. Аще и веща душа въ друзе теле, нъ часто беды страдаше. Тому вещій Боянъ и първое припевъку смысленый рече; ни хытру, ни горазду, ни птичю горазду суда божія не минути».

4. «На седьмомъ веце Трояни връже Всеслав жребій о девицю себе любу»

5. Усеслаў «скочи къ граду Кыеву, и дотчеся стружіемъ злата стола Кіевскаго»

Але цяпер у часы нашага пяўца, пры Усеслававых унуках:

6. «Двина болотомь течеть онымъ грозным Полочаномъ под кликомь поганых. Единъ же Изяславъ сынъ Васильковъ, позвони своими острыми мечи о шеломы литовьскыя, притрепа славу деду своему Вьсеславу, а самъ подъ чьрлеными щиты на кроваве траве притрепанъ литовьскыми мечи . И рекъ... «Дружину твою княже, пътичи крилы пріодеша, а звери кровь полизаша» Не бысть ту брата Брячислава, ни другого Вьсеволода единъ же изрони женьчюжьну душю изъ храбра тела, чресь злато ожереліе. Уныли голосы пониче веселіе, трубы трубять городеньскыя Ярославе и вьси внуци Вьсеславли! уже понизите стягы своя, воньзише своя мечи вережены, уже бо выскочисте изъ дедьней славы Вы бо своими крамолами начасте наводити поганыя на землю руськую, на жизьнь Вьсеславлю. .»

Гэтыя шэсьць абзацаў абыймаюць два перыёды крыўскай гісторыі часы князя Усеслава (XI ст.) і часы яго ўнукаў (XII ст.) Перамены значныя· гэты ўпадак аўтор прыпісуе віне саміх-жа полацкіх князёў, што не хацелі яднацца з Русамі, і, баронячы незалежнасьці, бытцам сталіся прычынай няўпынных і зацятых войнаў

З усіх княжых іменаў XI ст. найбольш увагі ў «Слове» дадзена князю Усеславу Полацкаму, але гэта зьяўляецца перасьпевам слоў ранейшага Баяна, які жыў за часоў тых слаўных князёў і памятаў першыя часы усобіц. «помняшеть бо речь първых временъ усобице». Гэтак сама ўсе мітычныя намёкі «Слова» напэўна адносяцца «къ старымъ словесамъ», прадстаўнікам якіх для пазьнейшага аўтора быў Баян са сваімі замышленьнямі. Новы пявец называе Баяна салаўём старых часаў, які зьвівае славу абапал бягучага часу, узлятаючы пад аблокі, пераскокваючы па мысьленаму дрэву ад старых мітычных часаў да часу бягучага. Абразамі і слоўнікам, а галоўна — мэтафарамі Баяна, пяўца полацкага князя Усеслава,— карыстаецца аўтор новай повесьці, апяваючы няўдалы паход князя Ігара Але і гэтаму пяўцу князя Ігара, які жыў у часы Усеслававых ўнукаў, добра ведамы справы на крыўскіх землях, як Полацкіх, так Горадзенскіх і Чарнігаўскіх. І дзеля гэтага саўсім слушна кажа Безсонов («Белорусскія песни». Москва, 1871, б XIX): «тварэц «Слова аб Палку Ігара», ураджэнец, выхадзец або нават жыхар Беларускага краю» Бо толькі выхадзец або жыхар краю мог так горача апяваць мясцовых герояў, хоць бы і па былінах старых часаў, і так добра быць пасьвячоным у мясцовыя падзеі і інтарэсы

Гэткім чынам «Слова аб Палку Ігара», будучы помнікам не народнай а дружыннай паэзіі, дзякуючы яго паўстанью на нашай тэрыторыі і апяваньню ў ім падзей з нашай гісторыі павінна быць залічана да помнікаў крыўскай пісьменнасьці.

**Вацлаў ЛАСТОЎСКІ**
*«Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі».*
*Коўна, 1926 г*

* Рагнеду празывалі Горыславай, а яе патомства, полацкіх князёў — Горыславічамі.

# Першым было «Слова»

«Слова пра паход Ігаравы» — геніяльны твор геніяльнага аўтара І геніяльнае яно ў двух выпадках і тады, калі з'яўляецца аўтэнтычным творам канца XII ст., і тады, калі гэта падробка канца XUIII ст. пад аўтэнтык XII-га. (. .)

Калі ён узнік і ў канцы XUIII ст., то таксама быў геніяльным вяртаннем гістарычнай праўды мінулага пры самым глыбокім спасціжэнні традыцый літаратуры і рэлігійна-сярэдневяковай, і язычніцкіх традыцый дакіеўскай і Кіеўскай Русі (. .)

Першым сярод самых сур'ёзных праблемных пытанняў, якое ўзнікае ў сувязі са «Словам пра паход Ігаравы», з'яўляецца тое, чаму толькі адзінкавы экзэмпляр яго захаваўся, на працягу пяцісот гадоў застаючыся невядомым і ў Маскоўскай дзяржаве і ў Вялікім княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім? На гэты конт у даследчыкаў маецца адзін асноўны доказ. «Слова» сваёй вобразна-паэтычнай стыхіяй было надзвычай у сваім часе з усёй яго палітычнай кан'юнктурай, з поўным веданнем усяго таго, што сучаснікі разумелі з намёку, з паўслова, з падтэксту, а блізкія іх нашчадкі ўжо не разумелі, больш дальнія — тым больш, і таму твор не выклікаў цікавасці ва ўсходнеславянскага чытача аж пяць стагоддзяў Думаецца, што падобны адказ невычарпальны, што асноўную ролю ў замоўчванні помніка, у яго лакалізацыі, адгароджванні ад шырокага чытача займала рэлігійная літаратура і яе аўтарытэты Шырынёй сваёй змястоўнасці «Слова пра паход Ігаравы» ніяк не ўкладвалася ў лежбішча рэлігійнай літаратуры Кіеўскай Русі ды ўсёй рэлігійна-усходнеславянскай літаратуры, якое было яму пракруставым, а кніжнікі-аўтарытэты, аўтары рэлігійнай літаратуры ніяк не былі зацікаўленыя, каб дапусціць такога суперніка, як «Слова пра паход Ігаравы», каб блаславіць чытачоў на пазнанне

*на доўг забыўшыся, ён славу*
*сабе інакшую прыдбаў:*
*як вораг, сеячы крамолу,*
*ішоў у гарады і сёлы*
*і Гарыслававічам стаў.*

*Дажджбога ўнук*
*нёс толькі беды,*
*якіх народ нямала зведаў*
*у тыя сумныя часы,*
*калі ў паміжусобных войнах*
*на землях ураджайных,*
*вольных*
*не красавалі каласы —*
*радзелі людзі, як лясы.*
*Над імі груганы кружылі,*
*здабычу лёгкую дзялілі,*
*а галкі, гледзячы здаля,*
*вялі гамонкі з пахвальбою,*
*што будуць і яны з ядою —*
*людзьмі усцелена зямля.*
*Нялёгкі час быў і суровы,*
*сіроты плакалі і ўдовы —*
*ішлі і войны, і няўрод.*
*Было баёў вялікіх многа,*
*але крывавага такога*
*не ведаў свет, як у той год.*

**XIV**
*Ад зары да вечара —*
*дзень цэлы,*
*з вечара і да світання — зноў,*
*нібы бліскавіцы,*
*рдзеюць стрэлы,*
*аб шаломы —*
*звонкі ўдар клінкоў.*
*Звон мячоў даносіцца*
*булатных,*
*іскры вылятаюць*
*з-пад падкоў.*
*Колькі палягло*
*на полі ратным,*
*Руская зямля, тваіх сыноў!*
*Пачарнела поле пад нагамі*
*і дыміцца, як ралля вясной:*
*ўсё яно засеена касцямі,*
*а паліта мужнаю крывёй.*
*Гонар свой баронячы і славу,*
*уступілі русічы ў той бой:*
*той пасеў, і горкі і крывавы,*
*на Русі ўзышоў тады бядой.*

**XV**
*Што мне шуміць,*
*што мне звініць*
*далёка дзесь перад зарою?*
*То — Ігар-князь*
*вярнуць да бою*
*дружыны храбрыя імчыць.*
*Патрэбна брата выручаць,*

*на ганьбу ворагу не кінуць.
На ратным полі лепш
загінуць,
чым так бясслаўна адступаць.
Звінела сталь ў няроўнай сечы
ўвесь першы дзень,
пасля — другі,
на трэці — Ігара сцягі
на дол схіліліся, як вечар.
І цемень пала над Каялай,
над быстрацечнаю ракой;
тут кроў змяшалася
з вадой —
Каяль зрабілася крывавай.
І толькі сведчыла яна:
разлука двух братоў настала,
віна крывавага не стала —
у сечы выпіта спаўна.
Дружыны храбрыя ляжаць,
свой пір закончыўшы
ў бяссіллі:
сватоў удосталь напаілі,
самім ніколі больш не ўстаць.
Не засяваць ім болей поле
і меч сталёвы не вастрыць.
Трава ў журбе цяжкой
маўчыць,
і дрэвы нізка хіляць голле.*

**XVI**

*О браты! Палынная часіна
крэпам сонца зацягнула зноў:
прыняла пустынная чужына
у магілы слаўных сакалоў.
І ўзнялася вешчаю дзяўчынай
крыўда з тых далёкіх курганоў,
паляцела ў паднябессі сінім
на зямлю Траяна і на Дон,
узмахнула крыллем
лебядзіным,
расплюскала славу даўніх дзён,
калі ўсе князі сям'ёй адзінай
пажыналі перамогі плён.
Не вялі вайны паміж сабою
і не мелі зайздрасці зусім,
не было тады вялікім тое,
што было ў сапраўднасці
малым.
А цяпер —
адкуль прыйшло такое? —
не да дружбы, не да згоды ім.
На саміх сябе куюць крамолу,
а паганцы-чужакі не спяць,
топчуць Русь, палі яе і долы,
і ніхто не можа іх стрымаць.
На Русі заціхнуў смех вясёлы
і паўсюды песень не чуваць.*

*Ой, далёка заляцеў ты, сокал!
Аж за сіне мора — не відаць!
Не падумаў, што ты, адзінокі,*

праз яго язычніцкай даўніны, з якою яна зацята змагалася, труцячы ўсе яе праявы, водгаласы, традыцыі. (. .)

Карл Маркс як палітык найперш вылучаў палітычную актуальнасць «Слова» для свайго часу», пішучы: «Сутнасць паэмы — заклік рускіх князёў да яднання якраз перад нашэсцем уласна мангольскіх полчышчаў» Ды то ёсць слова вучонага, сказанае пасля падзей, якія адбыліся ўслед за з'яўленнем «Слова» як мастацкага твора Аўтар жа гэтага мастацкага твора не быў правідцам, прарокам саміх падзей, якія насталі Ды ён выказваў прадчуванне, мажлівасць бяды, гістарычнай трагедыі. Ён быў мудры гэтым прадчуваннем бяды, асуджэннем таго, што выклікала ягонае прадчуванне,— роўна, як у ім разлітае ў масе, у народзе. «Слова пра паход Ігаравы» таму і стала маштабна ўсенародным. Арыентацыя на прыярытэт надкласавага, надсаслоўнага ўздымала невядомага аўтара на вышыню яго пазіцыі Прыярытэтнае было для невядомага песняра-баяна патрыятычным, вынікала з яго любові і блізкасці да чалавека ўвогуле, да роднай прыроды, да роднай культуры, якою яна была тады з яе пераплеценасцю хрысціянскага зместу і язычніцкага, кніжнага і бардава-гуслярскага. То сапраўды былі роўнавялікія клопат, боль, одум трывога пра Рускую зямлю ў цэлым, пра князя на кіеўскім пасадзе і кожнага ўдзельнага князя, пра князя і князеву дружыну, пра жонак князёў і іх дзяцей, як і пра ратаёў у полі («ретко ратаеве кикахуть»). У той жа час маштабны ўседзяржаўна ўсходнеславянскі ахоп духоўнай культуры вёў да агульнафіласофскіх высноваў, да маралі, якая ўздымалася над хрысціянскім падзелам людзей на верных і паганых — у сферы спекулятыўнай маралі. Бо не толькі ад наканаванага Богам залежыць лёс і думкі герояў «Слова», але і ад разумення імі праўды, і крыўды, помсты і буянства маладосці, права дазволенага і недазволенага, меры і звышмеры, ад сутыкнення ў іх духу імператыўнага «хачу» і рэальнага «магу». З усіх гэтых праблемных вузлоў і пачынаецца ідэйная змястоўнасць «Слова пра паход Ігаравы» і яго вобразна-выяўленчая мастацкая непаўторнасць.

Мы сёння ў чымсьці прыпадабняемся да тэолагаў, калі таксама прызнаем, што першым было «Слова», маючы на ўвазе «Слова пра паход Ігаравы», а пад светам разумеючы агромністы мастацкі свет — старабеларускай літаратуры XIU—XUII стагоддзяў Першым было «Слова»! І не толькі таму, што яно гістарычна, у часе з'явілася раней, чым старажытнабеларуская, старажытныя руская і ўкраінская літаратуры Мы, усходнія славяне, увогуле ўсе са «Слова», старажытныя і нестаражытныя. Як радавод рускай класічнай рэалістычнай літаратуры XIX стагоддзя Ф.М.Дастаеўскі выводзіў з аповесці «Шынель» М В.Гогаля, так наш радавод — са «Слова пра паход Ігаравы».

Меч, крыж, слова. «Слова пра паход Ігаравы» як гераічны эпас ёсць найперш слова аб мячы і крыжы, прычым, найперш і найбольш — аб мячы і найменш — аб хрысціянскім крыжы. Бо ж не ў Хрыстовага распяцця ратунку і апякунства сабе, свайму князю Ігару, зямлі Рускай шукае Яраслаўна, а ў ветра, сонца, Дняпра-Славуціча. Меч, які паэтызуецца ў «Слове» — найперш гераічны, і ў ім жа асуджаецца меч крамолы, міжусобіцаў, неразумнага буянства, бездапаможнага перад грознай навалай варожых нашэсцяў





Увогуле калі браць старабеларускую літаратуру ў яе гістарычнай перспектыве развіцця — то яна бачыцца найперш, у звязку з вобразам мяча (ранняе Сярэдневякоўе), затым — разгорнутай кнігі (час Адраджэння і Рэфармацыі), потым — крыжа (час Контррэфармацыі, барока).

Слава рыцарскага мяча была на ўзыходзячай лініі развіцця феадалізму на Беларусі, слава была і ў часы феадалізму, слава мяча была гераічная, а ў часы стабілізацыі — панегірычная. Але што тут нам найважней. там, дзе была гераічная слава, там быў самы непасрэдны ўплыў «Слова пра паход Ігаравы» як гераічнага эпасу. Жывымі галінамі са «Слова пра паход Ігаравы» сталі ў сярэдневяковай Беларусі «Пруская вайна» — паэма аб Грунвальдзе Яна Вісліцкага, выходцы з Піншчыны (1516), паэма Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра» (1523), паэма Андрэя Рымшы «Дзесяцігадовая аповесць пра вайсковыя справы Крыштофа Радзівіла» (1585). (...)

**Алег ЛОЙКА**

# Хто ён - аўтар «Слова пра паход Ігаравы»?

Пачнём з вызначэння найбольш характэрных рысаў літаратурнага партрэту. Агульнапрызнаная і бясспрэчная найвышэйшая ступень літаратурнай адоранасці аўтара «Слова. .» Акадэмік Дз. Ліхачоў і шматлікія іншыя даследчыкі лічаць яго геніем. Мастацкая дасканаласць формы твора мае апору ў песеннай традыцыі, ідзе ад «чарадзейнага Баяна» Шмат якія вобразы ды ідэі «Слова...» маюць аналогію ў грэка-візантыйскай літаратуры, асабліва ў «Іліядзе». І твор Гамера мае песенны характар, але ў зачыне аўтар звяртаецца, зразумела, не да Баяна· «Гнев, богиня, воспой Ахиллеса, Пелеева сына». Як і Гамер, стваральнік «Слова...» асуджае міжусобіцы. Гамераўскім «вы воздвигаете горькую распрю», «неустально ярая распря», «сына его, Александра, от коего распря восстала», «тот беззаконен, безроден, скиталец бездомный на свете, кто междусобную брань, человекам ужасную, любит», «распри злотворной, как можно, чуждайся» — у «Слове...» адпавядаюць меркаванні «Уже понизите стязи свои вы бо своими крамолами начясте наводити поганыя на землю Рускую», «усобица княземъ на поганые погыбе» і г.д.[1]

У апісанні вынікаў усобіцаў — трапныя, да тоеснасці, супадзенні. Так, у «Слове...»: «Въстала обида въ силах Дажьбожа внука, вступила девою на землю Трояню». Падкрэслім тут словы «обида», «девою» і «землю Трояню» і звернемся да Гамера, да яго апісання з'яўлення «Крыўды» (обиды) на Траянскай зямлі· «Дщерь громовержца Обида, которая всех ослепляет», «Но Обида могуча, ногами быстра, перед ними мчится далеко вперед и по всей земле упреждая, смертных

*можаш птах усіх
перастраляць.
Над табою — чорныя аблокі,
над дружынай —
вораны крычаць.*

**XVII**

*Ходзіць гора па Русі вялікай,
ходзіць, не збіваецца з дарог,
пагражае Карна смертным
крыкам
трубіць Жля у іскрамётны
рог.
Над Траяна
святаносным краем
полымя пажараў
не згасае.
Не зязюль вясёлых кукаванне
у дуброве ў ранні час такі,
ляціць усюды плач-кананне —
то галосяць рускія жанкі.
Мілыя і дарагія Лады,
вы куды падзеліся ад нас?
Ці жыццю і сонцу вы не рады?
Дзе знайсці цяпер, скажыце,
вас?
Можа, вас шукаць
у чыстым полі?
Можа, заблудзіліся ў барах?
Мыслямі не вымысліць ніколі,
вас не ўдумаць думкамі ў вяках.
Вас не згледзіць
слёзнымі вачыма
і да сэрца ўжо вас не прытуліць.
Нашы Лады —
любыя жанчыны,
золата вам болей не насіць.*

**XVIII**

*Стогне Кіеў-стольны
над гарою,
хмары над Чарнігавым вісяць.
Слёзы па Русі цякуць ракою,
а бяды і гора не стрымаць.
І пакуль штодзённыя
крамолы
між сабой тайком
князі вядуць,
нападаюць полаўцы на сёлы
і даніну шчодрую бяруць.
І бяруць на ўсіх яе дарогах —
па вавёрцы з кожнага двара.
Едуць на радзіму
з перамогай —
не чакай ад чужакоў дабра.*

**XIX**

*Два браты у гэтым
вінаваты —
Ігар і Усевалад. Яны*

*разбудзілі полаўцаў паганых*
*для набегаў і цяжкой вайны.*
*А яшчэ зусім-зусім нядаўна*
*кіеўскі вялікі Святаслаў,*
*мудры бацька, грозны,*
*мужны, слаўны*
*пад пятою полаўцаў трымаў.*

*На зямлю паганую, чужую*
*ён палкі свае адважна вёў,*
*раць скрышыў нязломную,*
*стальную,*
*і яе не адшукаць слядоў.*
*Прытаптаў і параўняў*
*узгоркі,*
*ўскаламуціў чыстую ваду,*
*дзе і сонца плавала, і зоркі,*
*хоць бяры рукою, на віду.*

*Асушыў балоты, ручаіны*
*і праз стэп праклаў*
*да мора шлях,*
*праімчаўся, як віхор,*
*з дружынай*
*ён з клінком-маланкай у руках.*
*На Русі адразу страх загінуў,*
*людзі не баяліся пагроз:*
*Святаслаў у слаўны*
*стольны Кіеў*
*Кабяка паганага прывёз.*

**XX**

*І грымела, не змаўкала слава*
*кожны дзень*
*у памятны той год.*
*Немцы, венецыйцы і марава*
*Святаслава славілі паход.*
*Славілі яго і дакаралі*
*Ігара, які ў палоне быў,—*
*што багацце рускае ў Каяле*
*і дружыны славу патапіў.*
*Хай вініць цяпер сябе самога,*
*напаткаўшы у паходзе зло,*
*што сядла не ўбачыць*
*залатога,*
*калі сеў у рабскае сядло.*

*І замоўклі весялосць і песні*
*на Русі у горкі сумны час,*
*што луналі ў чыстым*
*паднябессі,*
*бралі сэрца у палон не раз.*

## Частка другая

**I**

*На гарах, у Кіеве далёкім,*
*у свяцёлцы-хараме высокім,*
*Святаславу сніўся*
*смутны сон.*

язвит» Яшчэ адно супадзенне вынікае з таго, што ў Гамера Крыўда «ослепляет», а ў «Слове...» Крыўда «в силах Дажьбожа внука», г зн, унука бога Сонца, яго асляпляльных промняў Такім чынам, дзева-Крыўда ў «Слове. .» ідэнтычна гамераўскай і фігуруе ў ім разам з сваімі карэннямі, разам з Траянскай зямлёй. Троя згадваецца і ў іншых месцах «Слова. .»

Але гэта не ўсё. Плачу Яраслаўны ў Пуціўлі на гарадской сцяне адпавядае плач жонкі аднаго з галоўных герояў «Іліяды» на крапаснoй вежы. Андрамаха аплаквае Гектара «С сыном она и с одною кормилицей пышноодежной // вышед, стояла на башне, печально стеная и плача» Відавочна блізкасць літаратурных прыёмаў апісання бітваў, іх удзельнікаў і палонных, з'яў і прыкметаў, уздзеяння сіл прыроды, святла і цемры, звяроў і птушак, раслііннасці ды іншых элементаў рэчава-вобразнага зместу абодвух твораў. Асобныя месцы адрозніваюцца толькі асаблівасцямі вершаванай формы і стылю перакладу

Вось некаторыя прыклады

*«Іліяда»:*

*распростер их в корысть плотоядным*
*птицам и псам*
*смертоносными прыща стрелами*
*боги! великая скорбь на ахейскую*
*землю приходит ...*

*«Слова...»:*

*орли клекотомъ на кости звери зовут*
*прыщещи на вои стрелами*
*тоска разлияся по всей Руской земли,*
*печаль жирна тече средь земли Руской ...*

*«Іліяда»:*

*шлемоблещущий [Гектор и другие]*
*жарче на рати ахейские бросились,*
*жадныя боя*
*задождили свистящие стрелы ...*

*«Слова...»*

*златым шлемом посвечивая*
*а мы уже дружина жадни веселия*
*итти дождю стрелами ...*

*«Іліяда»:*

*мраком таким на побоище были*
*покрыты герои ...*

*«Слова...»:*

*мгла поля покрыла, темно бо бе в 3*
*день ...*





Падобных сэнсавых і паэтычных паралеляў з «Іліяды» і «Слова...» можна прывесці дзесяткі.

Творы Аміра (Гамера) у XII ст былі вядомыя на Русі Пра іх гаворыцца напрыклад, у пасланні мітрапаліта Клімента прасвітару Фаме А. І. Рогавым ды іншымі гісторыкамі выяўлена ўздзеянне на стваральніка «Слова. .» і больш позняй візантыйскай літаратуры, у прыватнасці, апокрыфнага твора Іпаліта «Хаджэнне старца Зосімы» Несумненнае знаёмства аўтара «Слова. .» з працай І Флавія даказана больш за паўстагоддзя назад. Усё гэта сведчыць не толькі пра веданне аўтарам «Слова...» помнікаў старажытнагрэчаскай і візантыйскай літаратуры, але і пра тое, што мастацка-вобразная сістэма элінскай культуры была для яго эстэтычнай нормай. Разам з тым філолагі адзначаюць слабую сувязь «Слова...» з заходнееўрапейскай літаратурай. «Непасрэдна «Слова. .» не залежыць,— паводле ацэнкі Л. А. Дзмітрыева,— ні ад скальдычнай паэзіі, ні ад паэзіі трубадураў, трувераў ці мінезінгераў»[2]

Выснова стваральнік «Слова...» — геніяльны літаратар, які абапіраўся ў сваёй творчасці на традыцыі айчыннага народнага гераічнага эпасу, на песенную паэзію Баяна і на дасягненні старажытнагрэчаскай і візантыйскай культуры.

Адносна светапогляду аўтара «Слова...» на сучасным этапе вывучэння помніка спрэчак амаль не вядзецца. Яшчэ К. Маркс указваў· «Песня носіць гераічна-хрысціянскі характар» [3] Пазнейшыя даследванні паказалі, што паганскія элементы цалкам упісваюцца ў выкарыстаную паэтыку бітваў і герояў у традыцыях Баяна ці Гамера і ляжаць па-за хрысціянскімі перакананнямі аўтара. Прысутнасць паганскага пласта ў творы хрысціяніна зразумелая — ён звяртаўся да свецкага грамадства, да баярска-княскай аўдыторыі, а князі і баяры ў XII ст яшчэ моцна трымаліся за ўсё паганскае, яны нават ігнаравалі ўласныя імёны, атрыманыя пры хрышчэнні.

Наступная значная прыкмета асобы аўтара «Слова...» — яго сацыяльны статус. Бліскучы літаратар, паэтычная асоба прадаўжальнік справы песняра Баяна, эрудыт і кніжнік, запазнаны з грэчаскай філасофіяй; перакананы хрысціянін, гісторык і інфармаваны палітык з агульнарускай пазіцыяй і з цалкавітай незалежнасцю ад княскіх родавых інтарэсаў, ён, безумоўна, належаў да інтэлектуальнай эліты Ці мог чалавек з такімі выключнымі якасцямі праявіць сябе толькі адзін раз? Блiснуць, успыхнуць, даць сусветнай літаратуры шэдэўр і знікнуць? Малаверагодна. Такі літаратар хутчэй за ўсё быў вядомы сучаснікам і сваімі іншымі творамі Дзе ж яго шукаць — сярод князёў, баяраў або рэлігійных дзеячоў?

Моўныя асаблівасці і стылёвыя звароты, характэрныя для «Слова...», вывучаны адносна добра. Аналіз паказаў, што слоўнікавы склад і стылістыка помніка бліжэй за ўсё да паўднёварускага, кіеўскага дыялекту У твор уключаны элементы іншых гаворак, з якіх выразна выяўляюцца так званыя бранскія гаворкі. (Яны праяўляюцца і на Чарнігаўшчыне, і ля Ноўгарада-Северскага.) Ёсць працы, што паказваюць украпленне ў тэкст «Слова. .» наўгародскіх моўных рысаў, а таксама словаў польскага і цюркскага паходжання Але ў любым выпадку творца выкарыстаў максімум вобразнасці сярэдне-

*У начы прачнуўшыся*
*глыбокай,*
*адагнаўшы страх ад сваіх*
*вокан,*
*загадаў сабраць баяраў ён.*
*Ім сказаў з трывогаю вялікай,*
*апусціўшы нізка галаву:*
*—Ноччу сон прысніўся*
*нейкі дзікі,*
*а было нібыта наяву:*
*прад вачамі пацямнелі далі,*
*і зусім, здавалася, не ў сне:*
*на дубовым ложку накрывалі*
*прасціною чорнаю мяне.*
*Сіняе віно давалі выпіць,*
*горкае, з атрутай папалам,*
*і жамчуг на грудзі мае сыпаў*
*палаўчанін, і ўсміхаўся сам.*
*Так было усё неспадзявана —*
*у вачах стаяў туман густы —*
*а жамчуг той сыпаўся*
*з калчана,*
*той калчан, прыкмеціў,*
*быў пусты.*
*Сум вялікі сэрца агарнуў,*
*нібы я заходзіўся ад плачу:*
*на святліцу-харам*
*свой зірнуў,—*
*вільчака на хараме не ўбачыў.*

*У трывозе лес шумеў стары,*
*вецер нагінаў да долу кроны.*
*З вечара пачаўшы, да зары*
*граялі ля Плеснеска вароны.*
*Крыламі ўзмахнуўшы над за-*
*рой,*
*Пракрычалі пра бяду і гора,*
*Шэрыя, кружылі, нада мной*
*і ляцелі аж да сіня-мора.*

**II**

*І баяры Святаславу кажуць:*
*—Дарагі і мудры,*
*слаўны княжа!*
*Ты за ўсіх на свеце*
*разумнейшы*
*і за сонца розум твой*
*яснейшы,*
*яго гора горкае палоніць,*
*дзень і ноч спакою не дае:*
*у паганцаў, у чужым палоне,*
*дарагія сокалы твае.*
*Узняліся, паляцелі з дому,*
*каб шаломам выпіць*
*хвалі Дону,*
*паляцелі, маладыя, ў рань*
*пашукаць сабе Тмутаракань.*
*Ды ў палёце не хапіла сілы,*
*на зямлю-чужыну селі-палі,*
*бо падсеклі полаўцы ім крылы,*
*а саміх ў жалеза закавалі.*

*І два сонцы, самых чыстых,*
*ясных,*
*нечакана для цябе пагаслі.*

*Для цябе, князь,*
*неба пацямнела,*
*засцілае чорнай хмарай вочы:*
*сонцы два не свецяць*
*у дзень белы,*
*ясныя два месяцы — уночы.*

*Над Каяллю*
*чорны полаг вісне —*
*там сыны*
*Алег са Святаславам*
*цеменню густой завалакліся,*
*загубілі гонар свой і славу.*
*Дзіў лятае вольна над зямлёй*
*і смяюцца ханы над табой.*
*Русь рабуюць,*
*топчуць луг і поле,*
*гвалцяць красных,*
*як вясна, дзяўчат,*
*забіраюць жонак у няволю,*
*а адтуль не вернуцца назад.*
*Закавана ў ланцугі свабода,*
*і няпраўда верх над ёй ўзяла,*
*праўдзе не дае нідзе праходу,*
*а яна ж святыняю была.*
*І калі у нас такія страты,*
*калі Русь стаіць цішэй травы,*
*каля мора гоцкія дзяўчаты*
*ў золаце ад ног да галавы.*
*Рускім дарагім багаццем*
*звонячь,*
*весяляцца, славяць Буса час*
*і Шаруканову помсту*
*помняць,*
*услаўляюць песнямі што раз.*
*Толькі мы пра весялосць*
*забылі,*
*нібы мы, дружына, у бяссіллі.*

**III**

*Позіркам акінуўшы гады,*
*што прайшлі у войнах*
*у суровых,*
*мудры Святаслаў сказаў тады*
*са слязамі змешанае слова:*
*—Змушаны вас, дзеці,*
*дакараць,*
*а не ганарыцца сёння вамі:*
*рана пачалі вы пагражаць*
*полаўцам булатнымі мячамі.*
*Вы, не захацеўшы зразумець*
*мудрасці, якой мы вас вучылі,*
*рана славу захацелі мець*
*і сваё багацце загубілі.*
*Сэрцы гартаваныя у вас,*
*як са сталі вострыя меч*
*булатны.*

вяковай агульналітаратурнай мовы, абапіраючыся і на пісьмовыя помнікі, і на жывую гаворку

Цяпер, пасля разгляду ўсіх асноўных асаблівасцей «Слова .», можна паспрабаваць стварыць творчы партрэт яго аўтара Яму ўласцівыя творчая адоранасць найвышэйшай ступені, што прымушае думаць і пра іншыя, не толькі літаратурныя, праяўленні таленту; шырокае выкарыстанне пісьмовых літаратурных помнікаў старажытнагрэчаскай і візантыйскай культуры і апора на традыцыйную рускую песенную творчасць, хрысціянскі светапогляд, незалежнасць ад родавых княскіх сімпатый і антыпатый, пачуццё адказнасці за лёс нацыі, адданасць агульнарускім інтарэсам і асуджэнне ўсобіцаў; бліскучае веданне гісторыі, палітыкі, культуры, фальклору, геаграфіі, укладу жыцця князёў, што паказвае на прыналежнасць да інтэлектуальнай эліты грамадства і блізкасць да ўладароў; выкарыстанне слоўнікавага фонду не толькі паўднёварускага, але і іншых дыялектаў

Зразумела, асноўная творчая дзейнасць аўтара «Слова. .» павінна заканчвацца не раней як у канцы 1185 г

З ліку вядомых дзеячоў канца XII ст. усім патрабаванням верагоднай мадэлі асобы адпавядае толькі адзін чалавек Паслухаем пра яго, пачынаючы летапісным. «Златоуст паче всех воссиявший нам на Руси», «Быў рознабакова адукаваны, добра ведаў грэчаскую мову і літаратуру», «Для творчасці. характэрна нагляднасць параўнанняў, узятых часам са свету прыроды Яго творы вызначаюцца народным складам мовы і з'яўляюцца важнай літаратурнай крыніцай бытавога характару Карыстаўся матывамі народнай творчасці» «Публіцыст, перакладаў з грэчаскай творы Георгія Амартола», «Яго творы перапісваліся стагоддзямі»; «Барацьба. . за захаванне адзінства рускай царквы ва ўмовах XII ст была прагрэсіўнай Адзіная царкоўная арганізацыя падтрымлівала ідэю адзінства рускай зямлі», «Ім было напісана шмат больш за тое, што да нас дайшло, у ліку яго твораў, што прапалі,— пасланні князю Андрэю Багалюбскаму» «Заклікаў хрысціянскіх пісьменнікаў вучыцца ў песняроў і гісторыкаў мастацкаму майстэрству»

Уражвае? Нельга не нагадаць яшчэ ацэнку рускага гісторыка С.М Салаўёва, які адзначаў «Падабенства Слоў[4] да царкоўных песняў, ад якіх ён запазычваў часам не толькі форму, але і цэлыя выразы; як у тых, так і ў іншых бачым аднолькавае распаўсюджанне, ажыўленне падзеі размовамі дзеючых асоб, у творах заўважаем таксама асаблівую прыхільнасць да алегорыі, прытчаў, імкненне даваць падзеям пераўтваральны характар, асаблівае майстэрства ў параўнаннях, збліжэнні падзей, з'яў»[5]

Усё згаданае вышэй ва ўсіх рысах і дэталях цалкам супадае і з аб'ектыўным партрэтам стваральніка «Слова. .», і з яго творчым почыркам Дадамо: Кірыл, пра каго ідзе размова, нарадзіўся, жыў і тварыў у Тураве, што на Прыпяці Ён — выхадзец з заможнай сям'і, пасля атрымання духоўнай адукацыі быў пастаўлены ў родным горадзе епіскапам. Дакладныя даты нараджэння і смерці Кірылы Тураўскага невядомы. Большасць крыніц падае працягласць яго жыцця прыблізна — 60 гадоў, з пачатку 30-х да канца 80-х гг XII ст П.М. Палявой называе больш дакладную дату· «Памёр каля 1188 г.»[6]. З твораў Тураўскага варта прыгадаць «Прытчу пра душу і цела», «Аповесць пра бяспечнага цара і яго мудрага дарадчыка», «Слова пра памяць айцоў Нікейскага сабора», «Словы...» на вербніцу і на іншыя хрысціянскія святы, шматлікія малітвы.

Супастаўленне «Слова пра паход Ігаравы» і твораў Кірылы Тураўскага паказвае, на першы погляд, што яны створаны рознымі асобамі, але інакш і не можа быць. форма вызначаецца задумай, зместам, параўноўваць жа свецкую гераічную паэму з царкоўным казаннем — усё адно, што параўноўваць перадавіцу з вершам.

Праводзіўся эксперымент· па ўзорах публіцыстычнай прозы вядомых сучасных паэтаў патрабавалася «пазнаць пяро» Высветлілася, што немагчыма адразу вырашыць, патрабуецца тонкі навуковы падыход Дазволім такое параўнанне· адзін і той жа каваль можа выкаваць і сякеру, і рыдлёўку Параўноўваць іх па функцыянальным прызначэнні і нават па матэрыяле — бесперспектыўны занятак. Аднак спецыялісты-тэхнолагі па прыёмах і якасці апрацоўкі металу дакладна вызначаюць вырабы старых майстроў.

Падобную методыку трэба выкарыстаць і пры аналізе «Слова . » і твораў Кірылы Тураўскага — ці ёсць там праяўленні паэтычнага бачання свету, схільнасць да гістарычных прыкладаў і параўнанняў, да выкарыстання простай мовы, намёкаў, алегорый, усяго таго, што называецца падтэкстам Калі выкарыстаць такі спосаб параўнання, блізкасць «Слова. .» да твораў Кірылы Тураўскага становіцца відавочнай Дарэчы, гэта заўважана даўно. С.К. Шамбінага[7] болей як паўстагоддзя назад звярнуў увагу на падабенства літаратурных прыёмаў Кірылы Тураўскага і аўтара «Слова...» Пры тым ён удакладніў: «Толькі пластычнасць воінскай аповесці Кірыла перавёў на духоўную алегорыю» І зрабіў выснову· «Прыёмы Кірылавага пераказу вельмі блізкія да «Слова пра паход Ігаравы»[8]. На жаль, ідэі Шамбінага не атрымалі распрацоўкі, іх ніхто не рызыкнуў падхапіць — наступіў час, калі папулярызацыя нават прагрэсіўных царкоўных дзеячаў не ўхвалялася Цяперашні час спрыяе распрацоўцы кожнай неардынарнай гіпотэзы і фарміраванню новага, больш аб'ектыўнага гістарычнага мыслення Вывучэнне жыцця і творчасці Кірылы Тураўскага як верагоднага аўтара «Слова ..» неабходна працягваць. Варта ўсур'ёз падумаць пра камп'ютэрна-матэматычную апрацоўку яго твораў і наогул пра выкарыстанне ЭВМ для аналізу помнікаў старажытнарускай літаратуры.

**Барыс ЗОТАЎ**

*«Беларуская мова і літаратура ў школе». N 6. 1990 г*

---

[1] Тут і далей цытую па: Гомер. Илиада. Пер. Н.Гнедича. М., 1986. Слово о полку Игореве. Под ред. Д. С. Лихачева. М., 1985.

[2] Дмитриев Л.А. К вопросу об авторе «Слова о полку Игореве» // Русская литература. 1985. N 4. С. 23.

[3] Маркс К. и Энгельс Ф. Соч. Т. 29. С. 16.

[4] Зберагліся 8 «Слоў»–казанняў Кірылы Тураўскага.

[5] Соловьев С.М. История России с древнейших времен. Кн. 1 М., 1988. С. 301.

[6] Полевой П.Н. История русской словесности. С. 202.

[7] Шамбінага Сяргей Канстанцінавіч (1871–1948), рускі савецкі літаратуразнаўца і педагог, прафесар Маскоўскага універсітэта.

[8] Гл. Слово о полку Игореве. М.–Л., 1934. С. 112.

*Вы ў нядобры выступілі час*
*мерыць сілы там,*
*на полі ратным.*
*Сярод свету у краі чужым*
*вы за праўду і за Русь стаялі,*
*і таму без гонару зусім*
*кроў сваю чужынцы пралівалі.*
*Не пасуцца коні за Сулой,*
*перапёлкі не крычаць у жыце.*
*Сівізне сярэбранай маёй*
*што зрабілі, храбрыя,*
*скажыце?*
*У паходах многіх я бываў,*
*у якіх мы ўсе былі адзіны.*
*Дзе ты, брат мой грозны,*
*Яраслаў*
*са сваёй чарнігаўскай*
*дружынай?*
*Дзе татраны, тапчакі,*
*скажы,*
*шэльберы, равугі і альберы,*
*што, у бой хапаючы нажы,*
*без шчытоў кідаліся наперад?*
*Крык пачуюць ворагі —*
*і ў страх,*
*хто як мог уцёкам ратаваўся.*
*Вы перамагалі у баях,*
*славы гром далёка раздаваўся.*
*Вы сказалі у нядобры час:*
*«У паходзе мы сябе ацэнім,*
*слава дзён мінулых будзе ў нас,*
*будучую між сабой падзелім».*
*Як, старому, скінуць мне гады,*
*каб і зноў узняцца змог высока?*
*Набярэцца мудрасці тады,*
*калі ў ліньцы пабывае сокал.*
*Ён тады высока узляціць,*
*зможа усе цяжкасці адолець*
*і гняздо, дзе вырас, разбурыць*
*ён драпежным птушкам*
*не дазволіць.*
*Як вярнуць далёкі час назад?*
*Што адзін зрабіць*
*для справы зможаш?*
*Тут бяда:*
*забыў пра брата брат,*
*і ніяк бядзе не дапаможаш.*
*А яе ніяк не затрымаць,*
*яна вісне хмараю над намі:*
*русічы пад Рымавым крычаць,*
*і сякуць іх полаўцы клінкамі.*

*Уладзімір ледзь ад раны жывы,*
*над сабой не бачыць сіні неба,*
*не ўзнімае гордай галавы —*
*гора сыну доблеснага Глеба!*

**IV**

*Князь вялікі Усевалад!*
*Хіба ў нас*
*кроў у жылах б'ецца не адна?*

*Ваяваць жа ты умееш слаўна,*
*як між намі вырасла сцяна?*

*I на дружбу пазабыў хіба ты?*
*Слоў дзядоў не помніш*
*залатых?*
*Дзе ж любоў падзелася*
*да брата?*
*Хоць у думках прыляці сюды!*

*Завітай, брат,*
*па святому доўгу*
*і руку братэрскую падай!*
*Распляскаць вяслом*
*ты можаш Волгу,*
*выпіць Дон шаломамі да дна!*

*Нездабруе вораг аніякі —*
*калі храбрых Глебавых сыноў*
*кінеш мужна ў полымя атакі,*
*дык дружыны злягуць чужакоў.*

*Ператворым чужакоў паганых*
*у рабоў. I будзем прадаваць:*
*па нагаце —*
*дзевак-паланянак,*
*за мужчыну — па разану браць.*

*Прыскачы, брат,*
*на кані гарачым*
*і ў бядзе братам дапамажы,*
*перамогу чарай мы адзначым,*
*толькі, дарагі ты, паспяшы!*

**V**
*Ты, буй-Рурык,*
*і Давыд адважны!*
*Прыгадайце маладосць сваю,*
*як раней мужнелі*
*у бясстрашшы*
*у далёкім, у чужым краю.*

*Ці ж не вашы храбрыя*
*дружыны*
*па закону дружбы і любві*
*секлі ўсіх паганцаў на чужыне*
*і шаломы плавалі ў крыві?*

*А цяпер — куды ўцякаць*
*не знаюць,*
*разбрыліся храбрыя палкі,*
*і, як туры, з крыкам*
*паміраюць*
*ад клінка, варожае рукі.*

*Дык сядлайце хутканогіх*
*коней,*
*за святую праўду пастаім,*
*чужакоў з усёй зямлі прагонім*
*і братоў на ганьбу не дадзім!*

*Ненавісных полаўцаў паганых*

# Ці быў Кірыла Тураўскі аўтарам «Слова...»?

Што нам зараз не дае права сцвярджаць, што менавіта Кірыла Тураўскі з'яўляецца аўтарам «Слова пра паход Ігаравы» /хоць ён і стварыў больш за сорак разнастайных «Словаў» — казанняў, прыпавесцяў, споведзяў, малітваў/? Найперш — гэта час ягонай смерці, бо Ігараў паход і поўнае зацямненне сонца /«Солнце. тьмою путь заступаше»/ адбыліся ў маі-траўні 1185 г. Калі будзе даказана, што К. Тураўскі памёр не раней за зварот з палону князя Ігара, то ўсё астатняе куды лягчэй даказаць. Здымаецца пытанне і пра тэрмін напісання іншых твораў нашай старажытнай славутасці Напрыклад, у кнізе «Златоструй: Древняя Русь X—XIII веков» /М., 1990/ пра «Аповесць пра беларызца-чалавека і манаства» К. Тураўскага робіцца наступная выснова «У позніх спісах «Аповесць» адрасавана Васілю, ігумену Пячэрскаму Аднак Васіль стаў ігуменам толькі ў 1182 г , кал Кірылы, як лічаць, ужо не было ў жывых» І далей. «Верагодна, «Аповесць» была напісаная Кірылам яшчэ перад тым, як ён стаў тураўскім епіскапам» /тамсама/

Па-другое, патрэбныя яшчэ грунтоўныя доказы таго, што такі прапаведнік /прапагандыст/ хрысціянства, менавіта праваслаўя, як Кірыла Тураўскі, не мог прапагандаваць ніякай вайны — ні сумеснай, як сказана ў творы, «оть старого Владимера до нынешняго Игоря», ні індывідуальнай, якой праслаўіўся «Святъславь грозный великый киевскый», бо, як вядома, адным з асноўных біблейскіх запаветаў з'яўляецца «не забі!» Праўда, адзін з хрысціянскіх пастулатаў — «Як трэба /пажадана/ Госпаду, так і будзе» — сам жа К. Тураўскі тлумачыць у згаданай вышэй «Аповесці» так. «Гасподзь жывіць і мярцвіць, багаціць і бедніць, змірае /прыніжае/ і ўзвышае, і ад хваробы збаўляе /выратоўвае/ нямоглага» Ды і сябе вельмі часта ў сваіх розных паводле жанру творах называе «чалавекам грэшным» А выказванне «То не воюйте, братье, на мою грубость, нелеп образ писания поставляющи ми. Яко же бо и по ногу вязаші птице нест мощно на аиерьскую възлетети высоту, тако и мне в телесных вязящу похотех, невозможно о духовных беседовати: не сольнуть бо ся грешнича словеса, не имуща благодати святога духа», узятае з ягонай «Прытчы пра чалавечую душу .», паказвае, што мог К. Тураўскі ўзяць на сваю душу яшчэ адзін грэх — напісаць свецкую аповесць /паэму/, накіраваную супраць міжусобіц. Тым больш што ўзоры такіх аповесцяў-паэмаў ужо існавалі як у вусным, так і ў кніжным маўленні /маюцца на ўвазе найперш быліны, гамераўскія «Іліяда» і «Адысея», байкі Эзопа/

Сувязь «Слова пра паход Ігаравы» з самымі старажытнымі былінамі добра паказаная ў кнізе «Былины» /М., 1986/, пра блізкасць «Слова...» да «Іліяды» пераканаўча гавораць назіранні Б Зотава, а Эзопаву мову твора расшыфроўваюць усе каментарыі «Слова пра паход Ігаравы» і шасцітомны слоўнік-даведнік твора, выдадзены ў 1965—1984 гг. Застаецца толькі знайсці тыя асаблівасці і ў творах самога Кірылы Тураўскага Але гэта нялёгкая справа, бо ягоныя творы далёка не ўсе сабраныя ў адно месца, а ў Беларусі выдадзеныя ўвогуле толькі ў хрэстаматыях-дапаможніках каля паўдзесятка «Словаў» і «Прытчаў» Аднак нават тое, што ёсць, дае права гаварыць пра супадзенне сімволікі /нябесныя свяцілы, з'явы прыроды, звяры і птушкі, дрэвы і расліны, поры года і інш./, зачынаў і канцовак, зваротkaў і лірычных адступленняў, аўтарскай і «чужой» мовы, высокага /кніжнага/ і зніжанага /гутарковага/ маўлення ..

Уражваюць супадзенні не толькі ў лексічным складзе, але і ў фразеалагічным, марфалагічным, сінтаксічным. Асабліва вялікую пераканаўчую здольнасць, на наш погляд, маюць аднолькавыя ці блізкія і сваёй структурай, і сваім зместам тыя ці іншыя выказванні ці часткі тэксту, сказы ці іх структурныя кампаненты Напрыклад: «по былинамь сего времени, а не по замышлению Бояню» /«Слова пра паход Ігаравы»/ і «сказавшю не от умышленья, но от святых книг» /«Прытча пра чалавечую душу і цела»/, «летая умомъ подъ облакы» /тамсама/ — «пойдемъ на гору Елеоньскую умомъ» /«Слово на възнесение господне. .»/, «ищучи себе чти, а князю славе» /тс/ — «чьстьную славу и поклонение и» /«Слово о сънятии тела Христова с креста. .»/, «и тому славу, чьсть и покланяние въсылаемь» /«Слово на възнесение господне...»/, «овем в чьсть и славу, овем в студ и муку» /«Притча о человечстей души...»/ (. .)

Пераклікаюцца плачы жаночых вобразаў паэмы-аповесці «Слова пра паход Ігаравы» з плачам Марыі — маці Ісуса Хрыста /«горце рыдающи матери»/ — перад целам Хрыстовым, распятым на крыжы, у творы «Святого Кюрила мниха слово о сънятии тела Христова с креста, и о мюроносицах, от сказания евангельскаго, и похвала Иосифу, в неделю 3-ю по Пасце». А выказванне-заклік Маткі Боскай з толькі што названага «Слова» К. Тураўскага «Слышите, небеса и море с землею, внушайте моих слез рыдание: се бо творец вашь от священик страсть приемлеть, един праведьн за грешникы и безаконьникы убиен бысть» можна ставіць эпіграфам да ўсяго «Слова пра паход Ігаравы».

На наш погляд, бліжэй за ўсё і формай, і паэтыкай, і нават асноўным зместам стаіць да «Слова пра паход Ігаравы» твор Кірылы Тураўскага «Слово на възнесение господне, в четвъpток 7-й недели по Пасце, от пророчьскых указаний и о въскрешении всеродьна Адама из ада». Вось ягоны пачатак: «Приди ныня духомь священный пророче Захарие, начаток слову дая нам от своих прорицаний о възнесении на небеса господа бога и спаса нашего Исуса Христа. Не бо притчею, но яве показал еси нам, глаголя: «се бог нашь грядеть в славе, от брани опълчения своего, и вси святии его с нимь, и станета нозе его на горе Елеоньстей, прямо Иерусалиму на Въсток». Хощем бо и прочее от тебе уведати; а о брани бывъший на обьщаго врага диявола, от Исаия Серафимьскаго видьца разумеем. Сам бо господь наш Исус Христос един въпълчися на вся бесовьскыя силы, и власти тьмныя испроверже...». І далей: «По всех бо в телеси падьших прельстию змия, тою же плътию Исус пострада, а по делом комуждо в последний день въздасть, егда придеть судить всему миру. Си же от ангел к апостолом на Елеоньстей речена быша. мужи бо, реша, галилейстии, что стоите зряще на небо? Тъй па-

*з Рускае зямлі навек змяцём,*
*пастаім за Ігаравы раны,*
*што гараць, пякельныя,*
*агнём!*

*Княжа Яраслаў!*
*Ты Асмамыслам*
*званы у народзе нездарма.*
*Над табою хмара не навісла,*
*слава пасялілася сама.*

*Да аблок узняў яе,*
*памножыў,*
*і Карпаты, як каня,*
*стрыножыў.*

*Іх падпёр жалезнымі клінкамі,*
*што надзейнай вартаю*
*стаяць,*
*ты Дунай трымаеш*
*пад замкамі,*
*паднябессем здольны кіраваць.*

*Каралю дарогу заступіў,*
*і вароты ў Кіеў адчыніў.*

*Пільна узіраешся ўдалеч —*
*за свой лёс спакойная зямля:*
*б'е султанаў ненавісных Галіч*
*стрэламі-маланкамі здаля.*

*Навастры стралу*
*на Канчака —*
*на паганца, злога чужака.*

*Клічу цябе, княжа, на падмогу,*
*чужакам адпомсці па чарзе*
*за зямлю Русі, маю трывогу,*
*і за раны Ігаравы ўсе!*

**VII**
*Ты, буй-тур Раман,*
*і ты, Мсціслаў!*
*Ці ж не вас паходы паланілі,*
*храбры дух на подзвіг узнімаў,*
*і нідзе нам крылы не падбілі?*

*Вашай чыстай зелені дуброў*
*вы кружылі ў сінім паднябессі:*
*па палёце бачна сакалоў,*
*птушак пазнае народ па песні.*

*Храбрыя, не падалі ані,*
*смертнай не баяліся часіны,*
*птахаў падбівалі ў вышыні*
*мужнаю адвагай сакалінай.*

*Ёсць у вас для бітвы малайцы*
*у шаломах кованых*
*лацінскіх, —*
*гнеўныя адважныя байцы*

*не давалі ў крыўду сваіх блізкіх.*

*І Літва, Ятвага з Хінавой,*
*Дзерамела з полаўцамі разам*
*не ўступалі ў смертаносны*
*бой,*
*слаўныя князі, яшчэ ні разу.*

*Ворагі стаялі, як слупы,*
*пазабыўшы смеласць і адвагу,*
*і галовы клалі, як снапы,*
*пад мячы булатныя і сцягі.*

*Не ўваскрэсне Ігара дружына,*
*сонца славы*
*згасла над зямлёй:*
*наступіла чорная часіна,*
*і зара туманіцца крывёй.*

*Не к дабру страсаюць*
*лісце дрэвы:*
*уздоўж Росі і Сулы-ракі*
*пад свае чужацкія напевы*
*дзеляць гарады стэпавікі.*

*Кліча Дон, князі,*
*у бой рашучы,*
*навастрыце стрэлы і мячы!*
*Ворагу ад смерці немінучай,*
*ад святое помсты не ўцячы!*

**IX**

*Храбрыя Мсціслававічы! Вас,*
*шасцікрыльцаў*
*трое гартаваных,*
*клічу я ў паход у добры час*
*адплаціць за Ігаравы раны.*

*Помсціце за Рускую зямлю,*
*князь Інгвар і Ўсевалад, умела:*
*Вам, браты,*
*дакору не зраблю —*
*бой вялі заўжды сумленна,*
*смела.*

*Вы хітрыць ніколі не любілі*
*і па праўдзе гарады дзялілі*
*за бацькоўскім залатым*
*сталом.*
*Мо ў дарозе вы цяпер*
*прысталі?*
*Дзе кап'ё з адметнай*
*польскай сталі,*
*верны шчыт і дзедаўскі*
*шалом?*
*Не давайце ворагу праходу,*
*зачыніце ворагу вароты!*

**X**

*І не сярэбраную хвалю*

кы придеть в славе своего божества судит всему миру, и въздасть комуждо по делам его. Святыя же пророкы и преподобныя праведникы с собою на небеса в святый въводит град, их же влаз от богодъхновеньных скажем книг. Мы бо славу несм творци, нъ пророчьскых и апостольскых въследующе глагол, иже послушьствоваша о бозе живи, им же дух святый въписати тако повелеле: «верующим на спасение, а неверующим на погибель» (...)

Яшчэ больш паэтычнае /і, вядома, сімвалічнае/ наступнае выказванне, узятае са «Слова на ўзнясенне господняе...»: «Нъ си оставльше, о възнесении Христове побеседуим, и яже быша на горе Елеоньстей Тамо бо ангельскыя силы и архангельская воиньства: ови облакы крилы ветрьними приносять на възятие от земли Христа бога нашего, друзии же престол херовимьский готовять, бог отець ждеть, его же преже име в ядрех с собою, дух же святый велить всем ангелом его. «възметє врата небесная, да вънидеть царь славы». Небеса веселяться, своя украшающе светила, да благословяться от своего творца, с плътию сквозе тех врата на облацех възносима земля радуеться, видящи на себе бога явьствьно ходяща, и вся тварь красуеться, от Елеоньскыя горы просвещаема, яко на той ангели с святыми апостолы, по велению бога отца съвъкупишася, ожидающе сыновьня пришествия» Ці не выпісаны потым па аналогіі «великый киевскый» князь, што сядзеў «въ Киеве на горахъ» са сваёю світаю і з нецярплівасцю чакаў «нашчадка»?

Што да фальклярызацыі і дыялектызацыі мовы «Слова пра паход Ігаравы», то гэта не стылізацыя, а заканамернасць мастацкага стылю, бо і сёння любы значны твор не абыходзіцца без укроплівання элементаў фальклору ды народна-дыялектнай мовы. А калі браць пад увагу прамоўніцкае майстэрства, дзе заканамерна суіснавала і суіснуе высокае з нізкім як кніжнае з гутарковым, дык тут і гаварыць няма чаго, бо ў кожным творы К. Тураўскага такіх выпадкаў безліч. Ды і сам пісьменнік і прамоўца ў «Аповесці пра беларызца-чалавека і манаства» прызнаўся: «Бо грэшны я чалавек, і апаганеная мая мова. Як быццам бы і ўглыбіню Божых кніг унік, але паводле грубасці розуму свайго простай мовай гавару».

І яшчэ адно, на нашу думку, вельмі важнае звяно ва ўсім ланцугу разважанняў на тэму «Кірыла Тураўскі і «Слова пра паход Ігаравы» — той факт, што «Святъславь грозный великый киевскый» пэўны час быў князем у Тураве і Пінску, Ноўгарадзе Северскім і Чарнігаве, а з 1180 г. княжыў у Кіеве. Магчыма, К. Тураўскі быў добра знаёмы з ім, і ўсе сімпатыі да яго перанесліся і на ягоных стрыечных братоў — Ігара і Усевалада, на іх родных і блізкіх, нават на іх землі. (...)

Адзін з першых даследчыкаў «Слова пра паход Ігаравы» К. Калайдовіч у 1818 г прыйшоў да высновы, што твор напісаны «чыстай славянскай» мовай, а ў большасці словы яго можна знайсці ў Свяшчэнным Пісанні, летапісах, граматах. У. Сыракомля выказаўся ў 1860 г. пра беларускае паходжанне «Слова» Прафесар МДУ імя М.В. Ламаносава С.К. Шамбінага ў 1934 г. убачыў, што «прыёмы Кірылавага пераказу вельмі блізкія да «Слова...» У 1968 г Мікола Прашковіч зазначыў: «Шырокае выкарыстанне беларусізмаў гаворыць, што аўтар, магчыма, з'яўляўся выхадцам з якогасьці месца сучаснай беларускай тэрыторыі, дзякуючы чаму яе дыялект





знайшоў у гэтым творы сваё адлюстраванне» /Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры Т 1. Мн., 1968. С. 97/. Нават ужо гэтыя факты прымушаюць сур'ёзна ўзяцца за праблему аўтарства «Слова».

Яшчэ адзін цікавы факт Калі знайшлі «Слова пра паход Ігаравы», то аказалася, што яно захоўвалася ў рызніцы Спаса-Яраслаўскага манастыра ў адным скрутку са «Словамі» Кірылы Тураўскага.

**Мікола АБАБУРКА**
*Літаратура і мастацтва.*
*11 сакавіка, 1994 г*

# Да пытаньня аб беларускім элеменце ў «Слове аб палку Ігаравым»

М. Багдановічам між іншым быў выказаны погляд на «Слова», як на мастацкі твор, які склаўся з разрозьненых самастойных частак. У сваім артыкуле «Кароткая гісторыя беларускай пісьменнасьці да XUI-га сталецьця» ён гаворыць. «Яно («Слова») неакуратна зьлеплена з рознакалёрных, незалежных адзін ад аднаго кавалкаў, зьяўляўшыхся ў розныя часы і ў розных мясцох; папалі туды і два беларускія паданьні».. уласна — «пра князя Ізяслава і пра . Усяслава Полацкіх».

Погляд аб неаднолькавым, рознастайным складзе «Слова» падтрымліваўся і іншымі дасьледчыкамі Асабліва выразна ён быў выказаны ўкраінскім вучоным Іванам Франко. На ягоную думку, у складзе «Слова аб палку Ігаравым» знаходзіцца перш за ўсё песьня аб паходзе Ігара, без пачатку, з фрагмэнтарным выяўленьнем бойкі на Каяле, з заклікамі да сучасных князёў, плачам Яраслаўны і ўцёкам Ігара з палону Затым згодна яго пагляду ў склад помніка ўваходзіць песьня аб Усяславе Полацкім, якая была складзена асобна, зараз пасьля сьмерці князя Усяслава (у 1001-м годзе); апроч таго, на яго думку ў першапачатковую рэдакцыю «Слова» былі ўведзены фрагмэнты іншых песень, напр. урывак песьні аб паходзе двух славянскіх князёў на Тмутаракань, урыўкі прычытаў северскіх жанчын і інш. Франко прызнае поэтычныя вартасьці зазначаных паасобных песень і песенных фрагмэнтаў, але вельмі акрэсьлена адрозьнівае ад іх пісьменьніцкую працу рэдактара, які выкарыстаў азначаны вышэй матар'ял мастацкіх твораў і механічна склаў з яго тое, што ў якасьці «Слова» дайшло да нас. (...)

Аналіз зьместу песень аб полацкіх князёх, тая абставіна, што аўтару «Слова» добра вядомы справы на беларускіх землях, дае падставу некаторым дасьледчыкам выказаць думку аб паходжаньні аўтара «Слова» з таго племені, што пазьней увайшло ў склад Беларусі. Так напр. Бяссонаў кажа: «Тварэц «Слова аб Полку Ігара» — ураджэнец, выхадзец, або нават жыхар Беларускага краю» Думка Бясонава падтрымліваецца В.Ю Ластоўскім, які ў «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі» (Коўна. 1926, стар. 50) гаворыць, што «Толькі выхадзец або жыхар краю мог так горача апавядаць мясцовых гэрояў, хоць-бы і па былінах старых часоў, і так добра

*Сула нясе Пераяслаўлю,*
*а муць у веснавы разліў.*
*Пад клікі полаўцаў паганых*
*цячэ Дзвіна балотам-багнай*
*да Полацка, што грозным быў.*
*Васількаў сын у раз апошні*
*рашыў пажаць чужыя пожні,*
*чужую патаптаць траву.*
*Яму карцела, Ізяславу,*
*шчэ больш памножыць*
*дзеда славу —*
*заваяваць сабе Літву.*
*Узяў кірунак ён вядомы*
*і аб літоўскія шаломы*
*ён вострым мечам пазваніў.*
*У сечы грознай і крывавай,*
*ён славу дзеда Усяслава*
*азмрочыў і навек згубіў.*
*Сказаў ён перад смерцю*
*любай:*
*—Вось і знайшоў сабе я*
*згубу,—*
*акінуў далі навакол:*
*—Дружына, князь,*
*твая з табою*
*на ратным смертным полі*
*бою*
*галовамі заслала дол.*
*Крывавай пенаю умыўся,*
*з сырой зямлёю парадніўся*
*і болей не сустрэў зары.*
*Навек героі ўсе заснулі,*
*дружыну птахі апранулі*
*і палізалі кроў звяры.*
*І не было тут Брачыслава,*
*другога брата Усяслава.*
*Ён, Брачыслаў, навекі змоўк:*
*як сокал, вылецеўшы з цела,*
*душа янтарная ўзляцела*
*у паднябессе, да аблок.*
*Замоўклі песні і вяснянкі,*
*пагаслі зыркія заранкі,*
*і струны болей не звіняць.*
*Нікога сонца не галубіць,*
*трывожна ў Гродні*
*трубы трубяць,*
*сцягі ў жалобе шалясцяць.*

**XI**

*Яраслава ўнукі і Усяслава!*
*Нахіліце сцягі да зямлі*
*і схавайце ў ножны меч*
*крывавы,*
*вы згубілі нашых дзедаў славу,*
*а сваёй дабіцца не змаглі.*
*Брат на брата*
*лютаю вайною*
*вы ішлі, трымаючы клінкі,*
*шчодра поячы зямлю крывёю.*
*З тых часоў нам*
*не даюць спакою*

*полаўцаў варожыя палкі.*

**XII**

*Быў сёмы век Траянаў. Быў*
*князь Усяслаў, які рабіў*
*любую справу грознай сілай.*
*У сэрцы лютасць нёс заўжды*
*і кінуў жэрабя тады*
*ён аб дзяўчыне, сэрцу мілай.*
*Князь думаў:*
*хітрасць дапаможа,*
*якую, як клінок у ножнах,*
*глыбока ў сэрцы захаваў.*
*Нарэшце, дачакаўшы дня,*
*сам асядлаў свайго каня*
*і паімчаў у стольны Кіеў.*
*Ды слаўны кіеўскі прастол*
*не пасадзіў яго за стол —*
*далёка меч яго адкінуў.*
*Як люты неўтаймоўны воўк,*
*глыбокай ноччу князь наўцёк*
*падаўся з Белграда ўпотай.*
*Сякеру ранкам навастрыў,*
*прасек і хутка адчыніў*
*ён наўгародскія вароты.*
*Такое Яраслаў не сніў!*
*Бо слава, у якой хадзіў,*
*рассечана адзіным мігам.*
*Неўтаймаваны Усяслаў*
*праз лес-дуброву паскакаў*
*ваўком з Дудутак на Нямігу.*

**XIII**

*На Нямізе галоў — як снапоў,*
*сцелюць іх і малоцяць цапамі.*
*Звон булатны нясецца*
*з такоў,*
*днямі цэлымі, нават начамі.*
*Безнадзейна — не заглушу*
*гэты звон малацьбы*
*ашалелай:*
*не зярняты тут веюць —*
*душу*
*адвяваюць навекі ад цела.*
*Ад крыві пачарнелі лугі*
*ўздоўж Нямігі крывавай,*
*успененай,*
*і крутыя яе берагі*
*не дабром, а касцямі засеяны.*

**XIV**

*Усяслаў удзень вяршыў суды,*
*між князёў дзяліў ён гарады,*
*а затое ночы ён не спаў,*
*па дарогах, нібы воўк, скакаў:*
*пакідаў ён Кіеў на змярканні*
*і да пеўняў быў у Тмутаракані.*
*Ведаў шмат няходжаных*
*дарог,*

быць пасьвячоным у мясцовыя падзеі і інтарэсы». Такім чынам беларускае паходжаньне аднэй часткі «Слова», уласна песьні аб Полацкіх князёх, лічыцца зусім праўдападобным. (. .)

Але ня толькі кампазыцыйная пабудова і формальны бок даводзяць органічную сувязь разгледжанай часткі «Слова» з усім творам. Песьня аб Усяславе ўвязваецца з усім творам і з боку зьместу Уласна аўтар хацеў у процівагу сучаснаму становішчу князёўскіх міжусобіц і паслабленьня, зьбядненьня славянскіх зямель ад наскокаў полаўцаў прывесьці хоць-бы з успамінаў аб слаўнай мінуўшчыне прыклад тых полацкіх князёў, якія ўмелі пастаяць за свае ўладаньні, умелі і дыплёматыяй і аружжам абараняць інтарэсы падуладных зямель ад злых намераў з боку розных ворагаў

Значыць, песьня аб полацкіх князёх ня ёсьць устаўка, а зьяўляецца непадзельнаю часткаю «Слова» І наогул «Слова аб п. Ігаравым» зьяўляецца суцэльным творам з адзіным галоўным гэроем. Разгледжаныя песьні не зьяўляюцца, як гаворыць В. Ржыга, «чем-то чуждым памятнику, взятым извне. Это... те же строфы, только с другими сюжетами» («Композиция «Слова о полку Игореве». «Slavia» 1925, IV, I, стар. 61).

Такім чынам, прымаючы пад увагу няправільнасьць погляду на «Слова», як на твор, каторы штучна зьлеплены з розных паасобных дробных частак, нельга ставіць пытаньне аб беларускім паходжаньні тае ці іншае часткі. Калі можа быць выказана думка, дык толькі аб паходжаньні на беларускай глебе ўсяго твору. (...)

Некаторыя даведкі з працы проф. П.А. Растаргуева «Северскобелорусский говор» (1927, Ленінград) дадуць мажлівасьць паказаць, што сьцьвярджэньні аб узнікненьні «Слова аб палку Ігаравым» у Чарнігаўшчыне трэба разумець у тым сэнсе, што яно было напісана ў «Северскай беларускай земле» і хутчэй за ўсё, значыць, севяранінам-беларусам.

Проф. Растаргуеў лічыць пераважную большасць насельніцтва былых паўночных паветаў Чарнігаўскай губэрні за «патомкаў старадаўніх севяран», якія насялялі некалі значную частку Чарнігаўскай, Курскай і Палтаўскай губэрань і зараз уваходзяць у склад беларускае народнасьці. Даводзіць ён сваю думку як на падставе вывучэньня пануючае зараз у паўночнай частцы Чарнігаўшчыны гаворкі, таксама і на падставе даных гісторыі і археолёгіі.

Што датычыцца мовы «Слова», дык можна зазначыць у ім некаторыя рысы, якія сустракаюцца ў беларускай мове, напр., зьмешваньне ц і ч: «птиць» і «птичь», «русици» и «русичи», «чепи», «веци» и «вечи», «луци» і «лучи» ( але гэтая рыса ўласьціва паўночным дыялектам). Ш зам. С — напр. «шизым»; канчатак 3-яе асобы мн. л. ть: «граяхуть», «текуть», «бяхуть» і інш.

Як на асаблівасьць правапісу перапісшчыка можа зазначыць злучэньне шыпячых з цьвёрдымі галоснымі. «полуно-щы», «чолка».

Адносна выразу «Слова» «Не лепо-ли ны бяшеть, братіе, начати старыми словесы трудныхъ повестій о пълку Игореве, Игоря Сьвятъславлича!» цікавы погляд выказалі проф. Потебня і Аганоўскі. Яны лічаць «трудныхъ повестій» родным разьмеркаваным ці родным «абмежаванага ўплыву», які стаіць у залежнасьці ад дзеяслова «начати». Магчымасьць гэткае конструкцыі проф. Потебня мотывуе толькі адпаведным выразам беларускае песьні «караваю начати», г.зн «каравай месить». (. .)

Нейкі тэкст «Слова» ведаў, як відаць, і ў пачатку XVI стагодзьдзя пскоўскі летапісец, які зьмясьціў пад 1514-м годам ў 1-й Пскоўскай летапісі (П С Р. Л IV 1848 г. ст 290) ап саньне бойкі пад Воршаю: «Бысть побоище велие Москвичемъ съ Литвою подъ городомъ подъ Оршею, и воскричаша и возопиша жены Оршанки на трубы Московския, и слышати было стуку и грому великому межи Москвичь и Литвою, и удариша Москвичи на Литву, Русския князи и бояре с дивными удальцы, русскими сыновами, на сильную рать Литовскую, и треснули копья Московскія и гремятъ мечи булатныя о шеломы Литовския На поли Оршанском бысть не пособие Божие Москвичам»

Тут сьляды «С. аб п. І». можна бачыць у наступным: «Быти грому великому» («Слова»), «слышати было стуку и грому великому» (Пск. л.); «. .гремлеши о шеломы мечи харалужными» («Слова»), «гремять мечи булатныя о шеломы Литовския» (Пс. л.).

Іншыя падобныя выразы ў летапісе: калі вялікі князь пасадн каў, «бояръ і жалобныхъ людей переймаль», тады «нападе на нихъ страхъ и трепетъ и туга, и пресохша гортани их от скорби и печали, и уста их пресмягли»... Далей... калі некаторым з грамадзян было загадана перасяліцца ў Маскву, дык з прычыны гэтага летапісец усхвалявана гаворыць: «И кто сего не восплачет и не возрыдаеть? О, славнейший граде, Пскове великий! почто бо сетуеши и плачеши? И отвеща прекрасный градъ Псковъ. како ми не сетовати, како ми не плакати, и не скорбети своего опустенія!» Гэтае ўвасабленьне неажыўленае рэчы нагадвае прамову Данца ў «Слове» і тугу гарадзкіх забрал.

У Пскоў магло зайсьці «Слова» толькі з Беларусі, дзе яно было, як відаць, добра вядома і пашырана ў многіх сьпісах, і той-жа сьпіс які быў знойдзены ў XVI стаг., меў на сабе беларускія адзнакі

**Васіль МАЧУЛЬСКІ**

*«Запіскі Аддзелу Гуманітарных Навук». Т. II. Менск, 1929 г*

***

Аўтар «Слова» мог быць прыбліжаным Ігара Святаславіча ён яму спачувае. Ён мог быць і прыбліжаным Святаслава Кіеўскага, ён спачувае і яму Ён мог быць чарнігаўцам або кіеўлянінам. Ён мог быць дружыннікам: дружыннымі паняццямі ён карыстаецца ўвесь час Ён, несумненна, быў кніжна адукаваным чалавекам, і паводле свайго сацыяльнага стану ён наўрад ці належаў да эксплуатаваных класаў насельніцтва. Аднак у сваіх палітычных поглядах ён не быў ні «прыдворным», ні дружыннікам, ні абаронцам мясцовых інтарэсаў, ні ідэолагам князёў, баяраў ці духавенства. Дзе б ні было створанае «Слова — у Кіеве, у Чарнігаве, у Галічы, у Полацку ці Ноўгарад-Северскім,— яно не ўвасобіла ў сабе ніякіх абласных рысаў І гэта адбылося найперш таму, што аўтар «Слова» займаў сваю незалежную ад пануючай вярхушкі феадальнага грамадства патрыятычную пазіцыю.

**Дзмітрый ЛІХАЧОЎ**

*«Слово о полку Игореве». 2-е изд., С. 144.*

*Хорса шлях перасягнуць*
*ён мог.*
*Для Усяслава ў Полацку званы*
*абуджаюць берагі Дзвіны,—*
*пераліўны звон той на зары*
*слухаў ён на Кіеўскай гары.*
*Хоць душа празорлівай была,*
*ды не раз яго ўжо падвяла.*
*І тады не радасць ён дзяліў —*
*горкую атруту моўчкі піў.*
*Гаварыў Баян яму не раз:*
*«Помні, князь:*
*праб' е твой хутка час!..»*
*Хай ты спрытны,*
*хай ты хітры тут —*
*не міне нікога Божы суд».*

**XV**

*Стогне Русь гаротная ад мук*
*ад усходу сонца да заходу.*
*І не ўспомніць храбры,*
*смелы ўнук*
*сваіх дзедаў слаўныя паходы.*
*А былі князі, якім хвала*
*праз вякі пяецца у народзе:*
*слава Уладзіміра ўзышла*
*і, як сонца з неба, не сыходзіць.*
*З ім нямала пройдзена дарог,*
*быў з братамі ён на полі*
*ратным,*
*прыкаваць ніхто яго не мог*
*да уласных кіеўскіх палатаў.*
*Больш не звоняць славаю*
*сцягі,*
*разам вецер іх не развівае:*
*сцяг трымае Рурык, а другі*
*над сабою брат Давыд*
*ўзнімае.*
*У нялёгкі, горкі час такі*
*пра братоў браты*
*не ўспамінаюць;*
*стрэлы разлятаюцца ўбакі,*
*паасобку і мячы спяваюць.*

## Частка трэцяя

**I**

*Невядомаю зязюлькай ранарана*
*над Дунаем — сіняю ракой*
*чуцен голас —*
*плача Яраслаўна*
*на сцяне ў Пуціўлі гарадской:*

*«Узнімуся я*
*зязюлькай беднай*
*на Дунай шукаць*
*сваю вясну*
*і ў рацэ-Каяле чыстай,*
*светлай*

*свой рукаў бабровы*
*абмакну.*
*І над стэпам,*
*дзе пажоўклі травы,*
*буду я, гаротная,*
*лятаць,*
*вытру князю дарагому*
*раны,*
*што на целе воіна*
*смыляць».*

*У каго вайна навек забрала*
*самых блізкіх, дарагіх людзей,*
*тым праз слёзы кажа*
*на забрале*
*Яраслаўна не кідаць надзей:*

*«Вецер, вецер!*
*Мой вятрыска любы,*
*самы наймагутны*
*ты такі,*
*ты чужыя стрэлы*
*на загубу*
*не нясі на рускія палкі.*
*Аднясі, адкінь убок*
*далёка,*
*толькі смерць,*
*прашу цябе, не сей,*
*узніміся лепей пад аблокі*
*і развей іх, чорныя,*
*развей!*
*Ці ж табе, скажы,*
*прастору мала*
*караблі па сіню-мору*
*гнаць,*
*на свабодзе грозны вал*
*за валам*
*лёгка, як пушынку,*
*узнімаць?*
*Буду я навек табе*
*удзячна,—*
*ці ж не чуеш горкіх слоў*
*маіх?*
*Ой, чаму маё развееў*
*шчасце*
*па гарачых кавылях*
*густых?»*

*Над Пуціўлем чорныя зарніцы,*
*сохне ад гарачых слёз трава:*
*кожны ранак бедную зігзіцай*
*Яраслаўна плача, бы ўдава:*

*«О, Дняпро-Славуціч!*
*Ты адзіны,*
*хто прабіў праз горы*
*ў стэпы шлях,*
*ты насіў на*
*быстрацечнай плыні*
*Святаслава з войскам*
*на чаўнах.*
*Нёс яго*



«Слова пра паход Ігаравы» было выдадзенае ў 1800 г. вядомым збіральнікам старажытных рукапісаў графам А І. Мусіным-Пушкіным . Адзіны вядомы рукапіс са «Словам» знік пасля Айчыннай вайны 1812 года. Пагаворвалі, што яна загінула ў маскоўскім пажары разам з іншымі кнігамі і рукапіснымі скарбамі яе ўладальніка Мусіна-Пушкіна. Цяпер даследчыкі маюць толькі выданне 1800 года, копію і пераклад рукапіснага тэкста, зроблены для Кацярыны ІІ (каля 1795—1796 гг.), а таксама тры пераклады канца XVIII стагоддзя.

Яшчэ да выдання «Слова» (першыя звесткі пра яго трапілі ў друк у 1792 г.) цэлы шэраг знаўцаў расейскай гісторыі і літаратуры ў той або іншай форме выказалі свае сумневы ў старажытнасці гэтага твора, датуючы яго напісанне XV—XVI стст або нават лічачы яго больш позняй падробкаю. Пасля загадкавага знікнення рукапісу галасы так званых «скептыкаў» узмацніліся (...)

А.І Мусін-Пушкін ухіляўся ад асвятлення гісторыі набыцця рукапісу, і толькі маладому і энергічнаму даследчыку К.Ф Калайдовічу ён паведаміў, што рукапіс са «Словам» ягоны камісіянер купіў у архімандрыта Спаса-Яраслаўскага манастыра Іоіля. Калайдовічу таксама ўдалося знайсці сярод рукапісаў Сінадальнае бібліятэкі пскоўскі Апостал з прыпіскаю 1307 г , якая вельмі нагадвала адну з мясцінаў Ігаравай песні Атрымлівалася, што ўжо на пачатку XIV ст. нейкі невядомы пісец ведаў тэкст «Слова пра паход Ігаравы». Пазіцыя прыхільнікаў старажытнасці «Слова» значна ўмацавалася пасля таго, як у 1852 г. была ўпершыню апублікаваная «Задоншчына» — адзін са значных твораў старажытнарускай літаратуры Гэтая аповесць пра пераможную бітву Дзмітрыя Данскога на Куліковым полі адрозніваецца вялікім падабенствам да «Слова» (...) Знаходка «Задоншчыны» да часу прыглушыла галасы прыхільнікаў позняга паходжання Ігаравай песні І толькі расейскія пісьменнікі І.А. Ганчароў і Л М. Талстой працягвалі лічыць «Слова» больш позняй стылізацыяй.

Пытанне пра час стварэння «Слова пра паход Ігаравы» было зноў пастаўленае на парадак дня ў 20-х гадах нашага стагоддзя М І Успенскім, а напрыканцы 30-х — французскім славістам А. Мазонам і дагэтуль не з'яўляецца вырашаным.

**Аляксандр ЗІМІН**
*«Слово о полку Игореве».*
*Вопросы истории. NN 6—7 1992 г*

# Вялікі скарб нашай старасьвеччыны

Цудоўная паэма, захапляючая сваёй красой мільёны чытачоў, даваўшая натхненьне найлепшым мастаком паэзіі, высоўвае адначасна цэлы рад цікаўных і важных навуковых праблем і загадак, якія імкнецца вырашыць гісторыка-літаратурныя крытыка. Тут пытаньні і аб аўтары паэмы, аб месьце, асяродзьдзі і часе яе паўстаньня; аб яе вусна-народных і літаратурных, родных і замежных крыніцах, урэшце,— як гэта ня дзіўна гучыць,— аб яе аўтэнтычнасьці. . Наколькі ўсе гэтыя пытаньні складаюць зложаную важную і навуковую праблему, відаць з таго, што навокал яе спарадзілася цэлая вялізарная дасьледчая літаратура, якая ўсьцяж расьце. Даволі сказаць што ў зьвязку з юбілеем «Слова» слаўны французскі вучоны-славіст, праф Андрэ Мазон, распачаў у канцы мін году ў Парыжы цэлы спэцыяльны курс, прысьвечаны паэме, якога ня скончыў яшчэ да бягучых дзён. Праф. Мазон якраз належыць да вельмі ўжо рэдкіх у нашыя часы прадстаўнікоў так званай «скэптычнай школы», якая, коратка кажучы, не прызнае «Слова» памяткай XII веку, але ўважае паэму, так ці йнакш «падробленай» шмат пазьней — на падставе цэлага раду іншых памятак, краёвых і замежных.

Ня маем тутака магчымасьці спыняцца на ўсіх гэтых, вельмі скамплікаваных пытаньнях У гэтай юбілейнай стацьці разгледзім з іх толькі адно, якое хіба-ж найбольш зацікавіць шырокія кругі нашых чытачоў-беларусаў, пытаньне — аб месьце і асяродзьдзі паходжаньня паэмы. Адказ на гэтае пытаньне адкажа нам адначасна і на пытаньне аб тым, да каго належыць гэтая паэма, які народ у нашыя часы можа з найбольшым правам залічыць да скарбніцы сваёй літаратуры гэты непараўнанай красы і цэннасьці твор.

Трэба ведаць, што свае правы і прэтэнсіі на паэму, як на выключную ўласнасьць сваей культуры і паэзіі, заяўляюць таксама, як мы, беларусы,— і расейцы і украінцы, заяўлялі ня так даўна нават — палякі ды чэхі.

«Найпрасьцей» вырашаюць гэты «спор славян между собою» расейцы. Паэма, кажуць яны, паўстала бясспрэчна — або на Чарнігаўскай зямлі, або на Кіеўскай. Але-ж Кіеў, як пісаў яшчэ летапісец,— «мать городов русских», Чарнігаў — малодшы брат Кіева Абодва ляжаць на «адзінай Рускай Зямлі», аб якой усьцяж кажа сам аўтар «Слова», а якая належыць цяпер да Расеі Дык — ясна-ж, як сонца: «Слова» — уласнасьць Расеі, расейскай нацы, гісторыі яе літаратуры і культуры, як і ўсё іншае, што спарадзілася на яе шырокіх прасторах.

Можа, усё гэта было запраўды вельмі «ясна і проста», пакуль «адзіную Рускую Зямлю» пакрывала таксама адзіная і аднолькавая афіцыяльная расейская дзяржаўнасьць, культура і літаратура,—пакуль не адрадзілася да новага жыцьця асобная нацыянальная сьведамасьць беларускага ды украінскага народаў, якая ставіць сабе задачай адбудову ды далейшую разбудову свайго ўласнага культурна-нацыянальнага дый дзяржаўнага сьвету Таму расейскія навукоўцы, зрабіўшы нямала для навуковага вывучэньня паэмы, не пагліблялі «залішне» гэтае праблемы. У нашыя часы цікавячае нас пытаньне разраслося ў цэлую вялікую і зложаную праблему, над высьвятленьнем якой працуе навуковая думка — ужо ня толькі расейцаў ды чужынцаў, але і беларусаў і ўкраінцаў У глыбіні свaей адроджанай нацыянальнай душы, зьвязанай з найдалейшай гісторыяй сваіх родных зямель, з душою іх старадаўнага жыхарства, украінскія і беларускія дасьледчыкі знайшлі новыя жаролы інтуіцыі, новыя сугучны паміж роднай сучаснасьцю і роднай мінуўшчынай — для высьвятленьня і вытлумачэньня тых фактаў, міма якіх праходзіла думка расейскіх і замежных навукоўцаў, не звяртаючы на іх належнай увагі.

Расейскія дасьледчыкі, задавольваліся, так сказаць, «палітычнай лёкалізацыяй» паэмы — у межах «адзінае Рускае Зямлі», адзінага «рускага народу» Беларускія і ўкраінскія — зірнулі глыбей. Яны першым чынам зьнялі, так

*да Кабякова стану*
*і дадому з перамогай нёс.*
*Прад табою*
*на калені стану*
*і за твой маліцца буду лёс.*
*Выйду князя сустракаць*
*на строму,*
*кінуся на шыю, абдыму,*
*толькі ты вярні*
*яго дадому,*
*каб не слала*
*горкіх слёз яму».*

*І калі на зоры ледзь займае,*
*ледзь заранка зыркая мільгне,*
*Яраслаўна слёзы не ўцірае,*
*У Пуціўлі плача, на сцяне:*

*«Сонца! Тройчы слаўнае!*
*Адно ты*
*дорыш людзям ласку,*
*цеплыню,*
*ці ж маёй не бачыш*
*адзіноты,—*
*я не рада ні табе, ні дню?*
*Я далей трываць*
*зусім не ў сілах,*
*не магу на неба*
*я глядзець.*
*Сонца, сонца!*
*Што ты нарабіла,*
*стала ўсё чырвонае,*
*як медзь?*
*Злосным, невыносным*
*і пякельным*
*ты чаму зрабілася*
*такім?*
*Нібы зачараванае, вельмі*
*памагаеш палаўцам*
*чужым?*
*Ці ж табе не страшна*
*бачыць мукі*
*воінаў, якіх ты апякло,*
*і скруціла смагаю іх рукі,*
*калчаны заткнула,*
*як назло?»*

**II**

*Разгулялася мора,*
*не спыніць, не суняць,*
*плешча хваляй салёнай,*
*пырскі ўдалеч ляцяць.*

*Слуп высокі узняўся*
*ад вады да нябёс.*
*Ігар думае думу*
*пра паход свой і лёс.*

*А начныя прасторы*
*немагчыма абняць,*
*згаслі ясныя зоры*
*і зусім не гараць.*

*Ігар у думках ля дому*
*змерыў шлях даканца —*
*ад вялікага Дону*
*да малога Данца.*

*А за Донам вялікім —*
*цішыня, цішыня,*
*а ні шуму, ні крыку,*
*хоць бы тупат каня.*

*Пахне поўнач настоем*
*перастоеных траў.*
*І Аўлур за ракою*
*салаўём засвістаў.*

*Зноў ні гуку, ні слова,*
*толькі іскры кастроў.*
*Значыць, коні гатовы,*
*час уцёкаў прыйшоў.*

*А марудзіць тут нельга,*
*можа варта прыйсці...*
*Крыйся хмарамі неба,*
*маладзік, не свяці!*

*Ірвануліся коні,*
*цокат звонкі падкоў:*
*узнялася пагоня*
*з самых розных бакоў.*

*Здрыгануліся вежы,*
*зашумела трава.*
*Стэп — для ўцёкаў бязмежжа,*
*калі ёсць галава!*

## III

*Бачыць князь:*
*пагоня даганяе —*
*і ў чарот ён скача гарнастаем.*
*Паспрабуй, пагоня, дагані:*
*то ён — лебедзь,*
*то ён — на кані.*
*А калі з каня ў вадзе упаў,*
*хутканогім воўкам паскакаў.*
*То да Дона воўкам ён бяжыць,*
*то ў аблоках сокалам ляціць,*
*дзе ўпадзе на чыстую ваду,*
*там страляе качак на хаду.*
*Калі Ігар сокалам ляціць,*
*воўкам па зямлі Аўлур імчыць.*
*...З траў расу сцюдзёную*
*пазбілі*
*і прысталі коні ў белым мыле.*

## IV

*За Данцом — мурожныя лугі,*
*хвалі б'юцца звонка ў берагі,*
*асака высокая шуміць,*
*і чарот спявае і звініць.*
*І сказаў Данец, як верны брат:*
*—За цябе я, княжа, вельмі рад.*
*У цябе, князь Ігар,*

сказаць, праблему з гэтага грунту — неіснаваўшага ў тыя часы «адзінага рускага народу»,— ды й перанесьлі яе — больш навукова — на грунт рэальна існаваўшых тады плямёнаў і іх яшчэ вельмі слабых палітычных ад'яднаньняў. Такім чынам — на першы плян выплывае пытаньне аб тых плямёнах, з якіх зложылася тая ці іншая група «ўсходніх славян». расейская, украінская і беларуская,— якія ў нашыя часы ўсе дасьпелі ўжо да сьведамасьці і становішча народу-нацыі

Калі мы так падойдзем да праблемы, паставіўшы пытаньне, на абшары якіх плямёнаў спарадзілася наша паэма, дык акажыцца, што спрэчка аб праве ўласнасьці абмежыцца ўжо толькі двума прэтэндэнтамі — украінцамі ды беларусамі.

У апошнія часы асабліва разьвілася так званая «філёлёгічная мэтода» досьледаў у галіне гісторыі. Гэтая мэтода і аказалася ў руках беларускіх дасьледчыкаў тэй непамыльнай прыладай, якая бясспрэчна вырашае наша спрэчнае пытаньне на карысьць беларусаў. Чытачы нашага часапісу, пэўне-ж, памятаюць зьмешчаную ў яго першай кніжцы (1935 — N 1) стацьцю д-ра Я Станкевіча пад наз. «Северане — беларускае племя» Адсылаючы чытача да гэнага артыкулу нашага філёлёга, напомнім тутака коратка, што ён, апіраючыся галоўным чынам на ведамай працы праф. Растаргуева аб беларускім дыялекце Чарнігаўшчыны і Трубчэўшчыны, высьвятліў, можна сказаць, з канчальнай яснасьцю, сваю тэзу — аб беларускім характары племя Северан

«Значэньне належнасьці Северан да беларускага народу вельмі вялікае, — кажа аўтар у заключэньні,— дзякуючы гэтаму, гісторыя беларускага народу і гісторыя яго культуры ладне багатшая й размавітшая. Прыкладам, найслаўнейшы ў усей Славяншчыне ў сярэднявеччу эпічны твор «Слова аб палку Ігаравым» паўстаў у Северскай зямлі Гэта паэма — аб паходзе Северскіх князёў на Полаўцаў Ведаючы, што Северане — беларусы, нельга сумлявацца, што «Слова» — твор беларускі».

Інакш даходзіць да таго-ж самага канчальнага вываду ранейшы беларускі дасьледчык, ведамы гісторык культуры В. Ластоўскі. (. .)

Трэба, аднак, як нам здаецца, узяць справу яшчэ крыху глыбей, а адначасна — шырэй. Аналітычна паглыбіць, а адначасна — сынтэтычна пашырыць агульныя вывады. Дазволім сабе, наколькі здолеем, зрабіць гэтую спробу.

Пляменна-тэрыторыяльнае паходжаньне паэмы — блізу бясспрэчна. Зямля, краёвы грунт, пляменны «субстрат» пад гэтай, хай сабе — «не народнай», але «рускай», гэта значыла тады. княжска-дружыннай паэмы — таксама блізу бясспрэчна —беларускія Даведзена навукова — бясспрэчна (Растаргуеў, Станкевіч і інш.), што Северане — беларускае племя, як беларускім пляменным зьяўляецца і блізу ўвесь абшар князёў-учасьнікаў паходу. Але-ж гэта далёка ня тлумачыць усяго ў нашай паэме. Спароджаная на беларускім абшары, тэрыторыяльным і пляменным, паэма выходзіць далёка па-за межы гэтага абшару Ня менш, калі ня больш, важны ў ёй якраз яе княжска-дружынны, ці, як вязалі тады з гэтым,— «агульна рускі сэнс», які выразна вядзе аўтара і яго твор — з Северскай, ці Чарнігаўскай зямлі — да кіеўскага цэнтру.. І якраз на гэтым шляху ці на гэтым скрыжаваньні шляхоў і трэба шукаць — ідэю ўсяго твору, шукаць яго запраўднага зьместу і сэнсу

Найбліжэйшы да сэрца аўтара герой яго паэмы —бясспрэчна — северскі князь Ігар. Яго імя носіць уся паэма. З ім жыве, яго кахае, з ім нанова ў паэме перажывае сугучна ўсе яго радасьці і трыумфы, як роўна беды і жахі, яго баявы таварыш, яго пясьняр — аўтар паэмы. Ігар — запраўдны герой гэтага беларускага абшару, з яго цэнтрам у Ноўгарад-Северску, зьвязаны з роднай Зямлёй-Прыродай. Таму — за яго так моцна стаіць уся Зямля-Прырода — і неба, і зямля, і вецер, і рэкі, і зьвярына і птушкі... Ігара кахае ня толькі яго дружына, але і ўвесь народ. «Сумна Рускай Зямлі бяз Ігара».. «Веселы краі і месты», кал Ігар вяртаецца з палону жывы дамоў Дружыньнік-пясьняр захапляецца асабістай адвагай свайго князя, рызыкай яго паходу, яго імкненьнем здабыць, на свой страх, славу сабе, сваім падручным князём і сваей дружыне . Ува ўсім гэтым відаць жывую душу — мясцовага, северскага, удзельнага, бунтуючага, разам із сваім фэодальным князям,— проці кіеўскага сюзэрэна (гаспадара) — дружыньніка-патрыёта Жывая душа песьняра разумее і высока цэніць гэтую буйную волю, свайго князя, хоча верыць у яго, як кажуць, «шчасьлівую зорку»

Але-ж ня ў гэтым усім запраўдны сэнс паэмы І тут выступае, так сказаць, «другая душа», ці «другая палавіна» душы аўтара

З'апраўды-ж, як Гётэ, у ведамым сваім вершы, і наш аўтар мог-бы сказаць што ў ім жывуць дзьве душы, адрываючыся балюча адна ад аднэй...

Тады, як адна душа песьняра Ігарава кахае свайго героя, другая душа, ці скажам, «дух» яго — строга судзіць яго за яго кардынальныя грахі і памылкі... (. .)

Адносіны аўтара да свайго героя ламаюцца Сваей неразважнай адвагай герой паэмы нарабіў шмат вялізарных бедаў — і сваей зямлі і ўсей «Зямлі Рускай». Гэта — герой трагічны, і яго «трагічную віну» добра разумее аўтар паэмы І тут набірае сілы тое, што трэба назваць «кіеўскай орыентацыяй» аўтара «Слова», разумеючы пад «Кіевам» палітычны, а мо' вярней «ідэолёгічны» цэнтр усяе тагачаснае княжскае сыстэмы аб'яднаньня «Зямлі Рускай», номінальнае адзінства якой, як ведама, усьцяж крывава нарушалася спрэчкамі ды войнамі «аднакроўных» князёў.

Як бачым, гэнае «адзінства», як палітычная ідэя, знаходзілася ў пастаяннай вострай супярэчнасьці з жывой палітычнай рэальнасьцю тадышніх часоў, як аб гэтым сьведчыць хацяжбы самае «Слова».

Але-ж ня можна пярэчыць таму, што і сама ідэя адзінства, ці аб'еднаньня мела ў сабе вялікую сілу пераконаньня і дзейнасьці

Як мы казалі, палітычны ці ідэолёгічны цэнтр «адзінае Русі» аўтар бачыць у Кіеве Кіеўскі вялікі князь таму зьяўляецца ў яго вачох высокім, законным носьбітам гэтай ідэі. А стуль вынікае, што — побач з найбліжэйшым да сэрца, да кахаючай палавіны яго душы, першым яго героям, Ігарам,— вырастае за ім, а нават і над ім — другі герой паэмы, вялікі князь кіеўскі Сьвятаслаў. «Другая палавіна душы» аўтара падвойна захапліваецца гэтым сваім героем і веліччу яго пасаду і яго асабістай развагай і павагай. Вял. кн Сьвятаслаў зьвяртаецца з заклікам да валадароў усяе «зямлі рускай» — ад (Суздальскага) князя Усевалада, які «можа Волгу весламі раскрапіць, а Дон шаломамі выліць», да Галіцкага князя Яраслава Осмомысла, які «падпёр горы Угарскія сваімі жалезнымі палкамі» дый мае ў сваіх руках ключ ад брамы дунайскай. Зьвяртаецца, як маючы на гэта і права і абавязак... Характэрны і важны для агульнага зразуменьня паэмы той жудасны сум, з якім аўтар, як быццам праз вусны вял кн. кіеўскага, сьцьвярджае, што, нажаль, гэтаму носьбіту ідэі «адзінства Русі» няма ад каго зьвярнуцца ў Полацкай зямлі Жудасны абраз таго стану разрухі і спусташэньня, да якога

*слаўны лёс —*
*рускім землям*
*радасць ты прынёс.*
*Людзі, і дубровы, і бары*
*будуць песняй славіць на зары;*
*і брахаць на вецер, як ганчак,*
*будзе ненавісны хан Канчак.*
*Ігар-князь прамовіў у адказ:*
*—Узгадаю я цябе не раз!*
*Колькі ў табе велічы, якой*
*не зраўняцца ні з адной ракой!*
*Ты, Данец,*
*мне смагу наталяў,*
*хваляю чысцюткай абдаваў,*
*ласкавая хваля, як рука,*
*у цябе, святлейшая рака.*
*Не забуду тваіх чыстых хваль,*
*што мяне гайдалі, неслі ўдаль.*

*На берагах сярэбраных*
*з густых зялёных траў,*
*як маці клапатлівая,*
*пасцель мне мякка слаў,*
*а туманамі цёплымі*
*ты накрываў мяне,*
*як самаробнай посцілкай,*
*сатканай па вясне.*
*Прасіў вятры крылатыя*
*да дрэва не хадзіць,*
*каб сон мой не трывожыць,*
*да ранку не будзіць...*

*І калі ўначы я моцна спаў,*
*ты мой сон надзейна*
*вартаваў:*
*лебедзем — у чыстай сіняве,*
*чайкай — на вадзе і на траве,*
*сокалам,*
*забыўшыся на страх,—*
*на крылатых пеністых*
*вятрах.*

## V

*А Стугна — інакшая рака:*
*свой выток узяўшы з ручайка,*
*пазбірала ўсе чужыя воды*
*з рэчак і маленькіх ручайкоў,*
*сквапная, выходзіць з берагоў,*
*бурна разліваецца заўсёды.*
*Не дастаць у ёй ніколі дна,*
*вельмі ганарыстая яна*
*і яшчэ драпежніца якая!*
*Бурная, імчыць яна ўдаль,*
*уздымае грэбні сваіх хваль,*
*радасць чалавека паглынае.*
*Князя Расціслава, юнака,*
*праглынула сквапніца-рака —*
*князю Днепр навекі зачыніла.*
*На высокім беразе крутым*
*па сыночку любым, дарагім*
*плача маці — выплакала вочы.*
*Для яе павялі кветкі ўсе,*
*не іскрацца зоры у расе,*

*месячка не бачыць яна ўночы.*
*Дрэва пахілілася ў журбе*
*і яна, падобная вярбе,*
*што стаіць у смутку адзінока,*
*апусціла нізка галаву,*
*спадзяецца: можа наяву*
*тут пачуе свайго сына крокі.*

**VI**

*Не сарокі стракочуць*
*не крыкі варон —*
*то за князем пагоня*
*імчыць наўздагон,*
*клубы пылу ўзнімае,*
*князь, цябе даганяе.*
*На запененых конях,*
*што прысталі зусім,*
*Гзак наперадзе скача,*
*а Канчак той — за ім.*
*У настроі паганым*
*палавецкія ханы.*
*Толькі Ігара-князя*
*ім ніяк не здагнаць.*
*І заціхлі сарокі,*
*і вароны маўчаць.*
*Попаўзні ўсе дрэвы*
*абплямілі,*
*поўзаюць яны і па зямлі.*

**VII**

*У настроі добрым,*
*бы ў дзятвы,*
*значаць стукам князю*
*шлях дзятлы:*
*«Да сваёй жаданае ракі,*
*князь, імчыся*
*толькі напраскі!»*
*Салаўі не моўкнуць да зары,*
*і пяюць дубровы і бары,*
*плешча хваляй Дон у берагі:*
*«На свабодзе Ігар дарагі!»*

**VIII**

*Гзак гаворыць Канчаку: «Калі*
*ад гнязда імчыцца сокал*
*з песняй,*
*залатой стралою падстралі*
*сакаляці ў чыстым*
*паднябессі».*
*«Калі сокал да гнязда*
*ляціць,—*
*адказаў Канчак,—*
*то мы павінны*
*яго разам з песняй прыманіць*
*самаю прыгожаю дзяўчынай».*
*Не згадзіўся з довадам такім*
*Гзак стары, што мудры стаў*
*з гадамі:*
*«Сокал можа у гняздзе чужым*
*нас пакінуць з голымі рукамі:*

давялі Полаччыну — «Яраслаў і ўсе ўнукі Усеслававы», належыць да найлепшых па гістарычнай праўдзе, па мастацкаму характеру і па сіле ўражаньня — абразоў паэмы У дужках адзначым ізноў, што так сумаваць, кахаючы, можна толькі над роднай, а прынамсі над вельмі блізкай зямлёю...

Як і Ігара, і Сьвятаслава кіеўскага аўтар надзяляе надпрыроднай магічнай сілай. Ён — блізу вяшчун, яму сьніцца «вешчы сон». За ім — гістарычная слава грознага пераможцы паганых полаўцаў.

Калі Ігар ноўгарад-северскі выступае ў паэме, як «трагічны герой», якога дадатнія староны і заганы якраз і ствараюць завязку і ўсю драматычную дынаміку паэмы Сьвятаслаў кіеўскі выступае, як носьбіт нікаторага статычнага мамэнту,— закону, нормы, ідэі Таму — праз вусны гэтага другога героя — аўтар выказвае ідэю ўсяе паэмы, аб гэтым і кажа знамянітае «залатое слова» Сьвятаслава, «зьмяшанае са сьлязамі»... Яно прызнае і адвагу малодшых князёў,— «сыноўцаў» вялікага князя, і іх права «шукаць сабе славы». Але трэбуе, каб усё гэта рабілася «чэсна» Каб, шукаючы сабе славы, яны не нарабілі бяды Зямлі Рускай, ні ганьбы павазе («сярэбранай сівіні») вялікага князя кіеўскага. . Трагічная памылка Ігара і яго таварышоў — у тым, што яны захацел «похітіті» сабе славу, гэта значыць — незаконна, «ня чэсна» як кажа «залатое слова» Сьвятаслава, ухапіць яе для сябе каб пасьля «падзяліцца» гэтай славай з іншымі князямі Памылка Ігара і яго таварышоў была ў тым, што яны асобна ад іншых князёў Зямлі Рускай, а галоўна — цішком ад адказнага прадстаўніка яе адзінства — наладзілі паход на полаўцаў які скончыўся — бо-ж павінен быў, па думцы аўтара, у зьвязку з ідэйнай канцэпцыяй яго паэмы, скончыцца — катастрофай Адтуль і «сьлёзы» гэтага «залатога слова» Сьвятаслава

Ясна, што ў гэтай сваей агульнай ідэі паэма мае бясспрэчна «кіеўскую орыентацыю» І толькі ў такім сэнсе можна прызнаць прэтэнсіі на яе з боку ўкраінцаў Пры такой разьмяжоўцы, здаецца, даволі лёгка было-б пагадзіцца нам з нашымі паўдзённымі братамі. Бо-ж — ані на кіеўскае «праваДырства», ані на «адзінства Рускае Зямлі» беларусы наагул ня маюць ніякае прэтэнсіі

«Дух» паэмы — кіеўскі, ці ўкраінскі, але яе «душа», яе сэрца, як яе месца нарадзінаў, яе пляменны грунт, блізу ўся «яе эпічная тэматыка, увесь яе дынамічны драматызм — бясспрэчна беларуская».

Родная аўтару Севершчына ляжала якраз паміж дзьвумя найвялікшымі, а галоўнае — найбольш рознымі асяродкамі даўнейшай, у сьведамасьці аўтара «Слова» — «адзінай Русі». Полацкі цэнтр меў з заходу, ад сваіх літоўцаў блізу зусім такія-ж клапоты, як кіеўскі — з усходу, ад полаўцаў Першы цэнтр, з усімі «цягнуўшымі» да яго абшарамі, быў выразна беларускім, як другі — у большасьці — украінскім Полацкая Зямля, у шырокім сэнсе слова, жыла зусім асобным жыцьцём. І гэта вельмі ярка адбіваецца і ў самай паэме. Полаччына, як відаць і з летапісаў, блізу ня была зьвязанай з «Кіеўскай Русьсю» Чаму-ж гэта ў нашым «Слове» яго аўтар — ня толькі ведае і апавядае з задзіўляючай дакладнасьцю ўсе падзеі Полацкага абшару, але яшчэ і з роўным сардэчным жарам і жахам сумуе над лёсам Полаччыны, быццам над лёсам роднай Маткі-Айчыны? . Вось гэты бясспрэчны факт, як нам здаецца, спараджае наймацнейшыя сумлівы адносна тэзы аб «украінскай вылучнасьці» паэмы. Родная аўтару Севершчына, лежачы паміж гэнымі пляменна і палітычна рознымі абшарамі і цэнтрамі — Кіеўшчынай і Полаччынай — і душою неяк разрывалася паміж імі. З гэтуль павінна была выплываць з неабходнасьцю і тая супярэчнасьць паміж «дзьвюма палавінамі душы» аўтара паэмы, якую мы сьцьвердзілі на падставе аналізы зьместу яго паэмы Але, як і ў вершы Гётэ, «абедзьве душы» аўтара — адначасна — і жывуць у ім і імкнуцца адарвацца адна ад аднэй. «Кіеўская» душа аўтара, душа княжскага дружыньніка-песьняра, хоча ахапіць усю Рускую Зямлю ў адзінае цэлае; северская душа яго выяўляе сэпаратныя імкненьні свайго абшару і яго князёў. На гэтай антытэзе — ідэолёгічнага, палітычнага адзінства «Рускай Зямлі» (выплываўшага сьпярша — з адзінства варажскага панучага слою) і сэпаратызмаў паасобных яе земляў, розных і пляменна і «гео-палітычна»,— і пабудавана ўся ўнутраная дынаміка паэмы. У гэтым, як бачым, глыбака ляжачым у прыродзе рэчаў гістарычным канфлікце — увесь драматычны «патос» паэмы. Норма адзінства — статычная ідэя паэмы — рэзка супярэчыць факту — жыцьцёвай дынаміцы тагачасных падзей. У гэтым жывая гістарычная праўда паэмы.

Нам астаецца толькі паказаць, як усё гэта адбілася — з неабходнасьцю — на тым, што можна назваць у шырокім сэнсе слова — «стылям» паэмы. Дасьледчык паэмы Добрынін («Полымя Рэвалюцыі», 1937 — XI) кажа, што яе аўтар, як у агульнай будове паэмы, таксама ў яе жывой тканіне, шырака карыстаецца «фігурай антытэзы» Запраўды-ж, антытэза зьяўляецца як быццам галоўнай стылістычнай мэтодай паэтыкі аўтара «Слова» Ведамы афорызм Бюффона кажа «стыль гэта чалавек». Такім чынам, ідучы ад твору к тварцу, мы зноў прыходзім да разгледжанай вышэй супярэчнасьці абедзьвюх душаў аўтара: северскай і кіеўскай.

Верны свайму князю, ён — яшчэ больш верны сваей ідэі палітычнага адзінства Русі. Нарушэньне князям Ігарам закону гэтага адзінства, паміма фатальных рэзультатаў яго палажэньня, адкрывае ў душы аўтара «драматычную пэрыпэтыю», якая разрывае на палавіны яго душу З гэтага раздваеньня і выплывае ўся драматычная антытэтычнасьць паэмы, якая якраз і састаўляе ўсё жыцьцё, усё дынамічнае адзінства паэмы, яе рух, патос.

Антытэза — фігура, якая выражае ці адбівае спрэчку, канфлікт, барацьбу. Барацьбу паміж супярэчнымі зьвямі, ідэямі, паняцьцямі, абразамі, якія, аднак, нейкай сілай і сувязяй злучаны паміж сабой... Ясна, якую сілу павінна здабыць гэтая фігура ў стылі паэмы, якая ня толькі вонкавым зьместам сваім мае вайну, але па сваёй унутранай сутнасьці, па самай сваей «рацыі быту» — драматычную сутычнасьць цэлага раду такіх супярэчных, але адначасна зьвязаных у «пары» паняцьцяў: адзінства і частковасьць, мір і вайна, самаволя і дысцыпліна, норма і факт, адвага і развага, сэрца і розум, князі і ханы, перамога і паражэньне, паход і ўцёкі, палон і воля і г.д. Такіх «параў» можна ў паэме налічыць без канца. Іх унутраны дынамізм з задзіўляючай сілай, з непараўнаным паэтычным мастацтвам, з бліскучай яркасьцю стылістычнаю — контраснага эфэкту — умее выкарыстаць геніяльны мастак стылю — няведамы аўтар «Слова». І гэта, зразумела, таму, што гэты драматычны кантраст, гэтая прынцыповая антытэза — найглыбейшая аснова ня толькі ўсёй паэмы, ня толькі ключ да жывой, але падзеленай на дзьве супярэчныя палавіны душы аўтара, але — у найглыбейшым сваім корані — рэальная гістарычная аснова, палітычна пляменная антытэтычная падстава тых падзей, якія аўтар узяў тэмай для сваей паэмы.

**Уладзімер ЧЭМЕР**
*«Калосьсе». N 4 (17).*
*1938 г*

*усё роўна ў хорам свой зляціць*
*і красуню панясе з сабою,*
*нас чужыя птушкі будуць біць,*
*і не будзе ведаць стан спакою».*

## ЭПІЛОГ

**I**

*Сказаў Баян,*
*які не ўмеў баяцца*
*пагрозаў розных,—*
*праўда даражэй:*
*—Бяда плячам*
*без галавы застацца,*
*а галаве жыць нельга*
*без плячэй.*
*Без Ігара нам сонца не свяціла,*
*стаяла ноч густая*
*над зямлёй,*
*зямля ўздыхала цяжка,*
*не радзіла,*
*і пахла горкай*
*лебядой-травой.*

**II**

*Даль іскрыцца*
*кроплямі расы —*
*Ігар-князь з'явіўся на Русі.*
*Плешча светлай хваляю*
*Дунай,*
*песні не сціхаюць*
*з краю ў край,*
*у стольны Кіеў,*
*вольная ляціць,*
*цераз мора іх вятры імчаць.*
*У Барычаў завітаў князь*
*ранiцой,*
*памаліўся Пірагошчы ён*
*святой.*

*Рады сёлы,*
*гарады вясёлы!*

*Пелі песні мы князям старым,*
*а цяпер чарга і маладым.*
*Самі струны кажуць:*
*Слава, Ігар-княжа!*
*Слава, буй-тур Усевалад,*
*табе!*
*Князю Уладзіміру —*
*славы дзве!*

*Слава ўсім,*
*хто чужакоў граміў,*
*хто дружыны у паход вадзіў!*

*Жывіце ў дружбе доўгія гады!*
*Жывіце і не ведайце бяды!*

**Вольны пераклад**
**Яўгена КРУПЕНЬКІ**
*1966—1979*

# ТЫ | Вінцэсь МУДРОЎ



*Парыж не бачыў я ніколі*
*І ад таго чарніла п`ю.*
*Сумую я аб сваёй долі:*
*Парыж не бачыў я ніколі.*

З Вінцэсем МУДРОВЫМ гутарыць Юрась ЗАЛОСКА

ВОСЬ ВАМ І «ЖАРЦІКІ»

## ВОСЕНЬСКІЯ ВАКАЦЫІ

*(з аповедаў пра Ваню Бянькова)*

## СМУТАК СМЕХУ І ЛЮБОЎ ДА ЖЫЦЦЯ

ПОЛАЦКІЯ ІРАНІЗМЫ

Метамарфозы хлопчыка з «хорошей семьи»



*З Табой:*

# З Вінцэсем МУДРОВЫМ гутарыць Юрась ЗАЛОСКА

— Як пачалі пісаць? Што кіравала і кіруе творчасцю?

—Адказ не будзе арыгінальным. пісаць прымусіла незадаволенасць тым, як і пра што пішуць беларускія савецкія пісьменнікі.

—Мяркуючы па мове вашых апавяданняў, вы — знаўца этнаграфіі і свядома імкнецеся да аўтэнтычнага слоўніка. Цікава ведаць, якім чынам працуеце з мовай, што паспрыяла такому «элітнаму» словапісу?

—На жаль, не магу залічыць сябе да знаўцаў этнаграфіі Хоць пра матэрыяльную і духоўную культуру беларусаў, этнічную гісторыю ды іншыя рэчы падобнага кшталту пэўнае ўяўленне маю.

Імкненне да «аўтэнтычнага слоўніка» аніяк не залічыш да нейкай творчай адметнасці. Пісьменн к мусіць ствараць уласны словапіс, хаця б з тае прычыны, што піша ён мастацкія творы а не нататкі ў раённую газету. Ну, а працую я над словам —дакладней кажучы, працаваў, бо за апошнія два гады практычна нічога не напісалася — даволі арыгінальным чынам: даю пачытаць свае рукапісы У.Арлову. А У.Арлоў тую ж этнаграфію ведае не горш ад прафесара Бандарчыка. Спіша ўвесь рукапіс заўвагамі і абавязкова закрэсліць слова «ручка» (у катрынкі), дробненька надпісаўшы этнаграфічнае слоўца «корба»

—Па фактуры апавяданняў, што сабраны ў кнізе «Жанчыны ля басейна», можна зразумець, што пісаліся яны даўно, ці не ў 70-я — першай палове 80-х гадоў. Ці не азначае гэта, што сённяшняя рэчаіснасць не настолькі багатая, у параўнанні з «застоем», на жывыя імпульсы дзеля творчасці?

—І сапраўды, аніяк не магу «вылезці з застою» А калі казаць канкрэтна — з часін сваёй маладосці. На маю думку, менавіта ў тую пару, на пераломе шасцідзесятых-сямідзесятых гадоў мы беларусы, канчаткова здэградавалі як нацыя. Гэтым той час і цікавы. Сённяшняя рэчаіснасць — гэта ўжо постдэградацыя і пра яе, відаць, напішуць тыя, каму сёння дваццаць.

—А ці выжыве беларуская мастацкая літаратура ў новым часе, па меры «амасаўлення» жыцця зліквідавання вёскі? Якія літаратурныя формы, на ваш погляд, могуць у нас захавацца?

—Пытанне шматпланавае, але адзін абертон чутны ў ім найбольш выразна· пры г.зв.

# ВОСЬ ВАМ І «ЖАРЦІКІ»

У таталітарнай Беларусі быў, бадай што, адзіны сапраўдны яе пясняр — Вінцэсь Мудроў. Ніхто так, як ён, не захапляўся ўчорашнім сацыялізмам, з такой адданай любоўю не занатоўваў усе яго сацыяльныя праявы, гісторыі, показкі. Пры гэтым не разлічваў на якіясь ганарары, членскі білет СП, мейсца ў прэзідыуме і лаўрэацкія вянкі. Крэмзаў сабе ў сваіх вучнёўскіх сшытках, час ад часу ладзячы сяброўскія чытанні, на якіх прысутныя аж заходзіліся ад рогату. Такі пясняр мог з'явіцца: папершае, на перыферыі, дзе не трэба прыкладаць намаганняў, каб заставацца нонканфармістам (ты ўсё роўна нікому не патрэбны); па-другое, у адпаведным асяроддзі (наконт гэтага ў Наваполацку ўсё было о'кэй); па-трэцяе, у сям'і, якая не мела б ніякага дачынення да мастацтва (каб не патрапіць у наезджаную каляіну і не эстэтызаваць свой мастацкі свет). Не выпадкова менавіта Мудроў стаўся галоўным стваральнікам літаратурнага самвыдавецкага альманаха «Блакітны ліхтар», пятнаццаць нумароў якога былі выпушчаныя ў Наваполацку 70-х гадоў.

У краіне піянерскіх гальшту-

развітым сацыялізме беларуская літаратура квітнела, а цяпер яна паміраე.

Што тут можна сказаць... Сапраўды, камуністы, з ідэалагічных меркаванняў, сярод шэрагу іншых ілюзій стварылі і ілюзію існавання духоўнай культуры. Выдаткоўвалі з дзяржбюджэту грошы, на якія выдавалі пашковых ды навуменак. Сённяшнім камуністам-прагматыкам ужо ніякія міражы не патрэбныя, як не патрэбныя ім і апявальнікі светлае будучыні Але ж ці загіне пасля такіх палітычных сальта-мартале беларуская літаратура? Самы час загаварыць пра Адраджэнне. І скажу ў гэтым сэнсе толькі адно: на хісткім грунце квазіфальклору — на ўсіх гэтых тэлевізійных вячорках, цымбальным гудзе і ўяўным пошуку ўяўных «каранёў» — дывідэндаў у адраджэнцкай справе не прыдбаеш У падмурку нашага рэнесансу павінен быць закладзены урбаністычны пачатак і еўрапейская культурная традыцыя

А што да празаічнай формы, дык я вынайшаў сваю ўласную і, мяркую, яна павінна прыжыцца ў літаратуры. Форма гэтая ў нечым парадаксальная. выява трагедыі нашага часу праз вясёлкавую прызму гумару Наогул, слёзы і хохма ў нас даўно зліліся ў адно цэлае, і парой бывае немагчыма вызначыць — дзе першае, а дзе другое. Канкрэтны прыклад. Убачыў неяк на экране TV прэзідыум апошняга з'езду пісьменнікаў, і душа зайшлася ад свербу· не мог зразумець — ці то тут плакаць, ці то смяяцца...

—Наколькі хвалюе вас праблема чытача? Бо літаратура ўсё-такі павінна ч ы т а ц ц а, спажывацца грамадствам, мець хоць нейкую сувязь з чытачом, карацей — ацэньвацца. Вы не пакутуеце ад адсутнасці гэтай сувязі, ад недахопу крытыкі?

—Адзінае, на што пакутую апошнія пару гадоў — гэта на галаўны боль. Галава расколваецца ледзь не штодня, а індыйскія пігулкі, якія дапамагалі, даўно скончыліся.

—Два пытанні пра «нацыяналізм» Па-першае, з апявядданняў, што сабраны ў першай вашай кнізе, бачна, што аўтар свой іманентны «нацыяналізм» мусіць усяляк утойваць. выкарыстоўваючы сімвалізм найменняў і фактуры, «гуляючы» сюжэтам Прычым адчуваецца «нацыяналізм» менавіта сур'ёзны і свядомы. Пытанне: што паспрыяла таму, рэпрасаваныя ў сям'і, «дасведчаныя» сваякі, іншыя чыннікі?

Пытанне другое звязана з выданнем у Наваполацку ў пачатку 1970-х самвыдавецкага часопіса «Блакітны ліхтар», у чым вы бралі ўдзел. Распавядзіце, калі ласка, пра той часопіс, хто яго выдаваў, дзе, якім чынам, чаму прысвячаліся матэрыялы? Які лёс тае моладзі, што спрычынілася да «Блакітнага ліхтара»?

—«Нацыяналізм» у красным пісьменстве асуджаны на іманентнасць: гэта ўсё ж такі краснае пісьменства, а не палітычная публіцыстыка. А як я стаў «нацыяналістам» — гэта загадка прыроды, бо рэпрэсаваных у маёй радзіне не было, «дасведчаных» сваякоў таксама, адсутнічалі і іншыя чыннікі.

Ну, а пра «Блакітны ліхтар» у свой час пісаў усё той жа У.Арлоў і мне да яго аповеду няма чаго дадаць. Адзначу толькі, што лёс ягоных выдаўцоў і аўтараў нічым не розніцца ад лёсу іншых свядомых беларусаў за часамі савецкай улады: хто спіўся, каго забілі (праўда гэтым разам не ў Курапатах, а ў савецкім войску), а хто, да смерці напужаны гэбістамі, занядбаў сябе і не здолеў рэалізаваць свайго творчага патэнцыялу.

---

каў і камсамольскіх сходаў патрэбная была прадушына. Дзялянка, на якой можна было праяўляць сваю бунтарскую сутнасць, здзяйсняць свой беларускі чын. (Існуе легенда, што вучань старэйшых класаў Віця Мудроў знайшоў аднойчы ў кучы школьнай макулатуры падзёрты зборнічак вершаў Максіма Багдановіча, вырашыў паздзекавацца з вахлачых беларускіх віршаў і пачаў уголас дэкламаваць адзін з іх. Эфект атрымаўся неверагодны — «мяшанец» Витя Мудров стаўся беларусам Вінцэсем Мудровым.)

Аднак ягоная схільнасць да жартаўлівага ўспрыняцця беларускага сацрэалістычнага слова засталася. Ён знаходзіў у творах беларускіх пісьменнікаў, аўтараў «Маладосці», «Полымя» і інш., мясціны (балазе іх хапала ўдосталь), перачытваючы якія, рваў смехам бакі. Сваімі знаходкамі аматар беларускага краснага пісьменства дзяліўся з сябрамі, нават наладжваліся грунтоўныя чытанні чарговай мудроўскай ахвяры. Атрымліваліся сапраўдныя вечарыны гумару. Высмейвалася ўгодлівае, партыйна-прымітыўнае, яўна хлуслівае бытапісальніцтва, непісьменнасць, спекуляцыя на «гераічнай» тэме. Найбольш «удалыя» радкі перасыпваліся з'едлівымі каментарамі чытальніка, яго дасціпнымі тлумачэннямі мастацкай канцэпцыі аўтара, фантазіямі і рэфлексіямі.

Так нараджаўся пісьменнік Вінцэсь Мудроў. Але я ніколі не пагаджуся, што ён аўтар гумарыстычных твораў. (Гэтая часовая ніша была прыдуманая сябрамі Мудрова, каб яго аповеды ўсё ж траплялі на старонкі беларускіх выданняў.) Гумар у яго прозе выкарыстоўваецца як прыём, як мастацкі сродак. Мудроў не ставіць перад сабой задачу павесяліць людзей, прапанаваць ім твор для баўлення часу. Мэта празаіка больш





# ВОСЕНЬСКІЯ ВАКАЦЫІ

*(з аповедаў пра Ваню Бянькова)*

## I

Першымі днямі лістапада семнаццацігадовы Ваня Бянькоў прыехаў дадому, у вёску Бычкі Азярышчанскага раёну Ваня вось ужо трэці год вучыўся ў адным з баранавіцкіх ПТВ і, адпрацаваўшы са сваёй групай два месяцы на ўборцы льну, зарабіў такім чынам пяць дзён адпачынку

Убіўшыся ў родную хату, хлопец праспаў цэлыя суткі, потым паўдня адваляўся ў ложку і падняўся толькі тады калі маці, Ларыса Пятроўна, сцягнула з яго коўдру і жартам агрэла падушкаю па галаве.

—Мандрык тут ці з'ехаў куды? — запытаўся Іван, падліваючы цёплай вады ў рукамыйнік.

Лёшка Мандрык быў вядомы на ўсю вёску бандзюк — улетку Іван з-за яго ледзь не патрапіў у вязн цу і Ларыса Пятроўна заўсёды хмурнела, калі чула гэтае прозвішча

—Знік недзе Мандрычыха казала — паехаў на трактарыста вучыцца,— маці падхапіла рагач выцягнула з печы чыгунок з гарачаю бульбаю,— а можа, дзе і ў турме сядзіць —за яго дужа не бярыся.

Абкруціўшы чыгунок анучкаю, Ларыса Пятроўна ўздыхнула і высыпала парную бульбу на талерку.

—На зіму ўсе раз'ехаліся Адзін Лябёдка застаўся. У калгасе рабіць не хоча — гойсае на матацыкле. На Пакровы Бадунісе гусака задушыў Ехаў п'яны з Азярышча. так шыю і пераехаў Бадуніха і цяпер бядуе. Збіраецца ў суд падаваць.—Ларыса Пятроўна накінула на галаў хустку, мелькам зірнула ў аскепак люстэрка, што стаяў на рукамыйніку, і зняла з цвіка ватоўку — Ну сядзі Я — на ферму А то ж, пэўна, равуць, нядоеныя,— ужо з парога азвалася мац і бразнуўшы клямкаю, затупала па падворку

Лябёдка, пра якога згадвала Ларыса Пятроўна, быў гадоў на пяць старэйшы ад Івана і да апошняга часу працаваў у бычкоўскім клубе кінамеханікам У жніўні, акурат перад Іванавым ад'ездам на вучобу, з тым Лябёдкам бяда надарылася. заснуў, падпіты, у кінабудцы, а нехта з супольнікаў недапалак у бляшанку кінуў, у якой кінастужка ляжала Ну і задыміла, вядома.

---

сур'ёзная і дзёрзкая. І калі, напрыклад, Оруэл пужае сацыяльнымі наступствамі дэспатычнага рэжыму, дык Мудроў імкнецца паказаць усю яго абсурднасць, і ў той самы час эфемернасць, бо ствараем таталітарызм мы самі, сваім канфармізмам, бязволлем, лайдацтвам. Мудроў нічога не вынаходзіў Ён узяў і гіпербалізаваў усе тыя мастацкія прыёмы, якія выкарыстоўвалі апалагеты сацрэалізму. Абсурднасць і марнасць жыцця чалавека-шрубкі ў таталітарным грамадстве пад пяром Мудрова выяўляюцца настолькі, што гэтае жыццё ўвогуле падаецца нейкім саркастычным здзекам з існасці і прыроды. У гэткага жыцця цалкам адсутнічае будучыня. Герой яго твораў або бязвольна перасоўваецца ад адной бессэнсоўнай жыццёвай падзеі да другой, або, як толькі ў яго нараджаецца мара (няхай сабе пра ненаселены востраў на возеры Асвея, ці вучобу ў марахоўцы) і ён пачынае імкнуцца да яе, адразу патрапляе ў канфлікт з акаляючым абсурдным светам і, ўрэшце, абавязкова губляе нават тое, што меў. А калі герой пачынае дамагацца нейкай справядлівасці, з'яўляецца прадстаўнік дзяржавы, надзелены ўладнымі паўнамоцтвамі, і нахабна, адчуваючы поўную беспакаранасць, дабівае героя. Што заставалася яму рабіць? Адчуваць сябе прусаком, не вытаркавацца, чытаць і сур'ёзна абмяркоўваць чарговы твор «важдзя», хадзіць на бязглуздыя дэманстрацыі, агучваць яшчэ больш бязглуздыя лозунгі, імітаваць стваральную працу на прадпрыемствах або ў калгасах — і дэградаваць. Так грамадства цалкам і паслядоўна дэградавала, пачынаючы ад пісьменнікаў і канчаючы пастухамі.

Вось такія ў Мудрова «жарцікі». І таму ніякі ён не гумарыст, і «Вожык» няхай на яго не спадзяецца. Працы ў змагароў з таталітарызмам хапае і

Дым з вокнаў папёр, людзі збегліся, а Мандрычыха, загадчыца клуба, з перапуду ў Азярышча патэлефанавала, пажарную машыну выклікала. Пасля таго выпадку Лябёдку і выкінулі з працы.

Кусну́ўшы кіслы гурок, Іван пасміхнуўся — згадаў, як ачмурэлага ад дыму Лябёдку выносілі з кінабудкі, і, падпёршы рукою рухавыя пашчанкі, зірнуў у вакно.

За вакном, у сутонні пахмурнага восеньскага дня, хіталася на ветры згалелая яблыня а на яблыні, на самай высокай яе галінцы, дрыжэў ад холаду самотны яблык. Яблык быў змерзлы, зморшчаны, і, пазіраючы на яго, Іван са скрухаю падумаў, што пройдуць тры дні і давядзецца зноўку збірацца ў дарогу, каб ехаць у праклятушчыя Баранавічы Тры дні . і зноўку будзе халодны вагон, зноўку будуць бясконца ляпаць дзверы і ён седзячы на бакавым месцы ля прыбіральні, будзе стукацца патыліцай аб стоп-кран, аж пакуль у вачах хваравітым трызненнем не паўстане будынак баранавіцкага вакзала

Хлопец уздыхнуў, захрабусцеў кіслым агурком і адчуў раптам, як штосьці мяккае і цёплае кранулася лыткі. Іван зірнуў пад ногі і ўбачыў ката Барыса. Барыс пацёрся трохі аб ягоную лытку, пацягнуўся і наставіў на Івана круглявыя вочы. Давялося кінуць на падлогу кавалак бульбіны, але Барыс на такі пачастунак нават не глянуў

—Зажэрся ты, братка! Цябе б, бляха, у Баранавічы, у інтэрнат,— прамовіў Іван і кот, згаджаючыся з такімі словамі, вякнуў, ды паглядзеў на дзверы.

Іван выпусціў ката на двор, удыхнуў праз дзвярную пройму ядранага паветра і вырашыў таксама праветрыцца.

Прадзім'ем у Бычках сумна. Прайдзіся праз усю вёску — жывой душы не стрэнеш Клуб зачынены, бібліятэка таксама. Вецер пясок са снегам круціць ды выцвілы сцяжок на шасту матляе. Сцяжок, як сведчыць надпіс на кардонцы, у гонар камбайнёра Ф І Траяна ўзняты які ў жніўні на сваім СК-4 400 тон збожжа намалаціў Збожжа даўно на станцыю звезлі Хведзька Траян даўно тыя грошы прапіў, што яму ў прэмію далі, а сцяжок усё матляўся, і шост гудзеў на ветры, і не было ў свеце анічога больш сумнага, чым гэтае матлянне і гэтае панылае гудзенне.

«І на якую халеру прыехаў?» — падумаў Іван, тузануўшы дзвярную ручку. Кінабудка была зачыненая і, мяркуючы па той колькасці пяску, што намяло пад дзверы, невядома калі адчынялася. Азірнуўшыся, Іван прыпаў вокам да шчыліны дзвярэй, доўга глядзеў на стаптаны чаравік, што ляжаў пасярод кінабудкі, разважаючы, каму той чаравік мог належаць — Лябёдку ці Мандрыку? — і гэтыя развагі былі перарваныя матацыклетным рокатам Рокат чуўся з боку Азярышча· матацыкл змучана чхаў, страляў выхлапнымі газамі, і гэта сведчыла пра тое што па дарозе ехала Лябёдкава «Панонія»

З'язджаючы з Дабранскай гары, матацыкл загуў на фарсажы, а пад'ехаўшы да клуба заляскатаў парывіста і глуха.

—Ваня! Кораш! — выгукнуў кіроўца «Паноніі», задаволена пасміхнуўся і, зняўшы крагі, працягнуў Івану сваю перапэцканую машыннай алівай руку. Лябёдку было цяжка пазнаць. Кал раней ён гойсаў на сваёй «Паноніі» ў танкісцкім шлеме, дык цяпер галаву ягоную ўпрыгожваў моташлем з самаробным брылём, і гэты брыль рабіў яго падобным да вялізнай качкі

—З Віцебска еду, ад брата,— растлумачыў Лябёдка, пасля чаго крутнуў ручку газу і, матлянуўшы галавой, прамовіў· — Адвязвай ды сядай. Газанем, бляха!

сёння, бо Беларусі яшчэ далёка да цывілізаванае краіны. Толькі працярэбліваем новы шлях. З пакутамі і бясконцымі хістаннямі. Мудроў жа застаецца адданым сваім перакананням і мастацкай місіі. Пасля двух афіцыйных кніжак (у год саракагоддзя «маладога» празаіка) ён не падаўся ў СП, а ўвайшоў у Таварыства Вольных Літаратараў. Рэдагуе творы для тэвээлаўскіх «Калосьсяў» і «Ксэракса беларускага», і піша пераважна для гэтых незалежных выданняў. (Незалежных ад каго? Ад дзяржавы.) Як і раней, пасмейваецца з твораў беларускай сучаснай літаратуры, адстойвае Беларушчыну на старонках наваполацкай «Новай газеты», у якой працуе, прафесійна малюе палітычныя карыкатуры (асабліва ўдала ў яго атрымліваўся сп.Кебіч), вывучае албанскую мову (Албанія — ягонае другое пасля літаратуры захапленне), спявае песні Валерыя Абадзінскага, здзекуецца са сваіх сяброў, любіць балбатаць ні аб чым, але байца вялікіх кампаніяў, ніколі не здымаўся на тэлебачанні (колькі ні ўгаворвалі) і не даваў інтэрв'ю радыёжурналістам, нават на тэвээлаўскіх імпрэзах прысутнічае рэдка, у час передвыбарчай прэзідэнцкай кампаніі збіраў подпісы за Пазьняка.

Калі б мяне спыталі — дык што ж урэшце піша Мудроў і якая ў яго сапраўдная ніша? — я адказаў бы: Мудроў бацька беларускага сацарта. Пачытайце яго ўважліва, і вы адчуеце, як пазбаўляецеся шаблоннага ўспрыняцца навакольнай рэчаіснасці і незамглёнымі вачыма пачынаеце дэталёва распазнаваць ўвесь абсурд жыцця чалавека-шрубкі.

Алесь АРКУШ





За спіною былога кінамеханіка месцілася, прытарочаная аборкай да сядзення, пашарпаная валіза Іван паспрабабаваў быў развязаць аборку рукамі, потым пусціў у ход зубы і ў рэшце рэшт палез у кішэнь па сцізорык.

—Асцярожней толькі, у мяне там радыёлямпы,— мармытнуў Лябёдка і з натхненнем паддаў газу.

Па тупкай сцяжыне праехалі з грукатам, з ветрыкам, а ўз'ехаўшы на пясок, матацыкл запаволіў бег і завыў як перад скананнем

—Калі прыехаў? — запытаў Лябёдка, бухаючы кірзачамі па пяску.

—Учора,— азваўся Іван, і ў гэты момант матацыкл стрэліў выхлапнымі газамі, тузануўся і заглух.

—За ў мяне гэты пярдун! — вылаяўся Лябёдка, грукнуў кулаком па бензабаку, і хлопцы, даўшы волю мацюкам, добрых трыста метраў — аж да самае сталоўкі — піхалі-разганялі матацыкл але той так не завёўся

У сталоўцы куды яны ўвайшлі, было пуста, адно за прылаўкам, падпёршы рукамі кучаравую галаву, сядзела дачка загадчыцы Люська Халімонава і з сумам у вачах чытала нейкую кніжку. З Люськаю Іван некалі вучыўся ў школе, сядзеў за адной партай, а аднойчы, здаецца, у сёмым класе, нават пісаў «любоўныя» цыдулкі І хаця пасля таго мінула ці мала часу, Іван і дагэтуль пры стрэчы з Люськаю чырванеў і наогул пачуваў сябе ніякавата.

Абабіўшы кірзачы, Лябёдка паважнай хадою падышоў да Люські, гуллівa пацёр рукі, а Люська, не адрываючыся ад чытання, памацала рукою пад прылаўкам і выставіла перад наведнікам бутэльку «Стралецкай».

Такія Люсьчыны паводзіны наведніку відавочна не спадабаліся Зняўшы з галавы моташлем, ён налёг грудзінаю на прылавак, з робленаю цікавасцю зазірнуў у кнігу.

—Што, Мапасанаў чытаем? — прагугніў Лябёдка, і шырокая пяцярня ягоная паволі легла на Люсьчын азадак.

Люська, відаць, толькі таго і чакала, бо кніжка надта ж імпэтна ўзнялася ў паветра і гучна ляснула па Лябёдкавай патыліцы.

—Лябёдка! Зноў хулюганіш? — пачулася за перабойкаю, а ў раздатачным вакенцы ўзнік расчырванелы твар загадчыцы сталоўкі Халімонавай.

—Пятроўна! Цешча ты мая дарагая! Я ж да вас сватацца прыйшоў! — жартаўліва заенчыў Лябёдка, і адказам яму быў грукат нейкага металёвага посуду і абураны голас Пятроўны·

—А каб цябе парвала, такога зяця!

Пятроўна выйшла з кухні, папраўляла на галаве хустку, а згледзеўшы Івана, які муляўся ля дзвярэй, з усмешкаю на вуснах запытала:

—Што, Ваня, прыехаў... будзеце цяпер на пару піячыць? — Пятроўна хацела яшчэ нешта сказаць, аднак Лябёдка, абураны такімі словамі, паставіў «Стралецкую» на бліжэйшы столік і суровым голасам загадаў:

—Абслугоўвайце наведнікаў!

Іван, слухаючы ўсё гэта, гатовы быў скрозь зямлю праваліцца. Ён ужо і не рады быў, што пацёгся з Лябёдкам у сталоўку, і, перакідваючы з рукі на руку брынклівую валізу, кідаў дакорлівыя позіркі на шырозную Лябёдкаву спіну.

Пятроўна ляснула дзеля прыліку косткамі лічыльнікаў, з усмешкаю на перакошаным твары прамовіла:

# СМУТАК СМЕХУ І ЛЮБОЎ ДА ЖЫЦЦЯ

Як на маю думку, дык спаміж выбітных беларускіх празаікаў у Вінцэся Мудрова, бадай, самае адметны статус: ён — ёсць, і яго — няма.

Няма — у сэнсе фармальным, справаздачным, няўартасным, ёсць — у дачыненні фактычным, існасным, важным.

Даўно заўважыў: як малады літаратар не трапляе ў «плойму», як не зашыхтуюць яго, дык вельмі цяжка яму пазней даць запрыкмеціць сябе, выбрацца з паласы замоўчвання, свядомага ці не, як бы цікава ён ні пісаў. І наадварот, апынуўшыся ў пераліках, можна затрымацца ў іх на бог ведае колькі гадоў (тут, мяркую, не трэба прыкладаў), не будучы анікім, нават анічога не выдаючы. Час, вядома, селекцыянер справядлівы, усё расстаўляе па сваіх месцах, але ж робіць ён гэта, улічваючы працягласць жыцця чалавечага, а тым больш літарацкага, і асабліва сённяшняга, досыць няхутка.

Мудроў не трапіў у шыхты. Ані разу не бачыў я ягонай штыкецінцы ў сакратарскім пло-

—Два шэсцьдзесят .. наведнікі

—Дзве скумбрыны і чатыры хлеба,— усё тым жа афіцыйным тонам прасіпеў Лябёдка пашнарыў па кішэнях і, звяртаючыся да Івана прабачальным голасам запытаў· — У цябе пару рваных не знойдзецца?

Іван з Лябёдкам раслі бязбацькавічамі Іван свайго родзіча толькі на фотаздымку бачыў а Лябёдкаў бацька, калі сын яшчэ і ў школу не хадзіў, завербаваўся па аргнаборы ў Карэл ю і там яго, нецвярозага, забіла на лесапавале. Бязбацькавічы, як вядома,— што тыя браты Іван мінулым часам цэлымі суткамі прападаў у кінабудцы. У карты граў, кружэлкі круціў на клубнай радыёле, а вечарамі стужкі перамотваў ды фільмы глядзеў праз адтуліну Праўда калі Лябёдка бываў не ў гуморы — з бадуна, ці калі з Мандрычыхай палаецца,— дык мог свайму «брату» і па карку заехаць, а то, згадаўшы саратаўскую вучэбку, у якой служыў у войску мог загадаць сорак разоў ад падлогі адціснуцца І вось, сядаючы за стол у куце сталоўкі адчуваючы, што настрой Лябёдкавы канчаткова сапсаваны, Іван з насцярогаю пакасіўся на сваю былую аднакласніцу

«Стралецкая» — настойка надзіва паганая Яе глытаеш, а яна назад лезе...

Кульнуўшы па першай, хлопцы скрывіліся, пусцілі сабе пад ногі згуслую сліну і з драпежным выглядам на тварах сталі здзіраць зубамі скуру з перасохлых рыбін

Пару хвілін яны сядзелі моўчкі, грызлі каляную рыбу, аж пакуль Лябёдка не пацягнуўся за бутэлькай і, наліваючы па другой, не працадзіў·

—Яны яшчэ пашкадуюць. .

Наліў сабе Лябёдка ў два разы болей, чым сябру, і пад пільным Іванавым позіркам трунак уліўся ў ягонае нутро, нат не зварухнуўшы коўціка.

—Два разы вымпел атрымлівалі Курва гэтая, Мандрычыха, на семінары ездзіла. А без мяне . раз на тыдзень круцяць, і стужка праз метр ірвецца — Былы кінамеханік выплюнуў на падлогу рыбіну луску і выцягнуў з кішэні пачак «Беламору»

—А хто круціць? — пацікавіўся Іван, мерачыся запусціць пальцы ў пачак з куравам

—Як хто — Мандрычыха!

—Мандрычыха?! А яна ўмее?

Былы кінамеханік чыркнуў запалкаю, паднёс яе да папяросы, і жоўты вогнік з вясёлым імпэтам мільгануў у ягоных вачах.

—Мішка Бадуноў круціць. А яна так. ажыццяўляе агульнае кіраўніцтва — Лябёдка зацягнуўся папяросай, з шумам выпусціў дым, і той паволі паплыў у бок акенца раздачы

—Мішка ж непаўналетак, дык яна да Даўгалёва ездзіла, дамаўлялася. Казалі, пляшку белай ставіла. Ну і дамовілася, старая курва Палову стаўкі сабе забірае, а палову Бадунісе аддае.

За сценкаю зноўку штосьці грукнула, палілася вада, і пачуўся зычны голас Пятроўны

—Хопіць смаліць! Не ў хляве!

Яшчэ праз імгненне ў пройме раздатачнага акенца мільгануў раззлаваны твар Пятроўны акенца зачынілася, і загадчыца ўжо прыглушаным голасам дадала:

—Закругляйцеся! Хутка зачыняць буду!

Шызы дым, які дагэтуль плыў у вакенца, папоўз па сцяне і ахутаў шыльду з нязграбным надпісам «У нас не курят»

це. Больш таго, часам яго не ведаюць нават людзі ў сучаснай беларускай літаратуры досыць абазнаныя і мыслення неартадаксальнага. Як рэдактару аддзела прозы й паэзіі, мне давялося сутыкнуцца з немалымі цяжкасцямі, шукаючы крытыкаў ды калег-празаікаў, якія маглі б сказаць дасведчана пра Вінцэся два-тры словы. Затое тыя нямногія сустрэтыя мною, што ўважліва чыталі яго — о дзіўнасці мастакоўскага лёсу! — даволі высока ацэньваюць навапалачанскага самотніка.

Чаму самотніка? Чаму ён прыкметны?

Самота й прыкметнасць Мудрова пачынаюцца ўжо з звычайных фактаў ягонай незвычайнай, як для беларускага літаратара, біяграфіі. Ён не філолаг і не журналіст, а інжынер. Не жыве, як бальшыня нашых калег, у Менску й ніколі, здаецца, не спрабаваў туды перабрацца. Мудроў — бадзяга і авантурыст (у добрым, вядома, сэнсе гэтага слова, у плане каштоўнага для самой асобы набыцця жыццёвага вопыту), і гэта, мусібыць, найперш вылучае яго сярод памкнёных да ўладкаванасці майстроў і падмайстраў нашага прыгожага й непрыгожага пісьменства. І гэта пры ўсёй ягонай выразнай сціпласці, знешняй сцішанасці. Тут мала каго можна запісаць яму ў браты. Хіба што Івана Клімянкова...

Што яшчэ — ва ўласна літарацкім плане?

Стала ўжо паданнем, як ён, расеец па выхаванні й пашпарце, прыйшоў да беларушчыны. Сцвярджаюць, што выпадкова. А можа, і не. Наўрад ці ў свеце штосьці здараецца выпадкова. Была асоба ўжо ў хлопчыку — і яна нечага прагла. Мажліва, тае самае беларушчыны — хоць бы як формы пратэсту супраць руціны і бездухоўнасці, супраць гвалту і падману.

Друкавацца Мудроў пачаў





—З. ала,— прашаптаў Лябёдка, затушыў аб нутраны бок стала папяросіну і, падвысіўшы голас выдыхнуў· — Куды зачыняецца?! Сталоўка да сямі працуе!

—Да дваццаці сямі,— крыкнула за сценкаю Пятроўна, пасля чаго Лябёдка ізноў вылаяўся хітнуўшы галавой пацягнуўся за бутэлькаю.

Рэшткі «Стралецкай» былі разлітыя пароўну

—Азярышчанцы казалі — Даўгалёў не ведае, што і рабіць. Кінамеханікі ж на дарозе не валяюцца! Не сёння-заўтра папросіць заяву напісаць. Толькі во яму! — Лябёдка ляпнуў даланёй левай рукі па выстаўленай правай і падняў шклянку

—Люська! Чаго ты тут мацюкі слухаеш!? Ідзі дахаты! — азвалася за сценкаю Пятроўна, і Люська, захлопнуўшы кн гу, без асаблівай ахвоты падалася да вешалкі

—Пятроўна куды ж яна!? Хай пачакае. я ж папраўдзе жаніцца хачу! — жартаўліва заенчыў Лябёдка а Люська зняўшы з вешалкі паліто, крутнула пальцам ля скроні

—У каго у цябе? — крыкнуў уваслед дзяўчыне былы кінамеханік, але тая не пачула — выбегла на двор

Ад дзвярэй павеяла халадэчай Ачуўшыся, Іван пацёр лабешнік і п'янавата ўтаропіўся ў супольніка Ад выпітага кружылася галава, у вушах шумела і ён зусім не цяміў — пра што вёў гаворку сябра

—У труне я бачыў гэты кінапракат! — гукаў суразмоўнік, раз-пораз пляскаючы даланёй па валізе У валізе штосьці бразгала — Як захачу, дык буду мець болей, чым той Даўгалёў з усёй яго канторай — Слова «канторай» былы кінамеханік вымавіў зусім ціха і, увабраўшы галаў у плечы зірнуў у бок прылаўка

—Давайце п'янтосы зачыняць буду! У мяне карова целіцца,— азвалася з кухонных нетраў Пятроўна і Лябёдка ад таго воклічу перакрывіўся, быццам ад зубнога болю.

—Каб ты сама ацялілася,— працадзіў скрозь зубы былы кінамеханік, паныла паглядзеў на пустую пляшку і нечакана для Івана ляпнуў яго па спіне.— Ваня-а! Сябрук! Хочаш, заўтра ж паедзем Пакажу табе, як грошы робяцца А? Ваня-а!

Іван кісла пасміхнуўся і ўзняў на прыяцеля ашклянелыя вочы.

—Як гэта? — выдыхнуў ён, не даючы веры Лябёдкавым словам.

—Пабачыш Ва Усвяцкі раён паедзем, у Вялікарусію,—Лябёдка развёў рукамі, зб раючыся, пэўна паказаць, як ён будзе зарабляць грошы, і ў гэты момант сталоўка панурылася ў цемру — Што гэта? — здзіўлена прамармытаў Лябёдка, рыпнуўшы крэслам, а зразумеўшы ў чым справа, абурана гаркнуў· — Пятроўна! Харэ барзець! Уключы!

Пятроўна затупала на кухні, потым яе шырокая постаць акрэслілася ля прылаўка і, бразнуўшы ў цемры ключамі, загадчыца сталоўкі коратка і рашуча загадала.

—Усё! Выкульвайцеся!

На двары было цёмна, але над галавою ззялі зоркі, і Іван, азірнуўшы азоранае неба, шчыра здзівіўся· чаму ён не бачыў гэтых зорак там, у Баранавічах? Дыхнуўшы парай, хлопец абтрэс апошнія кроплі і прыслухаўся За спіною чулася гучнае цурчэнне і задаволеныя ўздыхі

—Ну, дык як, паедзем? — запытаўся Лябёдка праз хвілю, асвяціўшы твар агнём запаленай сярнічкі

Жарынка Лябёдкавай папяросы задрыжэла ў цемры, узнеслася ўгору, матлянулася некуды ўбок і неўзабаве вярнулася на месца

некалькі гадоў назад, але толькі зусім нядаўна — летась і пазалетась — пабачылі свет дзве ягоныя танюткія (як мог бы сказаць ён сам з гэтак уласцівым яму, здаецца, усяго толькі вонкавым эпатажам) ксёнжкі· «Жанчыны ля басейна» («Мастацкая літаратура») і «Гісторыя аднаго злачынства» (Бібліятэчка «Маладосці»). Тым часам ужо адна з першых ягоных публікацый «Узлёт і падзенне Адама Марштрупы» й «Жэрарава памылка» ў «Маладосці» засведчыла з'яўленне відавочнага таленту. Друкаваўся Вінцэсь мала й нячаста, затое не займеў тужлівага рахунку слабізны-шэрані. Усе ягоныя рэчы хоць як-кольвеч ды выбітныя.

Нарэшце, галоўная ягоная, сутнасная адметнасць — жанр ды стыль. Мудроў — сатырык, іраніст Такіх мала заўсёды ў любой літаратуры. А ў нашай, празмерна, а то й дужа часта псеўдаабсур'ёзненай, няхай і праз аб'ектыўныя гістарычныя прычыны,— дык і зусім няшмат

Прытым, Мудроў зусім не гумарыст. Творы ягоныя, нават самыя, як для яго, слабыя, наўрад ці маглі б з'явіцца на якойсьці шаснаццатай старонцы ці ў бібліятэчцы смехача. Наскрозь прасякнутыя сатыраю, яны таму й з'яўляюцца літаратураю сур'ёзнай, далёкай ад якой-небудзь аблегчанасці.

Што асабліва важна: у Мудрова няма аніводнага неіранічнага твора — і гэта вельмі ўсцешвае, бо, здаецца, пасля Мрыя ў нас не было другога такога празаіка, з пяром, завостраным адно на сатыру, іронію. Не бяруся параўноўваць іхнія таленты — гэта, мабыць, немажліва дый не трэба. Я пра сутнасць боскага дару, якая адна й тая ж. У кожнага, вядома, з сваімі колерамі й адценнямі, уласцівымі асобе кожнага і часу, у якім тварыла асоба.

Гаворачы пра іранічна-саты-

—Вушанку толькі вазьмі, а то нязьме,— за рогам бразнула завала, пачулася незадаволенае мармытанне, і яшчэ праз імгненне таропкія крокі Пятроўны зліліся з брэхам сабак у Зарэччы.

Дапаліўшы папяросы, сябры выкацілі на бальшак Лябёдкаву «Панонію», крэкнулі, рыхтуючыся да разгону, і Лябёдка, ужо тупаючы кірзачамі па дарозе, засоплена выдыхнуў:

—Заўтра. а восьмай ля сталоўкі.

Апошнім высілкам Іван піхнуў матацыкл, паваліўся на зямлю і падняўся толькі тады кал пачуў, як «Панонія», ужо недзе пад самай ґарой, з неахвотаю заляскатала маторам.

Прыемна ўсё ж такі прачнуцца ў роднай хаце, зірнуць на гадзіннік і, адчуўшы, што спаць можна колькі ўлезе, кульнуцца на левы бок. У такія хвіліны душу наведвае ціхая радасць, і сны потым сняцца прасветленыя і шчымлівыя.

Прачнуўшыся а сёмай, Ваня Бяньkoў памружыўся на святло, што цадзілася з кухні і ў той самы міг сон зляцеў з ягоных павек і слых напоўніўся да болю знаёмымі зыкамі гудзеннем у коміне, тахканнем старых ходзікаў і лагодным кашачым мурканнем, якое перарывалася за кожным трэскам бярозавых дроў. Паляжаўшы на баку, Іван лёг на спіну, зірнуў краем вока на ката Барыса і з насалодаю, аж да хрусту ў каленях, пацягнуўся. «І куды гэта Лябёдка сабраўся?» — падумаў ён, канчаткова абудзіўшыся, і разважаючы над гэтым пытаннем, казеліў вочы на Барыса. Кот сядзеў на печы, вуркатаў свае песні і час ад часу ўтрапёна пазіраў на ўваходныя дзверы Іван удыхнуў паветра, каб паклікаць Барыса, але ў той жа міг у сенях бразнула даёнка і кот вомігам растварыўся ў шарым запечным паўзмроку.

Маці ціхенька адчыніла дзверы, і ў хаце запахла сырадоем. Паставіўшы на ўслон даёнку яна зняла з цвіка марліну, страсянула абедзвюма рукамі, і неўзабаве сырадой ценькім цурком паліўся ў збан. Іван заплюшчыў вочы, прыслухаўся да зыкаў, што даляталі з кухні, і кожны матчын рух яскрава адбіваўся ў ягонай свядомасці І вось цурчэнне стала больш глухім, маці штосьці прамармытала сама сабе, грукнула вядром ды нечакана спалохана гойкнула:

—А каб ты спрах, кацера ты чортава!

Ну вядома — кот Барыс ізноў напужаў маці. Печ у хаце высокая, і Барыс, сігануўшы з верхатуры, напачатку скочыў на матчыну спіну і толькі потым зляцеў на падлогу.

—Во халера на маю галаву! І на чорта мне гэты кот?! —бедавала маці, разліваючы сырадой, а напоўніўшы другі гарлач, плёснула малака ў Барысаву чаропку. Хвіліну Іван слухаў, як роспачна ляпаў языком кот Барыс, пасля чаго крэкнуў і падхапіўся на ногі

—Што, піў учора? — запытала Ларыса Пятроўна, калі сын, пачэрпнуўшы вады з вядра, прыпаў да конаўкі.

—Угу! — вымавіў Іван, не перарываючы піцця, а наталіўшы смагу, выцер вусны і, апярэджваючы матчыны словы, дадаў· — З Лябёдкам, п'янтосам гэтым няшчасным.

Ён прабег на цырлах па халоднай падлозе, шмыгнуў у цёплую пасцель і яшчэ раз, цяпер ужо з райскім задавальненнем, пацягнуўся.

—Алкаш гэты узяўся тэлевізары рамантаваць,— азвалася з кухні маці, плюхнуўшы вады ў даёнку.— Авадзісе адрамантаваў, дык, казала, два дні гук быў, а на трэці не стала.— На кухні ізноўку плюхнула вада, гэтым разам у мядніцу, і маці, адчыніўшы дзверы, пачала выносіць збаны на холад.

—У нас жа тэлевізараў мала, рамантаваць няма чаго, дык панадзіўся ў Азярышча ездзіць.

---

**рычнае ўспрыняцце жыцця ў нашай літаратуры, можна назваць хіба што яшчэ апошнія творы Пятра Васючэнкі — парадусім пра студэнта Валентага, напісаныя ім разам з мала каму пакуль вядомым Антоні Вырвічам.**

**Можна, праўда, згадаць аповесць Уладзіміра Някляева «Вежа», апошнія эсэ Уладзіміра Арлова, старонкі ягонай «Сібірскай аповесці», смяшлівыя інтанацыі Адама Глобуса і, як гэта ні дзіўна, у чымсьці блізкае да іх і адначасна дужа арыгінальнае апавяданне Уладзіслава Рубанава (вечная яму памяць) «Артыстка і Пачвара», нечаканы для многіх перадсмяротны прарыў гэтага аўтара ўжо многіх кніг у зусім новую для яго сферу,— але іранізм ва ўсіх названых пісьменнікаў усяго толькі адна з ліній руху, а не магістральны напрамак, як у Мудрова.**

**За іранічнасцю ягонай — заўсёды, дарэчы, спагадлівай, міласэрнай, цёплай, гуманістычнай і аніколі ані ў чым не зласлівай, не жорсткай і тым больш не цынічнай, як гэта магло б быць, бо здараецца сям-там у іншых літаратараў — бачыцца мне мяккая і лагодная душа, абаронча маска дакліваrа і тонкага чалавека.**

**Мудроў смяецца з свайго цуда-дзіцяці Ванькі Бянькова — і шкадуе-любіць яго. Затоена, ён не так смяецца, як сумна пасміхаецца. Смутак ягоны, закрыты ад грубага вока, роднасны гашэкаўскаму. Хіба Швейк — ідыёт? Хіба Ванька — прыдурак-пэтэвушнік?**

**Гараджанін, пісьменнік здолеў стварыць надзвычай яркі й запамінальны вобраз маладзёнаселяніна, ахламона-сімпацягі, што цяжка і пакутна перакочвацца ў горад з усімі ягонымі жахамі-дасягненнямі цывілізацыі і ніяк не можа дый, пэўна, не зможа ніколі па-сапраўднаму ў яго перакаціцца, бо ж надзвы-**





Думаў там яму адваліцца.. А людзі, што ў тэлеатэльe працуюць, злавілі ды ў каршэнь натаўклі — во як! — маці крэкнула, падхапіўшы штосьці цяжкое, і выйшла з хаты.

Іван асавела пазяхнуў збіраючыся паспаць яшчэ якую гадзіну, але маці ізноў увалілася ў хату кінуўшы ля печы абярэмак дроў, недарэчна голасна абвясціла:

—У Пятроўны карова ацялілася. Цялушачка такая ж, як наша Рагуля Сама чорная, а на лобе белая меціна.

Каб не слухаць матчынай балбатні, Іван утоўк галаву ў падушку, абхапіў яе рукамі і, ашчадна дыхаючы стаў думаць — ехаць яму з Лябёдкам ва Усвяцкі раён, ці, мо, застацца дома.

Лябёдка на якога не стамлялася лаяцца Ларыса Пятроўна, быў наогул хлопцам ніштаватым. Піў вядома, але ж і справу сваю ведаў Пазалетась ягоны партрэт нават у раённай газеце надрукавалі. «Кінамеханік Бычкоўскага кінастацыянару М.Лебядзько рыхтуецца да чарговага сеансу» Наблытаў, праўда, карэспандэнт у прозвішчы, але як не наблытаеш, калі яго ад Лябёдкавай кінабудкі да старшынёўскага «казла» утрох вялі. Дакладней кажучы, вялі двое — сам Лябёдка ды Лёшка Мандрык, а Іван карэспандэнту ногі перастаўляў — гэтак чалавек напіўся

Меў былы кінамеханік, апрача гарэлкі, яшчэ адну жарсць — радыётэхніку. У школе нават марыў у радыётэхнічны нстытут паступаць, а ў восьмым класе, знайшоўшы ў нейкім часопісе схему, змайстраваў электрагітару Інструмент гэты быў у той час вялікай рэдкасцю — паглядзець на яго нават з Азярышча прыязджалі Лябёдка з ім на канцэртах выступаў, да клубнай радыёлы падключыўшы Ну, а як ужо ў войска ішоў, падараваў гітару Лёшку Мандрыку, сыну загадчыцы клуба Лёшка таксама на канцэртах брынкаць узяўся, хоць граць і не ўмеў. Але брынкаў нядоўга — штосьці там у гітары замкнула, і Лёшку падчас канцэрту токам смальнула. Мандрычыха пасля таго гітару аб клубны ганак разбіла і чутку пусціла, што Лябёдка Лёшку халеру тую падараваў, каб са свету звесці З войску — а служыць яму давялося ў нейкай дужа сакрэтнай часці — Лябёдка вярнуўся з сяржанцкімі лычкамі на пагонах і з «корачкамі» радыёмеханіка ў кішэні. Уладкаваўшыся кінамеханікам, ён першыя паўгода не вылазіў з кінабудк . самаробны тэлевізар майстраваў, а змайстраваўшы — у п'янку кінуўся Аднойчы да таго дапіўся што сеў на распалены літавальнік і апошнія свае штаны прапаліў Пасля таго выпадку больш тэлевізарамі не захапляўся, а ўсё сваё начынне: літавальнік, лямпы з кандзёрамі і кавалак каніфолі Мішку Бадунову падараваў..

—Ванька чуеш?! — прашамацела ля вуха, і Іван выцягнуў галаву з падушкі.— Кашу еш, у печы стаіць Я на ферму — На кухні пстрыкнуў выключальнік, нема вякнуў кот Барыс — маці, відаць, наступіла яму на хвост, і Іван, паморшчыўшыся, зноўку ўтоўк галаву ў падушку. Хвілю ён ляжаў потым усхапіўся на ногі, прабег на кухню і, настаўляючы струмень у памыйную мядніцу прашаптаў· — Еду

## II

З Дабранскай гары на якой стаіць сталоўка, вёска бачная як на далоні Сёння нядзеля, людзей наогул не відаць, адно што на Траянчысіным двары завіхалася некалькі постацяў, туркацеў трактар ды чулася бязладная гамонка. Іван прымружыўся, пазіраючы ў бок Траян-

---

**чай ён арыгінальны і арганічны прадукт гэтае самае вёскі, што ўжо не там, дзе была яна калісь, але й не там, куды яе зацята цягнуць, бы ў багну, маразматыкі-верхаводы вар'яцкай сістэмы. Гэта дзіця вёскі, гэнай самай цывілізацыяй сапсаванай-пакалечанай і некранутай дзесьці тым часам у прыроднай сваёй чысціні. Гэта няшчасны выдатны юнак, істапраўдны ўмяшчальнік рысаў маладога чалавека пераходнага, у часе і месцы, існавання. І ён жа шчасны, вельмі шчасны — ужо тым адным, што жыве, што мае свае малыя і немалыя, як для яго, як для homo soveticus, адметныя радасці. Шчасны тым, што ніякае дуротнае ПТВ не разбурыла ў ім дашчэнту добрыя пачаткі. Ён і сам гэтага не ўсведамляе, што тым ён шчасны. Вакол яго, куды ні глянь, адны ПТВ — ад сельпо да райкама; ПТВ уласна — толькі яркі сімвал грамадства ў агоніі, і Ванька застаецца чалавекам сярод усіх ПТВ. У тым ПТВ, дзе ўсе мы жылі й будзем, на жаль, невядома колькі яшчэ жыць, ягоныя няшчасныя навучэнцы захавалі шмат выдатных якасцяў· пры ўсёй сваёй прыніжанасці, постбудаўнікі камунізму багата ў чым вышэйшыя ад нуднага заходняга чалавека, шчадрэйшыя душэўнымі сіламі, наіўнасцю і вераю ў спрадвечныя ідэалы. Ваньку можна абвінаваціць у чым хочаце, толькі не ў чэрствасці, не ў скамянеласці сэрца. Такія, зрэшты, і астатнія героі Мудрова. Пісьменнік любіць людзей. Нават дзялок-анашыст, гаспадар жыцця Мамедаў па-свойму сімпатычны. Мудроў шкадуе сваіх герояў, як, даруйце, «ахвяраў аборту».**

**А якая трапная за ўсім гэтым пісьменніцкая назіральнасць, якое яркае й дакладнае на дэталі пяро!**

**Чаго, напрыклад, вартыя адны толькі прозвішчы, найменні:**

чысінага двара, і міжволі пасміхнуўся. Ну, вядома Хведзька Траян зноўку дзяліў са сваёй сястрой угнаенні з матчынага свінушніка. Загнаўшы на падворак трактар, Хведзька з жонкаю ўскідвалі на трактарны вазок парсючыны гной, а сястра ягоная, Фроська — ускудлачаная, у квяцістым халаце — стаяла на вазку і скідвала гной долу

Хведзька з Фроськаю ўжо не першым разам матчына дабро дзялілі Летась нават таварыскім судом судзіліся і па пятнаццаць рублёў штрафу мелі Іван на тым судзе якраз за сведку быў. Яму і цяпер карцела пабегчы на Траянчысін падворак ды паглядзець, як там усё будзе, але ж трэба было чакаць Лябёдку Пагатоў, жалезны гараж, які стаяў каля Лябёдкавай хаты, быў прачынены, і гэта наводзіла на думку, што сябрук ужо недзе лётаў на сваёй «Панонії» і мог з'явіцца ў любую хвіліну.

На вясковую вуліцу тым часам пачалі выбягаць кабеты, старая Траянчыха ўголас залямантавала, Іван стаіў дых, чакаючы развязкі, але нічога такога не здарылася Фроська нечакана злезла з вазка, Хведзька ўлез у кабіну, і трактар, напоўніўшы наваколле белым дымам паволі выехаў з падворка.

Убачыўшы такое, Іван незадаволена скрывіўся летась было цікавей. Летась Фроська братавай пад вока ліхтар наставіла і гной на галаву ўскінула. Пятнаццаць рублёў штрафу за тое атрымала На суд тады ўся вёска сышлася, нават з Гатава папрыхходзілі У дзвярах стаял а загадчыцы клуба Мандрычысе, якая суддзёй была, ад задухі і хвалявання млосна стала

Прыгадваючы ўсё гэта, Іван агледзеўся, разважаючы, чым бы гэта заняць рук а ўбачыўшы на сцяне сталоўкі пакарабачаную трубку, у якой, па ідэі, павінен быў тырчаць чырвоны сцяг, стаў накідваць на яе сваю вушанку З пятага ці шостага разу яму гэта ўдалося, Іван задаволена пацёр рукі, рушыў за сталоўку, шукаючы якую палку, і ў гэты момант чуйны слых ягоны вылучыў з бязладнага туркацення трактара дробныляскат Лябёдкавай «Панонії»

Матацыкл, як гэта ні дзіўна, ехаў з боку могілак, і, што самае дзіўнае, за спіною Лябёдкавай сядзела, загаліўшы белыя сцёгны, загадчыца сталоўкі Пятроўна.

«Куды гэта яны? Ці не ва Усвяцкі раён?» — падумаў Іван і на ўсялякі выпадак прыхаваўся за рогам сталоўкі

Лябёдкавы драндулет даехаў толькі да сярэдзіны гары Чхнуўшы, матацыкл заглух. з'ехаў з дарогі і занурыўся пярэднім колам у прыдарожны кювет

—Пятроўна, пачакай! — даляцеў да Іванавых вушэй зычны вокліч, але Пятроўна якая ўжо шыбавала па бальшаку, на той вокліч нават не азірнулася Датупаўшы да сталоўкі, кабета перавяла дых — было добра чуваць яе нервовае дыханне,— павярнула ключ і кінула на парог грукатлівую завалу.

—Во паразіт няшчасны! — прамовіла Пятроўна, расчыніўшы дзверы, і ваконныя шыбы палахліва зумкнулі ад грукату ейных ботаў

Праз пару хвілін ля дзвярэй сталоўкі цяжка засоп і былы кінамеханік. Падагнаўшы матацыкл да слупа, ён таксама перавёў дых, мацюкнуўся, і шыбы зноўку зумкнулі, гэтым разам ад надрыўнага голасу Пятроўны

—Забірай сваю халеру! — загадчыца выставіла на ганак валізу, грукнула завалай і прашаптала тое ж нядобрае слова, якое хвілю таму прамовіў Лябёдка.

—Пятроўна давязу! — крыкнуў быў Лябёдка, калі загадчыца рушыла па дарозе, але тая махнула рукой, сiганула цераз кювет і неўзабаве знікла за прыдарожнымі кустамі.

Іван кашлянуў і выйшаў насустрач сябру

—А-а! Ваня! — Лябёдкава рука балюча сціснула пальцы — Вось, забыліся ўчора,— кіўнуў сябрук у бок валізы і выцягнуў з кішэні пачак «Беламору»

Папярос ны ў пачку былі пустыя Лябёдка паспрабаваў быў напхаць у адну з іх тытуню, але хутка кінуў гэты занятак і з уздыхам прысеў на ганак сталоўкі

—Ну як, чуў? — запытаўся сябрук, падсоўваючы да сябе валізу. Размова відочна ішла пра дзяльбу ўгнаенняў — Зноў за сведку выступаць будзеш? — рагатнуў Лябёдка, ляснуў чамаданнымі зашчапкам а Іван пасля такіх слоў незадаволена прыкусіў вусны

Летась, падчас таварыскага суда, на якім Фроську Траяніху судзілі, Іван у кінабудцы сядзеў, бо ў зале не было месца І вось, калі Мандрычыха пачала пытацца, хто бачыў бойку, усе, хто сядзеў у клубе языкі папрыкусвалі ды вочы ў падлогу панурылі Хвілін пяць так сядзелі, нават кашляць перасталі Тут у Івана язык і развязаўся Крыкнуў праз адтуліну, маўляў, ён бачыў аб усім распавесці можа Мандрычыха тады акрыяла, пачала нешта пытацца, а Іван адказваў у адтуліну гарлаючы

Пасля суда маці яго цэлы вечар прабірала, спрабавала нават вушы накруціць. Фроська ж ейная сяброўка была, а Іван на тую сяброўку невядома што нагаварыў

—Во бляха — вылаяўся Лябёдка, узняўшы чамаданнае вечка,— шэсць е пяць эс... так і знаў, што паб'ецца.

Выкінуўшы з валізы шкляныя аскалёпкі, былы кінамеханік ізноў мацюкнуўся, падняўся на ногі а Іван згадаўшы пра шапку, пабег здымаць яе са сцяны сталоўкі

З Дабранскай гары ляцелі, не адчуваючы пад сабою азадкаў. Вецер пругка біў у твары, душа сціскалася ў камяк, і рот неяк сам сабою адкрываўся Івану карцела спяваць, крычаць штосьці насустрач ветру, а аднаго разу, калі «Панонія», наехаўшы на грудок, адарвалася ад зямлі заманулася нават кусн уць ад захаплення Лябёдкаву спіну.

Яны ехалі ў Вялікарусію.

Ужо ад самой гэтай назвы павявала нечым патаемным. Гэтае «Р», гэтае «У», гэтае «С» працінал і разам з ветрам душу і казыталі яе трапяткім халадком Хоць Івану і раней даводзілася бываць у Вялікарусіі (ездзілі з маці ў Невель купляць партфель і чаравікі), але тое было даўно Ды і ездзілі яны на рэйсавым аўтобусе. А тут гналі на матацыкле, па прасёлачнай дарозе і не ў нейкі там Невель, а ў нязнаны і загадкавы Усвяцкі раён

Праехаўшы кіламетраў дзесяць-дванаццаць, «Панонія» пайшла з натугаю, з неахвотаю аглушальна страляючы выхлапнымі газамі. Гэтая страляніна ўзняла ў паветра навакольных гракоў і яны збіўшыся ў кучу, кружлялі ў вышыні, перабіваючы сваім граем матацыклетнае стракаценне Цiснучыся да Лябёдкавай спіны, Іван зірнуў угору і з усмешкаю на вуснах згадаў, як маці хрысцілася аднойчы, пабачыўшы над галавою гэтых чорных птушак

—Эй, што там у цябе? — гукнуў Лябёдка, тарганууўшы правым локцем

—Дзе? — не зразумеў Іван

—За пазухай! У спіну цісне..

За пазухай у Івана ляжалі ўкручаныя ў газеціну лусцікі.

—Хлеб з маслам. Узяў у дарогу,— растлумачыў Іван, а сябар, крутнуўшы галавой, ці то жартам ці то ўсур ёз, пракрычаў

—Лепш бы ты бутэльку ўзяў! Хлеба з маслам нам і так дадуць!

---

**Марштрупа, ён жа таварыш Маршрутаў, выхавацель Фарзун, кмс Шчабол, баец Манько, камісар будатрада Галабурда, Шверубовіч, Мазарыніха (памятаеце кардынала?), Лёнька-Каін, карэспандэнт акруговай газеты Штэрн, Юрка Бадуноў (малалетні п'яніца), русічка Марковіч, Лаліта Піліпаўна, выкладчык беларускай мовы і фізкультуры Абакумчык; Бабронак, васемнаццацігадовы абібок з цяжкім лёсам; кіроўца Струк, Аляксандр Карымавіч Якубовіч, алкаш Рыгор Гарашчэня, Міша з прастрэленым вухам, Цярэнцій Пракопавіч Бядак, старшыня прыгараднай гаспадаркі «Шчасліві быт»; «Смерць Сцяпана Кузьміча» (смерць функцыянера на ідэалагічнай глебе — А.А.), Іван Бянькоў (гэта Ванька — А.А.)...**

**Якая ўжо адно тут выбудоўваецца галерэя, якое трагікамічнае жыццё разгортваецца перад вачыма!**

**Шкада, што ў сваёй неамбіцыйнай нетаропкасці Вінцэсь на пэўны час затрымаўся і надрукаваў свае іранічныя партрэты Ванькі, Галабурды й іншых толькі цяпер. Гадоў пяць назад ягоныя аповеды прагучалі б гучней, ярчэй, а мо і патрэбней. Дзесяць гадоў назад іх і надрукаваць, бадай, не змаглі б, а мо й не схацелі б. Але цяперашняя іхняя патрэбнасць па-свойму не менш актуальная. Азіраючыся сёння назад, пісьменнік асэнсоўвае нашае агульнае смешна-горкае мінулае, пакідае ягоныя сляды ў літаратуры, якая, спадзяюся, пераж ыве нас і знойдзе чытача, удзячнага яму за зробленае, за праўдзівае й своеасаблівае адлюстраванне часу.**

**Алесь АСТАШОНАК**





# ПОЛАЦКІЯ ІРАНІЗМЫ

**Пісаць пра Вінцэся Мудрова — значыць пісаць і пра полацкі феномен, які з падачы літаратара Уладзімера Арлова займеў назоў «полацкага менталітэту».**

**Гэтаксама і пра феномен новага адгалінавання беларускага пісьменства, які назваў бы іранічнай прозай.**

**Таму паспрабую выславіцца пра дзве рэчы адразу. Пагатоў, з чатырох на сёння празаікаў-іраністаў (Уладзімер Арлоў, Алесь Асташонак, Пятро Васючэнка, Вінцэсь Мудроў) трое — палачане.**

**Традыцыю беларускае іраністыкі я не звязваў бы з лініяй смехавой культуры, бо гумар Мудрова і Арлова — з іншае плоскасці, чымсьці смех Мрыя або Крапівы.**

**Смех — эмацыйны стан, іронія — разумовы. Смех запаўняе ўсе атожылкі мастацкага свету, перайначвае, дэфармуе, перакульвае.**

**Іронія — спосаб пошуку адэкватнасці. Адэкватнасці тае рэчы, якую ў абыходку называюць «іроніяй лёсу», якая паміж тым — не банальная ідыёма, а ўстойлівая, метафізічная якасць экзістэнцыі.**

**Жыццё іранізуе. І таму ідэйна загартаваны камісар студэнцкага будаўнічага атраду Галабурда раптам адстае ад свайго камса-**

На чарговым пад'ёме «Панонія» яшчэ раз стрэльнула — хвацка, напята, раскаціста і Лябёдка, з'ехаўшы на ўзмежак праселіцы, заглушыў матор.

—Ну і гакае! Што пугаўём луліць,— захоплена зазначыў Іван, слухаючы гулкае рэха а злезшы з матацыкла, задаволена пацягнуўся.

Сябар між тым быў нечым устурбаваны Прыўзняўшыся на понажах, ён падняў сядзенне, выцягнуў з-пад яго нейкую брудную анучку, пасля чаго прыгнуўся і пусціў сліну на матацыклетны рухавік.

—На, збегай, змачы ў лужыне,— загадаў ён, працягнуўшы анучку і Іван, не цямячы навошта ўсё гэта трэба, пабег выконваць загад.

Пабоўтаўшы анучку ў халоднай вадзе, ён хацеў яе выкруціць, але пачуў вокліч — Не трэба! — і подбежкам вярнуўся да матацыкла.

—Грэецца, халера, аж нагу пячэ,— Лябёдка плюснуў анучу на распалены рухавік, і галава ягоная схавалася ў аблачыне смуродлівай пары

—Фу, бляха! — Былы кінамеханік паморшчыўся, паляпаў па сцёгнах, шукаючы папярос а згадаўшы, што курыва няма, мацюкнуўся і сеў на край узбочыны

Мясціны навокал былі глухія — ані людзей, ані паселішчаў — адно кусты, кусты, ды сямтам пракідваліся пералескі з цёмнымі елкамі ды беластвольнымі бярозамі Гэтае гулкае бязлюддзе і аслізлае нізкае неба над галавой нарадзілі ў душы няўцямную трывогу, таму Іван які таксама ўладкаваўся на ўзбочыне, падсеў бліжэй да сябра.

—Пажаваць чаго, ці што? А, Ваня?

Іван кіўнуў, пагаджаючыся з такімі словамі, памружыўся на сіні далягляд і толькі пасля таго, зразумеўшы намёк, выцягнуў з-за пазухі пакет з лусцікамі.

Потым яны елі хлеб з маслам, Лябёдка пры гэтым чытаў раённую газету, у якую был загорнутыя лусцікі, а прачытаўшы ўголас пра візіт Эрыха Хонекера ў Маскву абклаў таго мацюкамі і пусціў газету па ветры

—Кіламетраў дзесяць яшчэ,— крэкнуў Лябёдка, падымаючыся на нogі.— Вунь, за тым лесам — павернем на бальшак, а там ужо недалёка.— Лябёдка паставіў нагу на понаж, а іван перш чым асядлаць «Панонію», паглядзеў на неба. Угары ізноўку ўсхадзіліся гракі Надрыўна гарлаючы, яны кружлялі вакол «Зары камунізма», якая белай птушкаю ўздымалася над зямлёю.

Адбіўшы азадкі і ўдосыць наглытаўшыся пылу, яны выехалі на бальшак, павярнулі направа, і неўзабаве з-за пагорка ўсплыў дарожны ўказальнік з надпісам «Чурилово» Іван тыцнуў кампаньёна ў бок, пытаючыся такім чынам, ці не Усвяцкі гэта раён, і кампаньён сцвярджальна кіўнуў галавою.

Па вёсцы пракаціліся з шыкам, з форсам, разганяючы перапуджаных курэй і прымушаючы азірацца чурылаўскіх цётак. Ля сельмага Лябёдка, па старой звычцы, газануў, даў кругаля вакол нейкай кабеты і спыніўся ў лічаных сантыметрах ад сельмагаўскага парога

—Лётаюць як самашэччыя! І калі ўжо сабе галовы скруцяць? — азвалася за спіною кабета, і Іван, злазячы з матацыкла, падзівіўся з таго, што вялікарусы размаўляюць на той жа мове, што і бычкоўцы.

Кабета незадаволена пратупала да крамы, адчыніла рыпучыя дзверы, а следам за ёю ў краму ўвайшоў і Лябёдка. Івану таксама карцела зірнуць на тутэйшыя тавары, але навокал

мольскага цягніка і робіцца нявольнікам чорнага калмыцкага стэпу. Пасярод бязмежнага абшару, з марксісцка-ленінскімі догмамі ў галаве, з аграмадным кавуном у руках — безабаронны перад касмічнымі вятрыскамі быцця. Прызнаюся, што «Палонны Чорнага стэпу» — мой улюбёны аповед, Вінцэсь.

Мудроў не прыдумляе гумарыстычныя тыпы, а насяляе прастору сваіх навелаў «полацкімі мальцамі» — Адамам Марштрупам, Жэрарам, Галабурдам ды іншымі. Ён не рэстаўруе эпохі Брэжнева і сталага сацыялізму, а спрабуе разблытваць карункі іранічнага жыцця. Занятак — на працяглы час.

Жыццё паміж тым гуляе з намі, раскідваючы полацкіх літаратараў у розныя бокі і кантыненты. Сокалава-Воюша — у накормленую Амерыку, Уладзімера Арлова — у цэнтр Эўропы, званы Серабранкаю, Якуба Лапатку — у краіну Вяйнямёйнена, Мудрова — на абшары азіяцкае Расеі. Толькі для таго, здаецца, каб пасля пацягнуць іх, нібы магнэсам, да муроў старое Сафіі.

Дзіўная рэч. У самым сэрцы зрусіфікаванага рэгіёна, дзе самыя зацятыя прыхільнікі «расейскае ідэі», дзе ў краязнаўчым музеі дагэтуль распавядаюць экскурсантам на «великом и могучем» — ачаг добрага старога дысідэнцтва (да якога спрычыніўся калісь і Мудроў), найноўшая і досыць чынная беларуская дыяспара, нарэшце, штаб-кватэра «вольных літаратараў», да якіх літаратар-кобрынец Ігар Сідарук прыязджае ажно з іншага полюса Беларусі, з «Етвызі».

Споўненая парадоксамі і іранізмамі зямля. Як ёй было не спарадзіць іраніста Мудрова?

Пятро ВАСЮЧЭНКА





круціліся вясковыя падшывальцы і трэба было сцерагчы валізу. Ён наваліўся жыватом на сядзенне прытуліў да валізы вуха і, мружачыся, не раўнуючы як той кот Барыс, стаў глядзець на пашарпаныя крамныя дзверы. Дзверы доўга не расчыняліся, нарэшце разнасцежыліся, з іх выйшла дзябёлая кабета, якая, узяўшы рукі ў бокі, доўга азіралася, а згледзеўшы некага, сіпла галёкнула

—Манька, ты круп узяла?!

—Анягож! — адгукнулася нябачная Манька, і Іван, паслухаўшы ўсё гэта, пераканаўся, што вялікарусы ва Усвяцкім раёне размаўляюць на чысцюткай беларускай мове.

Лябёдка выйшаў з крамы хвілін праз пятнаццаць. Стоячы на ганку, сябрук надарваў пачак «Беламору», выцягнуў папяросу, а ўбачыўшы, што да крамы ідзе маладая жанчына, нядбайным рухам кінуў пачак Івану. Іван злавіў яго абедзвюма рукамі, але некалькі беламорын упала на пясок і эфект ад кідка быў змазаны.

—Жывем, Ваня! Працы — на месяц! — прамовіў Лябёдка, зірнуў краем вока на маладуху і, перахапіўшы з Іванавых рук пачак, стоена шапнуў· — Кабеньчыха. Перадапошняя хата направа.

Вёска Чурылава памерамі была — што тыя Бычкі Двароў восемдзесят-дзевяноста. Але ў адрозненне ад Бычкоў хаты стаялі ў поўным бязладдзі. аніякіх табе вуліц, так што пакуль знайшлі тую Кабеньчыху, давялося пакруціцца.

Падкаціўшы да патрэбнай хаты, яны змерылі вачыма тэлевізійную антэну, што тырчала над страхою. і заклапочана пераглянуліся: у глыбіні разлеглага, парослага лебядою двара заходзіўся ад брэху віславухі сабака. Каб не бянтэжыць гаспадароў, Лябёдка зняў з галавы шлем, прылашчыў валасы і, не рашаючыся ўвайсці ў двор, зычна кашлянуў. У адным з вакенцаў матлянулася фіранка, і праз хвілю-другую на парозе хаты з'явілася пахілая бабуля.

—Мы па выкліку! Тэлевізары рамантуем! — выгукнуў Лябёдка, але бабуля не пачула.

—Ну до табе, до! — крыкнула гаспадыня на сабаку і, прыбраўшы з вуха хусцінку, дробна затупала да весн ц.

—Тэлевізары, бабка, рамантуем. Прыехалі во. па выкліку,— Лябёдка страсянуў над галавою валізкай.

—Ага! Цілівізеры! А дзеткі ж вы мае, а што ж вы адразу не сказалі? — пляснула рукамі бабуля і таропка адчыніла брамку

Бабчын віславухі дварняк тым часам ужо асіп і брахаў з падвываннем.

—Ці сціхнеш ты, нячыстая сіла?! — прасіпела гаспадыня, падхапіла з-пад ног дубец, і сабака, пакрыўджана скавытнуўшы, спехам залез у будку

—І калі ўжо акалееш? — з гэтымі словамі старая піхнула рукою дзверы, і яны ўвайшлі ў хату.

У хаце было прыцемна — лямпачка пад столлю была заседжана мухамі, амаль не давала святла таму давялося цягнуць бабчын «Тэмп-6» да вакна і падключацца да разеткі праз падаўжальнік.

Тыцнуўшы ў Іванавы рукі літавальнік, майстар Лябёдка зняў з тэлевізара заднюю панель, пахітаў галавою і папрасіў у гаспадыні вільготную анучку — відавочна, каб сцерці пыл з лямпаў.

# Метамарфозы хлопчыка з «хорошей семьи»

Аднойчы ў Ялце, ля сіняй бухты, дзе ляжыць Максім Багдановіч, мяне наведала думка, што паэзія сапраўды здольная здзяйсняць дзіва. Бо я бачыў тое дзіва на свае вочы: мой раўналетак Віця, хлопчык з «хорошей семьи» савецкага афіцэра, што — як і належала сыну такой сям'і — зрываў урокі ніколі не вывучанай ім белмовы, у дзесятым класе грэбліва выкалупнуў нагой з сабранае піянерамі макулатуры Максімаў зборнічак, узяўся, скрывеліўшыся, быццам ад яблыка-дзічкі, чытаць, а потым пачаў пісаць на гэтай мове вершы, перартварыўшыся па часе ў аўтара дзвюх празаічных кніжак, якія былі вывуджаныя з каламутнай бухты нашай сучаснай літаратуры не толькі крытыкамі, але і сім-тым з рэдкага шэрагу вольных вудалёў-непрафесіяналаў, адкуль пачуліся слабыя галасы аб вылучэнні аўтара (разам з

Наступныя дзесяць хвілін майстар торкаў некуды правадкі, сочачы пры гэтым за стрэлкаю нейкага прыбора, а згадаўшы пра літавальнік, запытаў·

—Грэецца?

Літавальнік быў халодны Іван патузаў шнур, паварушыў вілку ў разетцы, але марна. інструмент не грэўся

—Эх, Ваня.. вучыць цябе яшчэ ды вучыць Стрыжань у літавальнік не ўпіхнуў таму і не грэецца,— хітнуўшы галавой, Лябёдка выдраў з тэлевізійных нетраў нейкую зялёную дэтальку, паглядзеў на гаспадыню і ўстурбавана правеў даланёю па твары

—Кандэнсатар згарэў Страшэнна дэфіцытная рэч. У мяне, праўда, ёсць адзін, але гэта для райкамаўскага тэлевізара. Там таксама кандзёр накрыўся

—Вы ж ужо·як-небудзь. — уздыхнула гаспадыня, матлянулася на кухню, і майстар пачуўшы бразгат шклянак за сценкаю, падміргнуў кампаньёну і задаволена падкінуў на далоні згарэлы кандэнсатар.

Праз паўгадзіны справа была зроблена У хаце пахла каніфоллю, пад столлю луналі пасмы белага дыму, а сцены хаты аж дрыжэлі ад грому вайсковага параду, які паказвалі па тэлевізары Узяўшы за работу тры рублі і запытаўшыся, ці патрэбная квітанцыя, Лябёдка зачыніў валізу і з дзіўнай рашучасцю накіраваўся да дзвярэй.

—Можа б, перакусілі чаго? — нясмела вымавіла ўслед яму бабуля

—Няма часу, бабка. Яшчэ пяць хат абысці трэба. Праўда. — Майстар павярнуўся да напарніка, змерыў яго позіркам і з разважлівай заклапочанасцю прамармытаў· — Іван галодны Цэлы дзень не піў, не еў Як ты, Ваня, перакусіш? — І не паспеў Іван адкрыць рота, як Лябёдка штурхнуў яго да стала, усадзіў на зэдлік і спрытным рухам адкаркаваў бутэльку «Прамяністага»

Яны выпілі па шклянцы, аддзьмуліся і захоплена ўтыркнулі відэльцы ў румяныя шкваркі якія сквірчэлі і стралялі тлушчам на патэльні.

—Кантрастнасць нармальная, толькі сняжыць крыху,— прамовіў, кульнуўшы другую шклянку, Лябёдка.— З Вялікалуцкага рэтранслятара сігнал кволы Наступным разам пад едзем — паспрабуем антэну на Віцебск павярнуць.

Гаспадыня заківала галавой, стоена ўздыхнула, і ўся яе пастава выдавала на тое. што ёй карцела нешта сказаць.

Карцела сказаць слова і Івану Выцершы рукавом сальныя вусны, ён павярнуўся да бабул і задаў пытанне, якое даўно ўжо спела ў яго на языку·

—А вы рускія?

Гэтае пытанне не на жарты ўсхвалявала бабулю. Старая шморгнула носам залыпала павекамі і няўпэўнена прашаптала:

—Рускія

—Рускія, а гамоніце па-нашаму· картошку бульбай называеце.

—А адкуль жа вы? — пацікавілася гаспадыня

—З Неўля мы, з тэлеатэлье,— адказаў за Івана Лябёдка і, храбуснуўшы шкваркай, стукнуў напарніка каленам па назе.

—А мы, дзеткі, і самі не ведаем — хто мы,— нечакана паżвавела бабуля — Мой Ляксей, царства яму нябеснае, расказваў Прыедзем, кажа, у Пскоў, пачнем там гаманіць, а скрабары смяюцца, кажуць. — Ізноў пылякі прыехалі! — старая перахрысцілася на цёмны кут аблашчыла майстра сцярожкім паглядам і прыцішаным голасам запытала·



—Можа б вы і маёй сястры цілівізер зрабілі?

Прапанова такая не здзівіла майстра. Ён адкінуўся ў крэсле, змучана аддзьмуўся і выцягнуў з кішэні пачак «Беламору»

—Непадалёку тут жыве, у Берасцянцы .. крайняя хата ля ракі Туды і дарога добрая — Старая дапытліва заміргала вачанятамі, а майстар, зірнуўшы на спісаны алоўкам пачак, гаротна ўздыхнуў

—Не магу. бабуля. У мяне тут толькі па Чурылаву пяць выклікаў Во глядзі,— майстар тыцнуў пальцам у пачак,— Ліхаманавы, Пракопаўна, Балабайка..

—Балабайку зяць зрабіў Учора прыехаў. — перапыніла Лябёдку гаспадыня, выбегла ў сен праз хвілю паўстала ў пройме дзвярэй з пляшкаю «Прамяністага».

З гасц ннай хаты Праскоўі Кабенькі — так звалі гаспадыню — выкульваліся, задаволена адрыгваючы вінам і цыбуляй. У паветры кружыліся сняжынкі, бабчын сабака прыязна махаў хвастом а сама гаспадыня, якая таксама кульнула чарку, не магла суняць расстайную слязіну

Ідучы да матацыкла, Іван падлічыў у галаве дзённую выручку, якую можна мець ад рамонта тэлевізараў потым уявіў тую кучу грошай і з захапленнем паглядзеў на камлюкаватую Лябёдкаву сп ну

—Дзядзькі, да нас зайдзіце! У нас таксама тэлевізар зламаўся І ў мяне зламаўся — разам загаманіла вясковая дзятва, калі яны падышлі да весніц. Падшывальцаў навокал сабралася не меней як тузін, усе яны аглушальна гаманілі, і Лябёдка, насунуўшы на голаў шлем ўкінуўшы ў рот папяросу, скрозь зубы працадзіў· — Зойдзем, толькі ў Берасцянку злётаем.

Прытарочыўшы да бензабака валізу, майстар вохнуў, паведаміў падшывальцам, што недапіты — гэта горш, чым недабіты, шматзначна кіўнуў галавой, і падшывальцы, умомант зразумеўшы той жэст, добрых тры кіламетры пяхалі матацыкл, аж пакуль той не завёўся.

Дарожны паказальнік з надпісам «Берестянка» трымаўся на адным цвіку, паказваючы сваім вострым канцом на прысыпаную рэдкім сняжком узбочыну «Ці не на той свет паказвае?» — падумаў Іван згадаў родную хату і ўпершыню пашкадаваў, што выбраўся ў гэтую вандроўку

Дарога на Берасцянку і сапраўды нагадвала дарогу ў пекла. Уся яна была разбітая коламі «беларусаў» глыбокія каляіны прыхапіла марозам, і ехаць па той праселіцы было папросту немагчыма Дапамагаючы сабе нагамі, Лябёдка коўзаўся на матацыкле па калдобінах, пругкі алешнік хвастаў яго па твары, і майстар, адплёўваючыся каляным лісцем, слаў праклёны на «беларусаў» нялюдскую дарогу і старую Кабеньчыху, якая яго ў тую дарогу выправіла.

Іван ішоў следам, прыцiскаў да грудзей валізку (знялі з матацыкла, каб не пабіць радыёлямпы) і вяла пасміхаўся: цяжка было ўтрымацца ад усмешкі, пазіраючы на Лябёдкавыя пакуты

Да вёскі дабіраліся цэлую гадзіну, пры гэтым два разы спыняліся, каб ахаладзіць рухавік, а выбіўшыся з кустоў на роўнае поле і ўбачыўшы на даляглядзе вясковыя хаты, Лябёдка, а следам за ім і Іван, зморана паваліліся на пасівелую ад марозу траву

Івана праўда, дарога не надта і стаміла на зямлю ён паваліўся хутчэй з пачуцця салідарнасці, а паляжаўшы хвіліну-другую, прыўзняўся на локці і азірнуў наваколле. Нават

**яговым калегам і земляком Пятром Васючэнкам) на яшчэ не ўстаноўленую прэмію імя Андрэя Мрыя.**

**Паміж гэтымі метамарфозамі наш герой паспеў ператварыцца з хлопца з «надежным» імем Виктор у недабранадзейнага «нацугу» Вінцэся й прычыніцца да айчыннага самвыдату.**

**Наогул, існуе так званая «пашыраная думка», што, маўляў, прынамсі апошнія трыццаць гадоў ніякага андэграўнду ў беларускай літаратуры не існавала. Супрацоўнікі камітэта дзяржбяспекі, што ў 1973–74 гадах займаліся аўтарамі наваполацкага самвыдавецкага альманаха «Блакітны ліхтар», наўрад ці гэтую думку падзяляюць. У пятнаццаці рукапісных нумарах (здаецца, нязменным перапісчыкам быў той самы Вінцэсь) змяшчаліся зусім не ўзоры «сацрэалізму». Урэшце, для графы «крамола» хапіла б і адной мовы, на якой у звышінтэрнацыянальным Наваполацку раптам ні з чога, ні з якога пачаў пісаць вершы добры дзесятак даўгагрывых гарадскіх бэйбусаў. А тут яшчэ і эротыка, і «Бітлы» з «Ролінгамі», і «чарнільная лірыка», накшталт трыялета «Парыж не бачыў я ніколі»:**

*Парыж не бачыў я ніколі*
*І ад таго чарніла п'ю.*
*Сумую я аб сваёй долі*
*Парыж не бачыў я ніколі*
*Бутэлька выпіта — даволі,*
*Сяджу на крэсле і пяю:*
*Парыж не бачыў я ніколі*
*І ад таго чарніла п'ю.*

**Гэта В.Мудроў.**

**Але, калі глядзець у корань, дык студэнты Наваполацкага політэхнічнага інстытута Вінцэсь Мудроў, Валеры Шлыкаў, Анатоль Рыбікаў, старшакласнік Андрэй Грабаў і іхнія сябры казалі ў сваіх вершах пра тое, аб чым большасць масцітых літаратараў адважылася сказаць толькі ў эпоху «гласности»: што «як раней мужык наш мае ўсё ў плямах сонца», што загналі ў кут і дабіваюць мову...**

*Размаўляю па-беларуску...*
*Як у трамваі глядзяць*
*на зайца,*
*Так глядзяць на мяне*
*этрускі*
*Ад Асвеі да Лунінца.*

**Гэта таксама В.Мудроў.**

**Адразу мушу астудзіць запал тых, каму заманулася пагрузіцца ў свет ідэй і вобразаў наваполацкага самвыдату пачатку 70-х. З часоў разгрому «Блакітнага ліхтара» ўсе ягоныя нумары даступныя адно літаратурным крытыкам з вайсковымі званнямі, для якіх за бяскрыўдным радком пра «бруд кастрычніцкіх дарог» паўставаў не элегічны восеньскі краявід, а маячыў артыкул крымінальнага кодэкса.**

**Такім чынам, вас, мудровазнаўцы XXI і наступных стагоддзяў, яшчэ чакае радасць пошукаў і адкрыццяў.**

**Уладзімір АРЛОЎ**

такім шэрым восеньскім днём мясціны навокал уяўляліся даволі маляўнічымі Роўнае поле пасярод яго стаяла згалелае дрэва, а леваруч, бліжэй да вёскі, бліскала між кустоў ці то рачулка, ці то азярына

—Ловаць. Вялікая рака,— выдыхнуў Лябёдка, перахапіўшы Іванаў позірк.— Я тут летась рыбу лавіў.

Колькі часу яны ляжалі моўчкі, смалілі папяросы, аж пакуль Лябёдка не мацюкнуўся і не падхапіўся на ногі

—Усё! З бальшака цяпер ні на крок... І грошы буду браць па прэйскуранту! — прамовіў ён, шпурнуўшы недакурак, і гэта азначала, што хмель выпетрыўся з Лябёдкавай галавы, і настрой з тае нагоды канчаткова сапсаваўся.

.. Берасцянка — невялічкая, не болей дзесяці хат вёска — упіралася сваім канцом у рачны бераг Памятаючы словы бабці Парасі, кампаньёны, не пытаючыся дарогі, паехалі ў накірунку да Ловаці, а ўбачыўшы на крайняй хаце шост з пакарабачанай антэнай, рашуча завярнулі ў двор. Лябёдка па-майстэрску дакладна ўпісаўся ў вузенькія весніцы, узняў у паветра курэй, загнаў на страху вялізнага чорнага ката і, выклікаючы гаспадароў, да ўпору крутнуў ручку газу Лябёдка, відаць, добра напужаў гаспадароў, бо яны доўга не высоўваліся, а калі нарэшце прачынілі дзверы, дык у дзвярную пройму можна было ўпіхнуць хіба што нос Нос, дарэчы, і вытыркнуўся з праймы, і Лябёдка, маракуючы, каму ён мог належаць — мужчыну ці жанчыне, прыязным голасам вымавіў·

—Вам прывітанне ад сястры.

Пройма пашырылася, з цёмных сяней вытыркнулася ссівелая бабуля, якая здзіўленаплаксівым голасам запытала:

—Якой гэта сястры?

—Якой-якой. Кабеньчыхі, халера старая,— буркнуў Лябёдка, вырваў з Іванавых рук валізку і, бачачы, што гаспадыня па-ранейшаму з недаверам лыпае вачыма, дадаў: — З Неўля мы, з тэлеатэлье. Тэлевізары рамантуем.

Зірнуўшы на Лябёдкавы шлем, гаспадыня паспрабавала прычыніць дзверы, аднак Лябёдка паспеў упіхнуць нагу ў дзвярную шчыліну і з усёй рашучасцю ўвайшоў у сені

—Давай, бабуля, гатуй пачастунак, а то ў нас часу няма,— загрымеў праз хвілю ў святліцы ягоны голас, і Іван, азірнуўшыся на бокі, падаўся ў хату

У Кабеньчысінай хаце было цёмна, няўтульна, а тут панаваў парадак, пахла нейкімі зёлкамі, а на засланым белым абрусам стале красаваліся папяровыя кветкі ў зялёнай вазе. Тэлевізар таксама быў заслані абрусам, і Лябёдка, не рашаючыся зняць яго сваімі бруднымі рукамі, з нецярплівасцю паглядзеў на гаспадыню. Бабуля ў сваю чаргу паглядзела на Івана потым перавяла позірк на валізку, а ўпэўніўшыся, што перад ёю сапраўдныя майстры увішна падхапіла покрыўку

—Даччын цілівізер,— паведаміла старая, змахнуўся пыл з тэлеэкрана.— Сабе новы ўзяла, а мне ўжо гэты Прывезлі з зяцем, уключылі... Як тут былі, дык рабіў, а як з'ехалі, дык зламаўся.— Бабуля ўздыхнула, склала ў дзве столкі абрус, а ўбачыўшы, што майстар роблена аддзьмуўся, дэманструючы, што такія размовы яму добра-такі надакучылі, ціхенька сышла на кухню.

—Памру зараз.. — прасіпеў Лябёдка, паднёс штэпсельную вілку да разеткі, але нечакана сумеўся і страсянуў вілку ля вуха

—У вас тут мужчыны ёсць? — крыкнуў, звяртаючыся да бабулі, майстар, і голас ягоны сведчыў за тое, што калі яму зараз не нальюць пахмяліцца, ён і папраўдзе памрэ.

Гаспадыня, відаць, адчула настрой тэлемайстра, бо ў тое ж імгненне на кухні бразнулі шклянкі і аглушальна засквірчэлі яйкі на гарачай патэльні.

—Якія там мужчыны!.. Бабы ды два дзяды.. Базылю восемдзесят, а Хамёнку яшчэ больш Японскую памятае.

Майстар выпусціў праз нос паветра, варухнуў кадыкам і з нейкай раз'юшанай апантанасцю пачаў раскручваць штэпсельную вілку

За вакном сутоньвалася. Снежныя крупы стукалі па шыбе, у коміне галасіў вятрыска, і ад усіх гэтых зыкаў Івану зрабілася не па сабе.

«І калі ўжо вернемся? — падумаў ён, панылымі вачыма азіраючы хату.— Трэба было хоць цыдулку напісаць, каб маці не хвалявалася».

Іван затрымаў погляд на ходзіках, што цікалі пад столлю, і з грудзей ягоных вырваўся пакутлівы ўздых. Гадзіннік паказваў палову трэцяй: акурат гэтым часам маці вярталася з дзённай дойкі. «Пабачыць, што мяне няма, і да цёткі Авадзіхі пацягнецца, а потым да Міронаўны. Тая і скажа, з кім я паехаў...» — Іван уявіў, як роспачна будзе лаяцца маці, як яна, зганяючы злосць, будзе ганяцца з ручніком за катом Барысам, і, заняты сваімі думкамі, не пачуў Лябёдкавага вокліку·

—Эй, Ваня, ты што, заснуў?





У святліцы грала музыка, на кухні сквірчэлі шкваркі, а на тэлевізійным экране каласілася жыта стройным шыхтом ішлі камбайны.

«Рублёў дзесяць здзярэ. І віна вып'е пад самую завязку»,— незадаволена падумаў Іван, з дакорам зірнуў на сябра, але той, насуперак ягоным меркаванням, ад грошай адмовіўся.

—Схавайце свае рублі ..— кінуў Лябёдка, згледзеўшы ў бабчыных руках пакамечаны трульн к — З-за такога рамонту і квітанцыю неахвота выпісваць. . Чарку мо вып'ем, калі нальецце

—Нальем... нальем, а як жа не наліць,— узрадавана замітусілася старая,— ёсць і чарка, і да чаркі . — І падхапіўшы па дарозе чапялу, гаспадыня кінулася да печы

Пілі ел стоячы, бо расседжвацца не было часу Бабця Мар'яна (так сябе назвала гаспадыня) выставіла на стол бутэльку «чарніла», а таксама яешню і саган гарачай бульбы на закуску. Бегаючы за матацыклам, Іван добра-такі выгаладаўся — бульба са шкваркамі проста раставал ў роце Згаладнеў і сябар. Налягаючы на бульбу — аж нос угінаўся,— Лябёдка хапаў ротам паветра, варушыў коўцікам і пры гэтым няўцямна мармытаў:

—Думаеш калі ў мяне брат... у тэлеатэлье працуе. . дык мне дэталі дарма дастаюцца . га? — За адзін трансфарматар... дзве бутэлькі аддаў

За лічаныя хвіліны яны выцерабілі саган бульбы, праглынулі яешню, асушылі ад тлушчу патэльню, і ўвесь гэты час гаспадыня стаяла пасярод кухні, пазіраючы на майстра, не раўнуючы як на М колу-угодніка Выдавала на тое, што яна хоча нешта сказаць, і майстар, бачачы такую нерашучасць, запытальна міргнуў левым вокам.

—Дачка ж павінна прыехаць. Хачу ёй аполец сала даць ды якіх кілбас...— выдыхнула, нарэшце гаспадыня і нібыта спужаўшыся ўласных слоў, заціснула рот ражком паркалёвай хусткі

Яны счакалі хвіліну, спадзеючыся, што старая скончыць сваю думку, але тая маўчала, і Лябёдка кіўком галавы ўхваліўшы такія жадункі, разліў рэшткі віна па шклянках.

—Дапіваем і йдзем, а то матор астыне. Піхай тады . да самага дому,— рука Лябёдкавая пацягнулася за шклянкай, ды нечакана застыла ў паветры

—Можа б вы мне, мальцы, кабана закалолі? — пудка запыталася гаспадыня, шморгнула носам, а згледзеўшы на майстравым твары разгубленасць, нахілілася і выцягнула з тумбачкі вялізную закаркаваную газецінай бутлю.

## III

Спусцісты, паросли густым лазняком бераг пачынаўся адразу за хатай. Панурыўшыся ў кустоўе, Іван расшпіліў прарэх, гучна выпусціў паветра і падуладны нервовым дрыжыкам струмень ягоны шапатліва ўдарыў па лісці.

Іван хваляваўся Нават далоні ўспацелі. І хвалявацца было з чаго: кабаноў ён зроду не рэзаў. Ды што там кабаны.. Ён і курыцы засекчы не даваў рады. Летась цюкаў пеўня, дык траха без пальцаў не застаўся, і певень, з рук вырваўшыся, узбіўся, безгаловы, на маці і новую спадніцу скрываўіў Ну, а Лябёдка, хоць і напляў гаспадыні, што за сваё жыццё дванаццаць свіней прыкончыў, але ж пры гэтым на бокі азіраўся і вусны прыкусваў Дзе яму было іх прыкончваць, калі ў Лябёдчыхі ў двары апрача чатырох курэй ды аблезлага ката анічога больш не вялося.

Дзесятым разам уздыхнуўшы, Іван падцягнуў штаны і пачуў, як недзе непадалёку гэтак жа роспачна ўздыхнуў Лябёдка.

—Нічога, Ваня, прарвемся!

Яны вылезлі з кустоў, і Лябёдка, прысмаліўшы «беламорыну», стаў знаёміць Івана са сваім планам.

—Заходзім у хлеў, прывязваем да задняй нагі вяроўку і на двор выпускаем. Ты яго за нагу трымаеш, а я ..— акінуўшы вачыма наваколле, Лябёдка засяродзіўся на агароджы, што атачала бабчын падворак,— гакну калом між вушэй, а як скапыціцца — нож у горла.

—Бабуля казала, у яе швайка ёсць. Так што лепш пад левую лапатку. Крыві не будзе, і надзейней...— падзяліўся сваімі думкамі Іван, і кампаньён, пачухаўшы за вухам, няўпэўнена прамармытаў: — Ты думаеш?

На хаду яны дасмалілі папяросы, паплявалі на рукі і, падышоўшы да агароджы, удваіх сталі расхістваць кол, які на добры метр быў увагнаны ў зямлю. Рабіў гэта Іван з асаблівым натхненнем, радуючыся што калоць кабана давядзецца з рэшты рэшт не яму, а Лябёдку

—Эх, Ваня-а! Куснем свежанінкі, самагонкі сёрбнем... Жыццё! — адным духам вымавіў кампаньён, калі кол быў, нарэшце, выцягнуты Іван лізнуў параненую руку — у калу тырчэлі цвікі — перавёў дых і, згадаўшы дом, з маркотаю прамовіў:

—А дахаты калі?

—Заўтра, Ваня, заўтра. У Мар'яны хата вялікая — месца пераспаць будзе,— узваліўшы на карак альховы друк, Лябёдка шырокім крокам рушыў на бабчын падворак.

Кабан ляжаў у сваім катуху і ціха рохкаў

«Пудоў дзесяць будзе»,— падумалася Івану, калі ён адчыніў загарадку і ўвайшоў у катух. У катуху было цёмна і душна. Агледзеўшыся, ён разблытаў нягнуткімі пальцамі вузельчык на вяроўцы і нечакана пудліва падскочыў над галавой ягонай, кранушыся кіпцюром вуха, узлятала ашалелая курыца. Спорна б'ючы крыламі, хахлатка вылецела на двор, загарлала на ўсю сваю глотку, і бабка Мар'яна, прыструньваючы гэтую вар'ятку, абурана вымавіла. — Кыш, каб цябе парвала! — Праз імгненне курыны лямант пачуўся дзесьці на другім канцы двара і неўзабаве змяшаўся з металёвым шоргатам знадворку. Гэта Лябёдка, седзячы на ганку хаты, тачыў нажы і швайку

Змахнуўшы з лоба халодны пот, Іван зірнуў на дарэшты заседжаную курасаднію памацаў падзертае вуха і, прысеўшы на кукішкі, паклаў далонь на цёплы вепручыны азадак. Вяпрук крыху здрыгануўся, задзёр лыч і гэтак жа, як і ён, Іван, пакутліва ўздыхнуў

«Ляжыць, уздыхае. пра нешта думае. І пра што, цікава можа думаць кабан?» — Іван прыслухаўся да металёвага шоргату, правёў рукавом па мокрым носе і з дрыготкаю ў голасе прашаптаў

—Выбачай, брат скончылася твае жыццё.

—Ну, як ты там? — пачуўся той хвіляй незадаволены Лябёдкавы вокліч

Іван прыўзняў вепручыную нагу, таропка накінуў зашмаргу, і кабан, які дагэтуль ляжаў незварушна, нечакана падхапіўся на ногі, рынуўся да адчыненай загарадкі давялося клікаць на дапамогу Лябёдку, каб загнаць свавольніка назад у катух.

Зачыніўшы загарадку, Лябёдка рушыў да матацыкла — зліваць бензін для лямпы, а Іван прывязаўшы канец вяроўкі да ручкі дзвярэй, падняў з падлогі пабіты марозам яблык.

—Пачастуйся наастачу,— прамовіў ён, наторкнуўшы яблык на дубец і працягнуўшы вепруку

Вяпрук схапіў пачастунак, страсянуў вушамі, закідваючы яблык на зуб, а раскусіўшы. замёр на імгненне. Ён, відаць, разважаў — ці варта есці тое, што раскусіў, а зразумеўшы, што варта, рохнуў на знак падзякі і з насалодаю зачвякаў шырокай зяпай, пускаючы яблычны сок па адвіслым падбароддзі Кабан чвякаў з такім смакам, з такой асалодай, што ў Івана нават звяло сківіцы, і ён, плюнуўшы пракіслай слінай у свінячы лыч задуменна прамармытаў

—І як цябе забіць, халеру?

На двары тым часам усё было гатова. На ганку ляжалі наточаныя нажы, запраўленая з панонієўскага бака лямпа гатовая была вырыгнуць сіняе полымя, там жа, ля ганку. ляжаў абярэмак саломы, а пасярод двара стаялі вялізныя ночвы для трыбухоў

—Толькі ж. . мальцы каб ён толькі не вішчэў...— падавала голас бабця Мар яна, якая мыла гарачай вадой эмаліраваную мядніцу.— А то ж у мяне ад таго віскату сэрца абрываецца...— Бабця пабоўтала рукою ў мядніцы, зірнула на майстра і дадала — Увесну мужыкі яго лягчалі, дык я ў хаце хавалася ды падушкаю галаву накрывала.

—Будзеце наступным разам лягчаць — мяне клічце! — адказаў на тое Лябёдка мацаючы пальцам наточаную швайку — Я іх лягчаю за адну секунду — Лябёдка запіхнуў швайку за халяву кірзачоў, падняўся з парога і, убачыўшы недавер у бабчыных вачах, п'янаватым голасам растлумачыў — Бяру бочку кладу прынаду. . парсюк туды лезе, я стаўлю бочку стырчма і . — майстар паказаў рукамі, як ён абразае тое, што трэба абрэзаць, як ён кідае тое праз левае плячо, і бабуля, уражаная такім аповедам, плюхнула ваду з мядніцы на свае апоркі

..Напачатку ўсё ішло па плану Зацягнуўшы пятлю, Іван наматаў на руку канец вяроўкі пералез цераз загарадку і, усхвалявана паравеўшы дых, адчыніў мыскам чаравіка непадатную зашчапку Кабан толькі гэтага і чакаў Спатыкаючыся няўклюднымі нагамі аб карыта ён выйшаў з катуха, вытыркнуў на двор галаву, але далей не пайшоў — захрас у дзвярах, утаропленa пазіраючы то на Лябёдку, то на альховы друк, што ляжаў пасярод двара. На вядро з запаркаю, якое Лябёдка трымаў у выцягнутых руках, кабан не звяртаў аніякае ўвагі

—Цых, цых, цых,— клікала бабуля Мар'яна свайго гадунца.

—Еш, гад! — гукаў Лябёдка, кідаючы едзіва ў парсючыны лыч

—Пайшоў, падла! — з натугаю выдыхаў Іван, піхаючы кабана нагою ў азадак, але кабан не прасоўваўся ні на крок.

Ці мала часу яны ўгаворвалі парсюка выйсці з хлява, піхалі яму пад лыч вядро з запаркаю. аж пакуль Лябёдка, згубіўшы ўсялякае цярпенне, не насунуў тое вядро на парсючыную мазгаўню і, мацюкнуўшыся, не выцяў нагою па нахабнае пысе. Кабан заенчыў, потым зарохкаў і панурыўшы сваю палітую калатушай галаву, рушыў насустрач Лябёдку. Хада вепрука была такая рашучая, што ў Івана нават прабеглі мурашкі па спіне, а бабця Мар'яна, якая стаяла на парозе хаты, спалохана войкнула.





Лябёдка між тым не губляў прысутнасці духу. Не спускаючы з кабана вачэй, ён паволі адступаў, шнарачы пры гэтым то адной, то другой нагою па зямлі ў пошуках выратавальнай дубіны

—Уцякайце, ён куслівы! — крыкнула бабуля. Лябёдка падхапіў з зямлі кол, ступіў крок назад і зачапіўшыся за ночвы, паваліўся на зямлю.

—А людцы мае добрыя, а што ж гэта робіцца!? — залямантавала старая. Іван адчайна, аж да сінечы ў руках, нацягнуў вяроўку, а Лябёдка, які ляжаў у ночвах і біў нагамі ў паветры заехаў віславуханму нагою ў лыч. Вяпрук завішчэў, хапануў крыўдзіцеля за мысок кірзавага бота, і ўжо Лябёдка, выкуліўшыся з начовак, загарлаў што меў моцы, клянучы кабана самымі страшнымі словамі Паквітаўшыся з Лябёдкам, кабан пайшоў назад у свінушнік, а Іван, убачыўшы гэта, сігануў у катух і зачыніў загарадку

Альховы кол абрынуўся на вепручыную галаву акурат у той момант, калі кабан падышоў да дзвярэй Удар атрымаўся такі хвацкі, што свавольнік нават не віскнуў, адно толькі страсянуў вушамі і паволі апусціў галаву на вышчарблены парог хлеўчука. Праз імгненне ўсё было скончана. Не паспеў Іван вылезці са схову, як Лябёдка, аблаяўшы яго тымі ж словамі, якімі надоечы абклаў вепрука, задзёр кабану пярэднюю нагу і загнаў у парсючынае цела гостра наточаную швайку Кабан задрыгаў нагамі, затрос адвіслым чэравам, але глядзець на тыя курчы доўга не давялося, бо побач з кабаном заходзіўся ад болю няўдалы разнік. Скрывіўшы твар, ён скакаў на адной назе вакол ночваў і, махаючы скрываўленай швайкай, пачынаў мацюкацца Давялося падстаўляць плячук і дапамагаць сябру зняць з пакусанай нагі скарэлы кірзач. Кірзач не здымаўся, і тады бабця Мар'яна, ачуўшыся ад сполаху, здушана прамовіла:

—У хату зайдзіце, можа, перабінтаваць трэба.

У хаце Іван сцягнуў з Лябёдкавай нагі абутак, Лябёдка паварушыў пасінелымі пальцамі і на ўсялякі выпадак змазаў пакусанае месца ёдам з пляшачкі, якую дала бабуля

—А ўсё ж такі я яго ўмачыў! — зазначыў Лябёдка, зірнуўшы на бутлю самагонкі. У голасе ягоным гучалі пераможныя ноткі — Зараз абсмалім, разбяром...

—Вы ж глядзіце, кішку перавяжыце,— незадаволена буркнула бабуля, выкочваючы ў сені кубел пад сала, і Лябёдка, не надта, відаць, цямячы — што там трэба перавязаць, падхапіў шклянку і гэтаксама незадаволена адказаў — Перавяжам.

Яны чокнуліся, і немы лямант гаспадыні, што прагучаў знадворку, супаў са звонам чарак.

—А людцы мае добрыя! А што ж гэта.. А куды ж ты падзеўся!?

На хаду глытаючы трунак, Лябёдка кінуўся да дзвярэй, а следам, падхапіўшы сябруковы кірзач, рынуўся ў сені й Іван.

—А што ж гэта такоя-а!! А ці ж не цябе я карміла-гадавала-а?!

Яны вылецелі на ганак і ачмурэлымі вачыма пaглядзелі спачатку на бабцю Мар'яну, потым на перакуленыя ночвы і на пляму крыві ля дзвярэй свінушніка Кабана, якога яны збіраліся смаліць, на двары не было.

—Укралі-і! Укралі ж майго парсючка-а!! — галасіла старая, і ад гэтага лямaнту стыла кроў у жылах, сцягвалася скура на лобе, і гарачыя голкі калолі ў пахвіне.

Тупкая сцяжына, што вяла са двара да весніц, была пазначана крывавай пасмай, крывёю былі запырсканы і самі весніцы, і Лябёдка, перш чым кінуцца за кабаном, сціснуў кулакі і кляцьвенна выдыхнуў

—Далёка не ўцячэш!

Іван ляцеў, не гледзячы ні вока, ні бока, а паперадзе, прыпадаючы на босую нагу, бег, як жару хапіўшы, былы кінамеханік Лябёдка.

Крывавы след кіраваў да берага ракі. Перагнаўшы сябра, Іван першым уляцеў у кусты, спыніўся на імгненне, каб падняць згубленую вепруком вяроўку, і сябра, наляцеўшы на яго, засоплена вылаяўся:

—Чаго ты тут, халера, пад нагамі...

Іван пацёр пабіты азадак, застагнаў, падхапіў вяроўку і так — з вяроўчынай у адной руцэ і з кірзачом у другой,— дадыбаў да вады

—Вунь ён, сука, на дне ляжыць! — не сваім голасам гукаў Лябёдка, апантана ўглядаючыся ў рачную плынь. Яшчэ праз імгненне сябрук ускочыў на камень, няўклюдна махнуў рукамі і нечакана плазам паляцеў у ваду Халодныя пырскі ўзняліся ў халоднае неба, разляцеліся ва ўсе канцы і крануліся Іванавага твару

—Слізка, халера... лёд пад нагамі...— выгукнуў паміж мацюгамі Лябёдка і вокрачч у вылез на бераг. Не падымаючыся з каленяў, ён працягнуў Івану нецярплівую руку, а Іван, не зразумеўшы, што трэба напарніку, прапанаваў таму кірзавы бот.

—Вяроўку дай, йо. .— вылаяўся сябрук, схапіў вяроўку і, насунуўшы пятлю на цэўку рукі, зноўку папоўз да вады.

—Трымай, зашмаргу накіну...— Лябёдка чхнуў, страсянуў голай пяткай, і Іван, зразумеўшы такі жэст, ухапіў сябра за ногі.

Наперадзе, метрах у трох ад берага і папраўдзе штосьці бялела. Лябёдка ўвайшоў на руках у ваду, замер на імгненне, не раўнуючы як той кабан, раскусіўшы яблык, потым зноўку чхнуў і паехаў на руках, слізгаючы далонямі па коўзкім дне. Іван зрабіў высілак выцягнуць сябра на бераг, пры гэтым наступіў на вяроўку, і сябра, пусціўшы бурбалкі, адчайна ўдарыў яго пятою ў пахвіну. Ад удару пацямнела ўваччу, падкасіліся ногі, і цяпер ужо Іван, паслізнуўшыся, з усяго маху абрынуўся ў Ловаць.

Ад ледзяной вады заняло дух і халоднымі шчымётамі сціснула сэрца. Пачабохтаўшыся ў рацэ, Іван ухапіўся рукою за Лябёдкавыя штаны, потым за нейкі кусцік і, коўзаючыся на каленях па лёдзе, вылез на бераг.

—А навошта ж я цябе карміла-паіла-а! А навошта ж я цябе дала калоць гэтым няўпрочынаам! — надрываўся ў кустах бабчын голас.

—Ну, што стаіш, як усраўшыся? — адплёўваючыся тванню, выгукнуў Лябёдка — Бяжы цягні якую жардзіну!

Іван памкнуўся бегчы, але ногі амаль не гнуліся, і давялося шыбаваць на паўсагнутых, ляскаючы зубамі і сцепанаючыся пасля кожнага парыву ветру Выламаўшы жардзіну, Іван згледзеў дзвюх цётак, якія беглі да рэчкі і, не цямячы, відаць, хто патануў, заломвалі рукі і гэтак жа, як бабця Мар'яна, нема галасілі Ад гэтага ляманту Івану нават зрабілася горача, ногі набылі былую гнуткасць, і ён, узняўшы жэрдку над галавой, як гэта робяць афрыканскія тубыльцы, на злом галавы рынуўся да берага

Лябёдка падхапіў жэрдку, крутнуў яе, перакідваючы з рукі на руку, і пры гэтым заехаў адным канцом у лоб асіплай ад крыку Мар'яны. Бабка ўражана аціхла, жэрдка торкнулася ў ваду, і па тым гуку, які даляцеў з рачных глыбіняў, можна было зразумець, што на дне ляжаў не кабан, а вялікі камень.

—Што рабіць будзем? — улякнута запытаўся Іван, калі яны адбеглі метраў на дваццаць ніжэй па цячэнні.

—Што-што... Кіпці драць, пакуль нумары не згледзелі! —Лябёдка шпурнуў жардзіну ў раку, загадаў Івану прыхапіць ягоны бот і, прыгнуўшы голаў, кінуўся, прадзіраючыся скрозь кусты, у накірунку да хаты

Іван дагнаў кампаньёна ўжо за вёскаю. Свецячы голай пяткаю, кампаньён бег, пхаючы матацыкл, на хаду націскаў на понаж, спрабуючы завесці свой драндулет, і пры гэтым прыкметна накульгваў на левую нагу.

—Абуваць... будзеш? — гукнуў Іван, махаючы ў паветры кірзачом.

—У кусты заедзем — тады,— кінуў праз плячук кампаньён, не збаўляючы тэмпа.— Давай лепш. падпіхні! — І Іван, ушчаперыўшыся зубамі ў халяву Лябёдкавага кірзача, вызваліў такім чынам рукі і ўпёрся абедзьвюма рукамі ў сядзенне «Паноніі»

Заехаўшы ў кусты, спыніліся, каб выкруціць мокрую вопратку Іван выліў з чаравіка ваду, выкруціў кашулю, майку і шкарпэткі Нагавіцы выкручвалі на пару з Лябёдкам і круцілі іх да тае пары, пакуль тыя не затрашчалі.

—Н-не п-памятаеш, п-пад якую л-лапатку я ям-му ўляпіў? — запытаўся сябра, калі штаны былі выкручаны.

Згадваючы, пад якую лапатку была загнаная швайка, Іван зірнуў угору, страсянуў мокрай чупрынаю і, набіраючы паветра для чыху, вымавіў:

—У правую.

—Пра-авую...— перадражніў кампаньён, сморкнуўся ў жменю і, выцягнуўшы з кішэні размяклы трульнік, прыляпіў яго на голую лытку.

Іван хацеў сказаць нешта ў сваё апраўданне, але сківіцы звяло ад холаду Ён зірнуў на дрыжачую Лябёдкаву лытку, чхнуў другім разам і выцер вільготнаю майкаю ссінелыя вусны

Матацыкл тым часам аніяк не заводзіўся. Каб яго завесці, патрэбны быў разгон, роўная дарога, яны ж лезлі па такіх калдобінах, што ў Івана ад натугі нават халодны пот на лобе выступіў. Угрэўся і гаспадар «Паноніі». Лябёдка глуха соп, штохвіліны пляваўся, клянучы пры гэтым «пердуна» (так ён называў матацыкл), кабана і ўсвяцкіх «пылякаў».

Вятрыска, які дзьмуў у спіны, праймаў да касцей, увушшу гуло і звінела, у вачах мільгацелі чорныя мятлушкі, і піхаць «пердуна» ўжо не ставала моцы. Нейкая хваравіта-млявая стома разлівалася па целе; Іван не столькі пхаў матацыкл, колькі абапіраўся на яго, каб лягчэй было ісці.

—Нічога, Ваня, зараз бальшак будзе.. там дарога пакатая . завядзёмся...— мармытаў Лябёдка, і голас ягоны зморана булькацеў у горле.

Калі да чурылаўскага бальшака заставалася не болей, чым паўкіламетры, наперадзе бліснула святло, і натужліва застагнала машына. Каб не трапляць абы-каму на вочы, яны збочылі з праселіцы, прыхаваліся разам з матацыклам за кустамі





Па прасёлку кратаўся, абмацваючы наваколле святлом фараў вуркатлівы уазік. Лябёдка праводзіў легкавік дапытлівым позіркам, жарынкі падфарнікаў ліхаманкава заскакалі ў ягоных вачах, і ён, утуліўшы голаў, ледзь чутна прашаптаў:

—Ці не менты паехалі?

Цяжка сапучы, яны выкацілі «пердуна» на чурылаўскі гасцінец Пхнуўшы матацыкл апошнім разам, Іван паваліўся на халодны жвір, заплюшчыў вочы і па шоргату шын адчуў, што Лябёдка павярнуў не направа, у бок Чурылава, а ў супрацьлеглы бок.

—Праз Рамні паедзем. У Чурылаве павязаць могуць. Бачыў, уазік паехаў? — Лябёдка тарганул нагою понаж, але матацыкл нават не чхнуў.— Уставай, Ваня, кіламетраў праз пяць вёска будзе — там і заначуем.

...Ён ішоў, не адчуваючы пад сабою ног Колькі разоў яго заносіла ў прыдарожную канаву ён падаў, хвіліну-другую ляжаў нерухома і, лізнуўшы перасмяглым языком заінелую травіну, падымаўся і зноўку тупаў па дарозе.

Лябёдка быў недзе далёка наперадзе. Калі-нікалі з цемры даляталі кароткія мацюгі, а потым усё аціхла, і навакольныя зыкі патанулі ў замарачным шуме, якім поўнілася галава. І не чуў Іван ні шоргату ўласных крокаў, ні шапацення алешніку, ні брэху сабак удалечыні, і замарачны шум, які апанаваў свядомасць, здаваўся яму пошумам вады ў інтэрнатаўскім душы Ён стаяў пад цёплым дожджыкам, вада лілася на грудзіну, на плечы, казытліва збягала па спіне, і настылая душа ягоная расцякалася разам з вадою ў акіяне цеплыні і лагоды. Паваліўшыся ў траву, ён на кароткую хвілю апрытомнеў, размежыў павекі, але ўжо ў наступнае імгненне замарач ізноў апанавала свядомасць, і хваравіта-чырвоная імгла ізноў замітусілася ў вачах.

—Ваня, ты што?! — усё адно як з пустой бочкі прагучаў знаёмы голас.— Падымайся... Недалёка ўжо... агні вунь свецяцца.

Яго падхапілі пад пахі, некуды пацягнулі, барвовы туман клубіўся навокал, і гарачкавыя патарочы падымаліся з туману, трывожачы душу сваімі неакрэсленымі і страшнымі абрысамі.

Свядомасць вярнулася знянацку. Ён надзіва выразна пачуў ракатанне рухавіка і адрывістыя галасы.

—З моста зваліліся Мокрыя ўсе...— сіпла гукаў Лябёдка, і ў адказ яму нехта кашлянуў і гэтксама прастуджана прамовіў: — Ну, дзе ён?

—Тут. трызніць ужо. Два кіламетры на сабе цягну

Яго зноўку падхапілі, павялі да машыны, і ён, баючыся страціць прытомнасць, перастаўляў непаслухмяныя ногі, хілячыся галавою да шырокага Лябёдкавага плечука.

## IV

Прачнуўшыся, Іван акінуў хату няўцямным позіркам і са здзіўленнем адчуў, што цела ягонае зрабілася бязважкім і што ён не чуе ні рук, ні ног Адчуванне гэтае было такое яскравае, што Іван нават баяўся паварушыць чэлясамі: а раптам іх і сапраўды няма. Адарваўшы патыліцу ад падушкі, ён паварушыў нагою, а ўбачыўшы, як варухнулася коўдра, зморана апусціў галаву на падушку.

У вушах стаяў лёгкі звон. Было такое ўражанне, што вушы закладзеныя пульхнатай ватаю, і скрозь гэтую вату прарываліся гукі. мернае ціканне ходзікаў і бязладная матчына гамонка.

—Хрося, бедная, б'ецца... Пятнаццаць кароў доіць, дзяцей даглядае... А гэты... толькі і глядзіць — дзе б хто бутэльку паставіў,— гаманіла на кухні маці, і Іван, прыслухаўшыся, зразумеў, што гаворка ішла пра Фроську Траяніху і Хведзьку Траяна.

—З сястрою судзіцца. . І з-за чаго?!

—З-за гаўна! — пачулася за сценкаю. Звяглівы голас гэты належаў загадчыцы сталовай.

—Колькі ён гэтага гною з фермы вывез! Табе, Пятроўна, скажы, дык не паверыш! Нават у Азярышча ездзіў — ленінградцам вазіў, што хаты пакуплялі П'янстваваў потым цэлы месяц.

—А чаго не піць? — азвалася Пятроўна.— Карову не трымае.

—Якая там карова! — Маці бразнула талеркамі і прайшлася па кухні — На карову сена трэба накасіць, ды падаіць у пяць раніцы... А жонка ж леная, як палка... Гаўна на лехі — і таго няма. Ад маткі цягнуць.

Сабраўшы сілы, Іван павярнуўся на бок, ложак пры гэтым крыху рыпнуў, і гаворка на кухні аціхла.

—Спіць,— шапятнула маці, адгарнуўшы фіранку.— Тры начы гарэў.. раніцою толькі тэмпература спала. Пацеў жа — аййё! Не паспявала прасціны мяняць.— Маці ўздыхнула, і голас

ейны набыў пагрозлівае адценне.— Выправіўся .. з п'янюгам гэтым... Лябёдчыха казала — з моста зваліліся. Дзіва што... Вочы заліўшы, дык куды хочаш уваліцца...

—Гэта ж мая Люська ўчора ў клуб хадзіла,— ледзь чутна прагугніла Пятроўна, падладжваючы свой звяглівы голас да матчынага шэпту,— дык там Мішка Раднёнак, што на малакавозцы робіць, пра Лябёдку расказваў. Казаў, ездзілі з ім аж у Вялікарусію. Лябёдка тамака матацыкл у кустах кінуў. Паўдня шукаў, пакуль знайшоў. А потым мальцу нейкаму гарэлку вазілі

—Гэта, відаць, шафёру, што іх прывёз,— прамовіла маці, адчыніла дзверы, і Пятроўна, грукнуўшы вэдлікам, запытала: —Ну што, пасунем?

Маці з Пятроўнаю выйшлі з хаты, а Іван, пазяхнуўшы ў жменю, кульнуўся на жывот і ў той жа міг заснуў Спаў ён нядоўга і абудзіўся ад зыкаў, што даляталі з прысенку.

—Не пушчу! — грымеў, зумкаючы ў даёнках, матчын голас, і ў адказ ёй нехта прасцюджана і басавіта паўтараў: — Па справе... гасцінец перадаць. — Хвіліну ў прысенку зацята барукаліся, здушана крахталі, потым на падлогу звалілася даёнка, і прасцюджаны бас прасіпеў: — Ды не з'ем я яго, халера!

Дзверы адчыніліся, пачуўся сіплы кашаль, і толькі па гэтым кашлі пазнаў Іван таго, хто шчаміўся ў хату.

—Ну, падлюка, глядзі.. Зараз участковага паклічу! — пакрыўджана вымавіла маці, а яшчэ праз імгненне падчэпленая брылём моташлема фіранка памкнулася ўглыб святліцы.

—Панавешвала тут,— буркнуў Лябёдка, блытаючыся ў фіранцы, а выблытаўшыся і ўбачыўшы Івана, зняў з галавы шлем і вінавата пасміхнуўся.— Ну, як ты? — Голас у Лябёдкі быў дарэшты зняявечаны прастудаю.

—Нічога,— адказаў Іван, кіўком галавы запрашаючы госця прысесці на ложак.

—Ледзь прарваўся,— Лябёдка пагледзеў у бок уваходных дзвярэй, уздыхнуў і, ссунуўшы коўдру, сцярожка прысеў на край пасцелі. — Дык, кажаш, нічога?

—Нічога,— паўтарыў Іван і ў сваю чаргу запытаўся: — Як нага? Баліць?

—На мне, Ваня, як на сабаку — на другі дзень загойваецца. Вось толькі глытка ные.— Левая Лябёдкава рука кранулася вафельнага ручніка, якім была абкручана шыя, а правая скамечыла вушанку, якая ляжала на каленях.

Прыгледзеўшыся, Іван пазнаў сваю шапку.

—Во, шапка твая,— усхапіўся Лябёдка,— забыўся тады ў бабулі. Я ж з Берасцянкі еду Завёз Мар'яне падсвінка ды сто рублёў грошай даў Добрая бабуля... Пра цябе спытвала. Даведалася, што хворы, дык забедавала. Во! — сябрук таропка выцягнуў з кішэні слоік з-пад гарчыцы,— мёду табе перадала... лякуйся.

Іван расчулена шмыгнуў носам і, памаўчаўшы, запытаў:

—Дык я што... ну, там, на дарозе, зусім вырубіўся?

—Вырубіўся,— кіўнуў Лябёдка.— Я цябе два кіламетры на сабе цягнуў Цягну, а ты мяне за вуха кусаеш ды просіш гарачую ваду адключыць Трызніў, напэўна. Добра яшчэ, невельскія хлопцы на ЗіЛе падвярнуліся. Да самай хаты давезлі. Ну, а мы наступнага дня ў Невель з'ездзілі. З Раднёнкам. Пару пляшак паставілі, потым яшчэ ўзялі. Думаю во ў Невель падацца... Хлопцы тыя паабяцалі ў тэлеатэльє ўладкаваць. Так што, магчыма, хутка ў горад перабяруся. Хопіць ужо бычкоўскую гразь таўчы.

Лябёдка закашляўся, роспачна чхнуў і выцер нос ражком уціральніка, які спавіваў шыю. Пару хвілін яны маўчалі, потым Лябёдку зноў пачаў біць кашаль, і ён, прыкрыўшы даланёю рот, падняў з падлогі матацыклетны шлем.

—Ну што, Ваня... пайду,— вырвалася з Лябёдкавай грудзіны,— а то мяне таксама дрыжыкі бяруць.

Калі за Лябёдкам зачыніліся дзверы, Іван пакруціў у руках слоік і нечакача заплакаў. Ён і сам не мог зразумець — адкуль з'явіліся гэтыя слёзы, што завілымі раўчукамі збягалі па скронях, і кот Барыс, які сядзеў на печы, са здзіўленнем пазіраў на яго, свецячы ў паўзмроку сваімі зялёнымі вачыма.



Алесь РАЗАНАЎ

МЫ



*Вока хаты, акно спакон веку ўзіраецца ў свет, і свет спакон веку ўзіраецца ў акно. І таму яно заўсёды старое, як сама хата, і новае, як сам свет.*

# ВЕРШАКАЗЫ

## ЧОВЕН

Дзе рэчка, дзе возера, там і човен — спрадвечны «чаловень» возера альбо рэчкі.

Човен выцесліўся, вычасаўся, «вычавіўся» на сушы і лічыцца сваяком карытам і ночвам, але калі ў карытаў і ночваў «авечыя» звычкі, то ў чоўна — «воўчыя», калі карыты і ночвы прысвечаны сушы і толькі час-почас асвечваюцца вадою, то човен начуе і днюе ў вадзе, калі карыты і ночвы сухія знадворку, то човен наадварот.

Калі ж човен знячэўку ці паступова напаўняецца вадою, тады ён нявечыцца і прычальвае не да берага, а да дна.

Човен навучаны асцярожнасці, ён чуйны да току вады і вагання хваляў, і вочы яго рассяроджаны па ўсёй плошчы ягонага цела.

У звычайнае надвор'е човен заслоньвае-зачыняе свае магчымасці, але ў адчайны час ён захвочваецца на немагчымае і ўзлятае туды, дзе надоечы лёталі чайкі.

## ШАЛІ

Шалі шануюць раўнавагу, і калі нехта яе парушае, яны хвалююцца, непакояцца, пакуль нарэшце не расшалопаюць, колькі — кіло альбо лот — важыць гэтае парушэнне, а да таго ж яшчэ колькі яно каштуе — дукат альбо шэлег.

Шалі пільна сочаць адна за адной, не дазваляючы адна адной шальмаваць, і калі адна з іх хоча прыўлашчыць сабе нейкі лішак, другая тут жа шалохаецца ад абурэння ўгору.

Шалі не маюць шляху, а маюць шкалу, якая, як школа, утрымлівае іх ад шалаў, ад шалапуцтва і навучае шляхетнасці.

Шалі вітаюцца, б'ючы адна адной чалом: «— Шалом, шаля! — Шалом!..»

## ЛЕБЯДА

Сярод «лабудзівага» зелля лебяда вымалёўваецца, як лебядзь сярод гусей: яна белага стану, белага паходжання, белай «косткі».

Лебяда не дбае аб прывілеях і расце, дзе давядзецца: на лядах, пад плотам альбо, калі гаспадыня згаджаецца, дык і на градах.

Але дзе б яна ні расла, яна пільнуе людскую долю, і калі парушаецца жыццёвы лад, калі над краем пануе няўрод, а людзі бадзяюцца, быццам здані, шукаючы, дзе б што здабыць на абед ці вячэру, лебяда нагадвае аб сабе: яна, хоць бедная, але яда, а ў часіну нішчымніцы, бадай, тое самае што і бульба, бадай, тое самае што і хлеб.

Лебяда туліцца да людзей, а людзі любяць яе больш за любое іншае зелле, ведаючы: дзе лебяда, там смутак не смутак, голад не голад, бяда не бяда.

## АКНО

Вока хаты, акно спакон веку ўзіраецца ў свет, і свет спакон веку ўзіраецца ў акно. І таму яно заўсёды старое, як сама хата, і новае, як сам свет.

Акно выводзіць хату ў кантэкст наваколля, пераконваючы яе, што тое «кіно», якое яно ёй паказвае, мае да яе нейкае — і мо не малое — дачыненне.

Акно акантавана каробкаю, перахрышчана рамаю, аздоблена ліштвою, абгрунтавана падаконнікам і ўзаконена аканіцай.

За акном, па двары, ходзіць конь.

На акне стаіць вазон з кветкамі.

Над акном, у куце, узвышаецца ікона.

## МУХА

Літоўская musė куслівая, як аса, але ёй мусіць усё даравацца, бо яна musų (наша).

Сербская мува да ўсіх праяўляе ўвагу, з усімі імкнецца знайсці супольную мову, але адусюль сустракае адмову.

Беларуская муха прымхлівая: яна пільнуецца сваіх Сёмухаў і сваіх Дзесятухаў, дзе можа ўволю павесяліцца,— пабыць «пад мухай».

Украінская муха кумекае, як бы ёй дзе змахляваць, але, махлюючы, апрача гешэфту, атрымлівае аплявуху.

Руская муха «зуха»: яна мае «ухараўскія» ўхваткі, нібыта яна сама вынайшла прымаўку: «Адным махам сем мух забіяхам» і сама ж намерваецца яе спраўдзіць.

Чэшская **moucha** гаспадыня ў хаце: яе хапае, каб пасмакаваць і малако, і мёд, і муку.

Латышская **mušа** — мошка, але ў гэтай мошкі душа музы.

## ПОПЕЛ

Попел абагульняе і ўраўноўвае ў правах усё, што вылучала і чаму спявала свой хваласпеў полымя і што пялегаваў дым — ці гэта дбайна пілаванае паленне, ці леташняе ламачча, ці камлюкаваты корч, і хто цяпер вылучыць і адрозніць у пялёнцы-посцілцы чыстага попелу, дзе тут бярэзіна, дзе тут ліпа, а дзе тапога.

Попел — вопыт, які застаецца пасля таго, як усё скончылася, адпалала, адсвяткавалася і адбалела: у ім супадае агонь і дрэва, але калі нядаўна ён быў найбольш родны стыхіі агню, то цяпер найболей ёй процілеглы, калі нядаўна ён быў найбольш блізкі матэрыі дрэву, то цяпер ёй — таксама — найболей далёкі.

Попел не белы, не чорны і не пялясы, а спелы, і, як насенне спелага плёну, ён спакон веку мае попыт у поля Опаля, у поля Антопаля, у поля Заполля.

## ЖОРНЫ

Парожнія, жорны стаяць, але калі ў іхняе жарало ўсыпаецца хоць бы жменя зерня, яны ажываюць, яны разварушваюцца, яны «жораюць» пачастунак, варожачы, што ўрэшце з яго атрымаецца,— ці корж, ці аладак, ці піражок.

Тое, што распачынаў жняяр-серп і прадоўжваў цэп-малацьбіт, жорны даводзяць да ўзорнага завяршэння.

Жорны жорсткія: яны мажджэраць, перашароўваюць, ператрушчваюць жарству жыта, ячменю, пшаніцы.

І гэтаксама, як жорны, кружацца між сабою зямля і неба, не выпускаючы са свайго кругазвароту ні пружанца, ні ружанца, ні жупранца, пакуль кожны з іх не перамучыць сваіх шурпатасцяў, не зжыве заганаў, пакуль кожны з іх не зробіцца «жорны», пакуль кожны з іх не зведае канчатковага паражэння, а разам з тым — перамогі.

## ЛІХТАР

Калі на двары запаноўвае цемра, у якой, як літары ў чарніле, раствараюцца рэаліі навакол-





ля, а на небе не відаць ні зорак, ні месяца, тады абʼяўляе свой твар ліхтар — месяц, які запальваецца чалавекам і з чалавекам вандруе.

Ліхтар нанава распазнае рэчаіснасць; ён сцярожка, па-вартаўнічы, пасоўваецца наперад і, апрадмечваючы і арэчаўляючы наваколле, бесперастанку дапытваецца-высвятляе, што ёсць што, хто ёсць хто.

У пагодлівую пару ліхтар заносіцца ў хату, вешаецца ў камору і там, пагаслы, нічога не памятае з таго, што калісьці было, але ў ліхачассе, калі нешта ломіцца ў прыродзе і ў быце, калі хмарыцца воблік свету, да ліхтара звяртаюцца, як да лекара альбо ліхвяра — каб спрыяў, каб ратаваў, каб ліхое ператлумачваў на добрае.

Сярод астатніх прадметаў і рэчаў ліхтар элітарны; нібы відушчая ліра, ён натхняецца чалавекам і сам натхняе чалавека ў яго вечным пошуку самога сябе.

## ДУПЛО

Дуплу даспадобы дрэвы, якім па сто, а то і болей гадоў,— ліпы, дубы, таполі; усяроджваючыся ў плоць дрэва, яно ўсяроджваецца ў плоць стагоддзяў.

Дупло дапаўняе і аплоднівае дрэва, выдлубваючы ў ім свой дубль-шлях і паказваючы гэтым шляхам, што можна расці не адно толькі ў неба, але і ў дол.

І што б ні думала дрэва пра гэты шлях, якім бы ён яму ні ўяўляўся — відушчым альбо аблудным, дупло дбае, каб ён адбываўся.

Дупло затуляе сваіх жыхароў ад непагадзі і спуду, у ім утульна і цёпла.

## МАЛАКО

Беларускае **малако** смачнейшае за мак і маліну: малым яно дае моц і розум, а старых малодзіць.

Стараславянскае **млѣко** як Мекка: усе да яго імкнуцца, усім яно лекі.

Рускае **молоко** падмацунак касцу і малацьбіту і *лакомство* катку.

Балгарскае **мляко** мляўкае, як летні сон: яно лашчыць язык і нёба.

Праславянскае m e l k o змялелае, як Няміга.

Лужыцкае m l o k o закрашвае локшыну.

Шведскае m j o l k пахне мёдам і зёлкамі.

Нямецкае M i l c h мілае, нібы малітва маці за сваё немаўля.

## ЗВОН

Звон адзываецца на ўсе святы, на ўсе вялікія падзеі і, супадаючы са сваім зрокавым вобразам, зноўку і зноў апынаецца звонку яго.

Звон азануе прастору, і той абсяг, у якім чутны яго зовы, становіцца своеасаблівай зялёнай зонай.

І нават калі б звон званіў безупынна, разумнаму слыху ён усё роўна не назаляе.

Нібы скарбніца, якая ніколі не спаражняецца, звон рассыпае навокал звёны сваёй шчодрай медзі, з якою па звонкасці не зраўняецца ні срэбра, ні золата.

## ТОРБА

Торба — рот, які глытае ўсё, што яму даецца, што ў яго кладзецца,— ці гэта хлеб, ці сала, ці кавалак сыру, ці тузін печаных бульбін, аднак, праглынутыя, яны атабарваюцца ў торбе, як у сябе дома.

Торба — «творба»: яна творыць чалавека, фармуе яго постаць, удакладняе яго паводзіны, афарбоўвае яго думкі, і людзі, ведаючы, што з торбай лепш, чым без торбы, баяцца, аднак, рабіць яе сваім правадыром, шлюбавацца альбо братацца з ёю, каб самім не зрабіцца яе атрыбутамі — жабракамі.

Парожняя — торба, нібы хвароба, цягне свайго носьбіта долу, поўная — нібы «горба», узносіць угору.

## ШКАРЛУПІНА

Шкарлупіна заглытвае яйка, нібы змяя-шкарупея, але так, што яно застаецца цэлым і непарушным, а сама, у сваю чаргу, становіцца яго часткай, яго шкурай, яго ахоўнай знадворнаю абалонкай.

Няма той хвіліны, каб шкарлупіна не рупілася аб яйку, яна атуляе яго, як найдаражэйшы скарб, пільна і шчыльна, не пакідаючы нідзе ніводнай шчылінкі.

Шкарлупіна крохкая, але не настолькі, каб дазволіць знадворным штуршкам і шкрэбінам пашкодзіць яшчэ не народжанаму жыццю;

шкарлупіна цвёрдая, але не настолькі, каб не дазволіць гэтаму жыццю прабіцца, прастукацца, пралупіцца, а самой, ні на што не скардзячыся і не наракаючы, апасці купкай спустошаных і бескарысных ракушак, распасціся на шалупінне.

## ВІЛЫ

Праславянскія v i d l a справядлівыя: што б яны ні рабілі, яны заўсёды робяць для кагосьці — для «вы».

Сербскія в и л е, нібы пракудлівыя німфывілы, штохвілі ўхіляюцца ад вайны, а, ухіліўшыся ад вайны, ухіляюцца і ад міру.

Украінскія в и л а працавітыя, як валы; але калі яны маюць сілу, не маюць «вільності», калі маюць «вільність», не маюць сілы.

Беларускія в і л ы, ці яны ўбіваюцца ў гной, ці ўвіхаюцца з сенам, усялякі раз мусяць ведаць, у якім баку Вільня.

Польскія w i d ł y відушчыя: яны глядзяць у ваду Віслы, а бачаць, што робіцца далёка ў наваколлі.

Рускія в и л ы, куды б ні вялі, заўсёды апынаюцца перад немінучым выбарам: *или — или*.

## ЛАПЦІ

Лапці — палапленцы: пасчапляныя з асобных лапікаў, яны лёгка ўпускаюць і выпускаюць вільгаць, і на балацінах Пцічы, Піны ці Прыпяці яны найлацвейшы абутак.

Лапці плятуцца самі, іх не трэба купляць, за іх не трэба плаціць; плоць ад плоці тутэйшай прыроды і тутэйшага побыту, яны «прыліпаюць» да сваіх носьбітаў і, робячыся іхняй прыкмецінай, уплываюць на іхнюю постаць.

Цельпукаватыя, нібы мядзведжыя лапы, лапці дацялёпваюцца і да пляца, і да палаца.

Лапці сціплыя, але нагам і душы з імі цёпла.

### БАРАЗНА

Быццам драпіна-бразгоціна, баразна разразае поле на дзве часткі, на дзве палавіны, але гэтым не абражае яго, а дагаджае яму.

Напярэдадзе баразны, падаючы знакі, куды ёй кіравацца, тупаціць конь, бразгаціць збруя і шаргаціць плуг, ззаду на ёй збіраюцца і ўсчынаюць свой амбарас вароны, і хоць зараз баразна здаецца разбуранай і нямою, яна неўзабаве аздобіцца прыязнай зялёнаю рабізной.

Якою б доўгаю баразна ні была, яна — якраз; яна выводзіць ранак у вечар, зару — у змярканне, сяўбу — у збор ураджаю і, усё больш трацячы свой вобраз, усё больш набывае яго.

### НЕРАТ

Нерат ныра ў нетры ракі і, прапускаючы раку праз сябе, затрымлівае яе жыхароў — рыбін.

Нерат нікому не дароўвае неабачлівасці, і хто ў яго раптам трапляе, таму няма ходу ні ўзад, ні ўперад.

Але нерат не рады сваёй удачы, бо калі ён парожні — ён адчувае сябе ракою, для якой няма перашкоды, а калі з рыбай — дык рыбай, якая шукае і не знаходзіць ратунку.

### АСКЕПАК

Калі здараецца кепскае — б'ецца люстэрка ці гляк, тады ўзнікаюць аскепкі — аспекты пытання, якія забылі само пытанне, складнікі спектру, якія згубілі сам спектр.

І як бы пасля іх не склейвалі і не склепвалі, яны ўжо не змогуць вярнуцца ў колішнюю самаадсутнасць, яны ўжо не змогуць прыняцца ў ранейшую цэласнасць.

На аскепак, нібы на блазна-кепа, валяцца кіпы кепікаў, яго папікаюць, яго папіхаюць, пакуль наогул не выпхнуць на сметнік, і калі шкліну ці гляк шкадуюць, то нікому ніколі не прыйдзе на думку пашкадаваць аскепак, сказаць, што ён кемлівы, што ён пекны.

Аскепак — скептык: ён ведае, што ў аснове ўсіх непарушных саюзаў, усіх маналітных сплаваў прысутнічае непрыкметнае, але шматстайнае «аз», і гэтае «аз» аднойчы захоча акрэсліцца, захоча стаць к і м с ь ц і.



# Уладзімір АРЛОЎ

МЫ



*Нічога не памерла ўва мне, толькі ілюзіі.*
Генры МІЛЕР

# СІБІРСКАЯ АПОВЕСЦЬ*

Алесю КАРАЛЁВУ

**Фрагмент няскончанага твора пад назвай «Gaudeamus», які, напэўна, так ніколі і не будзе скончаны.*

*У гэтай гісторыі пойдзе гаворка пра падзеі, якія насуперак усяму сапраўды адбыліся, а таксама пра падзеі, якія павінны былі адбыцца, але ў апошні момант сарваліся; якія чакаліся, аднак так і не здарыліся; якія адбыліся не так, не тады й не з тымі; якія здарыліся, але былі прызнаныя несапраўднымі; якія ніколі не адбываліся і не маглі адбыцца, аднак зрабіліся агульнавядомымі і нават трапілі ў энцыклапедыі.*

**Рэмінісцэнцыя з забытага аўтара.**

Загадкавае слова «Сібір» жыццёвыя вятры ўпершыню закінулі ў маю свядомасць, калі я меў гадоў пяць ад нараджэння, а да нашых полацкіх суседзяў прыехаў з гэтага самага «Сібіру» нейкі крэўны.

Сібірскі сваяк выцягнуў з вагону багаж і ўбачыў на пераходзе праз чыгуначную каляіну папярэджанне: «Сцеражыся цягніка!» Зацкавана азірнуўшыся, ён выплюнуў з роту «беламорыну» і, схапіўшы валізы, вомегам кінуўся далей ад вакзалу і ад сціжмы беларускіх зладзюгаў-цягнікоў, гатовых вокамгненна прыставіць ягонаму майну ногі.

Гэтую показку на нашай вуліцы не распавядаў хіба што глуханямы дзед, які жыў з сваімі двума тузінамі катоў каля пампоўні Слухачы дралі смехам бакі, і я рагатаў разам з усімі, хоць напачатку — адно за кампанію, бо, што такое «цягнік», ведаў не лепей за сібірскага чалдона.

Згадка пра маю першую сустрэчу з Сібірру твар у твар пахне не кедравай жывіцаю і не гарачымі пяльменямі, а — свежай чалавечаю юшкай.

Каляндар паказваў чэрвень, пік застою. Пахаваўшы бацьку, я даганяў свой студэнцкі будаўнічы атрад (скарочана — СБА) «Victoria», што ўжо карміў беларускай крывёю сібірскую камарэчу недзе на стромістых берагах ракі Кець.

Калі вы ўважліва ўгледзіцеся ў новую палітычную мапу свету, выдадзеную нядаўна венскай фірмаю «Freytag und Berndt», дык знойдзеце ценькую чырвоную нітачку чыгункі, што цягнецца на поўнач ад Томска, безнадзейна абрываючыся ў кропцы з мікраскапічным подпісам Belyi Jar. Якраз туды я павінен быў трапіць, каб выпіць з сябрамі за светлую бацькаву памяць ацалелую ад памінкаў пляшку «белавежскай» ды зарабіць сваю тысячу, або як тады казалі, дзесяць «кавалкаў», а потым уразіць чым-небудзь адну полацкую й пару менскіх дзяўчатак, з удаванаю абыякавасцю пракаментаваўшы сітуацыю сакраментальнаю фразай: «Ніхто не забароніць нам жыць прыгожа».

Выгрузіўшыся з фірмовага цягніка «Масква—Томск», у вагоне-рэстаране якога можна было ўдосыць паразважаць над паведамленнем меню пра «котлеты из медвежатины свиные» і «котлеты из медвежатины говяжьи», я на поўную грудзіну ўдыхнуў сібірскага паветра й даведаўся, што адзіны цягнік на Белы Яр адыходзіць праз гадзіну. Прабіцца за такі час праз бітма набітую залу да вакенца касы ўяўлялася задачаю гэткай жа простаю, як далучыць да Беларусі Ямала-Нянецкую аўтаномную акругу Аніякай чаргі ў касу не існавала; з розных бакоў да вакенца цягнуліся рукі з грашыма, якія адпіхвалі адна адну, і ў выніку касірка, не маючы клопату, спакойна чытала газэту

Я разумею, што «российское могущество будет прирастать Сибирью», што на яе абсягах безліч светлага й глыбока народнага, ды яе візітоўкаю назаўсёды застанецца для мяне жанравая сцэнка, убачаная з падваконня томскага вакзала.

Вугрыстаму дзецюку з запаленымі вачыма падфартуніла прашчаміцца да касы і з сціснута-пераможным выгукам «Белый Яр!» торкнуць касірцы брудна-жоўты жмуток рублёвак. У той самы момант сіпатае кантральта нема заверашчала: «Ванёк, отсеки фраера!» і двухметровы бамбіза з лагодным бурачковым тварам меланхалічна ўпячатаў дзецюку паміж вачэй валасаты пудовы кулак. Кагадзешны трыумфатар абліўся юхаю й засумаваў. Ехаць у Белы Яр яму ўжо відавочна не праглася. «Товарищи, расступитесь! Человеку плохо!»,— нясмела прапішчэла з вакенца касірка, марна спрабуючы перадаць напалову непрытомнаму пасажыру квіток. «Перебьётся, дохляк»,— пагардліва кінуў хтосьці. Самым вялікім гуманістам выявіўся Ванёк. Не раўнуючы, як выполваюць з ляхі пустазеліну, ён вырваў з натоўпу сваю





ўкрываўленую ахвяру і, высока падняўшы яе, запрапанаваў прысутным перадаць «товарища» да выхаду. У аддзяку за гэта, ужо адплываючы ў бок дзвярэй на выцягнутых угору мужчынскіх руках, «товарищ» выпруціўся й трапна харкнуў у твар Ваньку згусткамі крыві, смаркачоў і сліны. Мне зрабілася млосна й востра захацелася назад, у Менск і ў Полацк.

У Belyi Jar я прыбыў на аэрафлотаўскім кукурузніку, заплаціўшы лётчыку дзвюма пляшкамі «зверабою». На шляху да пункту пасадкі пасажыры дамаўляліся з экіпажам, і самалёцік, палохаючы свойскую жывёлу й таежную зверыну, яшчэ два разы прызямляўся на аселіцах, прычым аднойчы — бо авіятары адкаркавалі мае пляшкі, не адыходзячы ад штурвалу — ледзьве размінуўся з якойсьці стадолінай.

На аэрадроме ўзвышалася велічная жалезная брама, злева й справа ад якой аніякае агародкі й не начавала, затое зверху спаруду аздабляла прыкручанае дротам мастацкае пано, з якога брываста-медалясты генсек рабіў падарожніку ручкай, зазначаючы, што «Верной дорогой идете, товарищи». Ён жа паведамляў: «Вас приветствует центр Верхнекетского района Бл.Яр» Прымайстрыўшыся на драбінах, гэтыя пранікнёныя словы з непісьменна-хуліганістым скаротам спрытна падмалёўвала мізэрная істота з такой казлінаю бародкай, што, здавалася, у гумовіках у гэткага служкі музаў могуць парыцца адно капытцы.

На ўзлётным полі й вакол яго дацвітаў малачай, пасвіліся каровы й ніхто не спускаў нікому юхі Трывожную ноту ў гэтую пастараль унёс пастух, што курыў, падпіраючы браму і пяшчотна пазіраючы на пастаўлены ў нагах зялёны «фаўст» з партвейнам невядомае ў Беларусі маркі «777». Пастух паважна адсмактаў з рыльца колькі глыткоў пітва, прыкладна столькі ж наліў у чарапок свайму сабачку, якога любасна называў Алкашом, і папярэдзіў, што па дарозе з аэрадрому ў цэнтр Верхнякецкага раёну лютуе беглы калгасны бык-вытворца з неардынарным для парнакапытнага мянам — Юдзеніч.

На шчасце, адмахаўшы па тайзе пару кіламетраў, я спаткаўся не з Юдзенічам, а з маім найлепшым сябрам Генікам, які вёз на «казле» скрынку маргарыну, што павінны былі з'есці байцы СБА, і скрынку дагестанскага каньяку «Абрау Дюрсо», што павінны былі выпіць з мясцовым начальствам будатрадаўскія верхаводы Генік займаў адказную пасаду будатрадаўскага загадчыка гаспадаркі. Ён ужо добра засвоіў, што ўсушка, утруска і асаблівая шклабой на сібірскіх дарогах — рэч непазбежная, а таму праз паўгадзіны сібірская рэчаіснасць набыла дагестанскую стэрэаскапічнасць, а камарыныя ўкусы толькі аздаблялі гэтае жыццё.

«Казёл» загамаваў па цэнтральнай плошчы Бл. Яру, і Генік — меў ён такую жарсць да партыйных і дзяржаўных установ — прапанаваў схадзіць за райкам партыі да ветру Я прагна насычаўся сібірскім каларытам, да якога апрача камар'я належалі старадаўнія каржакаватыя дамы, што, несумненна, ужо пусцілі ў зямлю карані, а таксама вусцішная гайня ці то свойскіх ці то здзічэлых сабак усіх магчымых масцяў, што гойсала вакол, не дазваляючы нам з Генікам ажыццявіць за райкамам свой антыпартыйны намер.

Мы загрузіліся ў аўто, і Генік зноў задуменна паглядзеў на залацістыя плады «Абрау Дюрсо». У вакне мільгануўся глухі й высачэзны, на тры чалавечыя росты, плот з калючым дротам. «Зона»,— лапідарна патлумачыў загадчык гаспадаркі, і я паспеў заўважыць яшчэ адзін лозунг — «Запомни сам, скажи другому, что честный труд — дорога к дому»

Даніну тутэйшаму захапленню лозунгамі аддаў і наш будатрад. «Колькі спраў цудоўных намі здзейсніцца!» — было напісана на нацягнутым паміж дзвюма лістоўніцамі кумачовым пасе. Пад ім стаяў з алюмініевай міскаю ў руках яшчэ адзін мой сябрук Мішка Чарнавец, вядомы чытачам нашага гістфакаўскага самвыдавецкага альманаха «Мілавіца» як паэт Міхась Чарніловіч. Міхась то пільна, як варажбітка ў люстэрка, углядаўся ў міску, то кідаў хуткі позірк на гадзіннік. Гэткім самым няўцямным клопатам былі занятыя яшчэ колькі байцоў СБА. «Сорак сем!» — выгукнуў Чарніловіч і выплюхнуў змесціва міскі ў хмызняк. «Пяцьдзесят!» — азваўся нехта, таксама апрастаўшы міску Як хутка высветлілася, хлопцы лічылі, колькі камароў уваб'ецца ў іхняе едзіва за хвіліну. Рэшта байцоў сумнеўнымі эксперыментамі не займалася, а проста бегала з міскамі й лыжкамі вакол недабудаванай сталоўкі, спрабуючы абагнаць даўгія камарыныя шлейфы, што цягнуліся за кожным, і затаптаць у страўнікі порцыю слізкіх гумовых макаронаў. Той, хто быў з намі летась у казахстанскім будатрадзе, відаць, тужліва прыгадваў нашага кухара карэйца Кіма, які на Дзень будаўніка згатаваў нам фірмовую тушонку з суслікаў, па буднях жа штодня рэзаў барана, а калі барана не прывезлі, дык зарэзаў на гуляш аднаго з сваіх мясных карэйскіх сабакаў, і той гуляш атрымаўся найсмачнейшы за ўвесь сезон, вось толькі дарма Кім адкрыў нам потым кулінарную таямніцу ды яшчэ й тады, як увесь атрад сядзеў за сталом.

італьянскай завядзёнцы вельмі любілі дзяцей; памяшканне, якое нам далі, было ізаляванае і прыемнае, дарога да мора, сярод прысадаў маладога тапольніку, што аж выбягалі на прыморскі праменад, блізкая і зручная, сталовая, дзе сіньёра Анджальеры штодня аполудні сваімі рукамі налівала суп, зацішная і чысценькая, прыслуга далікатная і ласкавая, стол выдатны, мы нават спаткалі ў пансіёне знаёмых з Вены, з якімі пасля абеду можна перакінуцца словам–другім і якія, у сваю чаргу, звялі нас са сваімі сябрамі, так што ўсё магло быць цудоўна, мы толькі радаваліся перамене жытла, і нішто, здавалася, не замінала добра адпачываць.

Але душэўнага спакою не было. Магчыма, нас усё яшчэ даймала бязглуздая прычына пераезду — я павінен сказаць вам, што заўсёды цяжка даходжу да раўнавагі, калі сутыкаюся з такімі пашыранымі чалавечымі ўласцівасцямі, як прымітыўнае злоўжыванне ўладай, несправядлівасць, халуйская разбэшчанасць. Гэта ўжо даўно грызе мяне, змушае да роздуму, бясплённага і дражлівага, бо такія праявы зрабіліся занадта звычнымі і буднымі. Да таго ж, мы нават не адчувалі, што пасварыліся з «Гранд–гатэлем». Дзеці, як і раней, вадзіліся з персаналам, калідорны папраўляў ім цацкі, і час ад часу мы пілі чай у садзе гасцініцы, часам бачылі там княгіню, якая, з крыху падведзенымі каралавай шмінкай вуснамі, велічна–цвёрдым крокам выходзіла, каб зірнуць на сваіх, давераных англічанцы, дарагіх дзетак, і не здагадвалася пра нашу небяспечную блізкасць, бо мы свайму малому строга–строга наказалі нават не адкашлівацца пры ёй.

Ці варта казаць, што стаяла страшэнная спёка? Спёка была проста афрыканская: жудасная тыранія сонца, варта было толькі адарвацца ад сіняй, колеру індзіга прахалоды, была такая няўмольная, што нават адна подумка пра тое, каб прайсці некалькі крокаў ад пляжа да стала, прымушала ўздыхаць. Як вы пераносіце спёку? Скажам, калі яна стаіць тыднямі? Вядома, гэта поўдзень і класічнае паўднёвае надвор'е, клімат, які паслужыў росквіту чалавечай культуры, сонца Гамера і так далей. Але праз нейкі час, мімаволі, я ўжо схільны лічыць, што гэты клімат атупляе. Дзень у дзень усё тая самая распаленая пустэча неба неўзабаве пачынае мяне гнясці, стракацізна фарбаў, залішне рэзкае і бясхітраснае святло хоць і абуджаюць святочны настрой, пасяляюць у душы бесклапотнасць і ўпэўненасць у сваёй незалежнасці ад капрызаў і зменлівасці надвор'я, аднак, хай спачатку сам таго не разумееш, высушваюць, не даюць задаволіць больш глыбокія і няпростыя вымогі нардычнай душы, а з часам навязваюць нават нешта падобнае на пагарду. Праўда ваша, не будзь гэтай дурной гісторыі з ядухай, я, мусіць успрыняў бы ўсё інакш: я быў раздражнёны, можа, я нават хацеў успрымаць усё менавіта так і амаль несвядома падхапіў гатовы штамп, калі не дзеля таго, каб выклікаць у сабе такое ўспрыманне ўсяго, што вакол мяне, дык каб хоць бы неяк яго апраўдаць і падмацаваць. Але калі нават дапусціць нейкую нашую злую волю,— дык у тым, што да мора, што да ранішніх гадзін на пяску перад яго нязменнай велічнасцю, ні пра што такое і гаворкі быць не магло; і ўсё–такі, насуперак усяму нашаму мінуламу вопыту, мы і на пляжы не пачуваліся лёгка і радасна.

Так, мы прыехалі занадта, занадта рана: пляж, як я ўжо сказаў, усё яшчэ быў ва ўладзе мясцовага сярэдняга класа — несумненна, прыемная разнавіднасць людзей, вы маеце рацыю, сярод моладзі можна было сустрэць і высокую душэўнасць, і фізічную прыгажосць, але, як правіла, вакол нас былі чалавечая пасрэднасць і мяшчанская безаблічнасць, якія, вы не будзеце пярэчыць, адштампаваныя ў тутэйшым поясе, нічым не лепшыя за тыя асобнікі, што ёсць пад нашым небам. Але ж бо і галасы ў гэтых жанчын! Часам проста не верылася, што мы ў Італіі — калысцы ўсяго заходне–еўрапейскага вакальнага мастацтва. «Fuggiéro!» Дагэтуль у вушах стаіць гэты крык, нездарма ж цэлых дваццаць дзён ён грымеў амаль побач са мною, бессаромна хрыпаты, жахліва акцэнтаваны, з віскліва расцягнутым «é», быццам яго вырывала нейкая ўжо прывычная роспач: «Fuggiéro! Rispondi alméno!»[4] Пры гэтым «sp» вымаўлялася вельмі вульгарна, як «шп», што ўжо само па сабе раздражняе, асабліва калі ты і без таго не ў гуморы. Крык гэты быў адрасаваны мярзотнаму хлапчаняці, якое, з млявотна–агіднай язваю ад сонечнага апёку паміж лапаткамі, не мела сабе роўні ў зацятасці, свавольстве і ліхой шкодлівасці, усё, з чым я калі сутыкаўся, — тут нішто; да таго ж ён быў страшэнны баязлівец і не пасаромеўся ў сваёй абуральнай маладушнасці перапалохаць увесь пляж. Неяк аднаго разу яго ў вадзе ўшчыкнуў за нагу краб, а горасны енк, які быў вывернуты ім з такой нікчэмнай прычыны на манер антычных герояў, проста душу раздзіраў, і ўсе падумалі, што сталася няшчасце. Мабыць, ён лічыў сябе цяжка параненым. Ён выпаўз на бераг і ў невыносных, здавалася, пакутах качаўся па пяску, лямантаваў «ohi!» і «oimé!», біў рукамі і нагамі, не слухаў матчыных заклёнаў і ўгавораў блізкіх і знаёмых, што абступілі яго. З усіх бакоў збегліся людзі. Прывялі доктара, таго самага, які так добра разабраўся з нашай ядухай, і зноў пацвердзілася яго навуковая непрадузятасць. Дабрадушна суцяшаючы пакутніка, ён заявіў, што ўсё гэта драбяза, і проста параіў свайму пацыенту яшчэ пакупацца, каб ахаладзіць драпіну ад крабавых клюшняў. Замест гэтага Фуджэра, быццам ён сарваўся са скалы альбо ўтапіўся, паклалі на зымправізаваныя насілкі і праз натоўп пляжнікаў панеслі з пляжа,— але гэта не перашкодзіла яму на раніцу зноў там паявіцца і, як бы незнарок, разбураць пясчаныя крэпасці другіх дзяцей. Адным словам, жах адзін!

У дадатак гэты дванаццацігадовы вісус быў адным з галоўных барометраў пэўных настрояў, якія амаль няўлоўна віселі ў паветры ды засмуцілі нас і сапсавалі нам прыемны адпачынак каля мора. Чамусьці тутэйшай атмасферы бракавала прастаты і нязмушанасці, мясцовая публіка «пільнавалася», спачатку нават цяжка было вызначыць, у якім сэнсе і духу, яна лічыла сваім абавязкам выпінацца, выстаўляла напаказ адзін перад адным і перад іншаземцамі сваю сур'ёзнасць і прыстойнасць, адмысловую патрабавальнасць у пытаннях гонару — што б гэта азначала? Але неўзабаве нам стала зразумелая палітычная дамешка — тут спрычынілася ідэя нацыі. І сапраўды, пляж кішэў патрыётамі — маркотнае і агіднае прыродзе відовішча. Дзеці ж складаюць як бы асобы чалавечы род, так сказаць, адмысловую нацыю; усюды ў свеце яны лёгка і проста сыходзяцца дзякуючы аднолькаваму ладу жыцця, нават калі іх малы слоўны запас належыць да розных моваў. І нашыя малышы вельмі скора пачалі гуляць з тутэйшымі, як, зрэшты, і з дзецьмі іншаземцаў. Але іх спасцігала адно незразумелае расчараванне за другім. Сюд–тут паўставалі крыўды, заяўляла пра сябе самалюбства, надта хваравітае і нахрапістае, каб быць прынятым на поўным сур'ёзе; выбухалі разладзіцы паміж флангамі, спрэчкі за месца і першынства; дарослыя ўмешваліся, не так прыміраючы іх, як спыняючы спрэчкі і ахоўваючы ўстоі, грымелі фразы пра веліч і гонар Італіі, фразы зусім не пацешныя і псотныя ў любой гульні; мы бачылі, што абодва нашыя малышы адыходзяць заклапочаныя і разгубленыя, і стараліся, як маглі, растлумачыць ім стан рэчаў гэтых людзей, казалі мы ім, ліхаманка трасе, яны перажываюць такі стан, ну, накшталт хваробы, не вельмі прыемны, але, відаць, непазбежны.

Нам толькі заставалася наракаць на сябе і сваю бестурботнасць, калі ў нас дайшло да канфлікту з гэтым, хоць зразуметым і прынятым намі ў разлік станам,— яшчэ аднаго канфлікту; выдае на тое, што ранейшыя таксама не былі выпадковыя. Карацей кажучы, мы зняважылі маральнасць. Нашая дочачка — ёй восем гадоў, але па фізічным развіцці ёй і сямі не дасі, такая яна шчупленькая,— удосыць накупаўшыся, перастала гуляць на пляжы ў мокрым касцюмчыку, як гэта вядзецца пры пагодзе, і атрымала ад нас дазвол папаласкаць у моры купальнік, на які наліп пясок, каб потым надзець яго і ўжо болей не пэцкаць. Голенькая, яна бяжыць нейкія некалькі метраў да вады, акунае касцюмчык і вяртаецца назад. Ці ж маглі мы прадбачыць тую хвалю зласлівасці, абурэння, пратэсту, якую выклікаў яе, а значыцца, наш учынак? Я не збіраюся чытаць вам лекцыю, але ўсюды ў свеце адносіны да чалавечага цела і да яго галізны за апошнія дзесяцігоддзі рэзка перамяніліся, зрабіўшы свае ўплывы і на нашыя пачуцці. Ёсць рэчы, на якія проста «не зважаюць», да іх належала і свабода, дадзеная гэтаму дзіцячаму цельцу, якое ніякіх эмоцый не выклікала. Але тут гэта было ўспрынята як выклік. Юныя патрыёты загалёкалі. Фуджэра, заклаўшы пальцы ў рот, свіснуў. Узбуджаныя гамонкі дарослых побач з намі рабіліся ўсё гучнейшыя і не наканавалі нічога добрага. Панок у фраку і ў ссунутым на патыліцу, вельмі не пляжным кацялку ледзь не божыцца сваёй скандальнай даме, што гэтага ён так не пакіне; ён вырастае перад намі, і на нас валіцца філіпіка, у якой увесь пафас тэмпераментнага поўдня пастаўлены на службу самым чапурыстым патрабаванням прыстойнасці.

Занядбанне сораму, у якім мы вінаватыя,— так было нам сказана,— тым болей вартае асуды, што яно яўляецца, па сутнасці, няўдзячнасцю і абразлівым злоўжываннем гасціннасцю Італіі. Мы злачынна здратавалі не толькі дух і літару правілаў грамадскага купання, але і гонар ягонай краіны і, абараняючы гэты гонар, ён, панок у фраку, ужо ж такі дасць сабе клопату патурбавацца, каб нам гэтага не прапусціць.

Слухаючы гэтае славаблуддзе, мы цярпелі і толькі глыбакадумна ківалі. Пярэчыць разгарачанаму панку азначала б толькі зрабіць новую прамашку. Многа чаго ў нас круцілася на языку, напрыклад, што не ўсё тут настолькі добра, каб лічыць дарэчным слова «гасціннасць» у сапраўдным яго значэнні, і што мы, калі ўжо казаць без прыхарошвання, госці не так Італіі, як сіньёры Анджальеры, якая ў свой час змяніла род заняткаў — з даверанай Дузэ яна зрабілася гаспадыняй пансіёна. Не цярпелася нам таксама запярэчыць, што мы не ўяўлялі сабе, як нізка ўпала маральнасць у гэтай цудоўнай краіне, калі спатрэбілася вярнуцца да такіх ханжаскіх строгасцяў. Аднак мы запэўнілі іх, што і ў галаве не мелі паводзіць сябе дзёрзка і непаважліва, і перапрашаючы спасылаліся на юны ўзрост і фізічную няразвітасць малалетняй парушальніцы закона. Усё марна. Нашыя довады былі адхілены як неверагодныя і няпраўдзівыя, аб'яўлены нікчэмнымі, і, каб іншыя наўме не мелі, рашылі даць нам навукі. Мусіць, па тэлефоне паведамілі ў паліцыю, на пляжы паявіўся прадстаўнік улады, назваў здарэнне даволі сур'ёзным, «molto grave», і прапанаваў нам ісці за ім на «пляцца», у муніцыпалітэт, дзе больш высокі ранг пацвердзіў папярэдні вердыкт «molto grave» і, ужываючы тыя самыя, што і панок у кацялку, відаць, узвычаеныя тут дыдактызмы, размазаўся даўжэзнай натацыяй з прычыны нашага злачынства і пакараў нас штрафам у пяцьдзесят лір. Мы палічылі нашую прыгоду вартай такога ахвяравання ў дзяржаўную скарбніцу, заплацілі і пайшлі. Магчыма, нам след было адразу ж і з'ехаць?

Чаму мы так не зрабілі? Мы ж бы пазбеглі тады сустрэчы з фатальным Чыполам; але, бачыце, надта многае збеглася так, каб змусіць нас зацягнуць ад'езд. Нехта з паэтаў сказаў, што адно лянота трымае нас у непрыемнай абстаноўцы — можна было б скарыстацца гэтым досціпам, каб растлумачыць нашую ўпартасць. Да таго ж, пасля такіх сутычак мы не дужа любілі пакідаць поле бою; неахвота прызнавацца, што абсудобіўся, асабліва калі спагада збоку мацуе тваю баявітасць. У віле «Элеанора» не было двух думак наконт учыненай нам несправядлівасці. Знаёмыя італьянцы, нашыя пасляабедзенныя субяседнікі, лічылі, што гісторыя гэтая аніяк не спрыяе добрай славе краіны, і мерыліся, на правах суайчыннікаў, зыскаць з панка ў фраку тлумачэнні. Але той ужо на другі дзень знік з пляжа, разам з кампаніяй — не праз нас, зразумела, але ж не выключана, што менавіта скоры ад'езд якраз і дадаў яму адвагі,— так ці інакш, але ягонае знікненне дало нам палёгку. А калі ўжо гаварыць шчырую праўду, дык мы засталіся яшчэ і таму, што ў тутэйшай абстаноўцы было нешта нязвыклае, а нязвыклае само па сабе ўжо каштоўнае незалежна

ад таго, прыемнае яно ці не. Ці варта капітуляваць і ўцякаць ад перажыванняў, калі яны не клічуць вас да радасці ці прыемнасці? Ці трэба «з'язджаць», калі жыццё робіцца трывожным і не зусім бяспечным альбо ж нават крыху цяжкім і засмутлівым? Не, трэба застацца, трэба ўсё пабачыць і ўсё зведаць, тут якраз і можна нечагась навучыцца. І вось мы засталіся і, як страшэнную ўзнагароду за нашую выстаялась, перажылі злашчаснае выступленне Чыполы.

Я не згадаў, што прыкладна падчас учыненага над намі адміністрацыйнага гвалту прыспеў канец сезону. Руплівец маральнасці ў кацялку, які данёс на нас, быў не адзіны, хто пакінуў курорт; італьянцы ад'язджалі гуртамі, і мноства ручных вазкоў і тачак рушыла да станцыі. Пляж страціў свой адмыслова нацыянальны характар, жыццё ў Торэ, у кавярнях, у прысадах сасновага гайку пачалося больш простае, больш еўрапейскае; мабыць, цяпер нас нават пусцілі б на зашклёную веранду «Гранд–гатэля», але мы туды не рваліся, мы пачуваліся добра і за сталом у сіньёры Анджальеры — калі ўвогуле можна было лічыць нашае адчуванне добрым, з той папраўкаю, якую рабіў злы дух, які тут лунаў у паветры. Аднак з такой дабратворнаю, як мы думалі, пераменай, рэзка змянілася надвор'е, так сказаць, у поўнай згодзе з графікам адпачынкаў. Неба завалаклося, нельга сказаць, што стала халадней, але недвухсэнсоўная спёка, што панавала тут тры тыдні (а бадай, яшчэ й задоўга да нашага прыезду), змянілася на млосную задуху сірока, і час ад часу слабенькі дожджык крапіў аксамітную арэну, на якой мы бавілі нашыя раніцы. Да таго ж трэба зазначыць, што дзве трацiны тэрміну, выдзеленага намі на Торэ, ужо мінула; соннае, вылінялае мора з вялымі медузамі, што ледзь–ледзь калыхаліся на яго пляскатай роўнядзі, было нам усё–такі новым, і смех было б сумаваць па сонцы, якое, калі яно валадарыла манапольна, выціскала з нас столькі ўздыхаў.

У гэтую якраз пару і з'явіўся Чыпола. Кавальерэ Чыпола; як ён фігураваў у афішах, што аднаго разу замільгалі ўсюды, таксама і ў сталовай пансіёна «Элеанора»,— гастрольны віртуоз, артыст у жанры забаваў, forzatore, illusionista, prestidigitatore[5], які меў намер пазнаёміць высокашаноўную публіку Торэ–дзі–Венерэ з некаторымі экстравагантнымі з'явішчамі таямнічага і загадкавага характару. Фокуснік–штукар! Аб'явы было дастаткова, каб затлуміць галаву нашым малым. Яны зроду не бачылі нічога такога, канікулы падорадь ім нязведаныя ўражанні. З таго часу яны даймалі нас просьбамі ўзяць білеты на штукара, і хоць нас адразу збянтэжыў позні час пачатку імпрэзы,— яна была назначана на дзевяць вечара,— мы саступілі, падумаўшы, што, збольшага пазнаёміўшыся з, відаць, досыць сціплымі талентамі Чыполы, выправімся дахаты, а дзеці на раніцу — ну што ж, тае бяды,—паспяць крыху больш, і купілі ў самой сіньёры Анджальеры, якая ўзяла на камісію дастаткова добрых месцаў на сваіх пастойнікаў, чатыры білеты. Паручыцца за якасць паказу яна не бралася, ды мы і не чакалі нічога незвычайнага; нам і самім не лішне было крыху рассеяцца, апрача ж таго нас заразіла цікаўнасць дзяцей.

У памяшканні, дзе кавальерэ меўся выступіць, у разгар сезону штотыдня давалі новую кінакарціну. Мы там ні разу не былі. Дарога туды ляжала міма palazzo — руінаў, у якіх захаваліся абрысы сярэдневяковага замка і, дарэчы, яны прадаваліся,— па галоўнай вуліцы, з аптэкай, цырульняй, крамамі, якая як бы вяла ад свету феадальнага праз буржуазны да свету працы, бо канчалася сярод гаротных рыбацкіх халупняжын, дзе старыя жанчыны, седзячы ў парозе, ладзілі мярэжы, і вось тут, ужо ў самай гушчыні народу, была sala, па сутнасці, ёмістая дашчаная стадола; падобны на браму ўваход у яе з двух бакоў аздаблялі каляровыя плакаты, наклееныя адзін над адным. І вось, у пазначаны дзень, паабедаўшы і без спеху сабраўшыся, мы выправіліся туды ўжо ў поўнай цемры, дзеці, святочна адзетыя, шчаслівыя, што ім столькі патураюць. Як і ўсе апошнія дні, было душна, час ад часу палахцелі зарнкі і накрапваў дождж. Мы ішлі пад парасонамі. Ісці да залы было чвэрць гадзіны.

У дзвярах праверылі нашыя білеты, але месцы свае мы ўжо шукалі самі. Яны былі ў трэцім радзе злева; сеўшы, мы ўстанавілі, што з даволі позним часам, на які было назначана прадстаўленне, не дужа тут лічацца: курортная публіка лянотна, быццам каб наўмысна прыйсці са спазненнем, запаўняла партэр, а як што ніякіх ложаў тут не было, дык гэта і была глядзельная зала. Такая няспешнасць нас крыху затрывожыла. Ужо цяпер шчокі ў дзяцей ад чакання і стомы гарэлі ліхаманкавай чырванню. Толькі адведзеныя пад стаячыя месцы бакавыя праходы і канец залы пры нашым прыходзе былі бітком. Там стаялі, з голымі па локаць рукамі крыж–накрыж на паласатых цяльняшках, прадстаўнікі мужчынскай палавіны карэннага насельніцтва Торэ: рыбакі, маладыя хлопцы, якія задзірыста азіраліся па баках, і калі нас парадавала прысутнасць у зале мясцовага працоўнага люду, які адзін толькі і здольны надаць такога роду відовішчам маляўнічасць і гумар, дык дзеці былі проста ў захапленні. У іх былі сябры сярод мясцовых, яны знаёміліся пад час вечаровых шпацыровак на далёкія пляжы. Часта, калі сонца, змардаваўшыся ад тытанічнай працы, скочвалася ў мора, фарбуючы шумавінне прыбою залатым пунсом, мы па дарозе дамоў сустракалі арцелі босых рыбакоў; цугам, упіраючыся нагамі і напружваючы рукі, яны з працяглымі крыкамі выцягвалі сеткі і збіралі свой часцей за ўсё небагаты ўлоў frutti di mare[6] ў мокрыя кашы, а нашыя малыя прагладвалі вочы, на іх гледзячы, пускалі ў абыход тыя некалькі італьянскіх слоў, якія ведалі, пасаблялі цягнуць сеткі, заводзілі сяброўства. І цяпер дзеці абменьваліся вітаннямі з гледачамі з стаячых месцаў; вунь там стаіць Гіскарда, вунь там Антоніё, яны ведалі іх паіменна, махалі рукой і спаўголасу аклікалі, у адказ атрымліваючы ківок ці ўсмешку, якая адкрывала рад моцных белых зубоў. Гля–гля, прыйшоў нават Марыё з «Эсквізіта», той самы Марыё, які падае нам на стол шакалад! Яму таксама захацелася падзівіцца на штукарствы, і, мабыць, ён прыйшоў загадзя, бо стаіць амаль наперадзе, але і выгляду не падае, што заўважыў нас, такая





ўжо ў яго мода, дарма што толькі малодшы афіцыянт. Затое мы махаем лодачніку, які выдае на пляжы лодкі напракат, і ён там стаіць, але ззаду, каля самай сцяны.

Чвэрць на дзесятую... амаль палова... Вы разумееце нашае хваляванне? Калі ж мы пакладзем дзяцей спаць? Ясна, не варта было прыводзіць іх сюды, бо адарваць іх ад абяцанага прадстаўлення, ледзь толькі яно пачнецца, будзе проста жорстка. Спакваля партэр запоўніўся: можна сказаць, тут сабраўся ўвесь Торэ; пастойнікі з «Гранд–гатэля», пастойнікі з вілы «Элеанора» і іншых пансіёнаў, усе знаёмыя па пляжы твары. Навокал чулася англійская і нямецкая мова. І тая французская, на якой румыны звычайна гавораць з італьянцамі. За намі праз два рады сядзела сама сіньёра Анджальеры поплеч са сваім ціхмяным і лысым сужэнцам, які пагладжваў вусы ўказальным і сярэднім пальцамі правай рукі. Усе прыйшлі са спазненнем, але ніхто не спазніўся. Чыпола хацеў, каб яго чакалі.

І прымушаў у літаральным сэнсе. Зацягваючы выхад, ён наўмысна ўзмацняў напружанасць. Можна было зразумець гэты ягоны прыём, але ж усё мае свой край. Каля паловы дзесятай публіка пачала пляскаць — ветлівая форма законнай нецярплівасці, бо яна адначасова гаворыць і за гатоўнасць аппладыраваць. Нашыя малышы ўсе далонькі сабе паадплясквалі, гэта ўжо была ім як бы частка праграмы. Усе дзеці любяць ладкі. З бакавых праходаў і з глыбіні залы пачуліся рашучыя воклічы: «Pronti»[7] і «Cominciano»[8] І што ж, пачаць прадстаўленне, выяўляецца, можна, і ніхто гэтаму не замінае. Ударыў гонг, усе стаячыя павіталі гэты гук шматгалосым «Га–а–а!», і заслона раз'ехалася. Адкрыўся памост, які сваім убранствам больш нагадваў класны пакой, чым сцэну: гэтае ўражанне рабіла чорная аспідная дошка, пастаўленая на падстаўцы на авансцэне злева. Акрамя таго, мы ўбачылі самую звычайную жоўтую вешалку, два сялянскія саламяныя крэслы і ў глыбіні круглы столік, на якім стаяў графін з вадою і шклянка, а на асобным падносіку графінчык меншы з нейкай светла–жоўтай вадкасцю і лікёрная чарка. Нам былі дадзены дзве секунды, каб добра разгледзець гэты рэквізіт. Потым, пры незацененай зале, кавальерэ Чыпола паявіўся на эстрадзе.

Ён увайшоў імклівай паходкаю, у якой бачылася жаданне дагадзіць публіцы і якая робіць падманлівае ўражанне, быццам той, хто ўвайшоў, каб хутчэй явіцца на вочы гледачам, прайшоў у такім самым тэмпе добры адцінак дарогі, тым часам як ён проста стаяў за кулісамі. Адзенне Чыполы мацавала ўражанне, што ён прыйшоў проста з вуліцы. Няпэўнага ўзросту, але, прынамсі, чалавек зусім не малады, з рэзкімі рысамі прапітага твару, пранозлівымі вочкамі, моцна сціснутымі тонкімі губамі, падмазанымі чорнымі вускамі і так званай мушкай у далінцы паміж ніжняй губай і падбародкам, апрануты нейк даволі мудрагеліста. На ім быў шырокі чорны плашч без рукавоў з аксамітным каўнярам і падбітай атласам палярынаю — штукар падтрымліваў яго спераду рукамі ў белых пальчатках,— на шыі белы шалік, а на галаве насунуты на адно брыво выгнуты цыліндр. Мусіць, у Італіі, больш чым дзе б тое ні было, жыве яшчэ васемнаццатае стагоддзе, а ў ім і тып шарлатана кірмашовага бірыча — прадаўца–зельніка, што такі характэрны той эпосе і адносна добра захаваныя экземпляры якога толькі ў Італіі яшчэ і можна сустрэць. У абліччы Чыполы было многа ад гэтай гістарычнай постаці, а ўражанне блазенскай крыклівасці і эксцэнтрызму, якія так уласцівыя ёй, дасягалася тым, што прэтэнцыёзная вопратка штукара вельмі дзіўна сядзела на ім ці, правільней, вісела, дзе прылягаючы не на месцы, дзе ападаючы няправільнымі складкамі: нешта з яго фігурай было не тое, не гэтае і спераду і ззаду — пазней гэта стала яшчэ больш прыкметна. Але я павінен падкрэсліць, што ні пра якую жартаўлівасць, а тым болей блазнаванне, ні ў яго руках, ні ў міміцы, ні ў манеры трымацца і гаворкі быць не магло: бадай, наадварот у іх праяўляліся крайняя сур'ёзнасць, адмова ад гумару, часам нават змрочная ганарыстасць, а таксама некаторыя, уласцівыя калекам, важнасць і самазадаволенасць,— усё гэта, аднак, не заважала таму, што ягоныя паводзіны напачатку выклікалі ў розных месцах залы смех.

Цяпер у ягонай манеры трымацца ўжо не было нізвання дагодлівасці; імклівы выхад быў усяго толькі выявай унутранай энергіі, у якой паслужлівасць не грала ніякай ролі. Стоячы каля рампы і нядбала сцягваючы пальчаткі з доўгіх жаўтлявых пальцаў — на адным быў пярсцёнак з вялікай пячаткаю з ляпіс–лазуру,— ён маленькімі строгімі вочкамі з прыпухлымі пад імі мяшэчкамі аглядаў залу, няспешна, то тут то там выпрабавальна–фанабэрыста затрымліваючыся на чым–небудзь твары, — і ўсё гэта з'едліва сцяўшы губы і не кажучы ні слова. Скамечаныя ў клубок пальчаткі ён з дзівосным і, напэўна ж, прывычным спрытам кінуў з вялікай адлегласці ў шклянку на круглым століку, потым, усё гэтак жа моўчкі азіраючы залу, дастаў з нейкай унутранай кішэні цыгарэты, мяркуючы па пачку, самых танных, акуратна выняў адну і не гледзячы прыкурыў ад запальнічкі, якая ўспыхнула імгненна. Глыбока зацягнуўся і з грымасай выкліку, шырока расцягнуўшы губы і ціхенька пастукваючы наском туфлі па падлозе, выпусціў шэры струмянёк дыму спаміж гнілякоў з'едзеных зубоў.

Публіка разглядвала яго не меней пільна, чым ён яе. У моладзі ў бакавых праходах бровы насупленыя, і прыдзірлівы пагляд толькі і чакаў хібы, якую гэты самаўпэўнены штукар абавязкова дасць. Але той не хібіў. Даставанне пачка цыгарэт і запальнічкі і потым вяртанне іх на месца было даволі складаным, перашкаджала вопратка: яму давялося расхінуць плашч, і тут выявілася, што на пятлі, накінутай на левую руку, у яго чамусьці вісіць плётка з сярэбраным тронкам у выглядзе кіпцюрастай лапы. Потым звярнулі ўвагу на тое, што ён у сурдуце, а не ў фраку, і як Чыпола расшпіліў сурдук, адкрылася павязаная вакол яго торсу, напалавіну пад камізэлькай, шырокая каляровая стужка, якую гледачы, што сядзелі за намі і нішкам абменьваліся ўражаннямі, прынялі за знак яго кавалерскай годнасці. Ці так яно, не ведаю, бо ніколі

не чуў, каб тытулу кавальерэ адпавядала такая адзнака. Магчыма, стужка была чыстым блефам, як і маўклівая нерухомасць штукара, які на вачах у публікі спаважна і спакойна курыў цыгарэту.

Як я ўжо згадваў, у зале смяяліся, а калі голас з партэрнай «галёркі» раптам зычна і суха сказаў «Buona sera!»[9] грымнуў дружны рогат

Чыпола схамянуўся.

—Хто гэта? — спытаўся ён, быццам кінуўшыся ў напад.—Хто гэта сказаў? Ану? То такі смелы, а то адразу пад ложак? Paura eh?[10] — Голас у штукара быў даволі тонкі, крыху астматычны, але з металам. Ён чакаў.

—Ну, я,— прамовіў у цішыні малады чалавек непадалёк ад нас, які ўчуў у словах Чыполы выклік і замах на свой гонар,—прыгожы хлапчына ў паркалёвай кашулі з перакінутым цераз плячо пінжаком. Яго чорныя цвёрдыя і кучаравыя валасы былі па прынятай у «абуджанай Італіі» модзе зачасаныя ўгару і стаялі дыбарам, што зусім яго не псавала і надавала яму нешта афрыканскае.—Ве[11]... Ну, хай я. Увогуле павітацца след было вам, але я на гэта не зважаю.

Зноў стала весела. З хлопцам і сабака не збрэшацца. «Ha sciolto lo scilinguagnolo»[12],— сказаў нехта каля нас. Урок ветлівасці, калі ўжо на тое, быў тут дарэчы.

—Брава! — адказаў Чыпола.— Ты мне падабаешся, Джаванота. Вер не вер, я цябе даўно змеціў. У мяне свая сімпатыя да такіх, як ты, яны могуць мне спатрэбіцца. Відаць, што ты малайчына. Робіш, як што табе заўгодна. Ці мо табе ўжо калі выпадала рабіць тое, чаго не хочацца? Альбо чаго хочацца не табе? Паслухай, дружа, а што калі ўзяць ды павесяліцца, узяць ды скінуць маску малайца, які бярэ на сябе і тое і другое: і хаценне і рабленне. Увесці нарэшце нейкі падзел працы — sistema americano, sa?[13] Вось, напрыклад, ці не хочаш ты паказаць язык высокашаноўнай публіцы, якая тут сабралася, увесь язык да самага кораня?

—Не,— варожа адсек хлопец,— не хачу. Гэта даказала б, што я дрэнна выхаваны.

—Анічога не даказала б,— адказаў Чыпола, — бо ты зробіш гэта насуперак свайму хаценню. Хай ты добра выхаваны, але цяпер, перш чым я палічу да трох, ты павернешся направа да публікі і высалапіш язык, такі доўгі, якога ты і не думаў, што маеш.

Чыпола паглядзеў на хлопца, пранозлівыя вочкі яго, здавалася, яшчэ глыбей запалі ў вачніцы.

—Uno![14] — сказаў ён і, спусціўшы з локця пятлю плёткі, са свістам секаняў ёю ў паветры.

Хлопец павярнуўся да публікі і высунуў такі доўгі язык, што якое там сумненне — даўжэйшых не бывае! Потым прыняў ранейшую позу, і на твары нічога на адбілася.

—«Ну, я...» — перадражніў Чыпола, падміргваючы і паказваючы на хлопца.— «Бе... Ну, я сказаў».— Пасля, даўшы публіцы самой разабрацца ў сваіх уражаннях, падышоў да століка, наліў сабе з графінчыка, у якім, відаць, быў каньяк, поўную чарку і звычным рухам кульнуў у рот.

Дзеці ад душы смяяліся. Яны мала чаго зразумелі з гэтай перапалкі; але тое, што паміж дзівакаватым чалавекам там на сцэне і кімсьці з публікі адразу разыгралася такая пацешная сцэна, іх вельмі пазабавіла, а як што яны не дужа сабе ўяўлялі, з чаго павінна складацца праграма абяцанага афішай вечара, дык гатовыя былі лічыць такі пачатак выдатным. Што да нас, дык мы пераглянуліся, і, памятаю, я міжволі паўтарыў губамі гук, з якім Чыполава плётка рассекла паветра. Зрэшты, было ясна, што гледачы не ведалі, як паставіцца да такога неверагоднага пачатку прадстаўлення, ды так як след і не ўцямілі, што ж раптам прымусіла Джаванота, які, можна сказаць, выступаў ад іх імя, абярнуць свой запал супроць іх, супроць публікі. Якое дзіцячае блазнаванне! І, выкінуўшы яго з галавы, гледачы засяродзіліся на артысце, які тым часам ад століка з падмацункам вярнуўся на авансцэну і сказаў такое слова:

—Паважанае спадарства,— прамовіў астматычна-металёвым голасам.— Вы толькі што бачылі, што мяне крыху забрала ад таго ўроку, які спрабаваў падаць мне гэты небезнадзейны малады лінгвіст («questo linguista di belle speranze» — каламбур выклікаў смех). Я чалавек не без самалюбства, і з гэтым вам давядзецца лічыцца! Я не люблю, калі мне без сур'ёзнасці і пашаны зычаць добрага вечара — інакш рабіць і сэнсу няма ніякага. Калі вы зычыце мне добрага вечара, вы тым самым зычыце таго самага і сабе, бо публіка толькі тады добра забавіць вечар, калі ён удасца мне, а таму гэты кумір усіх паненак Торэ-дзі-Венерэ (ён усё яшчэ калоў хлопца) выдатна зрабіў, даўшы жывы доказ таго, што вечар сёння ў мяне будзе ўдалы і я, такім чынам, магу абысціся без ягоных узычак. Магу пахваліцца, што ўсе вечары ў мяне добрыя. Здараецца, выпадзе каторы і менш удалы, але рэдка. Прафесія ў мяне цяжкая, і здароўе не дужа моцнае — невялікая цялесная пахіба, якая перашкодзіла мне прыняць удзел у змаганні за веліч нашай радзімы. Але сілай розуму і духу адольваю я жыццё, што зноў-такі найперш азначае: адолець сябе, і цешу сябе надзеяй, што сваёй працай заслужыў прыхільную ўвагу адукаванай публікі. Сталічная прэса ацаніла маю працу, «Corriere della sera»[15] зрабіў вельмі слушна, калі назваў феноменам, а ў Рыме родны брат дучэ зрабіў мне гонар асабістай прысутнасцю на прадстаўленні. І калі ў такіх бліскучых і высокіх сферах Рыма дабраволілі засланяць вочы на некаторыя мае прызвычайкі, я не палічыў патрэбным ад іх адмаўляцца ў параўнаўча меней значным горадзе, якім усё-такі з'яўляецца Торэ-дзі-Венерэ (тут публіка пасмяялася з жалю вартага Торэ), і цярпець, каб асобы, хоць бы і спешчаныя ўвагаю прыгожага полу, нешта мне ўказвалі.

Зноў перапала хлопцу, якога Чыпола не пераставаў выстаўляць у ролі donnaiuolo[16] і саматужнага донжуана, прычым упартае раздражненне і варожасць, з якімі штукар зноў і зноў накідваўся на яго, ніяк





не стасаваліся з самаўпэўненасцю кавальерэ і свецкімі поспехамі, якімі ён хваліўся. Вядома, хлопец павінен быў служыць мішэнню для Чыполавых дасціпаў, мішэнню, якую той у кожным прадстаўленні выбіраў сабе з публікі і па кім праязджаўся. Аднак у ягоных асцюках была і сапраўдная зласлівасць, прычына якое рабілася па-чалавечы зразумелай пры першым жа позірку на фізічны склад таго і другога, нават калі б гарбач увесь час не намякаў на поспех прыгожага хлопца ў жанчын.

—Але перш чым пачаць прадстаўленне,— дадаў ён,— я, з вашага дазволу, вызвалюся ад плашча!

І ён павярнуўся да вешалкі.

—Parla benissimo[17],— з захапленнем сказаў нехта каля нас.

Артыст яшчэ нічым не паказаў свайго майстэрства, але само яго ўменне прамаўляць было прызнана мастацтвам, ён зрабіў уражанне ўжо адным сваім красамоўствам. На поўдні жывая гамонка — гэта неад'емная частка жыцця, і ёй надаюць больш вагі, чым дзе-колечы на поўначы. Нацыянальны сродак зносін, родная мова, акружана ў гэтых народаў вартай пераймання пашанаю, і ёсць нешта пацешнае і неперайmальнае ў той прыдзірліва палкай шаноўлі, з якою сочаць за захаваннем формаў і законаў маўлення. Тут гавораць з асалодай, але слухаюць як строгія цаніцелі. Бо па тым, як чалавек гаворыць, вызначаюць ягонае месца ў грамадстве; неахайная, каравая мова выклікае пагарду, вытанчаная і адмысловая — стварае прэстыж, і таму маленькі чалавек, калі яму залежыць зрабіць выгаднае ўражанне, стараецца ўжываць выштукаваныя фразы і сочыць за сваім вымаўленнем. З гэтага боку, прынамсі, Чыпола прыхінуў бы да сябе публіку, хоць сам і не адносіўся да тыпу людзей, якія італьянцу з уласцівым яму змешваннем маральных і эстэтычных мерак здаюцца sumpatico[18]

Чыпола зняў шаўковы цыліндр, шалік, плашч, на хаду паправіў каптан, выцягваючы манжэты з вялікімі запінкамі, расправіў бутафорскую стужку і вярнуўся на авансцэну. На галаве ў яго была гідота: амаль зусім голы чэрап, толькі вузкая падчэрненая палоска валасоў, разведзеная на баку простым прадзелам, цягнулася, быццам прыклееная, ад патыліцы да лоба, а валасы са скроняў, таксама падчэрненыя, былі начасаны да краёў вачэй — прычоска, як у старамоднага дырэктара цырка, смешная, але ў тон яго незвычайнаму індывідуальнаму стылю, насіў ён яе з такой пэўнасцю самога сябе, што, хай сабе і камічная, публіка ў зале стрымана маўчала. Невялікая цялесная пахіба, пра якую Чыпола загадзя наўмысна згадаў, была цяпер на вачах, хоць прырода яе і не зусім ясная: грудная клетка, як заўсёды ў такіх выпадках, была паднятая ўгору, але горб на спіне сядзеў не на звычайным месцы, паміж лапаткамі, а ніжэй, над клубамі і паясніцай, не заважаў пры хадзе, а надаваў ёй нешта бязглузда карыкатурнае, бо кожны крок у яго выходзіў ураскачку, клыбата. Зрэшты, як што Чыпола папярэдзіў пра сваё калецтва, яно нікога не ўразіла, і ў зале да яго паставіліся з адпаведнай далікатнасцю.

—Вам да паслугаў! — сказаў Чыпола.— Калі вы не пярэчыце, мы пачнём нашу праграму з сякіх-такіх арыфметычных практыкаванняў.

Арыфметыка? Гэта, бадай, на штукарствы не выдае. У мяне ўжо пачало закрадвацца падазрэнне, што Чыпола нешта круціць, але хто ён на самай справе, было яшчэ няясна. Мне стала шкада дзяцей; але пакуль што яны былі шчаслівыя проста таму, што сядзяць тут

Нумар з лічбамі, які Чыпола паказаў, быў такі ж просты, як і ашаломна эфектны ў канцоўцы. Чыпола пачаў з таго, што прымацаваў кнопкамі аркуш паперы ў правым верхнім куце дошкі і, падняўшы ліст, нешта напісаў на дошцы. Пры гэтым ён беспераступку балабоніў, хочучы, відаць, няспынным слоўным акампанементам ажывіць нумар, каб ён не здаўся сухаватым; штукар такім чынам адначасова выступаў і ў ролі свайго канферансье, вельмі жвавага і вынаходлівага на язык. Ён увесь час стараўся згладзіць прорву паміж эстрадай і залай, прорву, праз якую ён ужо паспеў перакінуць кладку сваёй перастрэлкаю з маладым рыбаком, і дзеля гэтага то запрашаў на сцэну каго-небудзь з публікі, то сам па сходках спускаўся ў партэр, каб уступіць у асабісты кантакт з гледачамі. Гэта было стылем яго працы і вельмі падабалася дзецям. Не ведаю, у якой меры ўваходзіла ў задумы і сістэму Чыполы тое, што ён, захоўваючы сур'ёзнасць і нават панурасць, уключаўся ў спрэчкі з асобнымі гледачамі — публіка, прынамсі публіка працейшая, відаць, лічыла гэта нармальным.

Закончыўшы пісаць і прыкрыўшы напісанае аркушам паперы, ён папрасіў двух чалавек падняцца на эстраду, каб асіставаць пры падліку: нічога цяжкага тут няма, нават той, хто не вельмі моцны ў арыфметыцы, можа справіцца. Як звычайна бывае, не знайшлося нікога, хто пажадаў бы сам, а Чыпола не хацеў назаляцца прывеліяванай публіцы. Ён трымаўся за народ і звярнуўся да двух здаравенных дубаломаў-дзецюкоў на стаячых месцах у глыбіні залы, падбадзёрваў іх, сарамаціў, што яны толькі стаяць і глядзяць, а не хочуць зрабіць ласку публіцы, і ўрэшце ўгаварыў. Няўклюдна ідучы, хлопцы рушылі наперад па праходзе, падняліся па прыступках і, збянтэжана ўсміхаючыся, пад крыкі «брава» сваіх прыяцеляў сталі каля дошкі. Чыпола яшчэ хвіліну-другую жартаваў з іх, пахваляючы геркулесаву моц іхніх цягліцаў, іх велізарныя рукі, проста ж дзеля таго і створаныя, каб зрабіць такую паслугу прысутным, пасля сунуў аднаму ў пальцы грыфель і сказаў запісваць лічбы, якія яму будуць называць. Але хлопец заявіў, што пісаць не ўмее. «Non so scrivere»,— адбасаваў ён, а ягоны таварыш дадаў: «І я таксамака».

Бог яго ведае, ці казалі яны праўду, ці проста рашылі пасмяяцца з Чыполы. У кожным разе, той зусім не схіляўся падзяляць агульную весялосць, з якою зала прыняла гэтае прызнанне. На ягоным твары адбіліся крыўда і агіда. Чыпола сядзеў у гэтую хвіліну на саламяным крэсле пасярод сцэны і, заклаўшы нагу на нагу, зноў курыў танную цыгарэту, якая яму, відаць, была дужа да густу,— пакуль абодва цельпукі

ішлі да эстрады, ён паспеў прапусціць другую чарачку каньяку. І зноў пасля глыбокай зацяжкі ён струмочкам выпусціў дым праз вышчараныя зубы і, пахітваючы нагой, скіраваў поўны суровага асуджэння позірк паўзверх абодвух нягоднікаў і паўзверх публікі кудысьці ў прастору, бы чалавек, які сутыкнуўся з нечым настолькі абуральным, што вымушаны замкнуцца ў сабе, у пачуцці сваёй годнасці.

—Ганьба,— сказаў ён нарэшце холадна і злосна.— Ідзіце ў залу! У Італіі ўсе ўмеюць пісаць, яе веліч не дае месца цемры і невуцтву. Дурны жарт рабіць уголас такія заявы перад абліччам прысутнага тут іншаземнага корпуса, вы прыніжаеце гэтым не толькі самых сябе, але і ўрад, даяце зачэпку ліхасловіць на нашу краіну. Калі Торэ–дзі–Венерэ сапраўды такі глухі куток нашай айчыны, апошняе прыстанішча непісьменнасці, мне застаецца адно па–шкадаваць пра свой прыезд у гэты горад, пра які мне, праўда, было вядома, што ён у тым–сім саступае Рыму...

Але тут яго перапыніў хлопец з нубійскай прычоскаю і перакінутым цераз плячо пінжаком, чый ваяўнічы запал, як выявілася, прытух толькі на час, і які цяпер з высока паднятай галавою па–рыцарску ўстаў на абарону роднага горада.

—Годзе! — гучна сказаў ён.— Годзе вам кпіць з Торэ. Мы ўсе тут нарадзіліся і не пацерпім, каб з нашага горада здзекаваліся пры іншаземцах. Ды і гэтыя двое — нашы сябры. Яны, вядома, не вучоныя прафесары, затое сумленныя хлопцы, больш сумленныя за сяго–таго ў гэтай зале, што хваліцца Рымам, хоць ён яго і не заснаваў.

Вось гэта адпор! Хлопец і праўда зубасты! Публіка не сумавала, сочачы за гэтай сцэнаю, хоць пачатак праграмы ўсё адцягваўся. Спрэчка заўсёды захапляе. Адных перапалкі проста пацяшаюць, і яны з'едліва радуюцца, што самі засталіся ўбаку; іншыя прымаюць усё блізка да сэрца і хвалююцца, і я іх вельмі добра разумею, хоць тады ў мяне склалася ўражанне, быццам тут нейкая змова, і непісьменныя хлопцы, гэтаксама як і Джаванота са сваім пінжаком, падыгрываюць артысту, каб увесяліць публіку. Дзеці слухалі развесіўшы вушы. Яны нічога не разумелі, але інтанацыя да іх даходзіла і трымала. Дык вось што такое штукар, фокуснік, прынамсі, італьянскі. Яны былі ў захапленні.

Чыпола ўстаў і, хістаючыся, зрабіў два крокі да рампы.

—Гляньце ж бо! — прамовіў ён са зласлівай сардэчнасцю.— Даўні знаёмы. Юнак, у якога што наўме, тое на языку! (Ён сказаў «sulla linguaccia», што азначае «абкладзены язык» — зноў выбух рогату.) Ідзіце, сябры! — павярнуўся ён да двух ёлупаў.— Я на вас надзівіўся, цяпер у мяне інтарэс да гэтага паборцы гонару, con questo torregiano di Venere, гэтага ахоўцы вежы Венеры, які несумненна наперад смакуе ўзнагароду за сваю адданасць.

—Ah, non scherziamo![19] Пагамонім сур'ёзна! —ускінуўся хлопец, вочы ў яго бліснулі, і ён нават зрабіў такі рух, быццам хацеў скінуць пінжак і ад слоў перайсці да дзеяння.

Чыпола прыняў гэта даволі спакойна. Ён не мы (мы трывожна пераглянуліся), кавальерэ быў сярод суайчыннікаў, адчуваў пад нагамі родную глебу. Ён заставаўся халодны, паказаўшы гэтым сваю поўную перавагу. Насмешлівым кіўком у бок маладога пеўніка і красамоўным позіркам ён запрасіў публіку пасмяяцца разам з ім з баявітасці свайго праціўніка, якая сведчыла пра дурнаватую абмежаванасць таго. І тут сталася нешта дзівоснае, што асвятліла гэтую перавагу вусцішным святлом і ганебным, незразумелым чынам абярнула ваяўнічае напружанне ўсёй сцэны ў нешта смеху вартае.

Чыпола яшчэ бліжэй падышоў да хлопца і неяк адмыслова паглядзеў таму ў вочы. Штукар нават напалову сышоў з лесвічкі, якая злева ад нас вяла ў залу, так што стаяў толькі ледзь–ледзь вышэй і амаль перад самым ваярам. Плётка вісела ў яго на руцэ.

—Значыцца, ты не схільны жартаваць, сынку,— сказаў ён.—Яно і зразумела, кожнаму ж відаць, што ты нездаровы. І язык твой — шчыра скажам, не вельмі чысты,— сведчыў пра непарадак у страўніку. Не трэба хадзіць на прадстаўленні, калі адчуваеш сябе так блага; ты і сам, я ведаю, вагаўся, думаў, ці не лепш будзе легчы ў ложак і зрабіць сабе гарачы кампрэс на жывот. Недаравальнае легкадумства было піць пасля абеду столькі белага віна — і хай бы ж добрага, а то абы–што, кіслоцце. І вось цяпер у цябе колікі, і ты ледзь не курчышся ад болю. А ты не саромейся! Дай волі свайму целу, сагніся, гэта заўсёды дае палёгку пры кішэчных курчах.

Пакуль Чыпола гаварыў гэтую прамову спакойна і настойліва, з нейкім суровым спачуваннем, вочы ягоныя свідравалі хлапца, нібы зрабіліся сухія і гарачыя,— гэта былі незвычайныя вочы, і рабілася відавочным, што яго праціўнік не толькі з мужчынскага самалюбства не мог адвесці ад іх позірку. Ды і ўвогуле на смуглым твары Джаванота хутка не засталося і следу ранейшай самаўпэўненасці. Ён глядзеў на кавальерэ, крыху разявіўшы рот, і рот гэты крывіўся вінаватай і жаласлівай усмешкаю.

—Дай сабе волі, сагніся! — зноў паўтарыў Чыпола.—Нічога іншага ў цябе няма! Пры такіх рэзях заўсёды курчацца. Ты ж не будзеш упірацца натуральнаму руху толькі таму, што табе гэта раяць.

Хлопец павольна падняў рукі і яшчэ да таго, як крыж–накрыж абхапіў імі жывот, пачаў нагінацца, паварочваючы корпус і нахіляючыся наперад усё ніжэй і ніжэй, пакуль, нарэшце, са стуленымі каленямі, расставіўшы пяты, амаль сеў на кукішкі —жывая карціна болю, які курчыць чалавека. Чыпола даў яму пастаяць у гэтай позе з хвіліну, потым ляснуў у паветры плёткай і паклыбаў да круглага століка, дзе зноў выпіў каньяку.

—IL boit beaucoup[20],— сказала дама за намі. Няўжо гэта было адзінае, што яе здзівіла? Нам усё яшчэ было няясна, ці дастаткова публіка разабралася ў тым, што адбываецца. Хлопец ужо распрастаўся і стаяў, збянтэжана ўсміхаючыся, быццам толкам не ведаў, што з ім адбылося. Усе сачылі за гэтай сцэнаю з палкай цікавасцю і цяпер заапладыравалі, закрычалі: «Брава, Чыпола!», «Брава, Джаванота!». Мабыць, гледачы не ўспрынялі выніку спрэчкі як асабістую няўдачу хлопца і падбадзёрвалі яго, як актора, што выдатна выканаў ролю смешнага і нікчэмнага персанажа. І праўда, ён вельмі пераканаўча і нават ці не занадта натуральна, нібы з разлікам на галёрку, курчыўся ад болю, паказаўшы, так сказаць, сапраўдны акторскі талент. Зрэшты, я не ўпэўнены, што трэба прыпісаць адносіны залы ці то такту, якім жыхары поўдня заўсёды далікатнейшыя за нас, ці то сапраўднаму заглыбленню ў сутнасць справы.

Падмацаваўшыся, кавальерэ закурыў новую цыгарэту. Можна было зноў вярнуцца да арыфметычнага вопыту. У заднім радзе лёгка знайшоўся малады чалавек, што згадзіўся запісваць лічбы, якія яму будуць называць. Яго мы таксама ведалі; тут было столькі знаёмых твараў, што прадстаўленне рабілася нейкім як бы нават свойскім. Малады чалавек служыў на галоўнай вуліцы ў лаўцы, дзе гандлявалі садавінай і каланіяльнымі таварамі, ён шмат разоў абслугоўваў нас, вельмі ветліва і ўважліва. Пакуль ён спрытна, як прыказчык, пісаў крэйдай, Чыпола спусціўся да нас у партэр і, як раскарака, пахаджваў сярод публікі, звяртаўся то да аднаго, то да другога і прасіў назваць яму, на свой выбар, двух–, трох– або чатырохзначную лічбу, якую, толькі яна злятала з вуснаў апытанага, паўтараў маладому бакалейніку, а той запісваў на дошцы ў слупок. Усё гэта з узаемнай згоды было разлічана на забаву, жарт, аратарскія адступленні. Вядома, здаралася, што артыст натыкаўся на іншаземцаў, якія не маглі ўправіцца з лічбамі на чужой мове; з імі Чыпола доўга, з падкрэсленай рыцарскай галантнасцю, біўся пад стрыманыя смяшкі мясцовых, якіх ён, у сваю чаргу, бянтэжыў, просячы перакладаць яму лічбы, сказаныя па–англійску або французску. Некаторыя называлі лічбы, якія паказвалі на вялікія даты ў італьянскай гісторыі. Чыпола моманта гэта ўлоўліваў і карыстаўся выпадкам, каб мімаходзь прыпрэгчы якую–небудзь патрыятычную развагу. Нехта сказаў: «Нуль!» — і кавальерэ, як заўсёды глыбока пакрыўджаны спробай пажартаваць з яго, кінуў цераз плячук, што гэта не двухзначная лічба, на што іншы дасціпнік крыкнуў: «Два нулі!» — і гэта спрычыніла агульную весялосць, якую на поўдні заўсёды выклікае любы намёк на натуральную патрэбу. Толькі адзін кавальерэ трымаўся пагардліва–асуджальна, хоць сам і справакаваў двухсэнсіцу; аднак, перасмыкнуўшы плячыма, ён сказаў бакалейніку запісаць і два нулі.

Калі на дошцы набралася каля пятнаццаці розных лічбаў, Чыпола папрасіў гледачоў скласці іх. Спрактыкаваныя ў матэматычных вылічэннях хай палічаць у памяці проста з дошкі, але нікому не забаранялася карыстацца алоўкам і паперай. Пакуль усе працавалі, Чыпола сядзеў каля дошкі і, крывячыся, курыў з самазадаволенаю мінай, уласцівай калекам. Хуценька падбілі вынік — пяцізначны лік. Нехта назваў суму, другі пацвердзіў, у трэцяга вынік не зусім супадаў, у чацвёртага ўсё сыходзілася. Чыпола ўстаў, страсянуў попел з каптана, крыху падняў ліст паперы ў правым верхнім куце дошкі, адкрыў тое, што было напісана. Там стаяла якраз гэтая самая сума, нешта каля мільёна. Ён напісаў яе загадзя.

Агульнае здзіўленне і гром воплескаў. Дзеці нават раты разявілі. Як гэта ён так дапяў, прыставалі яны да нас. Нялёгка растлумачыць гэтую штуку, адказвалі мы, на тое Чыпола і штукар. Цяпер яны ведалі, што такое прадстаўленне фокусніка. Ну проста здорава: як у рыбака раптам забалеў жывот, а цяпер вось гатовы вынік на дошцы,— і мы ўжо з трывогай прадбачылі, што, нягледзячы на запаленыя вочы і позні час, амаль палову адзінаццатай, будзе вельмі нялёгка вывесці іх адгэтуль. Без слёз тут не абыдзецца. А між тым зусім жа відавочна, што гарбач не ўжывае ніякіх маніпуляцый — у сэнсе спрыту рук, і ўсё гэта зусім не для дзяцей. Не ведаю, што пра ўсё гэта думала публіка, але з выбарам складнікоў «па сваёй волі» ўсё было яўна нячыста; вядома, не выключана, што той або іншы з апытаных адказваў па сваім выбары, але адно несумненна: Чыпола выбіраў сабе людзей, і ўвесь ход доследу, скіраванага на тое, каб атрымаць вызначаны наперад вынік, быў падпарадкаваны ягонай волі; аднак нельга было не захапляцца яго матэматычнымі здольнасцямі, хоць усё астатняе чамусьці не выклікала захаплення. У дадатак ягоны ўра–патрыятызм і бясконцая самазадаволенасць — суайчыннікі кавальерэ, магчыма, і адчувалі сябе ў сваёй стыхіі і здольныя былі яшчэ жартаваць, але чалавека збоку ўсё разам узятае прыгнятала.

Зрэшты, Чыпола сам спрыяў таму, каб у людзей, якія хоць трошкі нешта петрылі, не заставалася сумненняў што да прыроды яго майстэрства, хоць ні разу, вядома, не вымавіў ніводнага тэрміна і нічога сваім назовам не назваў. Аднак жа ён гаварыў пра гэта — ён увесь час гаварыў,— але ў туманных, самаўпэўненых выразах, якія выстаўлялі яго выключнасць.

Яшчэ нейкі час ён вёў тыя самыя практыкоўкі, але спачатку ўскладняў іншымі арыфметычнымі дзеяннямі, а потым усё спрасціў, каб паказаць, як гэта робіцца. Казаў проста «адгадваць» лічбы, якія папярэдне запісваў пад аркушам паперы на дошцы. Нехта прызнаўся, што спачатку хацеў назваць іншую лічбу, але менавіта ў гэты момант перад ім свіснула ў паветры плётка кавальерэ, і ў яго зляцела з вуснаў тая самая, што напісана на дошцы. Чыпола бязгучна засмяяўся аднымі плячмі. Кожны раз ён прыкідваўся здзіўленым празарлівасцю апытанага; але ў кампліментах ягоных чулася нешта іранічнае і абразлівае, не думаю, каб яны падабаліся паддоследным, хоць тыя і ўсміхаліся і ў пэўнай меры не былі супроць таго, каб прыпісаць апладысменты сабе. Мне здаецца таксама, што артыст не здабыў прыхільнасці ў публікі. У яе адносінах да яго, бадай, адчувалася прыхаваная непрыязь і непакорлівасць, але, нават калі адкінуць проста ветлівасць, якая стрымлівала такія пачуцці, майстэрства Чыполы, яго бясконцая самаўпэўненасць не маглі не падабацца, і нават плётка, здавалася, спрыяла таму, каб бунт не вырываўся вонкі.

Ад штукарстваў з лічбамі Чыпола перайшоў да картаў. Ён дастаў з кішэні дзве калоды, і, памятаю,

сутнасць эксперыменту была ў тым, што ён браў з адной калоды, не гледзячы, тры карты, хаваў іх ва ўнутраную кішэню каптана, працягваў другую каму–небудзь з гледачоў, каб той выцягнуў менавіта гэтыя тры карты, прычым фокус не заўсёды ўдаваўся бездакорна; часам супадалі толькі дзве карты, але часцей за ўсё, адкрыўшы свае тры карты, Чыпола перамагаў і лёгкім паклонам дзякаваў публіцы за апладысменты, якімі яна, хоч–не–хоч, а прызнавала яго магутнасць. Малады хлопец у пярэднім радзе справа ад нас, італьянец з гордым тварам, падняў руку і сказаў, што рашыў выбіраць выключна па сваёй волі і свядома супраціўляцца любому пабочнаму ўплыву. Які ў такім разе будзе вынік, на думку Чыполы?

—Вы толькі, можа, крыху ўскладніце мне задачу,— адказаў кавальерэ.— Але, як бы вы ні ўпіраліся, вынік будзе той самы. Існуе свабода, існуе і воля, але свабоды волі няма, бо воля, якая імкнецца толькі да сваёй свабоды, правальваецца ў пустату. Вы вольныя цягнуць альбо не цягнуць карты з калоды. Але пацягнеце, дык выцягнеце правільна, і з тым большай пэўнасцю, чым больш будзеце супраціўляцца.

Трэба прызнацца, што ён не мог прыдумаць нічога лепшага, каб напусціць туману і пасеяць разгубленасць у хлопцавай душы. Той упарта не рашаўся працягнуць руку да калоды. Узяўшы адну карту, ён тут жа захацеў, каб яму на праверку паказалі схаваныя.

—Але навошта? — здзівіўся Чыпола.— Ці не лепей ужо ўсе разам?

Але як што ўпарцісты хлопец стаяў на сваім, на такой папярэдняй пробе, фігляр з нечаканай для яго лакейскай дагодлівасцю сказаў: «E servito!»[21] — і, не гледзячы, веерам адкрыў свае тры карты. Крайняя левая была якраз тая, што выцягнуў хлопец.

Змагар за свабоду волі злосна сеў на месца пад воплескі гледачоў. У якой меры Чыпола на дапамогу свайму прыроднаму дару заклікаў розныя механічныя трукі і спрыт рук — чорт яго ведае. Але нават калі дапусціць такі сплаў, усе, хто з прагнай цікаўнасцю сачылі за незвычайным прадстаўленнем, шчыра цешыліся і прызнавалі бясспрэчнае майстэрства артыста. «Lavora bene!»[22] — чулася то тут то там непадалёк ад нас, а гэта азначала перамогу аб'ектыўнай справядлівасці над асабістай антыпатыяй і маўклівым абурэннем.

За апошнім, хай няпоўным, затое асабліва ўразлівым поспехам Чыпола спачатку зноў падмацаваўся віном. Ён і праўда «многа піў», і глядзець на гэта было не дужа прыемна. Відаць, яму патрэбны былі спіртное і тытунь, каб падтрымліваць і ўзнаўляць сваю жыццёвую сілу, да якое, як ён сам намякнуў, у многіх адносінах ставіліся вялікія патрабаванні. Часам ён сапраўды выглядаў зусім дрэнна — запалыя вочы, аселы твар. А чарачка зноў усё ўводзіла ў норму, і мова ў яго пасля таго зноў цякла, упярамешку з шэрымі струмянямі дыму, жвава і плаўна. Я добра памятаю, што ад картачных штукарстваў ён перайшоў да тых салонных гульняў, якія грунтуюцца на звыш— ці падсвядомых уласцівасцях чалавечай натуры — на інтуіцыі і «магнетычным» умаўленні,— словам, на ніжэйшай форме празарлівасці. Толькі ўнутраную сувязь і паслядоўнасць я не запамятаў. Дый не буду дакучаць вам апісаннем гэтых вопытаў, яны вядомыя ўсім: усе вы хоць раз удзельнічалі ў іх — у пошуках якога–небудзь схаванага прадмета, паслухмяным выкананні якіх–небудзь наперад задуманых дзеянняў, імпульс да якіх невытлумачальным шляхам перадаецца ад арганізму да арганізму. І пры гэтым кожны, пакручваючы галавой, кідаў цікаўна–гідлівыя позіркі ў двухсэнсава–нячыстыя і цёмныя нетры акультызму, які ад чалавечай слабасці яго адэптаў увесь час хіліцца да таго, каб, дурачы людзей, змешвацца з містыфікацыяй і шахрайствам, аднак і дамешка зусім не абвяргае натуральнасць іншых складнікоў гэтай дзівоснай амальгамы. Я хачу толькі адзначыць, што ўздзеянне ўзрастае і ўражанні паглыбляюцца, калі такі вось Чыпола выступае рэжысёрам і галоўнай дзейнай асобаю ў гэтай цёмнай гульні. Ён сядзеў спінай да публікі ў глыбіні эстрады і курыў, пакуль дзе–небудзь у зале нішкам дамаўляліся, прыдумваючы яму заданне, і з рук у рукі перадавалі прадмет, які яму трэба будзе знайсці і з ім нешта зрабіць. Потым, трымаючы за руку прысвечанага ў задачу павадыра з публікі, якому сказана было ісці трошкі ззаду і толькі ў думках засяродзіцца на задуманым, Чыпола, адкінуўшы галаву назад і выцягнуўшы наперад руку, улукаткі ішоў па зале, гэтаксама, як рухаюцца ў такіх вопытах усе — то памыкаючыся наперад, быццам яго нешта штурхала, то няўпэўнена, вобмацкам, нібы прыслухоўваючыся, то зноў заходзячы ў тупік і раптам паварочваючы. Здавалася, ролі памяняліся, флюід ішоў назад, і артыст, не перастаючы гаварыць, на гэта ўказваў. Цяпер пасіўным бокам, які ўспрымае, слухаецца, быў ён, яго ўласная воля выключана, ён толькі выконваў маўклівую, разлітую ў паветры агульную волю гледачоў, а да гэтага часу толькі ён адзін хацеў і загадваў; але Чыпола падкрэсліваў, што гэта, па сутнасці, тое ж самае. Здольнасць адасобіцца ад свайго «я», зрабіцца проста прыладай, пераконваў ён,— гэта другі бок здольнасці хацець і загадваць; гэта ўсё тая самая здольнасць, валадаранне і падпарадкавальнасць разам узятыя ўяўляюць адзін прынцып, адно непарыўнае адзінства; хто ўмее падначальвацца, той умее і загадваць, і наадварот, адно паняцце ўжо ёсць у другім, непарыўна з ім звязана, як непарыўна звязаны правадыр і народ, але затое напружанне, нязмернае, стомнае напружанне цалкам выпадае на яго долю, кіраўніка і выканаўцу ў адной асобе, у якой воля робіцца паслушэнствам, а паслушэнства — воляй, ён спараджае і тое і другое, і таму яму даводзіцца асабліва цяжка. Артыст няраз падкрэсліваў, што яму вельмі–вельмі цяжка, мабыць, каб растлумачыць, чаму яму трэба ўвесь час падмацоўвацца з чаркі.

Чыпола рухаўся навобмацак, як у трансе, нібы яго скіроўвала і вяла агульная тайная воля ўсёй залы. Ён дастаў упрыгожаную камянямі шпільку з туфлі англічанкі, куды яе схавалі, і панёс, то няўпэўнена запавольваючы крок, то з парывам наперад, другой даме — сіньёры Анджальеры,— устаў на калені і падаў ёй з умоўленымі словамі; яны, праўда, якраз пасавалі да нагоды, але адгадаць іх было зусім няпроста —





фразу склалі па–французску. «Прыміце гэты дарунак на знак майго пакланення!» — меўся сказаць, і нам здавалася, што ў цяжкасці задачы хаваўся пэўны злы намысел і адбіўся разлад паміж прагай цудоўнага, якая даймала публіку, і жаданнем, каб фанабэрысты Чыпола нарэшце праваліўся. Вельмі цікава было назіраць, як ён, стоячы на каленях перад сіньёрай Анджальеры, спрабаваў і так і гэтак, шукаючы патрэбнай яму фразы.

—Я павінен нешта сказаць,— прамовіў ён,— і ясна адчуваю, што менавіта павінен сказаць. А тым часам адчуваю, што вымавіць гэта будзе памылкай. Не, прашу, ні ў якім разе не падказвайце! Не памагайце мне ні словам, ні жэстам! — усклікнуў ён, хоць... а можа, якраз таму, што менавіта на гэта і спадзяваўся.— Pensez trés fort![23],— раптам крыкнуў ён на дрэннай французскай і тут выпаліў патрэбную фразу, праўда, па–італьянску, але так, што апошняе і галоўнае слова нечакана вырвалася ў яго на, пэўна, зусім яму незнаёмай, але блізкай мове — ён вымавіў замест «venerazione», «vénération»[24] з жахлівым насавым гукам у канцы слова — частковы поспех, які пасля ўсяго ўжо выкананага — пошукаў шпількі, выбару той, каму трэба было яе аддаць, укленчвання,— зрабіў, бадай што, нават большы эфект, чым зрабіла б поўная перамога, і выклікаў буру захаплення.

Устаючы з каленяў, Чыпола абцёр з лоба пот. Вы разумееце, што расказваючы пра шпільку, я толькі прыводжу ўзор яго працы, што мне асабліва запомнілася. Але Чыпола ўвесь час уразнастаўляў гэтую асноўную форму і да таго ж пераплятаў свае доследы з такога ж роду імправізацыямі, якія забіралі шмат часу і на якія яго на кожным кроку штурхалі зносіны з публікай. Больш за іншых, здавалася, натхняла яго наша гаспадыня; яна выклікала яго на дзівоснае шчыраванне.

—Ад мяне не ўнікла, сіньёра,— звярнуўся ён да яе,— што ў вашым жыцці былі незвычайныя, бліскучыя старонкі. Хто ўмее бачыць, той разгледзіць над вашым мілым лобам ззянне, якое, калі я не памыляюся, колісь было ярчэйшае, чым сёння,— ззянне, якое спаквала атухае... Ні слова! Не падказвайце мне! Поплеч з вамі сядзіць ваш муж, праўда ж? — павярнуўся ён да ціхмянага сіньёра Анджальеры.— Вы муж гэтай дамы, і шлюб ваш шчаслівы. Але ў гэтае шчасце ўрываюцца ўспаміны... каралеўскія ўспаміны... Мінулае, сіньёра, здаецца мне, грае ў вашым жыцці вялікую ролю. Вы ведалі караля... скажыце, у мінулыя дні на вашай жыццёвай дарозе сустракаўся вам кароль?

—Не зусім,— ледзь чутна пралапатала наша мілавідная гаспадыня, якая адарала нас булёнамі і супамі, і яе залаціста–карыя вочы ўспыхнулі на арыстакратычна бледным твары.

—Не зусім? Не, вядома ж, не сам кароль, я казаў толькі прыблізна, у самых грубых, агульных рысах. Не кароль і не князь — і тым не меней князь і кароль у іншым, вышэйшым валадарстве прыгажосці. То быў вялікі артыст, каля якога... Вы парываецеся запярэчыць і ўсё ж не рашаецеся альбо можаце запярэчыць толькі напалову. Дык вось! Вялікая, славутая на ўвесь свет артыстка адарыла вас сваёй дружбай у вашай маладосці, і гэта яе свяшчэнная памяць апраменьвае ўсё вашае жыццё... Імя? Ці трэба называць імя той, слава якое даўно зляпася са славай нашай радзімы і здабыла неўміручасць? Элеанора Дузэ,— урачыста закончыў ён, панізіўшы голас.

Маленькая жанчына, пераможаная яго словамі, толькі схіліла галаву. Апладысменты ледзь не перайшлі ў патрыятычную авацыю. Амаль усе ў зале, і найперш прысутныя тут пастаяльцы casa «Eleonora»[25], ведалі пра незвычайнае мінулае пані Анджальеры і таму здольныя былі ацаніць інтуіцыю кавальерэ. Паўставала толькі пытанне, што паспеў разведаць сам Чыпола, калі пасля прыезду ў Торэ пачаў шукаць патрэбных у яго прафесіі звестак... Зрэшты, у мяне няма ніякіх падстаў ставіць пад рацыяналістычныя сумненні здольнасці, якія ў нас на вачах аказаліся для яго такімі фатальнымі...

Абвясцілі антракт, і наш валадар пайшоў за кулісы. Прызнаюся, яшчэ толькі прыступаючы да расказу, я баяўся гэтага моманту. Чытаць думкі часцей за ўсё не так ужо і складана, а тут і зусім лёгка. Вы, канечне, спытаецеся ў мяне, чаму ж мы нарэшце не пайшлі — і я не здолею вам адказаць. Я сам не разумею, я проста не ведаю, як гэта патлумачыць. Мусіць, было ўжо палова дванаццатай, хутчэй за ўсё нават пазней. Дзеці спалі. Апошняя серыя вопытаў абрыдла ім, і прырода нарэшце ўзяла сваё. Дзяўчынка заснула ў мяне на каленях, хлопчык — у маці. З аднаго боку, гэта суцяшала, а з другога — выклікала жаль і нагадвала прыслухацца да гэтага кранальнага напамінку, што ім даўно пара ў ложак. Пабажуся, мы хацелі прыслухацца, шчыра хацелі. Мы разбудзілі іх, кажучы, што цяпер і праўда трэба ісці дамоў. Але ледзь яны па–сапраўднаму прачнуліся, як пачаліся неадступныя просьбы, а вы ж самі ведаеце, што ўгаварыць дзяцей па добрай волі пайсці, не даседзеўшы да канца прадстаўлення, немагчыма, іх можна хіба што толькі прымусіць. Як жа тут цудоўна, ныці яны, і ніхто ж не ведае, што будзе далей, трэба хоць бы пачакаць і паглядзець, з чаго штукар пачне пасля перапынку, ды яны ўжо крышачку і паспалі, толькі не дамоў, толькі не ў ложак, пакуль ідзе цудоўнае прадстаўленне!

Мы саступілі, пастанавіўшы сабе пабыць яшчэ зусім нядоўга, ну, хвіліну–другую. Вядома, недаравальна, што мы засталіся, і ўжо тым болей гэтага не растлумачыш. Магчыма, мы рашылі, што, сказаўшы «а» і зрабіўшы памылку, прывёўшы дзяцей сюды, павінны сказаць і «б»? Але такога тлумачэння, на мой погляд, недастаткова. А можа, прадстаўленне нас саміх вельмі заінтрыгавала? І так і не: пачуцці, якія выклікаў у нас сіньёр Чыпола, былі даволі супярэчлівыя, але ж такія былі, калі не памыляюся, пачуцці ўсёй залы, аднак ніхто не выйшаў. Альбо мы паддаліся чарам гэтага чалавека, які такім дзіўным спосабам зарабляе свой хлеб, чарам, якія ішлі ад яго і нават звыш усякай праграмы, нават паміж нумарамі, і паралізавалі нашую рашучасць? Але з такім самым правам можна сказаць, што намі валодала проста цікаўнасць. Хацелася

ўведаць, што там яшчэ будзе гэтым вечарам, які пачаўся так незвычайна, а апрача таго, Чыпола, ідучы за кулісы, даў знак, што рэпертуар у яго не вычарпаны і нам назапашаны яшчэ і не такія неспадзяванкі.

Але не ў гэтым сутнасць. Найлепш было б аб'яднаць пытанне, чаму мы тады не сышлі, з другім пытаннем — чаму мы раней не з'ехалі з Торэ. Па-мойму, гэта адно і тое самае пытанне, і, каб неяк выйсці з сітуацыі, я мог бы нагадаць, што ўжо адзін раз на яго адказаў. Усё, што тут адбывалася, было гэтаксама няздыкла і чароўна, яно гэтаксама трывожыла, зневажала і прыгняталa, як і ўсё астатняе ў Торэ; не, больш таго: гэтая зала як бы ўвабрала ўсё незвычайнае, вусцішнае, ашалелае, чым была, як здавалася нам, прасякнута атмасфера курорта, і чалавек, вяртання якога мы чакалі, здаваўся нам увасабленнем усяго таго ліха, але як што мы не з'ехалі наогул, было б нелагічна пайсці цяпер. Вось тлумачэнне, чаму мы засталіся, самі рашайце, прымаць яго ці не. А лепей я ўсё адно давесці не магу.

Дык вось, на дзесяць хвілін быў аб'яўлены перапынак, які задоўжыўся ажно на дваццаць. Дзеці атрэсліся ад сну і, радыя нашай саступлівасці, увесь час весяліліся. Яны зноў пачалі перагаворвацца з гледачамі стаячых месцаў, з Антоніё, з Гіскарда, з лодачнікам. Складваючы далонькі, яны крычалі рыбакам добрыя пажаданні, якія перанялі ў нас:

—Паболей вам заўтра рыбкі!

—Поўныя-паўнюткія сеткі!

Марыё, малодшаму афіцыянту з «Эсквізіта», яны крыкнулі:

—Mario, una cioccolata e biscotti![26]

Гэтым разам ён уважыў і з усмешкай адказаў:

—Subito![27]

Пазней мы нездарма ўспаміналі гэтую ветлую, крыху рассеяна-меланхалічную ўсмешку.

Так прайшоў антракт, ударыў гонг, і гледачы, якія перагаворваліся ў розных канцах залы, зноў пазаймалі свае месцы, дзеці з прагнай нецярплівасцю, пакруціўшыся, паюрзаўшы, зручна расселіся, склаўшы рукі на каленях. Эстрада ў перапынку заставалася адкрытая. Чыпола выйшаў уразвалку і адразу ж на правах канферансье пачаў знаёміць публіку з другой серыяй штукарстваў.

Карацей, каб усё тут вам было ясна, гэты самаўпэўнены гарбач быў вельмі моцны гіпнатызёр, якога я калі-небудзь бачыў у жыцці. Калі на афішах ён выдаваў сябе за штукара, фокусніка і тлуміў публіцы галаву адносна сапраўднай прыроды сваіх паказаў, дык, мабыць, выключна дзеля таго, каб абысці закон і паліцэйскія пастановы, якія строга забаранялі займацца гіпнозам дзеля заробку. Магчыма, такая чыста фармальная маскіроўка ў Італіі прынятая, і ўлады трываюць яе, альбо глядзяць на гэта праз пальцы. У кожным разе Чыпола фактычна з самага пачатку не дужа хаваў сапраўдны характар сваіх намераў, а другое аддзяленне праграмы было зусім адкрытае і цалкам прысвечана спецыяльным доследам — дэманстрацыя гіпнатычнага сну і ўнушэнні, хоць і тут ён у сваім канферансе нічога не называў сваім імем. У бясконцай чарзе камічных, хвалюючых, ашаламляльных штук, якія апоўначы былі ў самым разгары, перад нашымі вачыма прайшоў увесь арсенал дзівосаў ад самых нязначных да самых страшных, заключаных у гэтай натуральнай і загадкавай сіле, і гледачы рагаталі, пакручвалі галавой, хлопалі па каленях і пляскалі, прымаючы кожную забаўную падрабязнасць, яны яўна падупалі ўладзе бясконца ўпэўненай у сабе асобе гіпнатызёра, хоць, вядома, так мне здалося, іх абурала тая абраза, што заключалася ў кожнай яго перамозе.

Дзве рэчы гралі галоўную ролю ў гэтых перамогах: чарка каньяку і плётка з тронкам у выглядзе пазурастай лапы. Першае павінна было распальваць яго дэманічную сілу, якая інакш, відаць, магла вычарпацца; і гэта магло б абудзіць да яго чалавечую спагаду, каб не другое — зняважлівы сімвал ягонай улады, плётка, якою ён фанабэрыста падпарадкоўваў нас сабе, што выключала ўсякія іншыя, цяплейшыя пачуцці, апрача здзіўленай і абуранай пакоры. Але, магчыма, менавіта спагады яму якраз і бракавала. Няўжо ён прэтэндаваў яшчэ і на гэта? Няўжо хацеў завалодаць усім? Мне запомнілася адна ягоная заўвага, якая ўказвала на такую яго прэтэнзію. Яна вырвалася ў яго ў самы напружаны момант эксперыментаў, калі, давёўшы пасамі і падзьмухваннем да поўнага каталептычнага стану маладога чалавека, які сам прапанаваў свае паслугі і аказаўся на дзіва ўспрымальным аб'ектам унушэнняў, ён не толькі паклаў агорнутага моцным сном хлопца патыліцай і нагамі на білцы двух крэслаў, але яшчэ і сеў на яго сам, і здзеравянелае цела нават не прагнулася. Выгляд гэтай пачвары ў вячэрнім гарнітуры, якая ўзбатавалася на скарчанелае цела, быў такі фантасмагарычны і мярзотлівы, што публіка, думаючы, быццам ахвяра гэтай навуковай забавы пакутуе, пачала яе шкадаваць. «Poveretto!», «Небарака!» — чуліся шчырадушныя галасы.

—Poveretto! — злосна перадражніў Чыпола.— Вы памыліліся адрасам, панове! Sono io it poveretto![28] Гэта я тут пакутнік!

Гледачы моўчкі праглынулі ягоную заўвагу. Добра, няхай на Чыполу клаўся ўвесь цяжар прадстаўлення, няхай ён нават у сваіх думках прыняў на сябе боль у страўніку, ад якога так жаласліва курчыўся Джаванота, але з выгляду ўсё было якраз наадварот, і хто ж будзе крычаць «poveretto!» чалавеку, які пакутуе дзеля таго, каб прынізіць іншага.

Але я ўжо забег наперад і парушыў паслядоўнасць. Галава ў мяне дагэтуль поўная штукамі гэтага дзівака, толькі ўжо не памятаю, што за чым ішло, але гэта няважна. Адно памятаю добра: вялікія і складаныя эксперыменты, што мелі найбольшы поспех, зрабілі на мяне меншае ўражанне, чым некаторыя дробязныя,





якія ён рабіў быццам мімаходзь. Нумар з маладым хлопцам, які паслужыўся гіпнатызёру лаўкаю, узгадаўся мне праз звязаную з ім натацыю... Пажылая дама, што заснула на саламяным крэсле, якой Чыпола ўнушыў, быццам яна падарожнічае па Індыі, і якая ў стане трансу вельмі бойка расказвала пра свае дарожныя ўражанні на сушы і на вадзе, мяне менш заінтрыгавала і не так здзівіла, як маленькі прахадны эпізод, што быў адразу за антрактам: высокі ладны мужчына, з выгляду вайсковец, не мог падняць руку толькі таму, што гарбач сказаў, быццам ён яе не падыме, і шчоўкнуў плёткай. Як жывы, бачу перад сабою твар гэтага вусатага, падцягненага colonello[29] і вымучаную ўсмешку, з якою ён, сцяўшы зубы, змагаўся за адабраную ў яго свабоду валодаць сабою. Які канфуз! Ён хацеў і не мог; але, відаць, ён мог толькі не хацець, тут дзейнічала ўнутраная калізія волі, якая паралізавала свабоду,— і ўсё гэта зларадна прадказаў маладому рымляніну наш утаймавальнік.

Незабыўная таксама ва ўсёй яе кранальнасці і ўяўнай камічнасці сцэна з сіньёрай Анджальеры, чыю эфірную безабароннасць перад яго магутнасцю кавальерэ, вядома ж, не ўпусціў заўважыць яшчэ пры першым сваім бессаромна-нахабным агледзе публікі ў зале. Ён чысцюткім чарадзействам літаральна падняў яе з крэсла і павёў за сабою з рада, ды яшчэ, каб пазадавацца, унушыў сіньёру Анджальеры думку гукнуць жонку імем, нібы каб той кінуў на шалі вагаў і сябе, і свае правы, і мужнім поклічам абудзіў у душы сваёй спадарожніцы пачуцці, здольныя абараніць яе цноты ад ліхіх чараў. Але ўсё марна! Чыпола, стоячы зводдаль ад пары, толькі раз шчоўкнуў плёткай, і наша гаспадынька, сцепнуўшыся ўсім целам, павярнулася да яго. «Сафронія!» — ужо тут крыкнуў сіньёр Анджальеры (а мы і не ведалі, што сіньёру Анджальеры завуць Сафронія), і з поўнай падставаю крыкнуў, бо кожнаму ж было ясна, якая тут небяспека — яго жонка, павярнуўшыся да праклятага кавальерэ, проста вачэй з яго не зводзіла. А Чыпола з плёткай на руцэ пачаў усімі дзесяццю доўгімі, жоўтымі пальцамі клікаць і вабіць сваю ахвяру, крок за крокам адступаючы. І тут празрыста-бледная сіньёра Анджальеры прыўстала з месца, ужо ўсім корпусам падалася да заклінача і паплыла за ім. Прывіднае і фатальнае відовішча! Як лунатычка, з ненатуральна нерухомымі, нейкімі скаванымі плячамі і шыяй, крыху выставіўшы наперад прыгожыя рукі, яна, нібы не адрываючы ног ад падлогі, ішла ўздоўж свайго рада следам за спакушальнікам.

—Паклічце яе, сіньёр, ну паклічце ж! — патрабаваў вылюдак.

І сіньёр Анджальеры кволым голасам паклікаў:

—Сафронія!

Ах, яшчэ колькі разоў ён клікаў яе, а яна ўсё больш аддалялася ад яго, нават прыкладваў руку далонькай да вуснаў, а другою — махаў, аж так клікаў. Але жаласлівы покліч кахання і абавязку без сілы заміраў за спінай прапасніцы, і ў самнамбулічным лунанні, зачараваная і глухая да ўсяго, сіньёра Анджальеры выплыла ў сярэдні праход і паплыла па ім далей, да гарбача, які вабіў яе, да выхаду. Складвалася поўнае ўражанне, што яна пойдзе за сваім валадаром хоць на край зямлі, калі толькі ён скажа.

—Accidente![30] — ускочыўшы з месца, залямантаваў у сапраўдным страху сіньёр Анджальеры, калі яны дайшлі да дзвярэй.

Але ў той самы момант кавальерэ, так сказаць, скінуў з сябе лаўры пераможцы і спыніў эксперымент

—Даволі, сіньёра, дзякую вам,— сказаў ён, з камедыянцкай галантнасцю падаў руку жанчыне, якая нібы з неба звалілася, і завёў яе да сіньёра Анджальеры.— Пане,— звярнуўся да таго з паклонам,— вось ваша жонка! З наглыбейшай пашанаю ўручаю вам яе цэлую і здаровую. Беражыце і ахоўвайце дадзены вам скарб з усёй рашучасцю мужчыны, і няхай вашую пільнасць абвострыць разуменне таго, што ёсць сілы больш магутныя за розум і цноту, і яны толькі ў рэдкіх выпадках спалучаюцца з велікадушным самазабыццём!

Бедны сіньёр Анджальеры, такі ціхі, такі лысы! Не выдавала на тое, каб ён мог абараніць сваё шчасце нават ад сіл менш дэманічных за тыя, што ў дадатак да ўсіх страхаў цяпер яшчэ і глуміліся з яго. Важны і надзьмуты кавальерэ ўзышоў на эстраду і пад буру воплескаў, якія ў пэўнай ступені былі платай яго красамоўству. Калі не памыляюся, менавіта дзякуючы гэтай перамозе яго аўтарытэт настолькі падрос, што ён мог прымусіць публіку скакаць — ага, ага, скакаць, гэта трэба разумець літаральна,— што, у сваю чаргу, прывяло да пэўнай раскілзанасці, нейкі начны чад, у чмурным дыме якога патанулі астатнія рэшткі крытычнага супраціву, які так доўга супрацьстаялі ўплыву гэтага агіднага чалавека. Праўда, каб устанавіць сваю поўную ўладу, Чыполу давялося вытрымаць даволі цяжкую барацьбу з маладым рымлянінам, чыя косная маральная непаддатнасць магла даць публіцы непажаданы і небяспечны гэтай уладзе прыклад. Але кавальерэ цудоўна разумеў важнасць прыкладу і разумна выбраў пад атаку найслабейшы пункт абароны, пусціў на закваску скочнай оргіі таго самага кволага хлопца, які лёгка ўпадаў у транс і якога ён перад тым ператварыў у бясчулае бервяно. Аднаго позірку маэстра хапіла, каб той, як громам ударaны, адкінуўшы корпус назад, рукі па швах, упадаў у воінскі самнамбулізм, так што ягоная гатовасць выканаць самы бязглузды загад з самага пачатку кідалася ў вочы. Да таго ж яму, відаць, самому падабалася падпарадкоўвацца, і ён з радасцю адкідаў сваю жалю вартую самастойнасць і каторы раз прапаноўваў сябе ў аб'екты эксперыменту і яўна лічыў за гонар паказаць узор імгненнага самаахвяравання і бязвольнасці. І цяпер ён адразу палез на эстраду, і даволі было раз шчоўкнуць плёткай, як ён з загаду кавальерэ пачаў скакаць «стэп», г. зн. у самазабыўным экстазе, заплюшчыўшы вочы і хітаючы галавой, раскідваць у бакі худыя рукі і ногі.

Відаць, гэта было прыемна, бо неўзабаве да яго далучыліся іншыя: два хлапцы, адзін бедна, а другі добра апранены, таксама пачалі, справа і злева ад яго, выконваць «стэп».

Вось тут і ўмяшаўся малады рымлянін, ён задзірыста спытаўся, ці возьмецца кавалерэ навучыць яго танцаваць, калі ён, рымлянін, гэтага не хоча.

—Нават калі не хочаце! — адказаў Чыпола тонам, якога я ніколі не забуду. Гэта жахлівае «Anche se non vuolo!» і сёння стаіць у мяне ў вушах.

І тут пачаўся двубой. Выпіўшы чарачку і закурыўшы новую цыгарэту, Чыпола паставіў рымляніна дзесьці ў сярэднім праходзе тварам да дзвярэй, сам стаў ззаду крыху зводдаль і, ляснуўшы ў паветры плёткаю, загадаў:

—Balla![31]

Праціўнік ані з месца.

—Balla! — важка паўтарыў кавалерэ і зноў ляснуў плёткай.

Усе бачылі, як малады чалавек павёў шыяй у каўняры, але адначасова рука ў яго тузанулася ўгору, а ступак вывярнуўся вонкі. Але далей гэтых адзнакаў спакусы, што разбірала яго, адзнакаў, якія то мацнелі, то слаблі, доўгі час ніяк не ішло. Кожны ў зале разумеў, што Чыполу тут выпадае паламаць гераічную ўпартасць, цвёрды намер супраціўляцца да канца; адважнік адстойваў гонар роду чалавечага, ён тузаўся, але не скакаў; і эксперымент настолькі зацягнуўся, што кавалерэ давялося дзяліць сваю ўвагу: час ад часу ён паварочваўся да танцораў на эстрадзе і ляскаў плёткай, каб утрымаць іх у паслушэнстве, і тут жа, павярнуўшыся да залы, запэўніваў публіку: колькі б гэтыя шаляніцы ні падскоквалі, яны не адчуюць ніякай стомы, бо, па сутнасці, скачуць не яны, а ён. А потым Чыпола зноў свідраваў позіркам патыліцу рымляніна, каб узяць прыступам фартэцыю волі, што ніяк не скаралася ягонай магутнасці.

Мы бачылі, як пад паўторнымі ўдарамі і воклічамі Чыполы цвярдыня захісталася — мы назіралі за гэтым з дзелавітай цікаўнасцю, не свабоднай ад эмацыянальнага дамесу шкадавання і злараднасці. Наколькі я разумею, рымляніна падкасіла яго пазіцыя чыстага адмаўлення. Мабыць, адным нехаценнем не ўмацуеш сілы духу; не хацець нешта рабіць — гэтага недастаткова, каб доўга быць сэнсам і мэтай жыцця; чагосьці не хацець і ўвогуле ўжо нічога не хацець і, значыцца, усё–такі выканаць тое, што патрабуюць,— тут, відаць, адно мяжуе з другім і свабодзе не застаецца месца. На гэтым і будаваў свае разлікі кавалерэ, калі, паміж ляскаццем плёткай і загадамі скакаць, умаўляў рымляніна, карыстаючыся акрамя ўздзеяння, што, зрэшты, было яго таямніцай, яшчэ і псіхалагічнымі довадамі, якія бянтэжылі душу.

—Balla! — казаў ён.— Навошта пакутаваць? І такое насілле над сабою ты называеш свабодай? Una ballatina![32] Ды ў цябе рукі і ногі самыя просяцца. Якая палёгка даць ім нарэшце волю! Ну вось, ты ўжо і танцуеш! Гэта табе не барацьба, а чыстая асалода!

Так яно, зрэшты, і было, патузванне і сутаргавае трымценне ў целе ўпартага ўсё памацняліся, вось захадзілі плечы, калені, і раптам нешта ва ўсіх суглобах быццам развязалася, і, падкідаючы рукі і ногі, ён кінуўся ў скокі, і ўсё скакаў, скакаў, пакуль кавалерэ пад воплескі залы вёў яго да эстрады, да іншых марыянетак. Цяпер нам адкрыўся твар упаранага, зверху ён быў відаць усім. «Пʼючы асалоду», ён шырока ўсміхаўся, прыплюшчыўшыся. Пэўным суцяшэннем нам магло быць тое, што яму цяпер было лягчэй, чым падчас ягонай гардыні.

Можна сказаць, што яго «падзенне» сталася паваротным пунктам. Яно растапіла лёд, трыумф Чыполы дасягнуў апагею, жазло Цырцэі, тая самая скураная плётка з тронкам, як пазурастая лапа, уладарыла абсалютна. Да таго часу — гэта было, як я прыгадваю, далёка за поўнач,— на цеснай эстрадзе скакала чалавек восем–дзесяць, але і ў самой зале зусім не сядзелі смірна, так, напрыклад, зубастая англічанка ў пенснэ, без ніякага запрашэння маэстра, выйшла з свайго раду і ў сярэднім праходзе выканала тарантэлу. Чыпола тым часам сядзеў разваліўшыся на саламяным крэсле ў левым куце сцэны, курыў і фанабэрыста пускаў цурочкам дым праз шчарбатыя зубы. Ён памахваў нагой, часам бязгучна смяяўся аднымі плячмі, глядзеў на вэрхал у зале і час ад часу, амаль нават не паварочваючыся назад, ляскаў плёткай перад якім–небудзь танцорам, якому наўмелася было спыніць асалоду. Дзеці не спалі. Я згадваю пра іх з сорамам. Тут было брыдка, а дзецям і наогул не месца, і калі мы іх усё яшчэ не вывелі, дык я тлумачу гэта тым, што нам таксама ў пэўнай меры перадалося шаленства, якое ў гэты позні час ахапіла ўсіх. А, што будзе, тое будзе! Зрэшты, нашыя малыя, дзякуй богу, не разумелі ўсёй непрыстойнасці гэтага вечаровага раз–весялення. З наіўнасці яны не пераставалі радавацца небывальшчыне: разам з намі сядзець тут і назіраць за такім відовішчам — прадстаўленнем штукара. Яны ўжо каторы раз засыналі ў нас на каленях, і цяпер, з распунсавелымі шчокамі і бліскучымі вачанятамі, ад душы рагаталі з выбрыкаў дарослых дзядзькоў, якія скакалі па волі валадара вечара. Яны і не думалі, што будзе так смешна, і, як толькі ўсчыналіся апладыс–менты, таксама радасна пляскалі няўмелымі ручкамі. Абое па–дзіцячы аж заскакалі ад захаплення на сваіх месцах, калі Чыпола павабіў да сябе іхняга сябру Марыё, Марыё з «Эсквізіта»,— павабіў па ўсіх правілах, трымаючы руку каля самага носа, і то выцягваючы, то згінаючы ўказальны палец.

Марыё паслухаўся. Я і цяпер бачу, як ён падымаецца па прыступках да кавалерэ, а той гэтаксама ж карыкатурна ўсё кліча і кліча яго ўказальным пальцам. На нейкае імгненне хлопец завагаўся, я і гэта добра памятаю. Увесь вечар ён прастаяў каля слупа, рукі крыж–накрыж альбо ў кішэнях пінжака, у бакавым праходзе злева ад нас, тамсама, дзе стаяў і Джаванота з ваяўнічай чупрынай, і ўважліва, не без пэўнай весялосці,— як мы маглі заўважыць,— бог яго ведае, разумеючы ці не, што тут дзеецца, сачыў за





прадстаўленнем. Яму, відаць, не дужа спадабалася, што напаследак і яго паклікалі. Аднак, нічога дзіўнага, што ён паслухаўся Чыполы. Да гэтага яго прывучыла прафесія; потым, нават псіхалагічна немагчыма ўявіць сабе, каб сціплы хлопец мог не паслухацца такога ўзнесенага на вяршыню славы чалавека. І вось, хоч–не–хоч, Марыё адышоў ад слупа і, падзякаваўшы гледачам, якія стаялі перад ім і, азірнуўшыся, расступіліся перад ім, прапускаючы яго наперад, з недаверлівай усмешкаю на тоўстых губах падняўся на эстраду.

Уявіце сабе каржакаватага дваццацігадовага дзецюка, каратка абстрыжанага, з нізкім лобам і цяжкімі павекамі над вачамі няпэўнага шараватага колеру з зялёнымі і жоўтымі крапачкамі. Я добра гэта памятаю, бо мы часта з ім гутарылі. Верхняя палавіна твару з прыплюснутым носам, абсыпаным на пераноссі канапацінкамі, крыху адступала назад у параўнанні з ніжняю, на якой найперш выдзяляліся тоўстыя губы, за якімі, калі Марыё гаварыў, пабліскваў вільготны радок зубоў; якраз адкапыленыя губы і прыплюшчаныя вочы дадавалі твару нейкай адмысловай задуменнай журботы, якою Марыё адразу нам палюбіўся. Нічога грубага ў яго рысах не было, ды гэтаму ж, дарэчы, ніяк не пасавалі б яго дзівосна вузкія, тачоныя рукі, якія нават тут, на поўдні, глядзеліся высакародна, і было прыемна, калі ён слугаваў нам.

Мы ведалі, які ён чалавек, не ведаючы яго асабіста, калі вы дазволіце мне правесці такое размежа–ванне. Мы глядзелі на яго са спагадаю да ягонай манеры трымацца, летуценнай, амаль рассеянай, калі ён, спахапіўшыся, адразу спяшаўся акупіцца асобай стараннасцю; ён трымаўся сурʼёзна, хіба што толькі дзеці часам выклікалі ў яго ўсмешку, ды і не тое каб непрыветліва, але без дагодлівасці, без штучнай ласкавасці,— ці, правільней кажучы, ён адмовіўся ад усякай ліслівасці, не вельмі разлічваючы спадабацца. Вобраз Марыё, прынамсі, застаўся б у нас у памяці — як адно з тых дробязных дарожных уражанняў, якія ярчэй запамінаюцца, чым нават больш важныя. Пра хатнясць нам было вядома толькі таго, што бацька ягоны служыць пісарам, у муніцыпалітэце, а маці — прачка.

Белая афіцыянцкая куртка неяк нават больш яму пасавала, чым паношаны гарнітур з рэдзенькай паласатай тканіны, у якім ён цяпер падняўся на эстраду; ён быў без каўнерыка, але завязаў на шыі ярка–чырвоную шаўковую хустачку, а канцы яе схаваў пад пінжак. Марыё спыніўся непадалёк ад кавалерэ, але як што той усё кульбачыў пальцам перад сваім носам, хлопец пасунуўся яшчэ бліжэй і стаў каля самых ног валадара, амаль каля самага крэсла, і тут Чыпола растапырыў локці, абхапіў Марыё і павярнуў так, каб нам з залы быў відзён ягоны твар. Потым весела, нядбалым, але ўладным позіркам акінуў хлопца з галавы да ног.

—Як жа гэта, ragazzo mio?[33] — сказаў ён.— Мы толькі–толькі знаёмімся. Не можаш мне паверыць, але я з табою знаёмы даўно... Ну але ж, я даўно цябе змеціў і бачу ў табе выдатныя здольнасці. І як я мог пра цябе забыцца? Клопат, клопат, да ўсяго рукі не даходзяць, разумееш... Але скажы мне, як цябе завуць? Мне цікавае толькі тваё імя.

—Мяне завуць Марыё,— ціха адказаў хлопец.

—Ах, Марыё, выдатна. Так, чыстае імя. Пашыранае імя. Старое імя, нагадвае пра гераічнае мінулае нашай радзімы. Брава! Salve![34] — І падняўшы правае плячко, Чыпола выцягнуў руку наперад з павернутай уніз даланёю ў рымскім вітанні.

Калі ён крыху захмялеў, дык тут няма нічога дзіўнага; але гаварыў ён, як і раней, ясна і свабодна, хай нават ва ўсіх ягоных паводзінах і тоне паяўлялася нейкая сытасць і ляная панскасць і ў той самы час нешта хамскае і пахабнае.

—Дык вось, Марыё, як добра, што ты прыйшоў сёння ўвечары, ды яшчэ ў такім шыкоўным гальштуку, ён табе пасуе і адразу ўпакорыць усіх дзяўчат, чароўных дзяўчат Торэ–дзі–Венерэ...

Са стаячых месцаў, прыкладна адтуль, дзе ўвесь вечар прастаяў Марыё, пачуўся гучны рогат — гэта смяяўся Джаванота з ваяўнічай чупрынай; ён стаяў там з перакінутым цераз плячо пінжаком і бессаромна груба і зʼедліва рагатаў:

—Ха–ха–ха!

Марыё, здаецца, паціснуў плячыма. Прынамсі, яго перасмыкнула.

Магчыма, ён усяго толькі ўздрыгнуў, а поціск плячмі павінен быў замаскаваць аднолькавую абыякавасць і да гальштукаў, і да чароўных дзяўчат.

Кавалерэ мелькам зірнуў уніз, у праход.

—Ну, а гэты зубаскал нам не абыходзіць. Ён проста зайздросціць поспеху твайго гальштука ў дзяўчат, а можа, таму, што мы тут з табою на эстрадзе так па–сяброўску і мірна гутарым... Калі ўжо яму так пільна закарцела, я яму нагадаю пра ягоныя курчы. Мне гэта як раз–два–тры. Але скажы, Марыё, сёння ўвечары ты, значыцца, бавы бавіш... А ўдзень працуеш у галантарэйнай крамцы?

—У кавярні,— паправіў яго хлопец.

—Ах, у кавярні! Тут Чыпола, значыцца, тыцнуў пальцам у неба. Ты — cameriere[35], чашнік, так бы мовіць, Ганімэд — мне гэта даспадобы, яшчэ адзін напамін пра антыку,— salvietta [36] — Гульня слоў: па аналогіі з salve —вітаю.— І тут Чыпола на пацеху публіцы зноў ускінуў руку ў рымскім вітанні.

Марыё таксама ўсміхнуўся.

—Раней, праўда,— дадаў ён дзеля шчырасці,— я працаваў нейкі час у прыказчыках у Портэ–Клемэн–тэ.— У ягоных словах чулася ўласцівае многім людзям жаданне неяк дапамагчы варажбе, знайсці ў ім хоць каліўца праўды.

—Так, так! У галантарэйнай крамцы?

—Там прадавалі грабянцы і шчоткі,— ухіліста адказаў Марыё.

—Ну вось, ці ж не казаў я, што ты не заўсёды быў Ганімэдам, не заўсёды служыў з сурвэткай на руцэ? Нават калі Чыпола часам і тыцкае пальцам у неба, ён усё–такі не зусім хлусіць, і яму можна хоць крышачку верыць. Скажы, ты мне верыш?

Няпэўны жэст

—Гэта таксама адказ,— заключыў кавальерэ.— Так, давер у цябе заслужыць няпроста. Нават мне, як я бачу, прыйдзецца з табою павалэндацца. Але я заўважаю на тваім твары пячатку замкнёнасці, смутку, un tratto di malinconia[37]. Скажы мне,—і ён схапіў Марыё за руку,— ты няшчасны?

—No, signore![38] — спешна і рашуча азваўся той.

—Не, ты няшчасны,— настойваў фігляр, уладна адольваючы гэтую рашучасць.— Нібыта я не бачу? Малады яшчэ, каб пускаць пыл у вочы Чыполу! І вядома, тут не без дзяўчат, не, адна дзяўчына. У цябе няшчаснае каханне?

Марыё адмоўна затрос галавою. Адначасова побач з намі выбухнуў грубы рогат Джаванота. Кавальерэ насцярожыўся. Вочы яго блукалі па столі, але ён яўна прыслухоўваўся да рогату, а потым, як ужо раз ці два падчас гутаркі з Марыё, крыху абярнуўшыся, ляснуў плёткай на сваіх танцораў, каб у іх руплівасць не прапала. Але пры гэтым ён ледзь не ўпусціў свайго субяседніка, які, нечакана ўздрыгнуўшы, адвярнуўся ад яго і пайшоў да сходаў. Вакол вачэй у хлопца залеглі чырвоныя кругі. Чыпола ледзьве паспеў яго затрымаць.

—Стой, куды гэта ты! — сказаў ён.— Гэта яшчэ што такое? Ты хочаш уцячы, Ганімэд, у самую шчаслівую хвіліну твайго жыцця, яна зараз настане. Заставайся, і я абяцаю табе дзівосныя рэчы. Я абяцаю даказаць табе ўсю недарэчнасць тваіх пакутаў. Дзяўчына, якую ты ведаеш і якую людзі ведаюць, гэтая... ну, як жа гэта яе?.. Пастой!.. Я чытаю яе імя ў тваіх вачах, яно круціцца ў мяне на языку, ды і ты, бачу, зараз яго назавеш...

—Сільвестра! — усклікнуў усё той самы Джаванота знізу.

Кавальерэ ані вокам, ані знаку.

—Ёсць жа такія несумленцы! — сказаў ён, нават не зірнуўшы ўніз, а быццам ведучы далей пачатую гаворку з Марыё.—Такія бессаромныя пеўні, якія кукарэкаюць і ў час і не да часу. Толькі мы хацелі назваць яе, а ён ужо і апярэдзіў нас, ды яшчэ, нахаба, думае, што ў яго на тое нейкае права ёсць! Але што нам пра яго разводзіць! Бо вось жа Сільвестра, твая Сільвестра, гэта мне дзяўчына! Цэлы скарб! Сэрца заходзіцца, калі бачыш, як яна ходзіць, дыхае, смяецца, такая прыгожая. А яе пухлыя рукі, калі яна мые і адкідвае назад галаву, атрасаючы з лоба кудзеркі! Анёл, анёл чысцюткі!

Марыё ўтаропіўся на яго, навоўчыўся. Ён быццам забыўся, дзе ён, забыў пра публіку. Чырвоныя колцы вакол вачэй расшырыліся і здаваліся намалёванымі. Мне рэдка выпадала такое бачыць. Рот з тоўстымі губамі быў крыху разяўлены.

—І гэты анёл вымушае цябе пакутаваць,— гаварыў Чыпола,—ці, правільней, ты сам ад яго пакутуеш... А гэта розніца, даражэнькі, вялікая розніца, ты мне ўжо дай веры! Каханню ўласцівыя такія вось непаразуменні, можна сказаць нават, што непаразуменні нідзе не сустракаюцца так часта, як менавіта ў каханні. Ты, няйначай, думаеш: а што петрыць Чыпола, з яго маленькай цялеснай хібінай, у каханні? Памыляешся, дужа петрыць, ды яшчэ як грунтоўна і глыбока шалопае, што ў такіх справах не шкодзіць часам да яго і прыслухацца! Але пакінем Чыполу, чаго пра яго тарочыць, падумаем лепей пра Сільвестру, тваю чароўную Сільвестру! Што? Яна замест цябе выбрала нейкага кукарэку, і ён смяецца, а ты слёзы льеш? Выбраць кагось, а не цябе, такога сімпатычнага хлопца? Неверагодна, немагчыма, мы лепей ведаем, я, Чыпола, і яна. Бачыш, калі я стаўлю сябе на яе месца і мне трэба выбраць паміж такой вось смаляной доўбняй, вяленай рыбай, нязграбнай чарапахай — і Марыё, рыцарам сурвэткі, які ахаджваецца сярод панства, спрытна носіць іншаземцам напіткі і шчырай душой палка мяне кахае — госпадзе, сэрца само падказвае мне рашэнне, я ведаю, каму яго павінна аддаць, каму я ўжо даўно, чырванеючы, аддала яго. Пара ўжо майму выбранцу заўважыць гэта і прызнаць, Марыё, любы мой... Скажы ж, хто я?

Агідна было бачыць, як ашуканец прыхарошваўся, як какетліва паводзіў крывымі плячамі, млосна закочваў вочы з набрынялымі мяшэчкамі, як усміхаўся і шчэрыў шчарбатыя зубы. Ах, што такое сталася з нашым Марыё, пакуль Чыпола змушчаў яго сваімі ўгаворамі? Цяжка расказваць, як цяжка было на гэта дзівіцца; гэта было раскрыццё самага запаветнага, напаказ выстаўлялася яго палкасць, безнадзейная, нянаджаная, ашчаслівленая. Сціснуўшы кулакі, хлопец падняў іх да вуснаў, ён так сутаргава глытаў паветра, што відаць было, як падымаюцца і апускаюцца грудзі. Вядома, ад шчасця ён вачам не верыў, не верыў вуснам, забыўшы толькі пра тое, што не трэба было верыць.

—Сільвестра! — ледзь чутна прашаптаў ён, ашаломлены.

—Пацалуй мяне! — запатрабаваў гарбач.— Павер, я табе дазваляю! Я кахаю цябе. Вось сюды пацалуй,— і, адтапырыўшы руку, локаць і мезенец, ён кончыкам указальнага пальца паказаў на сваю шчаку амаль каля самага рота. І Марыё нахіліўся і пацалаваў.

У зале залегла мёртвая цішыня. Гэта была недарэчная, жахлівая і захапляльная хвіліна — хвіліна шчасця Марыё. І ў гэтыя імгненні, калі мы на свае вочы ўбачылі ўсю блізкасць шчасця і ілюзіі, не адразу, а імгненна пасля жалю вартага і блазенскага дотыку вуснаў Марыё да мярзотнай плоці, якая падставілася





пад ягоную пяшчоту, раптам, справа ад нас, разбіўшы напружанасць, бухнуў рогат Джаванота — рогат грубы і зласлівы, і ўсё–такі, як мне здалося, не пазбаўлены адцення і каліўца спагады абдзеленаму летуценніку і не без адгалоску таго «poveretto», які штукар перад тым абвясціў звернутым не ў той адрас і прыпісаў сабе.

Але не паспеў аціхнуць смех у зале, як Чыпола, з усё падстаўленай пацалунку шчакой, ляснуў плёткай каля ножкі крэсла, і Марыё, прачнуўшыся, выпрастаўся і здрыгануўся. Ён стаяў, вырачыўшы вочы і адкінуўшы назад корпус, спачатку прыціснуў далоні, адну паўзверх другое, да сваіх апаганеных вуснаў, потым пачаў стукаць па скронях костачкамі пальцаў, рвануўся і, як толькі зала заляскала, а Чыпола, склаўшы на каленях рукі, нягучна смяяўся аднымі плячамі, кінуўся ўніз па прыступках. Там з разбегу крута павярнуўся на шырока расстаўленых нагах, выкінуў наперад руку, і два аглушальныя сухія хлапкі абарвалі смех і апладысменты.

Усё адразу змоўкла. Нават танцоры спыніліся, атарапела вылупіўшы вочы. Чыпола ўскочыў з крэсла. Ён стаяў раскінуўшы рукі, нібыта хацеў крыкнуць: «Стой! Ціха! Прэч ад мяне! Што такое?!», але ўжо ў наступнае імгненне галава апала на грудзі, і ён мяшком асеў на крэсла і тут жа бокам паваліўся на падлогу, дзе і застаўся ляжаць беспарадкавай грудай вопраткі і крывых касцей.

Падняўся неверагодны вэрхал. Дамы, істэрычна ўсхліпваючы, хавалі твар на грудзях сваіх спадарожнікаў. Адны крычалі, патрабавалі ўрача, паліцыю. Другія памкнуліся да эстрады. Трэція гуртам навальіліся на Марыё, каб абяззброіць, адабраць у яго маленькі, з матавым бляскам прадмет, нават мала падобны на рэвальвер, які павіс у яго на руцэ і чый амаль нябачны ствол лёс накіраваў так дзіўна і непрадказальна.

Мы забралі дзяцей — нарэшце! — і павялі міма двух карабінераў да выхаду.

—Гэта праўда канец? — дапытваліся яны, каб ужо ісці са спакойнай душою.

—Так, гэта праўда,— пацвердзілі мы. Страшны, фатальны канец. І ўсё ж канец, які прыносіць збавенне — я і тады не мог і сёння не магу ўспрымаць гэта інакш!

1930

**Пераклаў з нямецкай**
**Васіль СЁМУХА.**

---

**[1] Ражкі ў алеі.**
**[2] Абед.**
**[3] Князь.**
**[4] Фуджэра!**
**[5] Заклінач, ілюзіяніст, штукар.**
**[6] Плады мора.**
**[7] Хутчэй.**
**[8] Пачынайма.**
**[9] Добры вечар!**
**[10] Спалохаўся, га?**
**[11] Ну...**
**[12] Ён слоў у кішэні не шукае.**
**[13] Амерыканская сістэма, праўда ж?**
**[14] Раз!**
**[15] «Вячэрні веснік».**
**[16] Залётнік.**
**[17] Выдатна гаворыць.**
**[18] Сімпатычны.**
**[19] Ах, годзе жартаваць! (Усё — *італ.*).**
**[20] Ён шмат п'е (*франц.*).**
**[21] Да паслуг! (*італ.*).**
**[22] Чыстая праца! (*італ.*).**
**[23] Моцна думайце (*франц.*).**
**[24] Пакланенне (*італ. і франц.*).**
**[25] Віла «Элеанора» (*італ.*).**
**[26] Марыё, адзін шакалад з бісквітам.**
**[27] Зараз.**
**[28] Гэта я небарака!**
**[29] Палкоўнік.**
**[30] Ратуйце!**
**[31] Скачы!**
**[32] Толькі адзін танец!**
**[33] Мой хлопчык?**
**[34] Вітаю!**
**[35] Афіцыянт.**
**[36] Сурвэтка.**
**[37] След меланхоліі.**
**[38] Не, сіньёр! (Усё — *італ.*).**

# ЯНО «ЖЫВУ Я ПАД АХОВАЙ...»

*«Пішыце аб Купалу. Хачу ўсё ведаць.»*

**(З ліста Якуба Коласа)**

На перавале з дваццатых на трыццатыя гады Купала, як вядома, страціў шмат каго з ранейшых блізкіх аднадумцаў і сяброў Працэс па справе СВБ (так званага «Саюза Вызвалення Беларусі») на доўгі час спустошыў дом Купалы З кім жа заставаўся ён, каго мог запрасіць на свята, на сяброўскую вячэру?

У зборніку «Успаміны пра Купалу» (1982 г , с. 152) адзін з апошніх сведкаў піша пра Купалаў 1935 год: «Быў цёплы і ціхі май. Адцвіталі сады, ружовымі і белымі воблачкамі курыўся бэз. Над горадам стаяў водар вясны і першых навальніц. У гэтыя дні шырока адзначалася трыццацігоддзе творчай дзейнасці Купалы».

Тагачасныя газеты захавалі нешта не зусім ружова-белае; у маі таго года не было шырокіх святкаванняў юбілею (спасылаюся на «ЛіМ», 31 мая 1935 года). Пад загалоўкам «Янка Купала ў студэнтаў» паведамляецца, што 23 мая быў Купалаў вечар у Вышэйшым педагагічным інстытуце. А далей, у тым жа нумары — пра юбілейны вечар народнага паэта ў Доме пісьменнікаў, які адбыўся 28 мая Пра маштабы святкаванняў можна меркаваць, чытаючы, прынамсі, першыя радкі ў другім паведамленні· **«Не было абвестак пра сход, аднак пра яго дачуліся...»** (Тут і далей вылучана намі — Г К.) Выходзіць, не было афіш, паведамленняў, запрашэнняў? Альбо з запрашэннямі — чарговы **сход**? Выходзіць, каб не пагалоска, месцы ў юбілейнай зале засталіся б незапоўненыя?

У той дзень, 28 мая, СНК БССР прыняў такую пастанову: «Адзначаючы пладатворную дзейнасць народнага паэта рэспублікі Янкі Купалы на фронце савецкай культуры, асабліва каштоўнасць яго апошніх твораў, у прыватнасці паэмы «Над ракою Арэсай», Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляе: «У азнаменаванне 30-гадовага юбілею літаратурнай дзейнасці ўзнагародзіць народнага паэта рэспублікі т Янку Купалу легкавым аўтамабілем».

І — ні слова пра Купалаў верш «Мужык», з якога сам ён пачынаў адлік сваёй літаратурнай дзейнасці? Ні слова пра Купалу дакастрычніцкага? Не было б «Арэсы» — не было б аўтамабіля, юбілей — адно нагода, а галоўнае — «савецкі літаратурны фронт»?

Цынічны бальшавіцкі дакумент

Вяртаемся да паэтычных успамінаў сведкі тых падзей:

«**Напярэдадні** афіцыйных вечароў Купала запрасіў блізкіх людзей дадому, каб па-сямейнаму адзначыць угодкі сваёй творчасці».

Крыху пазней той самы сведка ўдакладняе («ЛіМ», 3.XII.93):

«**Задоўга** да афіцыйных урачыстасцяў, 15 мая 1935 г , у 30-ю гадавіну апублікавання ў «Северо-Западном крае» «Мужыка», Купала запрасіў на таварыскую вячэру (а ў яго дома часта збіраліся тутэйшыя і прыезджыя сябры) блізкіх знаёмых. .»

Сведка нешта блытае. 30-годдзе апублікавання «Мужыка» спаўнялася, калі ўлічыць разбежку між старым і новым стылем, не 15 мая, а 28-га, таму наўрад ці мог Купала святкаваць свой юбілей «задоўга да афіцыйных урачыстасцяў»,— бо «афіцыйны вечар» быў прызначаны якраз на дзень угодкаў «Мужыка».

Не будзем заглыбляцца ў меркаванні аб прычынах памылковых паказанняў сведкі. Абмяжуемся звычайнай канстатацыяй: калі б Купала нават захацеў адзначыць свой літаратурны юбілей па «старым стылі» (па-сямейнаму, сярод сяброў-знаёмых), атрымаў бы ён не легкавы аўтамабіль, а нешта іншае.

Мо тая вячэра адбылася ўсё ж пасля пісьменніцкага «сходу»?





Сённяшні «апошні сведка» піша пра Купалавых сяброў-знаёмых — тых, каго паэт паклікаў на «сямейную вячэру»: «Па правую руку паэта сядзеў сакратар ЦВК Максім Ляўкоў, злева — акадэмік Сямён Якаўлевіч Вальфсон. .»

І — ні Якуба Коласа, ні Кузьмы Чорнага, ні Змітрака Бядулі? Ні Цішкі Гартнага, ні Міхася Чарота? І ні Броўкі, і ні Глебкі? З літаратараў — адзін Сяргей Грахоўскі (ён —«апошні сведка»), дый тое не ў якасці паэта, а як памагаты пры Ісаку Любане, які быў закапёршчыкам трансляцыі той вечарыны «на ўсю БССР па радыё»..

Ці не папахвае такі падбор гасцей («сяброў-знаёмых») нейкім ведамасным «спецадборам»?

Мы не ведаем, кім для Купалы быў Максім Ляўкоў, які сядзеў «па правую руку». Прынамсі, хто ён — як асоба?

Чытаем «Рудабельскую рэспубліку» С.Грахоўскага,— Максім Ляўкоў у ёй адзін з галоўных персанажаў.

30-я старонка: «З паперкаю ў руцэ побач стаяў чарнявы і тонкі Максім Ляўкоў»

Паперка тут — як прафесійная адзнака, бо Максім Ляўкоў у Рудабелцы — сакратар рэўкома: то дыктуе мужыкам дэкрэты аб зямлі і міры, а яны старанна пішуць слова ў слова, слінячы алоўкі (с. 49), то на сходзе рудабельскай партячэйкі сам выводзіць «акуратна, буйнымі, круглымі літарамі «Пратакол N 1» (с. 52). Далей чытач аповесці даведаецца, што Максім Ляўкоў стаяў за найвышэйшую законнасць чэкісцкага «суда» над тымі хто паўстаў супроць харчовых бальшавіцкіх рэквізіцый (с. 244), што старшыня Бабруйскага ЧК таварыш Нортман — яго сябра (с. 246). Пры сустрэчы з Нортманам Максім з ім раіцца: «Ну што будзем рабіць з гэтымі бандзюкамі?»,— і сам падказвае: «Зямлю аддаваць не хочуць, дык няхай параць у ёй косці». А праз паўгадзіны чытаецца прысуд, напісаны рукой Максіма:

«Імем Беларускай рэспублікі, кіруючыся рэвалюцыйным сумленнем, народны суд Рудабельскай воласці ўдзельнікаў кулацкай банды, якая спрабавала звергнуць савецкую ўладу .. прысудзіў ..»

Чытае тэкст прысуду ўжо не сам Ляўкоў (чытае — Адзінец), аднак ляўкоўская пагардлівая помста-асалода мае свой працяг у аўтарскай рэмарцы, дзе замест дакументальных прозвішчаў асуджаных паведамляецца, што ў пратаколе ішоў іх «пералік»· не вартыя яны ўспаміну, ды і колькі іх было — ці мае нейкае значэнне?..

З прысмакам той самай помсты-асалоды аўтар падае заключны момант у чытанні пратаколу: «Памаўчаўшы, ён голасна, па складах сказаў (?) толькі адно слова». Здагадаліся — якое? Да таго ж — адно на ўсіх!

«Бандытаў акружылі чырвонаармейцы і глуская міліцыя».

«Бандытаў вялі ў глінішча...»

Ляўкоўска-нортманаўскі «справядлівы» суд. «Праз паўгадзіны». «Пералік». «Па ўсіх законах» «Адно слова».

«Няхай парaць косці...»

Антычалавечая літаратура.

Знелюдзенне.

Вось, бадай, і ўсё, што мы даведваемся пра Ляўкова з тае аповесці Усё астатняе вар'іруе ягоную прысутнасць пры падзеях — на ўзроўні мізансцэн накшталт· «Максім сядзеў», «Максім устаў», «Максім пайшоў», «там з імі быў Максім».

І вось — «па правую руку паэта сядзеў Максім Ляўкоў»

Госць нумар першы?

Хай чытач даруе мне шалёную здагадку: ці не тая «правая рука» (Максім Ляўкоў) падказвала Купалу творчыя маршруты таго года — у Ляўкі (за месяц перад юбілеем — у красавіку, праз месяц пасля юбілею — з чэрвеня да жніўня). Ці не гэткім дзіўным чынам быў Ляўкоў «увекавечаны» ў «ляўкоўскім цыкле»? Выбачайце, але іншых тлумачэнняў у тандэме між Купалам і Ляўковым не знаходжу...

Яшчэ больш складаны варыянт тандэму — Вольфсан і Купала Пошукі яго разгадкі прывялі мяне ў Нацыянальную бібліятэку Беларусі, дзе была якраз наладжана (у чэрвені, у беларускай зале) юбілейная выстава «Да стагоддзя акадэміка С.Я. Вальфсона» (не ведаю, чым выклікана перамена ў напісанні прозвішча, аднак ён пры жыцці быў Вольфсанам, а ў сённяшніх даведніках усюды, у тым ліку ў БелСЭ і Энцыклапедычным даведніку «Янка Купала», яго перарабілі на Вальфсона). На выставе мяне зацікавіла перш-наперш кніга, пра якую ў сённяшніх даведніках чамусьці не паведамляецца — «Культура и идеология загнивающего

капитализма». Кнігу выпусціла выдавецтва «Дзяржсацэканамвыдат» (М.—Л.) якраз у 1935 годзе, пад грыфам Інстытута філасофіі Камуністычнай акадэміі. Там Вольфсан пісаў: «Необходимо, как выражается Максим Горький, «высочайшее интеллектуальное плоскогорье», с которого отчетливо видно прошлое и указан прямой и единственный путь в будущее... Таким «интеллектуальным плоскогорьем» является диалектический материализм — философия пролетариата. Диалектический материализм всесилен, ибо он верен» Як у Леніна. «Учение Маркса всесильно, ибо оно верно».

Але больш за ўсё мяне на той выставе ўразіла брашура С.Вольфсана «Ідэолёгія і мэтодолёгія нацдэмократызму», якая ў 1931 годзе выйшла ў двух выданнях — перш асобна, потым у акадэмічным зборніку «Навука» на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі» (пад рэдакцыяй дырэктара інстытуту філёзофіі акадэміка С.Я Вольфсана). Што ні кажы, сваю задачу, якая заключалася «ва ўсебаковым раскрыцці гэтай кулацка-буржуазнай ідэолёгіі, у дасьледаваньні тых каналаў, праз якія яна пашыралася, у выяўленьні тых апорных пунктаў, якія выбіралі яе носьбіты і пропагандысты, у выяўленьні тых мэтодолёгічных спосабаў, якімі яны карысталіся, ва ўстанаўленьні яе гістарычнага гэнэзісу і г.д., і г.д.»,— таварыш Вольфсан выканаў хай не зусім добрасумленна, але — прафесійна і... пераканаўча. Ён, прынамсі, праявіў сябе як знаўца Купалавай паэзіі Ужо тады, у 1931 годзе, ён разумеў Купалаву паэму «Безназоўнае» як антыбальшавіцкі твор, які зьяўляецца арэнай барацьбы дзьвюх культур — мясцовай беларускай і націскаючай на яе знадворку — вялікарускай». Ён дакладна вызначыў Купалаву мастацкую канцэпцыю паэмы «Культура «Масквы», больш моцная, натуральна перамагае маладую беларускую культуру. Таму будаўніцтва беларускай пралетарскай культуры, якое праводзіцца савецкай уладай, зьяўляецца толькі палітычным манэўрам. Гэта фарс, пры якім —

Спраўляюцца заручыны
Вясельніцы засмучанай
З вясёлым жаніхом».

Філосаф Вольфсан **раскрываў** сапраўднага Купалу — **выкрываючы** яго.

Антыкупалаўскімі ў Вольфсана былі ягоныя развагі пра Скарыну· «Адным з вельмі пашыраных мэтодаў дзейнасьці нацдэмаў зьяўляецца самая бессаромная фальсіфікацыя гістарычнага мінулага Беларусі. Адным з важнейшых актаў гэтай фальсіфікацыі зьяўляецца ператварэньне ў продка беларускай пролетарскай культуры Францішка Скарыны».

Прыгадаем «Ліст да палачан» Купалы (май, 1926):

«Пажадаю Вам, палачане і палачанкі, каб тая першая падумка Вашага славутага продка, ураджэнца г. Полацка, вялікага вучонага Ф Скарыны, што для «люду паспалітага» трэба пісаць кнігі на яго простай, зразумелай для яго мове, была заклікам да працы над эканамічным і нацыянальным адбудаваннем нашай многапакутнай бацькаўшчыны».

Вольфсан абураўся: «400-годзьдзе перакладу Скарынай біблії на беларускую мову дае нацдэмам повад да шумнай нацыяналістычнай дэмонстрацыі, якая пракацілася па ўсёй БССР Навуковыя ўстановы Беларусі аддаюць сваю энэргію высьвятленьню пытаньня аб тым, ці быў Скарына »католікам, хрышчоным паводле лацінскага абраду", ці ён «перакінуўся ў праваслаўе» Навокал Скарыны ўтвараецца орэол роданачальніка беларускай культуры, якая ставіцца пад знак «скарынінскай традыцыі».

Філосаф Вольфсан і паэт Купала ці не скрозь былі антаганістамі, па ўсім так званым «гістарычным фронце» (тэрмін Вольфсана). «Трэба ператрусіць на вачох шырокіх мас ідэёвы багаж нацдэмаў,— заклікаў філосаф,— выявіць яго надзвычайнае навуковае ўбожаства, паказаць, як нацдэмы пад флагам «чыстай навукі» прасоўвалі ў сваіх работах кулацкашовіністычную контрабанду, як контрабандысты ад нацдэмократызму прыкрываліся маскаю нацыяналізму і патрыотызму, каб лепш і з меншаю небясьпекаю ажыцьцяўляць свае клясавыя мэты — мэты лютага ворага пролетарскай дыктатуры».

Рэзка размінуліся (ці нават сутыкнуліся?) Купала з Вольфсанам у поглядах на гістарычную асобу К.Каліноўскага. Купала ў 1923 годзе, пішучы пра пастаноўку п'есы Е.А. Міровіча, заўважыў: «На спектаклі 7 лістапада (зачынены, для членаў прафсаюзаў), калі частка моладзі даведалася, што выведзены на сцэне герой — не надуманая аўтарам асоба, а гістарычна-рэальная, баец-рэвалюцыянер Беларусі 60-х гг , хацела паглядзець партрэт яго, але адміністрацыя тэатра чамусьці на гэты раз партрэт зняла. Мы патрабуем, каб у дні спектакля не толькі вывешваўся партрэт Каліноўскага, але тут жа, на картцы, кароткі, але выразны (у звязку з п'есай) жыццеапіс.





Моладзь павінна знаць тых, хто склаў галовы за волю працоўных Беларусі».

Слова — Вольфсану:

«Побач з культам Фр. Скарыны ўтвараецца і культ Кастуся Каліноўскага, які ператвараецца амаль ня ў продка Беларускай Соцыялістычнай Савецкай Рэспублікі. Імя гэтага шляхецкага рэвалюцыянера акружаецца романтычным орэолам героічнага шукальніка «мужыцкай праўды». Пры дапамозе бесцэрамонных фальсіфікацый утвараецца вобраз рэволюцыйнага барацьбіта беларускіх сялянскіх мас, якія падняліся на барацьбу з прыгнятальнікамі і эксплёататарамі».

Вольфсан «пeратрусіў» Ф.Багушэвіча і Я.Неслухоўскага, В.Ластоўскага і Я.Лёсіка, М.Доўнар-Запольскага і А.Гаруна. «Фашысцкім правадыром нацыяналдэмакратаў» ён назваў А.Луцкевіча Ул. Дубоўку — «збраяносцам прышчэпаўшчыны». Асаблівую нянавісць выклікаў у Вольфсана Дубоўкаў верш·

Ты думаеш, лёгка пакінуць
Усё, што ў стагодзьдзях зьбірана?
Ня выганіш гэтага клінам,
Бо будуць няўгойныя раны..
Мне кожны памежак знаёмы,
Сьмяецца мне кожны лісточак,
Дык што ты мне радзіш для злому,
Дык што ты мне радзіш, браточак?

Як жа здарылася, што такі «філёзаф» стаў Купалу за «браточка»?..

Варта пазнаёміцца бліжэй яшчэ з адным «браточкам» —кампазітарам Ісакам Любанам, які вёў рэй на Купалавай сямейна-юбілейнай вечарыне, быў галоўным завадатарам яе трансляцыі па радыё «на ўсю БССР».

12 лютага 1935 года ў газеце «Літаратура і мастацтва» гэты завадатар выступіў з артыкулам «Разграміць рэшткі нацдэмаўшчыны і трацкізму ў музыцы» Артыкул меў працяг, пад тым жа загалоўкам, у нумары за 6 красавіка Цытуем з першай часткі: «Музыка ў БССР развіваецца ў жорсткай класавай барацьбе супроць рэштак ворагаў пралетарыята, якія праніклі выключна са шкодніцкімі і здрадніцкімі мэтамі на ўчастк соцыялістычнай гаспадаркі і культуры Класавыя ворагі, контррэвалюцыйныя нацыянал-дэмакраты, вялікадзяржаўныя шавіністы, былыя царкоўнікі, чорнасоценцы пранікла таксама і на музычны ўчастак соцыялістычнага будаўніцтва. Яны імкнуліся і імкнуцца праз музыку прышчапіць працоўным свае варожыя контрэвалюцыйныя ідэі».

«Былое нацыянал-дэмакратычнае кіраўніцтва Наркамасветы і Інбелкульта (Баліцкі, Ігнатоўскі, Ластоўскі) наваднілі Совецкую Беларусь музычнымі «спецамі», ад'яўленымі контррэвалюцыянерамі, чорнасоценцамі, нацдэмамі (Прохараў, Анцаў, Грыневіч і К°)».

«КП(б)Б своечасова выкрыла, расшыфравала і выгнала шкоднікаў, контррэвалюцыйных нацдэмаў з усіх вучасткаў соцыялістычнага будаўніцтва, у тым ліку і з фронту музыкі

Пазней у 1932—1933 гг. у БССР паяўляецца на гарызонце другая група шкоднікаў, якія ўжо не адкрыта, а «ціхай сапай» шкодзілі музычнаму фронту БССР...»

Кім былі ў гісторыі культуры Беларусі Прохараў, Грыневіч, Анцаў — хай чытач даведаецца, пагартаўшы адпаведныя тамы Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі, хай угледзіцца ў іх твары на партрэтах,— адухоўленыя інтэлектам, адукацыяй, традыцыяй Яны псавалі «гарызонт», не ўпісваліся ў «фронт».

Асноўны ўдар артыкула быў скіраваны на «нацдэма» Дрэйзіна Юльяна Мікалаевіча — музыказнаўцу, выкладчыка кансерваторыі, складальніка музычных слоўнікаў, збіральніка музычнага фальклору, знаўцу старажытнагрэчаскай, лаціны і іншых моў (дарэчы, летась Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр выдаў зборнік перакладаў дзвюх п'ес Эсхіла і Сафокла, з дрэйзенаўскім перакладам «Антыгоны»). Выпускнік Маскоўскага універсітэта, ён настаўнічаў спачатку ў Магілёве, потым (з 25-га па 35-ы год) у Мінску. «Ракавым» для Дрэйзіна быў год 34-ы, калі ён падклаў тутэйшай бальшавіцка-беларускай прапагандзе ладную свінню,— дарэчы, праз Маскву. Цытую Любана: «Артыкул Дрэйзіна, змешчаны ў часопісу «Советская музыка» (N 7, 1934 г.) яскрава сцвярджае, што ён паслядоўна праводзіць сваю старую лінію. Артыкул, як мы гэта зараз убачым, з'яўляецца згусткам нацдэмакратычных ідэй па лініі мастацтва ў БССР...

Возьмем такі абзац з артыкула Дрэйзіна:

«Только в 1928 году был напечатан сборник из 318 песен, записанных у певицы Проси

Гарецкой, крестьянки деревни Богатьковки Мстиславльского района. Мелодии этих песен записаны А.Егоровым, тексты — сыном певицы М.Гарецким. .»

Гэты зборнік сёння стаў, вядома, бібліяграфічнай рэдкасцю («Народныя песьні з мэлёдыямі», Менск, 1928). Спасылацца на яго тады, у 1934 годзе, прапагандаваць яго на ўвесь СССР — было злачынствам, ідэалагічнай вылазкай, крамолай. «Дрэйзіну добра вядома,— пісаў Любан,— што ў гэтым зборніку шмат кулацкіх і антысеміцкіх песень, наўмысля падабраных нацдэмам Гарэцкім» Спрачацца з Любанам наконт «кулацкасці» і «антысемітызму» мы не будзем, пашкадуем толькі, што той «шкодны» зборнік больш не перавыдаваўся, ды паспадзяемся, што ён будзе перавыдадзены ў бліжэйшы час.

Чытаем Любана далей: «Да заслуг Аладава Дрэйзін адносіць оперу-жарт на лібрэта Дрэйзіна «Тарас на Парнасе», якая забаронена і асуджана, як нацдэмаўскі твор».

Ці захавалася дзе-небудзь тая опера? .

Чытаем Любана далей: «Гаворачы пра кампазітара Тэраўскага — Дрэйзін высоўвае, як вялікае дасягненне ў беларускай музыцы музычнае афармленне Тэраўскага да п'ес «Кастусь Каліноўскі», «Кар'ера Брызгаліна», «Панскі гайдук» і інш п'ес, якія даўно зняты з рэпертуара, як шкодныя, не маючыя нічога супольнага з пролетарскім тэатральным мастацтвам».

Словам, Любан з Вольфсанам-Вальфсонам спявае ва ўнісон! Ён ужывае вольфсанаўскую тэрміналогію. «Зусім правільна зрабіла Секцыя Савецкіх кампазітараў, выключыўшы на сваім апошнім сходзе Дрэйзіна з ліку членаў секцыі. Толькі гніла-ліберальнымі адносінамі і прытупленнем класавай пільнасці секцыі (тут Любан дадае самакрытычна ў дужках: «у тым ліку і аўтара гэтых радкоў») можна растлумачыць тое, што да гэтага часу Дрэйзін не быў расшыфрован (!) і не выгнан з секцыі».

Другі артыкул Любана («ЛіМ», 6 красавіка 1935 г.) спатрэбіўся, каб Дрэйзіна дабіць дарэшты. Пераклады ўсіх лібрэта опер, зробленыя Дрэйзіным, патрабавалася забараніць. Ушчэнт знішчаўся Дрэйзін як музыказнаўца: «Даючы азначэнне музыцы, Дрэйзін кажа: «Музыка, рэальна кажучы, гэта злучэнне таноў». Даючы гэтую вульгарна-механістычную ўстаноўку, Дрэйзін ні слова не гаворыць пра тое, што музыка, як надбудова на матэрыяльным базісе, з'яўляецца прадуктам вытворчых і класавых узаемаадносін».

Любан апярэдзіў Жданава?

Каб высветліць, чаму і як на той «сямейнай» вечарыне апынуліся «бліжэйшымі» гасцямі Любан, Вольфсан і Ляўкоў, я мушу выказаць здагадку, што яна была не ў маі, як сцвярджае наш «апошні сведка», і тым болей не «задоўга перад афіцыйным юбілеем», а — пасля яго (у кампазітара Шчаглова-Куліковіча ўспаміны больш дакладныя «Не ведаю, чыя гэта была думка — перанесьці **заключную** вечарыну ў хату самога юбіляра»).

Справа ў тым, што «афіцыйны юбілей» Купалы святкаваўся ў 1935 годзе — двойчы. Першы раз — у маі, 28-га (таксама як і ў 1925 годзе юбілей 20-годдзя), толькі з нейкай яўнай «нехатой» з боку ўлады, як «адчэпнае» мерапрыемства: адбылі і годзе, каб ніякіх нараканняў ні «адтуль», ні «тут». Мінаюць месяцы Ляўкі, «ляўкоўскі цыкл», і раптам праз пяць месяцаў на пасяджэнні Прэзідыума ЦВК прымаецца рашэнне: «Зацвердзіць прапанову НК Асветы аб арганізацыі камітэта па падрыхтоўцы 30-гадовага юбілею літаратурнай дзейнасці народнага паэта рэспублікі Янкі Купалы» (выпіску падпісвае Максім Ляўкоў).

Апамяталіся?

Альбо было запланавана — **каляндарны** юбілей «збіць» **афіцыйным** святкаваннем, перабіць «мужыцкага» Купалу —«бальшавіцкім», «надракойарэсаўскім», «ляўкоўскім»? Пачалася ліхаманка: «Тэрмінова ЦСПСБ. N 400. 23/X-35 г Старшыням гаррайпрафсаветаў, старшыням ФЗМК гор. Мінска. У сувязі з прадстаячым з 15.XI па 15/XII 30-гадовым юбілеем творчай дзейнасці народнага паэта Янкі Купалы прыміце тэрмінова меры па растлумачэнню масам рабочых і працоўных палітычнага значэння гэтай даты». (Зборнік дакументаў «Пуцявінамі Янкі Купалы»).

Пратакол пасяджэння Прэзідыума СП БССР ад 11/XI 1935 г. Пастанавілі: «11/XII правесці вечар, прысвечаны святкаванню юбілею Купалы» Усё распісана па пунктах: «Адчыненне вечара... і прывітанне ад ЦВК і СНК — Ляўкоў» (цытую са скарачэннямі). Прывітанне ад ЦК КП(б)Б, ад ЦСПСБ, ЦК ЛКСМБ. «Лічыць патрэбным запрасіць персанальна Горкага, Безыменскага, Шчарбакова» і г.д. Асобны пункт· «...арганізаваць на юбілейным вечары канцэрт з чыткай мастацкіх твораў і песень Купалы».

Урачысты сход адбыўся «па праграме». Толькі не было Максіма Горкага. Максім Ляўкоў «пад бурныя авацыі ўсёй залы зачытвае прывітальную тэлеграму, атрыманую ад Аляксея





Максімавіча Горкага: «Минск. Янко Купало. Сердечный привет неутомимому соратнику поэту-революционеру М.Горький».

«Пасля ўрачыстага сходу артысты БДТ-1 і музычны квартэт радыёкамітэта чыталі і спявалі песні народнага паэта Янкі Купалы».

Стоп ..

Ці не пасля гэтага «чытання» і «спявання» (альбо недзе напярэдадні, у часе рэпетыцый) нарадзілася ідэя «паўтарыць» канцэрт у доме юбіляра, выдаўшы ягоную праграму як «імправізацыю», праз радыётрансляцыю — «на ўсю БССР», каб людзі ведалі, што дом Купалы ачуняў, што ў ім і музыка, і спевы, і такія госці!

Калі пад выглядам «сямейнай вечарыны» быў наладжаны **зрэпетаваны радыёканцэрт**, усё астатняе ў дакументальных успамінах сведкаў (Шчаглова і Грахоўскага) сыходзіцца, нягледзячы на разыходжанні ў ацэнках, афарбоўках фактаў і высновах. Нават частыя адлучкі юбіляра з-за стала ў свой кабінет з нязменным «Казбекам» выглядаюць натуральна, бо па радыё ніхто не ўбачыць, слухае ці не ён тыя віншаванні, прысвячэнні, пажаданні.

Кабінетны прыцемак, які запаў у памяць аднаму з «апошніх сведкаў», гэтаксама нешта выдае. Ён (сведка) піша нават больш дакладна — у яго не «прыцемак», а — «цьмяны кабінет, **асветлены зялёнымі вочкамі апаратуры»** Запытайма, хіба гэта май: пачатак вечарыны, госці не паспелі папрыходзіць, гаспадыня толькі-толькі сустракае іх, а ў памяшканні ўжо такая «цьмянасць», што калі б не вочкі радыёапаратуры, быў бы ці не поўны змрок? Даруйце, але знакамітае «не веру» К.С. Станіслаўскага трымалася на выверцы элементарных «дробязяў»

Нарэшце, чытайце ў Энцыклапедычным даведніку «Янка Купала» — артыкул пра С.Грахоўскага: «У снеж. 1935 у дні святкавання 30-годдзя творчай дзейнасці К. як супрацоўнік бел. радыё вёў рэпартаж з кватэры паэта».

Снежань? Радыёканцэрт...

Пісала той артыкул пра С.Грахоўскага Марыя Мікітаўна Барсток — даследчык карпатлівы і добрасумленны. Што ж яе прымусіла спыніцца не на версіі С.Грахоўскага, а на «шчаглоўскім» варыянце? І чаму С.Грахоўскі, прачытаўшы ў даведніку артыкул пра сябе, нібыта не заўважыў гэткай «недакладнасці»?

Калі пад выглядам «сямейнай вечарыны» быў наладжаны **зрэпетаваны радыёканцэрт,** пытанне пра падбор гасцей таксама адпадае: Любан — дырыжор, артысты — хор, масоўка, Вольфсан і Ляўкоў — на ролях двух вясельных генералаў. Ні Якубу Коласу, ні Кузьму Чорнаму, ні Змітраку Бядулю роляў у такім канцэрце, натуральна, не знайшлося, а іграць на ўсю БССР сваё сяброўства з юбілярам — гэта не адпавядала іхнім «амплуа».

Як ні круці, выходзіць — «**радыёканцэрт**». Якую ж ролю ў ім выконваў сам Купала — поруч з тымі «генераламі», якія святкавалі перамогу над ягонымі сапраўднымі сябрамі, над ягоным адраджэнствам, «нашаніўствам», над «нацдэмаўшчынай»? Кім ён быў у сваёй хаце?

Напярэдадні «канцэрта» атрымаў ён дакумент:

«...Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Прыняць на ўтрыманне за кошт урада БССР дом Янкі Купалы, у якім ён жыве, даручыўшы прэзідыуму Мінскага гарадскога Савета ў месячны тэрмін аслабаніць дом Купалы ад пабочных жыхароў».

Па-першае, «пабочныя» былі раней — сапраўднымі гаспадарамі дома. Па-другое, высяліўшы іх, улада ставіла Купалу ў ролю «кватаранта СНК», якому сёння сказана: «О так! Ты — гаспадар!», а заўтра скажуць: «Сні, таварыш, аб Камуне!»?..

Пункт другі: «Прыняць выдаткі за кошт урада БССР па пабудове дачы для т. Купалы Я.Д. на месцы па яго выбару».

Ляўковы, Чарвяковы, Галадзеды ведалі: Купала не адважыцца «абраць» Акопы — назаве Ляўкі.

У 1935-м цалкам спраўдзілася тое, што ён напісаў ці падпісаў пасля замаху на сваё жыццё ў 1930-м: «Жыву я пад аховай...»

«Трагедыя Купалы 30-х гадоў — гэта трагедыя пазбаўленага магчымасці выказацца прарока, які, унутрана застаючыся прарокам, павінен быў выконваць ролю блазна»,— піша ў сваёй кнізе пра Купалу Ірына Багдановіч.

Жорстка?

Мужна.

І яшчэ: «Яго ўтаймаваны і неўтаймоўны дух, хутчэй за ўсё, перажываў магутныя ўнутраныя зрухі, вымушаны быў стрымліваць свае парывы, шукаць суладнасці там, дзе яе

немагчыма было знайсці. Відаць, у гэтых зрухах хаваліся ніці раптоўнай і загадкавай смерці паэта».

.. Недзе ў Сяргея Дубаўца было пра тое, што Купала «перажыў сябе»

...Ні Дубавец, ні Багдановіч, мабыць, не чыталі апошняга ліста Якуба Коласа Янку Купалу ад 17 верасня 1941 года, ксеракопія якога прыводзіцца пасля артыкула.

...Купалава самазабойства і Купалава забойства ўладай не раптоўна пачаліся і не раптам завяршыліся, і справа тут не толькі ў хваласпевах Сталіну альбо ў нянавісці да Сталіна, як гэта выстаўляюць сёння некаторыя даследчыкі, і не ў праблеме «выжывання любым коштам».

Ён не быў прарокам. Ён не быў святым. Ён быў паэтам — геніяльным і ўжо зламаным. Канчатковы «злом» адбыўся ў 1935 годзе. Больш — ранейшага Купалы не было. Было — **падзенне.**

«Вось ужо каторая пара, а Янка хоць бы слова напісаў. Злосць бярэ мяне на такую дзераваную нячуласць. А ў рэшце што з яго возьмеш, калі ён сваю родную матку кінуў, як жывёліну ў трудную мінуту Яму толькі б бачыць вакол сябе кадзільны дым. Ён гэтым жыве, да гэтага скіраваны ўсе яго думкі і пачуцці».

Адкуль гэта?

З Якуба Коласа. Збор твораў у чатырнаццаці тамах, том 13, старонка 242. У канцы першага абзаца на месцы гэтых слоў — шматкроп'е... Колас піша Броўку

Старонка 270. З ліста Якуба Коласа (Казань, 7/III 1942 г.) да жонкі М.Д. Міцкевіч — у Ташкент. Другі абзац пераврываецца шматкроп'ем пасля слоў: «Заўтра прыедзе Янка. Яму званілі, і ён перадаў, што заўтра будзе тут Такім чынам, прадстаіць сустрэча». Далей — наступнае: «Ведаю, ты падумаеш — Костусь незлапамятны і першы пакланіцца Янку Як яно будзе, не ведаю, але супраць яго на сэрцы шмат накіпела»

Старонка 273. З ліста да жонкі (8/III 1942 г.). Другі абзац перарываецца шматкроп'ем — пасля слоў: «Учора, калі я ўжо адаслаў табе пісьмо, зайшоў з горада ў гасцініцу да нашых беларускіх хлопцаў і там застаў Уладку». Далей — наступнае: «Вочы яе былі заплаканы. Алеж ты ведаеш, у яе слёзы змяняюцца смехам. Крыўдзіцца на Янку, што ён праганяе яе. Наогул жывуць тут яны асабліва нядружна. Аб гэтым расказалі мне людзі Аб Янку ні сказаў ні слова».

Зноў старонка 273, той самы ліст, пачатак трэцяга абзаца, шматкроп'е пасля слоў: «На сесіі Янка павінен выступіць з дакладам аб ролі беларускай інтэлігенцыі». Далей: «Даклад напісан у Маскве Барысенкам. Можа ўсё гэта для цябе нецікава, Маруська».

Сярэдзіна апошняга абзаца. Шматкроп'е пасля слоў: «8/III за сталом у аднаго з нашых знаёмых сустрэўся з Янкам». Далей: «Нічога асаблівага не гаварылі, не сварыліся і не дружылі Ён вярнуў доўг...»

Міне тры месяцы, і Якуб Колас атрымае тэлеграму аб Купалавай канчыне.

Ён пра нешта здагадаецца: «У мяне астаецца такое перакананне, што яго раптоўна налучыла нейкае няшчасце» (т. 13, с. 290).

Пад канец ліста: «Пішыце аб Купалу. Хачу ўсё ведаць.» (с. 291).

Так звяртаўся Якуб Колас да апошняга з «браточкаў»,— які быў апошнім сведкам тых, хто яго бачыў перад смерцю (які выклікаў яго тады ў Маскву з Пячышчаў пад Казанню).

...Прачытайце ліст Якубу Коласу ад Міхася Лынькова (у часопісе «Бярозка» N 3, 1993). Паспрабуйце, прачытаўшы, пашукаць адказу на пытанні: з-за чаго, чаму, дзеля чаго Лынькову і яго кампаніі, калі яны даведаліся, што Купалаў труп ляжыць унізе ў лесвічным гасцінічным пралёце, сакратар ЦК «браточак» Гарбуноў забараніў высоўвацца з пакою?..

Напярэдадні Міхась Лынькоў пісаў Якубу Коласу ў Ташкент (т. 8, с. 50):

«Што новага тут у нас? 18 чэрвеня прыехаў у Маскву Янка, гасцюе цяпер у нашай гасцініцы». Далей у томе шматкроп'е-скарачэнне ў дужках. Расшыфруем: «Не п'е гарэлкі, спажывае толькі піва». Пасля расшыфроўкі набывае новы сэнс далейшы тэкст: «Гэта ўжо добра. Пакрысе злуе на Вас. А чаго, дык гэта нам не так ужо і зразумела, ды і не варта нам умешвацца ў адносіны дзвюх дзяржаў, гэта, так сказаць, «старинный спор славян между собою».

Расшыфруем яшчэ адно шматкроп'е — Якуб Колас (т. 13, с. 295) адказвае Лынькову: «Янка ў апошні час злаваўся на мяне, як аб гэтым сведчыш ты. У Казані, калі я ў апошні раз сустрэўся з ім, я нагаварыў яму пра Уладку многа горкай праўды».

Хай чытач даруе, тую праўду цытаваць не будзем, апрача, хіба, апошняга дакору,— за «яго кампанаванне з Емельянавым і падстаўленне свайго подпісу пад яго пісаніну» Між іншым, тую емельянаўскую «пісаніну» Б. Сачанка, не ведаючы, хто яе сапраўдны аўтар, называе «класікай не толькі беларускай, але і ўсёй савецкай публіцыстыкі» («Сняцца сны аб Беларусі», с. 171).

З ліста М.Лынькова П.Панчанку (ф. 191, в. I, а.з. 266):

«Учора прыехаў у Маскву адзін з нашых старыкоў — Янка. Жыве ў гасцініцы «Масква». З гэтай прычыны мы, зразумела, узялі пэўную чару...»

Той самы ліст: «**Сёмага ліпеня** (падкрэслена ў Лынькова.—*Г.К.*) праводзім пленум нашага Саюза, на які запрашаем цябе і Пятрука (Броўку —*Г.К.*). Хацелі выклікаць усіх, Ільлю і Айзіка (Гурскага і Кучара.— *Г.К.*), але нам сказалі, што не варта спыняць выхад газеты».

Сёмага ліпеня (Лынькоў падкрэсліў дату нездарма) — павінна было споўніцца Купалу 60 гадоў На гэты дзень якраз і прызначаўся пленум СП БССР. Ніякіх асаблівых урачыстасцяў, афіш, ніякіх запрашэнняў літаратарам «з усіх рэспублік СССР» (як пішуць сёння) і ніякіх пасяджэнняў у Канцэртнай зале імя Чайкоўскага ніхто не планаваў, як бачым... У дакументах таго часу пра Купалаў юбілей нідзе няма ні слова. Ці не тут —прычына таямнічай гібелі? Ці не таму Лынькоў **пасля вайны**, рыхтуючы прамову да чарговага Купалавага юбілею (ДАЛіМ ф. 191, в. I а,з. 190), будзе неяк ліхаманкава «зацыклены» на гэтай тэме: «Гэтую гадавіну рыхтаваў урад, да яе рыхтаваўся паэт, рыхтаваўся. .». На адвароце рукапісу: «Быў вясёлы, радасны і ад непаср. блізкасці да юбілею». Наступная старонка (18-я): «Рыхтаваліся да купалаўскага юбілею і другія пісьменнікі: рускія, латышскія, літоўскія, украінскія, эстонскія, з тых, якія таксама аказаліся ў той час у сталіцы». Зноў: «Вось чаму Янка Купала знаходзіўся ў бадзёраприўзнятым настроі, быў увесь у чаканні новых перамог, новых падзей, якія б яшчэ больш паскорылі зварот нас на радзіму. Быў вясёлы, радасны і ад непасрэднай блізкасці да юбілею».

Аб якім «бадзёрым», «радасным» чаканні «новых перамог» магла ісці гаворка ў тыя дні, калі наш фронт трашчаў на ўсіх напрамках — Крым, Курск, Харкаў, неўзабаве — Дон, Варонеж, Сталінград?..

Ці не хацелася Лынькову ў нечым апраўдацца ды ад нечага «адмыцца»?

«Што новага ў нас? З'ехаліся нашы хлопцы з усіх канцоў». (Далей ідуць імёны «хлопцаў.») «Адным словам, гасцініца аж дрыжыць, як толькі не перакуляць яе дагары нагамі нашы браты беларусы» (ДАЛіМ, ф. 191, в. I, а.з. 238, л. 14).

Якубу Коласу Міхась Лынькоў паведамляў «Не п'е гарэлкі, спажывае толькі піва»

Праз колькі дзён (21 чэрвеня, за тыдзень перад гібеллю Купалы) Лынькоў паведамляе І.Гурскаму: «Васемнаццатага прыехаў Янка. Гарэлкі покуль што і ў вус не бярэ, абмяжоўваецца віном і баржомам. Такія вось, браце, справы» (ДАЛіМ, ф. 191, в. I, а.з. 225, л 1).

З ліста Лынькова да Якуба Коласа ад 17 чэрвеня вынікае, што «баржомны» перыяд быў нядоўгім і завяршыўся трагічна. «Нечаканая смерць Янкі Купалы выклікала ў нас... глыбокі смутак. Памёр вялікі паэт. Ён прыйшоў у камуністычнае заўтра «з шчырымі шчырага сэрца пачуццямі» (ліст Іллі Гурскага да Міхася Лынькова, ДАЛіМ, ф. 191, в. I, а.з. 236, л 2).

Табе, праўдзір, мае песні і думы

І шчырыя шчырага сэрца парывы...

Смерць паядналася з «камуністычным заўтра». Што гэта? Абсурд на вышыні партыйнага вар'яцтва?

Забудзьмася на хваласпевы партыі і Сталіну, забудзьмася на «Пісьмы беларускага народа Сталіну», забудзьмася на тое, што пад тымі пісьмамі збіралі **нашы подпісы** (каб хто адмовіўся — такога не было?),— **ад усяго народа...**

Але як забыцца на такое: «Хай заціхнуць званы сафійскія і ім падобныя манастырскія званы, якія звалілі славу князям...» (з «Ліста да палачан», які я цытаваў вышэй, прыводзячы Купалаў заклік шанаваць Скарыну). Гэта ж — не 30-ты і не 35-ты год, а 26-ты «Пажадаю Вам, таварышы, дружна трымацца таго сцяга, які Вам дала вялікая пралетарская рэвалюцыя, а на варце і абароне якога стаіць праўдзівая барацьбітка за вызваленне працоўнага люду ўсяго свету — Камуністычная партыя» (т. 7, с. 226).

Мо гэта не ён пісаў? Адно — падпісваў?

Подпіс — гэта подпіс. Асабліва — калі ён заклікае люд устаць пад той ці іншы сцяг дзяржавы.

Два гады газета «ЛіМ» вядзе прапагандысцкую кампанію за прапанову, выказаную Н.Гілевічам — каб тэкст Купалавага верша «Маладая Беларусь» зрабіць Дзяржаўным гімнам

Беларусі. «Кампетэнтнае журы,— паведамляе «ЛіМ» (24.06.94),— праслухала конкурсныя варыянты мелодый, створаных сучаснымі кампазітарамі на рэкамендаваны ў якасці тэксту гімна верш Янкі Купалы «Маладая Беларусь». Адобраны тры творы А.Багатырова, В Война, У.Дарохіна, якія будуць запісаныя ў выкананні прафесійных артыстаў і прапанаваны шматтысячнай аўдыторыі беларускіх радыёслухачоў».

Уявім намаганні кампетэнтнага журы і прафесійных выканаўцаў завяршыліся як мае быць,— Дзяржаўны гімн на словы верша «Маладая Беларусь» выконваецца на ўрачыстай афіцыйнай цырымоніі, пад бел-чырвона-белым сцягам і «Пагоняй». Раптам над натоўпам — транспарант, які цытуе самога Купалу: «Я катэгарычна патрабую зняць вершы і мой подпіс, якія ўзяты так жульніцкі і нахабна і пастаўлены поруч з ненавіснай мне буржуазна-нацыяналістычнай «пагоняй» (т. 7, с. 231). Што ў натоўпе, на трыбуне? Пачынае дзейнічаць міліцыя, амон? А потым — суд?

Суда не будзе. Спасылаюся на кампетэнтны рэдакцыйны каментарый сямітомніка Купалы (т 7, с. 539): «Тут Я.Купала мае на ўвазе заключную страфу з верша «Маладая Беларусь»:

Паднімайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі»

Мо «кампетэнтнае журы» скароціць гэтую страфу, каб не было **дзяржаўнага** канфузу? А куды ж нам будзе дзецца **нацыянальны** сорам?

Спадкаемцы «навуменклатуршчыкаў» тынкуюць спадчыну Купалы на ранейшы бальшавіцкі лад, «з другога боку»: тыя затынкоўвалі Купалу «нашаніўскага», а гэтыя — «савецкага» «Савецкі» — сам закрэсліў «Маладую Беларусь», сказаўшы пра яе: «Радкі майго старога (?!) верша» .

Зноў — не ён пісаў? Адно — «падпісваў»?

1930 год. Быў цёплы і ціхі май. Шырока адзначалася дваццаціпяцігоддзе творчай дзейнасці Купалы (напярэдадні раскруткі «справы СВБ»). У «Звяздзе» і «Савецкай Беларусі» юбіляр надрукаваў свой ліст·

«У другі раз юбілейных угодкаў мне прыходзіцца выказваць перад усім светам сваю бязмерную ўдзячнасць і Савецкай уладзе, і савецкай грамадскасці за ўсё тое добрае і радаснае, што я атрымаў на зямлі, над якой сонечна красуецца сцяг непераможнага Кастрычніка» (т. 7, с. 232).

1925 год. Быў месяц чэрвень: «Я шчаслівы, што сёлетні юбілей абходжу ў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы, я ганджуся тым, што годнасць беларускага народнага паэта атрымаў ад беларускай Савецкай улады» (т. 7, с. 223—224).

Хто б ні пісаў, падпісваў — ён. Мы — следам...

Нашыя браточкі-камуністы сёння выстаўляюць нам яго і нас — **такімі**. Паспрабуйма адрачыся — не было таго?

Было.

Яны зласлівяць: дзе ў нас нашы незаплямленыя сімвалы, нязломныя апосталы, відушчыя пракокі?

Хто ж запляміў нас? Хто збэсціў нашы сімвалы? Хто асляпіў прарокаў? Хто перарабіў апосталаў на блазнаў?

Сярод цыркачоў гуляе анекдот пра «залп «Аўроры» і пра Леніна. У нейкім петраградскім шапіто выходзіць на манеж канферансье з дзвюма вялізнымі пістолямі, пад грукат барабанаў, раптам цішыня· «Внимание! Сейчас я стгельну — сгазу весь огкестг в дегьме, вся публика в дегьме, один я — в белом фгаке!».

.. Вы прапусцілі нас усіх праз «залп» і праз ГУЛАГ, праз раскулачванні і калектывізацыю — «до основанья» Мы — не вытрывалі.

Тгюк... Экспегимент... Пгелестно..

Ну — а вы?

Мо прыгадайма жнівень 1991-га: ГКЧП і «самароспуск» вашай партыі? Я добра памятаю, як каля ЦК чатыры хлопчыкі-народнафронтаўцы цягалі карламарксавае пудзіла ў труне, як двое альбо трое службакоў-міліцыянтаў апячатвалі парадныя ўваходы ў ваш галоўны штаб. Дзе былі вы? Ніхто ж вас не страляў, не катаваў, не высылаў на Салаўкі. Ваш сімвал, ваш апостал, ваш прарок ляжаў у белых тапачках... А вы — сядзелі «в фгаке»?.

Вернемся да **нашых** сімвалаў, апосталаў, прарокаў. Ёсць яны ў нас — незаплямленыя.





Тыя, што не дажылі да вашых «залпаў». Ім — пашанцавала. Бо інакш яны таксама ці не апынуліся б у вашым «цыркавым» аркестры альбо ў «знелюдзелай» публіцы.

Але і Купала, нягледзячы на ўсе вашы «экспегименты», застаецца нашым сімвалам, бо ў яго, апроч вашай «Над ракою Арэсай», быў і свой «Сон на кургане». Сон, які ў яго пачаўся ў Вільні — са знаёмства з сімвалісцкай драмай Ібсена. Сон, які ў яго «скрыжуецца» са снамі Блока. Сон, які ўбярэ ў сябе «галгофную свядомасць» Клюева Сон, які Купалу зблізіць з Кіркегаравым маральна-філасофскім пастулатам «Geist ist Selbst», што азначае «Дух ёсць Сам».

Ні ў белы дзень, ні ў чорну ноч яму тады не сніліся ні Вольфсан, ні Ляўкоў, ні Любан, ні Грахоўскі...

Палячы «Казбек» у цьмяным кабінеце на сваёй «сямейна»-юбілейнай вечарыне, ці не перажываў ён пакуту Пера Гюнта з драмы Ібсена:

Дзе быў «самім сабою» я — такім,
Якім я створан быў,— адзіным, цэльным,
З пячаткай Божай на чале сваім?..

«Пячаткі Божай» у трыццатыя гады ўжо не было.

З усіх дакументальных успамінаў пра Купалу тых гадоў мне давялося выявіць чатыры моманты, дзе быў «самім сабою» — Ён.

Пра першы эпізод пісаў я ў «ЛіМе» (2.12 1988) — са слоў Ул Стальмашонка. Год 1930-ы , бальнічная палата, пасля замаху Купалы на сваё жыццё:

«Нарэшце, заявіўся нейкі чын, таксама ў форме (ля палаты кругласутачна дзяжурыў вартавы з АДПУ), з пакетам. Ён Купалу абвясціў: расследаванне па ягонай справе завяршылася, абвінавачанні адпалі, не пацвердзіліся. «Вы свободны». Потым разгарнуў пакет· «Для Вас», і папрасіў прабачыць за турботы. Там былі цукеркі, папяросы, штосьці яшчэ. .

Купала нават не зірнуў.

Накрыўся коўдрай з галавой.

Яго закалаціла.

Доўга калаціла».

Эпізод другі — год 1933-і. Цытую па архіўным рукапісе, з успамінаў Міхася Лынькова пра паездку на Беламорканал:

«Заўсёды жвавы субяседнік, ён быў маўклівым усю дарогу Убачанае, перажытае было настолькі грандыёзным — ...што кожнае лішняе слова толькі перашкад(ж)ала роздуму». (ДАЛіМ, ф. 191, в. І, а.з. 40).

Маўклівага Купалу ці не калаціла зноў — ад той канальскай «грандыёзнасці»?

Трэці эпізод — год 1935-ы, на «сямейна»-юбілейнай вечарыне (з успамінаў аднаго з «апошніх сведкаў»):

«Купала, відаць, хваляваўся, бо **часта** знікаў у цьмяны кабінет, асветлены зялёнымі вочкамі апаратуры, і курыў свой нязменны «Казбек». («Успаміны пра Купалу» 1982, с. 152).

Часта — калаціла?

Чацвёрты эпізод — Масква, 28 чэрвеня 1942 года. Сведчыць опер Барадулька (у пераказе Ул. Федасеенкі):

«Пачуўшы нейкі шум у калідоры, Барадулька быццам выскачыў, а знізу галасы і мітусня «Купала,— нешта там,— Купала». Але Барадулька кінуўся не ўніз, а ў нумар да сакратара ЦК па прапагандзе Гарбунова. Там убачыў: за сталом, унурыўшыся, Гарбуноў — адзін.

А на стале стаяла распачатая бутэлька каньяку, прыборы на дваіх і нейкая закусь, адна чарка перакуленая і разлітая, разбіты адзін сподак.

—Што там з Купалам?— быццам запытаўся Барадулька.

Гарбуноў махнуў зняважліва, паказваючы на гармідар на стале:

—Купала? Вось табе Купала.— І перапытаў:— А што — Купала? Во — бабахнуў па стале і выскачыў. Дзе ён там швэндае?» («ЛіМ», 9.12. 1988).

Купалаў труп ляжаў унізе.

Ахова не ўсачыла?

**Георгій КОЛАС**

*Бараўляны, палата 405,*
*чэрвень–ліпень 1994*

Г. Ташкент. 17 верасня.

Дарагі Янка!

Можа і не варта было-б пісаць табе пісьмо, бо ты ў вялікім клопаце аб сабе самым не помніш болей нікога і на пісьмы нікому не адказваеш. Ты ў гэтым бачыш асаблівасць свае натуры і, відаць, такая „асаблівасць" расцэньваецца табою, як нешта надзвычайнае, уласцівае толькі Янку Купалу. Іначай нельга найсці тлумачэння таму, што ты не думаеш спатрэбным адказаць на маё пісьмо. Чатыры дні таму назад прыслаў мне пісьмо Пятрусь Броўка. Ён даведаўся пра мой адрас з таго пісьма, што я пісаў табе. Вось і бярэ мяне крыўда. І асабліва крыўдна мне, што ты ўзяўся, як піша Пятрусь, перасылаць мне пісьмо ад Юркі. А гэтага пісьма, як і ад цябе, усё няма. Ці ведаеш ты, што такое для бацькі і маткі сын, асабліва ў такі час, калі чалавек у кожны момант знаходзіцца пад смяротэльнаю небяспекаю? Не, Янка, ты гэтага не ведаеш, або ў цябе няма нармальнага чалавечага сэрца. А ты-ж паэт. Паэт ён, калі ён сапраўды паэт, ёсць рэха людскіх на-



цуцяў, а не чарапаха, зашыўшыся ў свой моцны футляр, зрэдка высоўваючы свою галаву, каб паглядзець, ці няма чым пажывіцца. Ты, Янка, не злуйся: нічога не зробіш, а праўда вочы коле. 10 дзён, пачынаючы з 1-га верасня, я не ведаў сну, балелі зубы, запух рот так, што трудна было паласкаць вадой. З 8-га верасня адправіў М. Д. ў больніцу: яна вельмі цяжка захварэла на запаленне лёгкіх. І вось я стаў кухарам, прачкаю, мыю падлогу, бо наняць каго-небудзь не маю сродкаў. Ты ведаеш, як і з чым выбраўся я з дому. Калі я мог памагаць другім, я памагаў, а цяпер мне трудна памагчы сабе самому, а другія або не хочуць памагчы, або не могуць самі нічога. У Ташкенце ўсяго многа, не гледзячы на тое, што сюды наехала вельмі многа народу. Меўшы капейку, тут можна жыць.

Гэта маё апошняе к табе пісьмо. Пісаць і не мець адказу на свае пісьмы, гэта тое самае, што гукаць у чыстым полі, дзе няма жывое душы. Жыві здароў. У цябе для гэтага ёсць магчымасці.

Бывай, Янка, здароў.

Якуб Колас

г. Ташкент
Улица 1-го мая, 20.
Союз писателей Узбекистана.

